# ПОЛЫМЯ

**БЕЛАРУСКАЯ ЧАСОПІСЬ ЛІТАРАТУРЫ,
ПОЛІТЫКІ, ЭКОНОМІКІ, ГІСТОРЫІ**

Пад рэдакцыяй З. ЖЫЛУНОВІЧА,
Я. ЛІМАНОЎСКАГА і І. ШЫПІЛЫ



**№ 2**

**1925**

...е Выдавецтва Беларусі
...ЧСК —— 1925

# НАШЫ СУПРАЦОЎНІКІ:

Александровіч А., Арэшнікаў П., Байкоў М., Баліцкі А., Баравы М., Барашка Іл., Буйло К., Бядуля З. (Ясакар), Бываеўскі Н., Васілеўскі Д., Вольны А., Вольфсон С. проф., Гарбацэвіч В., Гартны Ц., Грамыка М., Гурло А., Гэрчыкаў І. проф., Дзяржынскі Ў., Друшчыц В., Дубоўка Ў., Журба Я., Замоцін І. проф., Зарэцкі М., Зімёнка А., Ігнатоўскі Ў. проф., Колас Я., Купала Я., Каранеўскі Я., Кацэнбогэн С. проф., Круталевіч А., Лёсік Я., Ліманоўскі Я., Маразоўскі М., Моркаўка А. Мялешка М., Некрашэвіч С., Неманскі Я., Нодэль В., Пічэта Ў. проф Пушча Я., Пятровіч Я., Пятуховіч М. проф., Родзевіч Л., Сербаў І. про Смоліч А., Сянькевіч А., Трус П., Харэвіч А., Херсонскі Х., Хляб віч Я., Хмарка, Цьвікевіч Я., Чарвякоў А., Чарот М., Чарнушэві Чорны К., Шатэрнік М., Шукевіч-Трэцьцякоў Р. і інш.

# НА ПЕРАГІБЕ

*(З другое квадры роману „Сокі цаліны“)*

**Цішка Гартны**

## Часьціна чацьвертая

### I

Вось працяг... Рыгоравага жыцьця.

Ня гледзячы на позьні час, не зважаючы на бурліва пражыты дзень, не патураючы на ўздым душэўнага настрою, які падняла ў ім стрэча з Ганнаю, Рыгор помніў, што а сёмай гадзіне раніцы ён мусіць уставаць іісьці ў завод. Нельга праспаць ні за шта! Заснуўшы хутка ды крэпка, ён раз-ад-разу прачынаўся і глядзеў на гадзіньнік. Прачнуўся а чацьвертай, а пятай, а палове шостай...

Летні дзень паднімаў раньні золак, празрысты, сіні. Сьвятло абдавала пакой, але адзнаньне, што яшчэ можна паспаць—перамагала ўсё. Рыгор кідаўся ў падушку і засынаў. Нарэшце стрэлка гадзіньніка прашла па лічбе сем—і далей нельга было спаць. Па ўсёй істоце праліўся некі цяжар; ён нездавольна праказаў:

— Так скора сем! як адзін момант. Ах, яшчэ-б гадзінкі са дзьве паспаць!

Аднак сутрымаўся ад гэтае спакусы і зьлез з ложка.

Адзеўся, падышоў к вакну.

— Вечарам пасплю, калі ня прыдзе э... Ганна.. Ня лучылася разам патрэба, вымус ісьці на работу ў завод і думаць аб спатканьні з Ганнаю. Рыгор сілком прагнаў пяшчотныя думкі і прыслухаўся да стуку, які нёсься ў вакно знадворку. Сьледам пачуліся некія выгукі і суматня, затрывожанасьць. Ён успомніў пра наступную забастоўку і задумаўся над яе сэнсам. „А што-ж, яна патрэбна. Момант адпаведны гэтаму. Дарагоўля і безрабоцьце—на руку. Рабочыя ахвотна выступяць. Політыка зьмяшалася з экономікай. Суд над матросамі, арышты булачнікаў—усё гэта гаручы матар‘ял.“

Але раздумоўваючы так, Рыгор кіраваўся адным халодным розумам і зусім не адчуваў у сабе ўчарашняга запалу, красы ды натхненьня. Гэту лінію яго душы паралізавала цягучая вяласьць пасьля бурна пражытых хвілін. Веліч здарэньняў, іх глыбіня, захапіўшыя яго ўчарашнім днём, перапалілі на некі час Рыгораву імпэтнасьць. Каб не паддацца да рэшты пачуцьця аднакавасьці, ён, не чакаючы першага гудку, вышаў на вуліцу.

Сьвежае, яшчэ не запыленае паветра надворку астудзіла яго твар і прамыла галаву. Ён пачуў сябе бадзёрай, рухавей. Мінютамі мяняўся настрой. Сум, які зьвязваўся з думкай аб заводзе, аб будзённасьці працоўнага дня—гэты сум сыходзіў, замяняючыся іншым настроем. Калі вышаў на вуліцу і ўгледзеў шэраг рабочых, якія сьпяшылі на працу, яму зразу задрэнчыла хутчэй самому пасьпяшыць на завод і прыняцца за работу. Знашоўся адпаведны, будзённа-рабочы настрой: перакінулася некая нітачка сувязі ад ранейшых дзён, перад пабыўкаю, да сёньнешняга. Як быццам-бы нічога асабістага ня было: учора, заўчора, тыдзень таму і месяц будзіў яго гудок і к васьмі гадзінам дня вымушаў прыйсьці на завод. Так і наўперад будзе гэткі лёс рабочага чалавека. Што-ж думаць інакшае? Хочаш-ня-хочаш, а павінен ісьці і працаваць на другога. Сотні-тысячы гэткіх, як ён, вось, праз усю вуліцу выцягнуліся, нібы войска цэлае... Рыгору заімпаніравала ўдачлівае параўнаньне, і ён азірнуўся назад, усьцяж вуліцы. Сапраўды яна скрозь была ўсыпана чорнымі ды сінімі фігурамі людзей, якія джаралом цяклі ў адзін і ў другі бакі. У розных канцох гораду гудзелі сірэны трывожна-дысонансную мэлёдыю, як-бы выігрывалі зору, і на яе напевы зьбіралі рабочых—армію. У іх руху, ва ўвераных кроках, у спакойлівых выразах твараў адчувалася магутная вялікасьць творчай сілы. Кожны рабочы, шагаючы пліткамі тротуараў, нёс у сабе часьцінку гэтае сілы; без яе не даставала-б многага, а мажліва, і ўсяго таго, на чым вярцелася гарадзкое жыцьцё. Рыгор міжвольна адчуваў гэта,—можа таму, што сам быў рабочым, што ў глыб душы захаваў гардлівасьць гэтым званьнем, што сам складаў часьцінку вагромнае арміі. Гардзіўся самім, а праз сябе і цэлаю грамадаю...

Тут-жа вынікла асоцыяцыя між абачным рухам і падзеямі забастоўкі-дэмонстрацыі. На моманце протэсту злучацца ўсе гэтыя ядынкі-рабочыя, запаляцца агнём рашучасьці і пададуць свой голас. Якава будзе яго сіла? Хто не здрыганецца ад яго? Рыгору ўспала павабнае хаценьне, нявыразнае ў сваёй форме і цяганіне, але ачула-выпуклае ў настойнасьці,—гэта хаценьне-думка стаць на чале забастовачнай арміі. Прабеглі дзіўныя рысы й пераплёты зьвязаных з гэтым абавязкам чыннасьцяй і адпаведнасьці. І жаднага сумненьня ў сваіх здольнасьцях і сіле не знаходзілася. Рыгор, захоплены нечакана так вынікшым плянам-задумай, пальсьціўся ім і, каб праверыць будучы кадр свае арміі, азірнуўся яшчэ раз на шагаўшых вуліцаю рабочых. Пастаяў некалькі хвілін, прыглядаючыся ў суровыя, нахмураныя твары асобных людзей. „А як да гэтага падыйсьці?“ запытаў ён сам сябе, рушыўшы далей. Але на гэтым запытаньні не пасьпеў спыніцца—некалькі знаёмых чалавек, што нагналі яго і супынілі прывітаньнем, паперашкодзілі таму. Рыгор прылучыўся да таварышоў і прашоў з імі квартал, да першага перавулку. Запытаў аб настроі на іх заводзе, расказаў, што быў у водпуску і толькі што вярнуўся. Аднак гутарку мусіў перарваць і вышаў адным на ўзьбярэжную Дзьвіны.

Дзе мясьціўся плывучы таржок—кіпела жыцьцё: гандляры й гандляркі, крыклівыя, нахальныя, рухавыя, маталі рукамі, крычалі, лаяліся з пакупоўцамі. Таржок гудзеў, як парушаны вулей. Рэчкаю плылі на таржок служанкі, нянькі, пані: з кошыкамі, з пляцёнкамі, з гнутымі каробачкамі. Белыя хвартухі служак, прычэсаныя ды намасьленыя косы іх сьведчылі за ахайнасьць, нагнатую гарадзкім жыцьцём... Цэлы шнур ламавых падвозіў прыпасы к таржку: бульбу, цяплічную гародніну, крупу, муку. Мурзатыя, запэцканыя з ног да галавы, шырокаплечыя, каржастыя ламавікі папарадку разгружалі компаняю пярэднія падводы, тут-жа замяшчаючы іх чарговымі. У іх рабоце была асабістая наладжанасьць, выпрацаваная доўгім часам. Цяжкія мяшкі падхапляліся крукамі і з надворнай лёгкасьцю перакідаліся на плавучку.

Па Дзьвіне шнуравала некалькі кацераў з людзьмі і з дзесятак парусьнікаў. З левага боку плытнікі заварочвалі к берагу даўжэразны плыт. Яны голасна крычалі адзін другому, бегаючы па сьлізкіх бярвеньнях плыту ўзад ды ўперад. Рыгор на ўсё зьвярнуў сваю пракуратую увагу, усё яго цікавіла, што мела рух, што вязалася з працоўнай чыннасьцю, што складала каляско вагромнай машыны гораду. Працоўная часьць яго вярцелася ў віры творчасьці, у натужным змаганьні за кусок хлеба. А там у цэнтры, у багатых кварталах, людзі яшчэ спачывалі пры адчыненых вокнах, у мяккіх пасьцелях, абаранёныя другімі ад назойлівых клапот жыцьця. Іх ня будзілі гудкі ды сірэны, ня трывожылі вымаганьні быцьця. Ранак будзіў ускраіны, пачынаючы з іх працоўны дзень. Горад, як і ўся дзяржава, як усё чалавецтва, дзяліўся па стану людзей на дзьве паловы, рэзкія, адмяжованыя адна ад другой. Між гэтымі паловамі ляжала глыбокая канава-разьдзел. Жыцьцё нясупынна паглыбляла яе, адначасова варужаючы абудва станы. Раз-ад-разу выбухалі ўздымы ўзаемнай варожасьці, падганяючы блізасьць рашучае схваткі. Забастоўка, якая насьпявала ў горадзе, суліла падкрэсьліць яе завостранасьць.

Рыгор ізноў абярнуўся думкамі к ёй. Заздрочыла хаценьне, хутчэйбы яна вынікла ды як найлепш прашла. Ён перакінуў пагляд на дымлівыя коміны фабрык і заводаў. У цёмных полагах сажы, у затуманеным небе, як быццам-бы ўжо калыхаліся чуць абачныя яе нарысы.

Ловячы іх, Рыгор ускорыў хаду і няпрыметна для сябе прышоў к заводу. Вузкаю стрункаю, як каралі, укочваліся рабочыя ў цесную шчыліну варотцаў. Рыгор злажыў сабою новае зьвяно і пераступіў парог разам з другімі.

— А, дзень добры, Нязвычны!—леваю рукою крануўшы казырка шапкі, прывітаў Рыгора стары Караль:—я твой нумар ужо загадзя падвесіў на дошку. Во, глядзі і ўпэўніся!—ён ткнуў заскарузлым пальцам у драцяную пляцёнку супроць меднага кружка з лічбаю 1803.

— А Міхась Рагаль не праходзіў яшчэ? Не падмячалі?—запытаў Рыгор.

Некалькі рабочых абмінулі іх, вешаючы свае нумаркі і вітаючыся з Каралем.

— Не, не прыкмячаў, здаецца, яшчэ не праходзіў,—я бачыў-бы,— адказаў Караль.

Рыгор пакіраваў к мэханічнаму корпусу.

II

Завод яшчэ стаяў, калі Рыгор увашоў у майстэрні: ня рухалі нядаўна спынетыя начною зьменаю варштаты, ня шыпелі разцы, ня ляскала электрычная тачылка, не крактаў цяжкі кран. Толькі ў парожнюю вярцеўся трансформатар са спушчаным пасам. У першым поверсе падгравалі печы, выпускаючы пару. Рабочыя, што ў вочавідкі напаўнялі цэхі, ня сьпешна пераадзяваліся ў рабочую вопратку. То сям, то там, каля станкоў раздаваўся бразк сталі, то пачыналі даставаць струмант. Некалькі майстраў і падлічнікаў прабеглі ўсьцяж майстэрні, паглядзелі на варштаты і спусьціліся ўніз. Рыгор акінуў паглядам цёмна-шэрыя галы будынку, уздыхнуў і падышоў да станка, дзе працаваў перад водпускам. Усё стаяла на сваім месцы, як і пакінуў; толькі з-заду, пад комлем, хтось уткнуў новую скрынку з напільнікамі, малаткамі, разцамі, шаблонамі, рэхвамі і шрубамі. Ён карпануў рукою, як-бы шукаючы чаго, і адышоў к шафе паглядзець свайго рабочага гарнітуру. Кашулька ляжала на сваім месцы, зложанай, як трэба, прыпыленай. Рыгор узяў яе, абгледзеў і намерыўся надзяваць, шукаючы вачмі портак.

Гэтым часам завод рушыў: усё вакола зашыпела, закруцілася, заляскала, забранчэла. Няпрыкмэтна рабочыя расьселіся па мясцох і прыняліся хто наразаць, хто тачыць, хто шліфаваць, хто стругаць, хто вастрыць на наждаку разцы ды зубцы. Зьнізу хлынула пара, перамешаная з дымам смуродным ды ўдушлівым. Зазьвінелі ўдары малатоў па жалезу.

Рыгор вярнуўся к станку і перш хацеў прысесьці ды пачакаць майстра, а пасьля перарашыў і пашоў усьцяж майстэрні. Прывітваўся са знаёмымі таварышамі, пераказваўся з імі двума-трыма звычайнымі словамі.

У канцы праходу, другім ад сьцяны, працаваў на стругальным станку Міхась Рагаль. Рыгор падышоў да яго, прывітаўся і запытаў:

— Ці ня бачылі майстра, часамі?

Міхась аглядзеўся вакола.

— Толькі што быў тут. Мо' ўніз дзе пабег, у кантору... Навошта ён табе?

— А я ня ведаю, за вошта прымацца.

— Зараз прыдзе наверх...

Памаўчаў і паглядзеў на суседзяў.

— Ну, заўтра сходка, не забудзь...

— Заўтра, ласьне?

— А чаго адкладаць... Трэба карыстацца момантам.

— А дзе?

— У Артура Цьвібіля, на Задзьвіньні... Яшчэ стрэнемся заўтра, я, між іншым, папераджаю.

— Так, добра... Ну, я пайду к станку.

Рыгор адвярнуўся і ўгледзеў майстра, які йшоў насустрэч, правяраючы рабочых.

— А, Іван Пятровіч, а я вас чакаю... Што мне пачынаць?

Іван Пятровіч, здаравенны русак, з чорнымі паднятымі на рожкі вусамі, з каўнерыкам пад незамурзанай кашулькаю, выбрыты ды прычэсаны, добрадушна прывітаўся з Рыгорам і адказаў:

— Нічога, дамо работу. Пастараемся знайсьці цяжэйшую пасьля гульні; нябось, набраліся сілы ў дому.

Па шырокім твары майстра прабегла цёплая ўхмылка, а вочы блrandomнулі патайным агеньчыкам хітрасьці.

— Ну, як правялося ўрэмя?—запытаў ён.

— Ня дрэнна.

— Ды я думаю, у бацькоў ды каб было дрэнна.

Рыгор змоўчыў, хапіўшыся думкамі за сходку. Толькі прашоўшы некалькі крокаў, адказаў:

— У іншых лепей без бацькоў, ніж з бацькамі.

— Чаму?

— А таму, што мая маці ня мае з чым сына сустрэць.

Майстар перапусьціў тую-ж ухмылку, кіўнуў галавою і забег у канторку. Рыгор падышоў да станка і пачаў аглядаць яго з усіх бакоў. І не заўважыў, як падышоў к яму майстар з работаю.

— Вось вытачыце дзесяткаў два гэтых шрубак,—праказаў ён і адышоў.

Рыгор паважна настроіў станок, уставіў кавалак сталі і пусьціў калясо. Прывычным настроем накіраваў разец і ўпусьціў яго ў сталь. І тутжа засьвісьцела блішчастая доўгая стружка, гадзінаю папоўзшы яму на прыпол; за ёю другая, трэцяя... Ён ня спускаў празрыстага ўзроку з аднэй кропкі, ня зводзіў увагі ад станка. Яго шустрае вярценьне і тут-жа разьба сталі з нэрвуючым посьвістам ды дымком прыцягалі да сябе Рыгораву увагу і разам захаплялі яго процэсам творчага руху... Ён міжвольна зьліваўся з бегам каляска, з міганьнем высокага адшліфаванага ў зеркала валіка.

Ня прыкмеціў, як прасядзеў пры станку да абеду, неадгінна, упіліўшыся нязьмігутным паглядам у лёза разца. Гудок, апавясьціўшы перарыў работы, растаў у завыўным посьвісьце станка і застаўся ім не заўважаным.

— Што так шчыра прыняўся за работу?—перабілі яго суседзі:— на абед пара.

— Ласьне ўжо быў гудок?

Звычайны абедзенны рух па майстэрням паказваў, што быў.

Рыгор спыніў станок і прыўстаў. Закалола ў плячох, задрыжэлі ногі ад няпрывычкі. Але ён не марудзіў і пакінуў майстэрні не астатнім.

На дварэ нагнаў некалькіх знаёмых таварышоў і разгаварыўся.

— Як вы думаеце аб забастоўцы перапёкаў? Памойму, мы павінны іх падтрымаць. А павашаму?

— Толькі пагоджаным выступленьнем мы і можам пасобіць сабе. Калі мы будзем маўчаць, то нас па частках скруцяць, як снапы.

— А той зьменьнік, хто думае прапусьціць гэты момант. І так ужо пачынае зрывацца забастоўка.

Трэці быў гэткіх-жа думак. Рыгор натхнуўся іх рашучасьцю і дадаў ад сябе:

— Трэба змагацца да астатняга і ўсім супольна. У нашых руках уся сіла, абы мы сумелі яе скарыстаць.

Далей гутарачы, зашлі ў харчоўку, ня тую, куды мерыўся Рыгор. Але адставаць ад компаніі ён не хацеў. Цікавасьць да настрою сярод рабочых іх заводу і суседніх фабрык, якія дзесяткамі мясьціліся ў гразкай няпрытульнай харчоўцы, цягнула яго пабыць між імі. Заўтрам яму будзе матар'ял у руках, каб абстойваць сваю думку, як найхутчэй пачаць забастоўку. Улічаючы важнасьць гэтага пытаньня, Рыгор праз увесь час абеду падтрымоўваў гутарку з рабочымі за сваім і суседнімі сталамі. Вакол яго сышлося да двух дзесяткаў чалавек, якія пільна прыслухоўваліся да гутаркі і хвіліна ад хвіліны ўстаўлялі свае адабрэньні. Цэлаю грамадою правялі яны Рыгора ў завод.

III

Вечарам, пасьля работы, Рыгор вярнуўся на кватэру. Быў настрой нікуды ня выходзіць. Пільная, захапіўшая яго цалком работа як-ні-як стаміла за дзень; ён адчуваў цяжар ва ўсёй істоце і калі зашоў у пакой,— пацягнула адпачыць. Шчымела ў галаве і ня было жаднай ахвоты думаць, хоць аб чым сур'ёзным. Тым болей хацелася даць перадышку разгарачанаму мазгу. Усё, што было зьвязана з забастоўкаю, ужо перадумана за дзень і па дарозе.

Рыгор пасьпешна разьдзеўся і прылёг на прыбранай пасьцелі. Яго зразу ахапіў здром; ён на некі момант зьнябыўся, некалькі хвілін прадрамаў. Але раптоўны званок у дзьвярох яго разбудзіў. Рыгор схамянуўся і прыўстаў. „Ці ня Ганна?“ стукнула ў галаў выразная акруглая думка. Ён прыслухаўся і з затаеным дыханьнем прачакаў, пакуль адперлі дзьверы і загутарылі на калідоры. Аднак па галасу ён пазнаў, што то прышлі не да яго, і супакоіўся; прылёг зноў. Заплюшчыў вочы і намерыўся зразу заснуць. Але ўжо на гэты раз думкі мяшалі, ён ня мог адагнаць ад сябе вобразу Ганны. Праз цэлы дзень і ня думаў,—а тут раптам яна знашлася; як-бы чакала ўрочнага часу, каб цалком запаланіць яго увагу й пачуцьцё да сябе. І якраз насьпела,—ці-ж ад яе ўхавацца?

Рыгор ляжаў і саматрам заблутваўся ў цесныя раздумы аб дзяўчыне. Раздумваў, адале пачынаў сумнявацца, трывожыцца ды заўчэсьне шкадаваць, калі яна не наведае яго сёньнека. Падышла некая нэрвовая ачуласьць,—абы малейшы шорах, як ён уздрыгваў усёй істотаю, настарожваўся і ўвесь абяртаўся ў адно чаканьне. „Няўжо такі яна ня прыдзе? Хто яе ведае! Ласьне можна ўразумець дзяўчыну, ды яшчэ выпадкова напатканую? Вільнула перад табою і бывай здароў. Ці-ж я адзін у яе?“ А праз хвіліну йшлі іншыя дагадкі: „А мажліва, што й прыдзе. Усякія натуры бываюць. Нельга-ж згадзіцца, што няма сапраўды шчырых людзей. Усё-ж такі Ганна казала як быццам насур‘ёз“. Аднак неймавернасьць перасільвала, і Рыгору рабілася млосна за тое, што так хутка прамігнула знаёмства, за нявыкарыстаную асалоду ад яго, за тое, што згаснуць выбліснуўшыя надзеі і жаданьні, якія ўскалыханы гэтаю дзяўчынаю. Аднекуль паўзьлі балючыя думкі поўнага разувер‘я ў трываласьць усіх лятуценьняў, якія параджаюць маладыя мары. Прамчаўся цягнік і прамігнула, як поле з яго вакна, нечаканая прыгожае знаёмства. Лёгкім дымком зацягаліся найбольш выдатныя яго хвіліны... І чамусьці не хапала патрэбнай сьмеласьці рашуча паквітацца з імі і абараніць сябе ад кіслай мяккасьці.

Бойкі, адважны ў справе змаганьня за інтарэсы працаўнікоў, храбры ў ролі барацьбіта, Рыгор быў зусім проціlежным у справе адносін да пачуцьця-каханьня. Як укладаліся ў ім дзьве гэтыя асабістасьці—цяжка сказаць. Не сказаў-бы ён і сам...

І таму болей гадзіны ў думках і пачуцьці Рыгор жыў з Ганнаю, ня могучы заснуць. Нарэшце сон пачаў змагаць. Думкі хвіліна-ад-хвіліны станавіліся горш заблутанымі, разрываліся, губілі парадак... Тады ён прыпомніў стычку Ганны з Вільгэльмінаю і ўсхапіўся з ложка.

На кожны выпадак, трэба заўчэсьне паперашкодзіць гэтаму, а то, чаго добрага, завідлівая латышка можа паўтарыць свой выбрык.

І ён даў сыгнал служанцы. Тая неўзабаве пастукала ў дзьверы.

-- Прашу.

Адчыніла.

— Вось што, Вільгэльміна, калі хто прыдзе да мяне—пусьцеце абавязкова.

— А то-ж я ня пускала калі?

Дзяўчына ўперылася зьдзіўленымі вачыма ў Рыгораў твар.

— Не, я таго не кажу; але вы, мо‘ падумаеце, што мяне няма дома і неасьцярожна адправіце—хто прыдзе. Да мяне мусяць сёньня прыйсьці...

— Добра,—і Вільгэльміна вышла з пакою, адчуваючы лёгкую крыўду.

— Вельмі прашу вас,—паслаў удагонкі Рыгор.

І калі шагі служанкі змоўклі, ён прылёг ужо на паднятай капе ды хутка заснуў.

Адчынетае вакно, што прапускала надворнае паветра ў яго покой, цішыня, што выпадкова на гэты раз панавала ў кватэры,—пасаблялі ўкрапіцца Рыгораваму сну.

Ён ляжаў, як прывязаны, непарухна, аднагалосна пахропываў. Прынятая поза—на правым баку, зьлёгку падагнуўшы ногі—не мянялася ім праз некалькі гадзін засаб. Толькі пярэдаднем, калі знадворку пацягнула рэзкаю сьвежасьцю, ён паправіў капу на сабе, затуліўшыся ў яе з галавою.

Ноч прамігнула, як хвіліна: было бяз чвэрткі сем гадзін раніцы, як Рыгор прахваціўся. Паглядзеў у вакно і з першага моманту не разабраў, ці дзень, ці адвячорак, ці раніца. А разабраўшыся, зьдзівіўся і пашкадаваў, што столькі часу змарнавалася ў сьне. Але тая лёгкасьць і бадзёрасьць, што ахапілі яго, выкупалі страту. Пасьля ўчарашняга перажытку, усё выглядала яму ў ружовых фарбах, усьміхалася і прывабляла сваёю прыемнасьцю ды хараством. А на фоне яскравых відокаў прыгожымі рэльефамі выступалі знаёмыя вобразы Ганны, сілцоўскіх таварышаў, таварышаў рыскіх. Да ўсіх іх цяпер вынікала ў яго нутры замілаваньне, цёплае пачуцьцё; а памеж выбівалася жаданьне сыйсьціся дзе-кольвечы, зьвязацца ды быць разам вечна, назаўсёды.

Рыгор даў волю марам і тут-жа пачуў, як-бы душа яго рассыпаецца на часьцінкі і разьлятаецца вакола. Некая магутная сіла цягі к далёкім вобразам затуліла шэрай плеўкаю шырокую галу яго небасхілу. Блісьнулі павабныя думкі-хаценьне выйсьці з пакою і накіравацца не ў завод, ня ў дым ды смурод, а на вакзал, дзе стаіць нарыхтованы да адпраўкі ў Ліцк цягнік. Лясы й поле, паплавы з зялёнаю атаваю, жанцы з іх песьнямі, з матляньнем жытніх каласоў, белы лунь над капусьнікамі, а пасьля нечаканае і таму глыбока-натхненае спатканьне з мацераю, таварышамі... з Зосяю... Перажытыя ёю прыкрасьці ня плямілі яскравае сіні мар, не разьбівалі стройнасьці лятуценьняў.

Спаткаецца і колькі папагутарыць! За гэтыя дні ён пасьпеў гэтулькі розных уражаньняў набрацца! Так падрабязна вызнаў ён горад і супярэчнасьць яго жыцьця! Цэлы год ранейшага прабываньня ў Рызе не далі таго... Ці мо' ён ня сумеў раней так глыбока прасякнуць у блытанае пабудаваньне гарадзкога жыхарства? І толькі розьніца між горадам і Сілцамі, падгледжаная ў пабыўку, дапамагла гэтаму.

Гудок, знаёмы, басісты, з рэзкім хрыпам, вытаўхнуў Рыгора з кватэры. Як-бы штурхнуў яго і, зрушыўшы з месца, пацягнуў гвалтоўна за сабою.

Зусім за кароткі час Рыгор дашоў да заводу, без учарашняй цікавасьці павітаўся з Каралем, прабег двор і ачуўся каля свайго станка. Мэханічна пераапрануўся ў рабочую вопратку, мэханічна пусьціў станок. Як і ўчора, стройна паляцелі з посьвістам блішчастыя стружкі, загуло каляско, заплёскаўся шнур; паўчарашняму прыгравала разбаўленае ды-

мам праменьне. Толькі лягчэй было прыгнутай сьпіне ды падкурчаным нагам—уцягаўся ў працу, прывыкаў. Але заводзкае паветра роўна вытрахала звычайныя думкі, роўна падкрадалася к яго нутру. Нескончоны шолам і стукат ня глушылі просьветы лятуценьняў.

Рыгор са тры гадзіны прасядзеў пры станку бяздумна, цалкам аддаўшыся процэсу працы, адлучаны ад усяго сьвету. Пасьля прымха якаясь натаўхнула ўспомніць пра ўчарашні вечар, ці ня прыходзіў толькі хтокольвечы да яго? А мо', часамі, і Ганна? Зарупіла балюча, чаму не запытаў Вільгэльміну, і каб хутчэй запытаць. З гэтае прычыны прыпыніў станок і паглядзеў на гадзіньнік, як хутка міне дзень. Сёньня субота. Падыходзіў абед—значыць, заставалася яшчэ дзьве гадзіны. Як ён дачакаецца? Цэлых дзьве гадзіны нясупыннага вярценьня станка, нязьмігутнай сочкі за лёзам разца! Аж моташнасьць забірала... „Хоць-бы які выпадак паперашкодзіў працы“.

Але не аглядзеўся, як само сабою работа прышла к канцу.

— Кідай, чаго так прыліп да станка,—пачуў Рыгор над вухам і адняў разец ад сталі; азірнуўся і ўгледзеў Міхася Рагаля.

— Ды кідаю, кідаю! Зусім-бы, здаецца, кінуў.

— Чаму так?

— Няма ахвоты.

І паджартаваў, хоць у душы не стаіў сур'ёзу:

— Забастоўка-б тая хутчэй. Сапраўды, час ідзе, момант мінае, а мы ждом нечага.

Міхась палажыў яму на пляче руку.

— Сягоньня вырашым. Абавязкова будзь а дзевятай гадзіне ў Цьвібэля.

— Добра.

І калі Міхась адышоў, Рыгор некалькі хвілін пастаяў, як азадачаны нечаканым здарэньнем. А пасьля пасьпешна сабраўся, амаль ня першым памыў рукі і выбег за вароты, каб пераняць таварыша Міхася.

— Мне хочацца пагутарыць з вамі,—ціха праказаў, стрэўшыся.

Яны аддзяліліся ад натоўпу, перашлі на другі бок і, разгаварыўшыся, пашлі па ўзьбярэжнай. Рыгор з зацікаўленасьцю чапаў розныя пытаньні ў зьвязку з сучасным момантам, выпытваў настрой комітэту організацыі, асьцярожна выспрабоўваў, як Міхась глядзіць на тое, у які тэрмін абвясьціць забастоўку, і пачаў выказваць свае думкі наконт гэтага.

— Мне думаецца,—казаў ён, занядбаўшы абставіны,—што зараз мы можам ня толькі што абвясьціць забастоўку, а і зрабіць спробу да варужнага выступленьня. Гэткі ёмкі момант! Разбурэньне сярод матросаў, усё болей забастовак усюды, уздым грамадзкага нездаваленьня... Вось абгаварыць гэта, як сьлед, выплянаваць і зараз-жа за справу. Рабочыя ў добрым настроі...

Міхась тузануў яго за рукаў і настаўіцельна паківаў галавою.

— Адкуль у цябе гэткі запал? Які ты гарачы стаў! Зразу гатоў сьвет перавярнуць. Пачакай. Паберажы свайго імпэту надалей, а то— выпшыкаешся скора. Яшчэ ня быў ў пераробцы.

Для Рыгора Міхасёвы словы зычэлі зусім ня сур'ёзна, як быццам жартоўна, з паперадузятымі кепікамі.

— Вы сьмяіцёся?

— Як хочаш разумей.

Ён зьмяніў голас і нездаволена адказаў:

— Я ня ведаю, чаму вас ня кратае нічога. Няўжо вам не баліць усё тое, што вы бачыце наўкола. Дальбог, ну—я ня ўтраплю сабе, як гэта людзям удаецца так ёмка атруціць свае пачуцьці... Разганяюць з фабрык рабочых, арыштоўваюць забастоўшчыкаў, судзяць на сьмерць людзей, а ім хоць-бы што. Мэрам так і трэба. Тут, памойму, ніводнае хвіліны ня трэба чакаць. Лепш памерці ў змаганьні, чымсь жыць у няволі...

— Праўда, праўда...

Міхась азірнуўся вакола.

— Лепш памерці ў змаганьні, лепш, чымсь жыць у няволі. Але, калі ўміраць, то трэба адно мець у воку, ці ўсё ты купляеш сваім жыцьцём, ці мог-бы ты яго прадаць за больш дарослую цану. Уміраць на полі бойкі трэба з рашчотам... Умерці—невялікая штука ..

Рыгор задумаўся. Міхась, якога, як-ні-як, нельга западозрыць у мяшчанскім настроі, а размаўляе так спакойна. Хто з іх праўдзіў?

Няўжо Міхасёвым настроем будзе прасякнута ўся сходка? Няўжо яго не падтрымае ніхто? Усё-ж Рыгор будзе цьвёрда стаяць на сваім, няхай лічаць гэта за ману, за непрадугледжанасьць, за мары.

— Ня ведаю, чаму вы так кажаце,—разьвітваючыся ля прыстані, праказаў Рыгор,—мне здаецца, што сьмерць ня лічыцца з рашчотам, а жыцьцё ня мераецца розным коштам.

Адышоўшыся на сажні два, ён улавіў яшчэ адну думку гэткага сэнсу, але вярнуцца назад, каб яе выказаць, палічыў ніякаватым і, разьбіраючы яе сам-сабою, пашоў дамоў.

## IV

На кватэры Рыгор ня бавіўся. Каб вярней папасьці на сходку, ён завідна вышаў на вуліцу і ціхім прагулачным шагам пашоў на Задзьвіньне. Па дарозе некалькі раз спыняўся і па хвілін колькі сядзеў—у Вэймарскім парку, на бульварах. Таксама прастаяў крыху каля Дзьвіны. Усю дарогу разьмеркаваў на паўтары гадзіны і толькі апошнюю чвэртку ня ўлічыў, як лепей выкарыстаць, каб ня тупаць два разы па адным месцы. Але яму ніяк не ўдалося гэта абмінуць: незнаёмая мясцовасьць і надышоўшы змрок папераашкодзілі яму зразу падмеціць патрэбную лічбу дому.

Прыглядацца ён не хацеў, бо недалечка, на скрыжаваньні вуліц стаяў гарадавы і пільна ўзіраўся за кожным пешаходам; асабліва, паказалася так, паліцыянт прыглядаўся за ім. Каб ня даць выгляду, што ён шукае. Рыгор уверана прашоў да канца кварталу і павярнуў направа, каб абкруціцца вакола і тады проста ды ўверана ўвайсьці ў вароты. Абход патрабаваў на сябе чвэртку гадзіны, і Рыгор удвойчы прашоў адным месцам. Ці падмеціў гэта гарадавы ці не, ён ня цікавіўся, а хутчэй прашоў у браму. На дзядзінцы, агароджаным высокімі корпусамі муру, гуляла куча дзетак. Пры ўходах, на нізенькіх ганачках сядзелі кабеты і рэзва абгаворвалі здарэньні паражытага дня. Рыгор помніў, што трэба павярнуць налева, да куткавога ўваходу, і ён павярнуўся, бясьцікаўны ля ўсіх, хто быў на дзядзінцы. Узышоў на ўсходы і вобмацкам, бо яшчэ ня было электрыкі, знашоў званок. Яму тут-жа адчынілі, мігам закрыўшы дзьверы.

У нелапым і, наколькі можна было падмеціць у змроку, чыста прыбраным пакоі знаходзілася ўжо некалькі чалавек; яны сядзелі ў радок на мяккай канапе над прыстаўленым да яе паўкруглым кухонным сталом. З двух канцоў стала ляжала па некалькі кніжак, у пераплёце і не пераплееных; пасярэдзіне закрывалі прагал разгорнутыя ва ўсе шыркі газэты. Рыгора сустрэлі моўчкі, і ён сам перарваў цішу прывітаньнем:

— Добры вечар!

За ўсіх адказаў гаспадар кватэры, які сядзеў ад вакна.

— Вечар добры!

І запрапанаваў:

— Сядай, сябру Нязвычны...

Пасьля прыўстаў і запытаў Рыгора:

— Знаёмы з усімі?

Той прыглядзеўся—людзі былі незнаёмыя.

Але-ж усім падаў руку апошняй—дзяўчыне, якая сядзела з другога канца канапы.

Прывітаўшыся, Рыгор прысеў на крэсьле, якое падаў яму Артур, паставіўшы ля стала побач з дзяўчынай. Рыгор прысеў,—моўчкі пасядзеў. Дзяўчына маўчала. Стала неяк ніякавата ад маўчанкі і, каб хоць чым заняцца, ён перш аглядзеў яшчэ раз пакой, а пасьля працягнуў руку да газэты. Зашамцеў ёю.

— Мала цікавага,—пераняў Артур:—ды якраз няма сьвятла.

— Што-ж так доўга не падаюць?—запытала дзяўчына і прыўстала з месца.

— Якраз бліснула электрыка. Адзетая ў цьмяны ўзорны абажур лямпачка дала досыць сьвятла, так што ўсе рэчы выглянулі ў поўным акрэсьленьні.

— Вось прагаварылася.

Рыгор паглядзеў на дзяўчыну і захапіўся яе стройнасьцю, здаровым целаскладам, прыгожай надворнасьцю. Крыху прадаўглы смуглы твар з дас-

канала прымеркаваным роўным носам, з цёмнымі вочмі пад густымі чорнымі брывамі; мерны лоб, абложаны чарнаватымі, прыгладжанымі ў простую прычоску косамі, выказвалі ў ёй тыповую прыгожасьць жыдоўкі, якіх Рыгор многа бачыў. Яна была адзета ў простае паўшарсьцянае плацьце з перацопам у стане і з высокім каўняром, які шчыльна закрываў стройную шыю. Пастаяўшы колькі хвілін, дзяўчына села і, працягаючы ногу, кранула Рыгоравай нагі.

— Убачайце!

— Калі ласка.

— Якая я няўдалая, ці ня праўда?

— Гэта можна вам дараваць.

— Ня вучылася этыкету.

І яна засьмяялася, як Рыгору здалося, вельмі ўжо мілай ды мяккай ухмылкай. Мэрам-бы сказала яму: „Усё-ж маю чым пахваліцца, апроч гэтага“. А Рыгор у думках адказаў: „О, маеш!“ І не аддаваў сабе рахунку, як супакоіць узьнятае ёю пачуцьцё. З некаю патайною думкаю ў сэрцы паглядзеў на прысутных, каб праверыць, ці яго аднаго так цікавіць гэта дзяўчына-таварыш. Пяцёра чалавек, наўзапой курачы, былі напэўна заняты іншым, бліжэй усяго думкамі аб пытаньні, якое сышліся выращаць; яны перакідаліся адрыўнымі сказамі, некаторыя заводзілі рэвалюцыйныя мэлёдыі, мянялі раз-у-раз позы ды пазіралі на гадзіньнікі.

— Нам яшчэ многіх трэба прычакаць?—запытаў ува ўсіх адзін з прысутных, доўгакосы, з бародкаю клінком, у акулярах, тыпічнага інтэлігэнтнага выгляду,—мужчына гадоў за трыццаць.

— Павінны падыйсьці зараз,—адпавеў яму сусед, здаровы, беладуры, поўнатвары латыш:—вось яшчэ нават Міхася Рагаля... Нешта някае з ім.

Ён павярнуўся да Артура:

— Ці прыдзе толькі ён, наогул?

Рыгор адказаў за яго:

— Я з ім бачыўся пасьля работы; абяцаў прыйсьці абавязкова.

— Ня можа ня прыйсьці.

— Можа дзе што здарылася?—уставіла ад сябе дзяўчына.

— Нічога, пэўна, з ім ня сталася, а ўжо ў нас гэткая прывычка—заўсёды на пару гадзін пазьніцца,—матнуў рукою інтэлігэнт.

— Не падабаецца мне гэта.

— А каму яно падабаецца...

Стук за дзьвярыма, а сьледам званок, перабілі гутарку. Артур кінуўся да дзьвярэй і ўпусьціў зразу траіх чалавек, Міхася сярод іх.

— Ня думай, што разам ішлі, на ўсходах дагнаў іх,—замест прывітаньня, праказаў ён да Артура.

— Я й ня думаю.

У пакоі Рыгор ня даў увашоўшым вымавіць слова, як сам добрадушна папікнуў Міхася.

— Ваша холаднасьць і ў гэтым выявілася.

— А ты яшчэ не астыў? Ты—факел наш.

— Мо‘ не знаёмы,—абярнуўся ён да ўсіх:—гэта з нашага заводу, мой вучань, можна сказаць—і мая гардасьць.

Усе паглядзелі на Рыгора, як-бы хочучы пераканацца ў праўдзівасьці Міхасёвых слоў.

Пільней за ўсіх утаперылася ў Рыгораў твар дзяўчына. Аўторытэт Міхася казаў за ўсё, значыць Рыгор—знатная асоба. А прыдаць да таго яго выгляд?

Дзяўчына зацікавілася Рыгорам і з мілай душэўнаю ўхмылкаю на сваім вытачаным твары цешылася ім.

А Рыгор, нібы сумеўшыся ад Міхасёвых слоў, прыўстаў і зьлёгку пакланіўся ў бок таварышоў. Пасьля, не даючы сабе адліку, працягнуў дзяўчыне руку і шчыра, з запалам пацісnуў.

— Рыгор Нязвычны.

Пэўна ён зрабіў-бы тое самае і з мужчынамі, у кожным разе ён падаў намер, але Артур пераняў яго сказам:

— Я ўжо пазнаёміў Нязвычнага з таварышамі.

Тады Рыгору асталося сесьці, што ён і зрабіў. І пакуль тыя, што прышлі, перакідаліся словамі з інтэлігэнтам, ён выкарыстаў час для гэткай перамоўкі з дзяўчынаю:

— Убачайце, а якавы настрой на вашым заводзе?

— Калі ласка...

Рыгор паправіў сядзеньне; быў рад, што яго запыталі.

— Як-бы вам сказаць, я ўсяго два дні папрацаваў і не пасьпеў акурат разьнюхаць, але наколькі мог прыслухацца да гутарак і сам пагутарыць,—настрой баявы. Гэта мы мусім зараз улічыць. Другія ня цікавяцца, а я думаю—то абмылка будзе наша...

Ён памаўчаў:

— А вы, таварыш, на якім заводзе працуеце? І што кажуць у вас?

— Я з „Праваднiку“,—ахвотна адказала дзяўчына, а сама востра пранізвала яго сваімі цёмна-шэрымі вачмі.

— У нас ня дрэнна настроены рабочыя... На кожны кліч да забастоўкі, адгукнуцца рашучым выступленьнем.

Яна ў сур‘ёз падпусьціла лёгкасьці.

— Давайце разам будзем праводзіць свае пытаньні. Га? Я—максымалістка..

— Латва—я таксама прагартаваны добра...

Яны згоднай ухмылкай заключылі гутарку і момант памаўчалі,—таксама мэрам згаварыўшыся.

— А я, ведаеце, меў выпадак падсачыць настрой вёскі,—пахваліўся Рыгор.

— Так? Якім чынам?

— Выпрасіўся на пабыўку.

— Вы шчасьлівы; я вам завідую. А я, каб і магла паехаць, ды няма куды... Я...

Артур перабіў іх гутарку прызывам да увагі.

— Пачнем, таварышы...

Усе змоўклі, паправіліся на сядзеньні.

— Што-ж, як водзіцца, давайце старшыню выберам?

— Міхась! Тав. Рагаль!

— Так і бог вялеў,—падказала дзяўчына.

Міхась адказаў ухмылкаю і тут-жа прамовіў:

— Пасяджэньне адчыняю... Наша сходка прадстаўнікоў ад заводаў і прадстаўнікоў ад мясцовых організацый павінна вырашыць паважную справу, як і калі абвясьціць агульную забастоўку ў Рызе. Гэта паважнае пытаньне, думаю, зойме ў нас увесь вечар і іншых дадатных пытаньняў мы ставіць ня будзем?

— Не, не!—некалькі галасоў падмацавалі.

— Тады даю слова таварышу Якаву.

Усе маўчалі, а ўстаў чорны інтэлігэнт. Крыху памаўчаў, зьлёгку пахіліўшы лахматую бакунінскую голаў, як-бы выбіраючы словы для пачатку прамовы, кашлянуў, а пасьля пачаў казаць цьвёрдым, трошкі гаркавячы, тэнарком:

— Мы, таварышы, сышліся сёньнека на гэту сходку, каб вырашыць адпаведнейшае пытаньне аб сэнсе і тэрміновасьці абвяшчэньня агульнай забастоўкі. Зараз мы перажываем вельмі й вельмі рашучы момант! Царскае правіцельства кідае карту працоўнаму народу і ўсяму лепшаму грамадзянству, якое падае свой голас протэсту супроціў пануючага гвалту... Хутка разыграецца крывавая комэдыя-суд над балтыцкімі матросамі... Ім ужо царскія каты згатовілі свой люты прыгавор... Мы павінны адгукнуцца на гэты замах рукі палачоў рашучым выступленьнем—забастоўкаю нашага пролетарыяту... Мы гэта можам зрабіць, бо адпаведны настрой у рабочых ёсьць. Ён ужо прарываецца наповерх: як вам вядома, ужо доўга бастуюць перапёкі, спыніўся завод компаніі... Калі мы ня сумеем узяць руху ў свае рукі, ён абміне нас і разьвінецца стыхійна сам сабою...

Прамоўца далей датыркнуўся ў сваёй „рэчы“ дарагоўлі, што дало імпэту для дробных забастовак рамесьнікаў, чапіў таго ўздыму, які ахапіў розныя куткі прамысловай Расіі; пасьля перашоў да заграніцы, даўшы агульны агляд рабочага руху й палітычнага жыцьця яе.

Казаў паўтары гадзіны без перапынку, складна, лёгічна, без перабояў. Закончыў з маленькім хрыпком, выгукнуўшы да сходкі:

— Ад вас залежыць вынесьці тое ці іншае рашэньне...

Ён абцёр лоб хустачкаю і адышоў на сваё месца.

Усе аблегчана ўздыхнулі—затаміліся, з натужнаю увагаю слухаючы. Рыгор асабліва адняў пагляд ад дзяўчыны і пільна сачыў за прамоўцай. Дзівіўся яго красамоўнасьці ды ўменьню падыйсьці да слухачоў; і карыў сам сябе,—чаму ён ня ў моцы гэта зрабіць. „А яшчэ мне хацелася стаць правадыром цэлага натаўпу! Ці-ж я сумею?“ сумняваўся ён. І карцела чымсь хутчэй узяць слова, на выверку хоць—што з таго выйдзе.

Але пакуль пачаліся даклады дэлегатаў з заводу. Адзін, другі і цэлы рад прамоўцаў расказвалі аб настроі рабочых і выкладалі свае думкі наконт закранутага пытаньня. Апошнім казаў Міхась. Расьцяжным, спакойлівым тонам прызываў ён строга абгаварыць гэта пытаньне, улічыць усе дробязі яго і ня быць гарачымі ня ў меру, як то „адмячаецца сярод некаторых таварышаў“.

„Некаторымі“ былі — наперад усяго — Рыгор. Ён праслухаў даклады з тэй-жа увагай, як і прамову; запамятваў характэрныя сказы і намёкі кожнага дакладчыка, думаючы аддаць, што заслужылі. Быў сумеўся, калі наперад за яго сказаў Міхась слова. А можа ня прыдзецца? Але вышла яшчэ спраўней пры гэткай комбінацыі.




І ў сваім слове, нечакана для ўсіх і для самога сябе мастацкі, Рыгор праказаў гэткую прамову:

— Я чуў тут прамову таварыша Якава і чуў словы іншых таварышаў. Заключыў мой паважаны настаўнік—Міхась. Нельга сказаць, каб пачалося дрэнна, але дрэнна скончылася: калі Якаў зваў да рашучасьці, якое-б там ні было, то таварыш Міхась і яе пераняў сваёю асьцярогаю. Да чаго яна вядзе, гэта асьцярога? Першы дакладчык ужо адмеціў, што абурэньне рыскіх рабочых выбіваецца наповерх і падаў правіловую думку, што калі мы спозьнімся абвясьціць агульную забастоўку, то здарэньні абмінуць нас і разьвернуцца ў стыхійны ўздым. Знача „трэба сьпяшыць узяць рух у свае рукі“. Але ці гэта знача, што мы павінны адмежавацца аднэю забастоўкую? Не. Яна нам ня дасьць ачулых скуткаў. Гэта тактыка панікл̇ых ды трусьлівых. Змаганьне на забастоўцы не канчаецца. Ёсьць болей вярнейшы спосаб дамагчыся вызваленьня—гэта паўстаньне. Момант якраз адпавядае гэтаму, настрой—таксама. Мы дамо сыгнал,—нас падтрымаюць войскі ды флёт. Раз кінулі пярчатку, трэба яе падняць...

Рыгор пачаў ціхім голасам і седзячы, пасьля падвысіў тон і прыўстаў; далей абярнуўся ў натхненнага прамоўцу, гутарачы з націскам, з пекнымі размахамі рукі, мэрам-бы прашоў школу красамоўства. Кожнае слова выходзіла суцэльным, адлітым, дыхаючы сваёю сілаю і абдуманасьцю. Вясковы, беларускі акцэнт не псавалі, а як-бы скрашвалі высечаныя з граніту сказы. Папярэдні прамоўца, інтэлігэнт Якаў, налоўчаны казаць, стушаваўся з сваёю вельмі ўжо гладкаю, адшліфаванаю і ад гэтага менш жыцьцёваю прамоваю. Яго журнальная форма ў пабудове сказаў, цягучыя калыханьні ў выгавары пакінулі хоць і прыемнае, але зусім інак-

шае, ніж Рыгор, уражаньне. Рыгор выйграваў шчырасьцю і, як рабочы, здаваўся многім з прысутных чалавекам іншае ад Якава формацыі. Нават Міхась мусіў прытаіць гіронічную ўхмылку наконт „свайго вучня“ і паківаць галавою ў адзнаку пахвалы яму.

Ну, а дзяўчына—тая цалкам захапілася Рыгоравымі словамі: слухала, як-бы запаведзь прарока. Рыгор здаваўся ёй вялікім правадыром, таленавітым самародкам, гордасьцю рабочых і, вядома, у тым ліку і яе. Увесь час, калі вяліся спрэчкі, яна ня спускала з яго вачэй, забыўшыся аб усім іншым. Пасьля Рыгоравае прамовы, яна лічыла бескарысным спрэчкі і проэкты іншага зьместу; чакала галасаваньня, каб падтрымаць яго.

Пастанова сходу абмежавалася забастоўкаю; пра тое, каб павярнуць яе ў бок паўстаньня—замаўчалася. Гэта раззлавала дзяўчыну больш, як Рыгора. Крыху астудзіла яе гнеў даручэньне, якое нарада дала Рыгору: выступіць перад рабочымі заводу з дакладам аб забастоўцы. „Рыгор сумее выкарыстаць гэта для свае думкі“, рашыла яна.

Пры гэтым ёй захацелася пад‘юшыць Рыгора зрабіць усё мажлівае. Захацелася, наогул, пазнаёміцца з ім бліжэй, пагутарыць абстойна аба ўсім, паяднаць тактыку пры агітацыі, абгаварыць усебакова скуткі нарады.

Хлопцы па адным пачалі разыходзіцца каля першае гадзіны. Тыя, што чакалі чаргі,—гутарылі аб дробных справах, інформавалі адзін другога аб маленькіх эпізодах з забастоўкі перапёкаў ды электрыкаў.

А Рыгор, даючы выгляд, што слухае, перадумоўваў праявы бягучага моманту, што датыркалі яго самога. І перад ім паступова прамігала адно за другім, сплятаючыся ў суцэльны ланцуг,—вяртаньне з дому, запрашэньне на нараду-сход, падбліжэньне забастоўкі, гарачая прамова і наступнае выступленьне перад тысячнай грамадай рабочых. Рыгор раўняў гэта з уступам на высокую гару: усё вышэй ды вышэй паднімаемся ўверх, усё больш ды больш шырокі гал расьцілаецца ўнізе. Усё, што ўжыўна было пры першым кроку, разрастаецца ў нешта магутнае, неабдымнае, неасяжнае. Забываешся, губіш, як губяць сваю меру ды ўзрост усе рэчы, чым вышэй ты ад іх, будзённыя клапоты, штодзенныя думкі. З тае высі, куды ён ішоў, будзе яму відаць ня толькі Сілцы, а цэлы сьвет. З тае высі яго голас пачуюць усюды ўсе, бо ад яго прамовы будзе залежаць кірунак жыцьця.

У дзерзкіх сваіх сяганьнях Рыгор прапусьціў між вушэй шмат цікавых навін. Таварышы сьмяяліся, дзівіліся, строілі дагадкі і адгадкі, разьвітваліся, падаючы рукі яму таксама; у пакоі цішэла, а ён марыў і лунаў па высях, у будучыне, гарды, недасяжны, апалены прагнымі, яскравымі лятуценьнямі. Нават не заўважаў дзяўчыны, якая тут-жа пры ім сядзела, гледзячы на Нязвычнага, які чараваў яе ўвачавідкі, уміляючыся пaглядам маткі боскай на маленькага хрыстосіка з вобразу Леанарда-да-Вінчы, і чакала. Нарэшце ў кватэры застаўся адзін Артур,—трэ‘ было йсьці і ім абоім.

— Пойдзем разам?—абярнулася дзяўчына да Рыгора.

Той быў палішчаны яе пропозыцыяй і далікатна адказаў:

— Вельмі рад.

Яны разьвіталіся з Артурам і пакінулі яго кватэру.

V

— Вам далёка йсьці, таварыш?—запытаў Рыгор дзяўчыну, вышаўшы з брамы.

— На Мар... вуліцу,—адказала яна.

— Здорава. Мне ў той-жа бок, хочаце, я правяду вас?

— Калі ласка; аднэй мне так няззручна.

Моўчкі прашлі яны вуліцаю да Дзьвіны, сьпяшаючы захапіць пераход ці пераезд. Па дарозе, насустрэчу прашло некалькі чалавек.

Рэдкія ліхтары асьвятлялі вуліцу. Стаяла цёплая, парная пагода. З гораду даносіўся ціхі шум. Калыхаліся снапы проміну, здавалася, калышучы сабою неба. На вакзалах сьвісьцелі паравікі.

Каля кацернай прыстані стаяла некалькі запозьненых пасажыраў; адны ў другіх перапытвалі, ці вернецца кацер за імі.

Яны прыпыніліся і сталі чакаць. З заліву паказаўся агромністы морскі параход; дзесяткі агеньчыкаў прарэзалі адбіткам бляску чорнае палатно Дзьвіны. Хутка зычны гудок пранёсься над горадам, аддаўшыся дзесьці далёка-далёка, чуць не на моры. У тым-жа баку, але шмат бліжэй, мэрам сьвечачкі, гарэлі вокны заводаў; над імі, пад небам, гулялі пукі рэзвых іскраў.

Туды глядзела некалькі пасажыраў, апісваючы прыгожасьць вобразу.

Паміж тым параход падышоў к прыстані, якраз супроціў іх, і пачаў разгружацца. Узьбярэжная зашумела стукам калёс, выгукамі людзей, якія выяўна далятала з другога берагу Дзьвіны. Нарэшце падышоў кацер, і яны праехалі ў горад.

— Можа паедзем з рамізьнікам?—запрапанаваў Рыгор.

Падарожніца крыху падумала.

— Ня варт,—адказала.

— А можа ўсё-ткі?

— Я-б хацела пабыць з вамі некі час.

Яе словы былі асалодаю для Рыгора: так і абдалі ўсё нутро нясказанай радасьцю.

— Го, я так рад гэтаму,—мог сказаць ён.

І замілаваным паглядам кінуў дзяўчыне ў твар.

Колькі пачуцьця было ў ім! Колькі ласкі!

І таму, пэўна, што сэрца перапаўнялася імі, Рыгор ня мог пачаць гутаркі. Хацеў, парываўся, а нешта прыпыняла, недазваляла выбіцца словам на вусны. Ён пачынаў адзнаваць ніякавасьць свайго стану, як мужчына, як кавалер, якому жыўцом натыкаецца здабыча. Чакаў, што пада

рожніца выкажа яму гэта, вось-вось—намёкамі, а то й проста... Быў задавольнены, што час адцягаў.

Моўчкі прашлі добры кавал узьбярэжнае, завярнулі ў завулак, крывы, глухі і вузкі, прамінулі дзьве ператочных вуліцы.

Нарэшце мімахоць вырвалася ў Рыгора:

— Вы даўно працуеце на заводзе?

Ён прыкусіў язык, чакаючы адказу. „Да чаго ёй маё запытаньне?"

Але дзяўчына толькі й чакала ад яго жывога зыку. Не пасьпеў замерці ён у Рыгоравых вуснах, як яна словаахвотліва, гасьцінна адказала:

— Не, ня зусім. Я сама—швачка; працавала тры гады ў аднэй майстэрні—тут, у Рызе. А летась восеняй кінула... бач, не сама кінула,—прагнала гаспадыня за падгавор дзяўчат на стачку... Месяц гуляла бяз працы, а пасьля, з дапамогаю свайго дзядзькі, папала ў „Проводник"... Чорную работу маю, цяжкую... Але нічога ня зробіш. Адна—пражыву як-кольвечы... Палацаў, пэўна, не нажыву.

Яна засьмяялася...

Рыгор нічога не адказаў: яму захацелася ведаць імя дзяўчыны, каб ямчэй было зварачвацца да яе, і думаў, ці варт пытаць.

— Ну, а вы, здаўна жывіцё ў Рызе?

Прышлося расказаць, як і што: ня мог ён не сказаць пасьля таго, як яна захапіла яго сваёю істотаю. І шчыра, бяз утайкі драбнейшага факту, расказаў ёй, хто і што сам, адкуль прыехаў, як папаў на завод, як пазнаёміўся з Міхасём Рагалём, як жыве цяпер...

Каля дзесяці хвілін прагаварыў, зацішыўшы хаду... І з нутра яшчэ ўсё набягалі словы, як нехта выпіраў іх сілаю, але ён сумысьля прымоўк, каб нясьмела запытаць яе:

— Даруйце, вы маё імя ведаеце, а самі—як тая незнакомка. Мне ніякавата бяз гэтага. Вось ужо мы болей пяці гадзін знаёмы, а я... Няўжо нам няўдасца больш стрэцца?

— А вам цікава маё імя?

Яны падыходзілі да Вэймарскага парку; цёмнаю сьцяною падымаліся старыя дрэвы, налягаючы над вуліцаю.

— А як вам здаецца?

Дзяўчына засьмяялася:

— Мне здаецца, што... вы з далікатнасьці...

— Вы сарамяніца вялікая, як я бачу. Не чакаў, прызнацца, у вашым палітычным званьні...

І ён безадгукна, ня ведаючы і ня пытаючыся ў самога сябе, ці добра гэта выйдзе, узяў дзяўчыну пад руку і прыцісьнуў да боку.

— Мы перш усяго—таварышы. Праўда, таварыш?..

— Наталя,—дакончыла.

І прыналягла на Рыгора ўсёй постацьцю, а голаў палажыла на яго плячы.

— Што з таго, што я Наталя, а вы—Рыгор?—двухсэнсоўна, з глыбокім выдыхам вымавіла Наталя.

— Так, што-ж з таго?..

Яны параўняліся з ваходам у парк і умоўна ўвашлі ў яго. Насустрэч прашло некалькі чалавек, у бакох чуўся дзявочы сьмех. З галоўенае алеі павярнулі на бакавую. Каля лаўкі спыніліся.

— Вы любіце зелень?—запытаў Рыгор.

— О, я так люблю поле, лес, кожны кусьцік. Вельмі люблю; занудзела па іх і рвуся, рвуся... Ды бескарысна: няма куды і няма за вошта хаць. Паверыце, я яшчэ ня была гэтым летам на ўзмор'і.

— Я таксама ня быў, хоць і мог-бы... Са мною іншае—я ня маю з кім.

— Вы праўду кажаце?

— Праўду, праўду... Хочаце, паедзем з вамі?

— Што-ж, я з ахвотаю...

У Рыгора закружылася галава: вынікла купа заманчывых плянаў' намераў... Ён сьмялей прытуляўся да новае знаёмае, ступаў рашуча па вызначаным, ужо з першых выпадкаў знаёмым шляху, і не хацеў думаць ні пра вошта іншае. Наталя вырастала перад ім нясупынна, мігамі затуляючы ад яго ўвесь сьвет, тушачы нядаўнія і далейшыя перажываньні. Дзесь, на задворках яго думак, у густым тумане, чуць-чуць, зусім цьмянымі абрысамі варушыліся Сілцы... Зося... Выразьней—Ганна. Ні то ў Сілцох яна, ні то тут, у Рызе, таксама даўно... Але тады ён быў другі, інакшы, то было ветранай выхадкай, нясур'ёзным чымсьці, прабеглым... Ці-ж тое будзе цяпер? Ён так пасталеў за апошнія дні, так далёка крануў уперад! І ўчарашняе не здаволіць яго. Наталя, толькі Наталя...

Раздумы аднялі некалькі доўгіх хвілін.

— Што вы маўчыцё? Над чым задумаліся, таварыш Нязвычны? Я памяшала якомусь вашаму пляну? Вы хацелі йсьці куды, зачым?—скорамоўна кінула чатыры пытаньні Наталя. І тон у яе голасе зусім ня выбачны.

— Кіньце, кіньце, я пры вас толькі аб вас думаю. Я рад, нарэшце. што напаткаў сабе добрага таварыша. А то больш часу я адзін, ды адзін- Хоць падзяліцца будзе з кім сваімі перажываньнямі... Бачыце,—што дзень—іх болей ды болей надыходзіць. Стачка! Колькі навін яна прынясе!

— Вы думаеце пра забастоўку?

— Думаю... Я, прызнацца, цалкам захоплены ёю. Гэтыя дні, што прыехаў з дому, яна абурае мяне. Што-ж вы думаеце, прыходзіцца за' няцца гэтым.

— Вы баіцёся яе?

— Я?!

Рыгор не дасказаў.

Абое памаўчалі некі час, пасьля падняліся з лаўкі і пашлі з парку.

Ноч падыходзіла к канцу. На ўсходзе адзначаўся лёгкі адсьвет золку. У горадзе запаноўвала ціша—рэдкія стукі адбіваліся зычным рэхам.

Прашоўшы гонаў двое моўчкі, Наталя запытала:

— А як будзе ў нядзелю?

— Давайце спаткаемся а другой гадзіне ў Вэймарскім парку. Авось падыдуць якія-кольвечы навіны...

Занятыя нязначнай перарыўнай гутаркаю, прашлі яны да самага дома дзе жыла Наталя. Прыпыніліся пры браме, яшчэ раз умовіліся аб нядзельным спатканьні і разьвіталіся.

Рыгор спакойнаю хадою пашоў усьцяж вуліцы, назад да Вэймарскага парку. Некалькі раз на хаду азірнуўся—цягнула нешта. Наогул, кароткі тэрмін, які давялося яму прабыць з Наталяю, пакінуў па сабе глыбокі сьлед у яго душы. Чаму і што, Рыгор ня ведаў. Так, міжвольна закралася якаясьці сіла і перавярнула ўсё ўверх дном, спутала думкі і пераблытала пачуцьцё. Зусім неспадзявана напаткаў Наталю і вось... Выпадак за выпадкам, нязначныя, дробныя, пластуюцца і складаюць моцныя слаі жыцьця. Заўсёды непрадбачныя, заўсёды цёмныя—яны нахальна ўрываюцца у будзёншчыну, здавалася-б, раз абаснованага працэсу і перабіваюць яго стройнасьць... А мо', дзякуючы гэтаму, працэс жыцьця аформліваецца?

Ужо добра шарэла, калі Рыгор вярнуўся к сабе на кватэру. Дворнік пакінуў браму адпёртаю і пашоў спачываць пасьля бяссоннай ночы. Ліхтаршчык тушыў ліхтары. У двары, куды прышоў Рыгор, некалькі раньніх асоб таўкліся ля хлявушкоў. Ціха перагаварваліся адна з другою. Ён падняўся на ўсходы да свае кватэры і пазваніў. Ніхто не зьяўляўся адчыніць. Рыгору стала няёмка, што ў гэткую пару неспакоіць гаспадароў кватэры, але нічога не парадзіш, не стаяць-жа пад дзьвярыма датуль, пакуль сам хто адчыніць. І ён мацней пазваніў; здалося, што званок абудзіць усю кватэру. І, сапраўды, за званком пачуўся гоман і стук шагоў. Праз хвіліну Рыгор пачуў:

— Хто там?

— Я, Рыгор.

Вільгэльміна адперла дзьверы і, не знашоўшы сказаць нічога путнага, паведаміла:

— Учора прынесла вам некая дзяўчына пісульку: я палажыла яе вам на стале.

— Дзякую... Прабачайце, што патрывожыў у гэткі час.

— Нічога, мала што бывае.

Вільгэльміна пашла на кухню, а Рыгор—да сябе ў пакой. Зачыніў-

шы за сабою дзьверы, ён зразу кінуўся к сталу, знашоў пісульку і разгарнуў.

Пачаў чытаць:

„Паважаны Рыгору, я была ў цябе роўна а дзевятай гадзіне. Вельмі хацелася ўбачыцца з табою, каб пагаварыць. Столькі назьбіралася розных думак, столькі вынікла плянаў! Наша знаёмства далёка зашло і паставіла мяне перад настойным пытаньнем: куды-ж ісьці? Я праверыла свае паступкі, абдумала тваю настойнасьць і прышла да пераконаньня, што людзі—зьвяр'ё. Асабіста—мужчыны: ім ніколі нельга давяраць свае шчырасьці, хоць-бы сулілі табе найвышэйшыя якасьці людзкія... Я ведаю, што ты зараз вось зусім ня думаеш пра мяне, а выкладаеш сваю шчырасьць іншаму каму. Чаму-ж бы табе не пачакаць мяне? Значыць—непатрэбна. Патрэбнае—узялося... Бывай... Калі ўгледзімся—ня ведаю.

Ганна".

Рыгор прачытаў і схамянуўся; задумаўся, хапіўшыся рукою за галаў; пасьля яшчэ раз уважліва перачытаў і апусьціў руку з лістком; прысеў на крэсьле і ўпёрся думкамі ў два словы: Ганна—Наталя? У каароткі час—дзьве новыя знаёмкі, дзьве маладыя, слаўныя дзяўчыны. Ганна—натура сьціслая, з адчынетаю душою, даверная, прыгожая мяшчанка. Наталя—пакуль нявыяўленая, але завідлівая па сваёй постаці, па сваім характары, па манерах загартованай работніцы—чалавек асабістых умоў, асабістага выхаваньня. Дзявочасьць, сакавітая, ядраная ў Ганны і суворая мужчыннасьць з орыгінальнымі замерамі—у Наталі. Дзьве—на дзьвюх розных ступянёх абставін: Ганна,—калі бурліла пачуцьцё разлукі з Зосяю, калі душа змагалася супроціў пустаты, якая апанавала яе пасьля разьвітаньня з Сілцамі—тады зьявілася яму. Наталя надышла ў той момант, калі ён уваходзіў у прачынетую перад ім створку да стану адпаведных абавязкаў рабочага правадыра, вяшчуна адказных намераў у наступным змаганьні працы з капіталам. Бяспытальна, паміж яго волі—тая і другая. Няўжо ён зусім бязмоцны? Адкуль тая падатлівасьць у яго душы?

Тут-жа, помеж з усім іншым, выраслі звычайныя пытаньні перад Рыгорам. І сьледам—далейшыя скуткі адмечаных знаёмстваў... Ганьніна пісулька—на першым пляне. Няўжо ён варты яе вострых папрокаў? Няўжо ён здацен да благіх дзей? Можа—сапраўды, але яму яны ня відны? Тады, ці можна ручаць, што і ў адносінах да Зосі ён застаўся чыстым? А як пойдзе далей?

Паўсталі нядаўнія гутаркі з Наталяю. Выявілася, што ён зьвязаўся таксама і з ёю: умовіліся спаткацца ў нядзелю ў Вэймарскім парку. Ён ня можа не пайсьці, тым болей, што надарваліся адносіны з Ганнаю. А ў Наталі—столькі завабнага і новага!

Рыгор паступова да таго ўвашоў у раздум аб перажытых здарэньнях свайго жыцьця, да таго захапіўся імі, што кінуў шукаць усякіх скуткаў, якія могуць быць ад Ганьнінага ліста. Патанула ў думках і першае

ўражаньне ад яго. Мала што можа быць! Урэшце, усё гэта—асобныя моманты суцэльнага перажываньня. Трэба быць удзячным шчасьліваму выпадку.

І паціхай лёгкі сум, падгушчаны ўтомам ад бяссоннай ночы, разыходзіўся; зьнікалі мінорныя настроі—Рыгораў небасхіл высьвятляўся. Вынікла пачуцьцё самаўцехі, эгоізму. Двое прыгожых дзяўчат захапіліся ім на працягу кароткага тэрміну. Знача, ня жарствою пасыпаны яго жыцьцёвыя дарогі! Яго зорка можа разгарэцца прамяністымі агнямі. А тыя мукі й бядоты, што спраўодзілі яго маладыя годы, акупяцца шчасьлівым жыцьцём на далей? Хто ня ўдзеліць яго, калі можна, для сябе?

Рыгор марыў перш усяго аб шчасьці агульна-людзкім, як чалавек ідэі, як шчыры пасьлядовец рэволюцыі. Але тым самым ён ня цураўся лепшага жыцьця для сябе самога. Праўда, яно бачылася яму ў асаблівай форме, у асаблівым зьмесьце.

Якім здарэньнем адчыняюцца ў гэта жыцьцё дзьверы? Шчасьлівая любоў, перамога над фабрыкантамі ў наступную забастоўку, ці яшчэ што?

Тымчасам над горадам вітаў дзень. Чырвонае сонца залівала дахі дамоў, лілося ў глыбокія выемкі-двары, адбівалася ў вокнах суседніх дамоў. Тоўсты пук яго праменьняў уліваўся ў вакно Рыгоравага пакою.

Мацнеў ды мацнеў гарадзкі шум.

Вось-вось падыходзіў час, калі загудуць фабрычныя гудкі.

Рыгор пачаў трывожыцца: зноў завод, як цёмная здань, перад вачыма. Пратаптаная, прагледжаная дарога ў яго. Надаеўшыя майстры, дырэктары... Калі тое будзе, што згіне той прымус, які захованы ў павіннасьці працаваць? Калі ўдасца ўлажыць працу ў рамкі творчасьці?

## VI

Вэймарскі парк кішэў народам. Алеі прапускалі па сабе рэчку разадзетай сьвяточна публікі. Пляцоўкі былі ўсеяны дзяцьмі з нянькамі, бонамі, гувэрнанткамі. Сталыя гутарылі звычайна, дзеці крычалі, а разам—стаяў густы, зьлітны шолам. Як-бы хто шліфаваў каменьні--шапацелі тысячы шагоў тых, што гулялі. Каб прыглядаўся, не знашоў-бы сумных твараў: амаль ня ўсе выглядалі задаволенымі, часта—вясёлымі, многа—радаснымі.

Пагодлівы дзень ухарошваў вобраз, пераліваючы золата сонца на руні лісьця. Ачула асядала зьверху добрачынная цяплынь, ружуючы людзкое цела.

Рыгор у назначаны тэрмін зьявіўся ў парк. Разам з другімі прашоў усьцяж галоўнае алеі, разьзіраючы па баках. Пасьля завярнуў на бакавую дарожку, прашоў некалькі загінаў і спыніўся на умоўленым месцы, направа ад саджалкі. Якраз тут было ня так багата людзей, і ён нашоў на аднэй лаўцы парожняе месца. Прысеў і ўстраміў вочы ў той бок, адкуль павінна была прыйсьці Наталя. Ён не западозрываў нават, што яна ня будзе ім прыкмечана—абы толькі прышла. Вось, ці прыдзе?

Таксама не хацеў думаць адмоўна. Чамусьці быў уверан́ы, што Наталя ня схлусіць—падкупіла сваім тонам і шчырасьцю сваёю. Няздарма ён так ахвотліва ахвяраваў для яе цэлага паўдня,—толькі-б стрэць. Але не прамінула й паўгадзіны, як Рыгор усумніўся: народ нясьціханна выліваў з вуліц і кіраваў у сад—парамі, па трое, адзінкамі. Найболей—маладыя мужчыны з паненкамі, гімназістыя, студэнты, рабочыя. Час-ад-часу мігалі між вачэй асобныя дзяўчаты ці хлопцы. І між іх ня відаць было знаёмага твару Наталі. Ці ён ня добра разглядзеў яго? Ня можа быць! Вобраз яе глыбока прашоў у Рыгорава нутро. Палкія вочы, рымскі профіль, малыя поўныя губы, роўны, прыўзьняты зьлёгку нос. Спрытная постаць з выхілястым станам і наўзьдзіў лёгкая хада. Ці-ж ёй загубіцца ў людзкой гушчы? Вось толькі адно—ці не забылася яна, што была умова? Рыгор пачаў нэрвавацца: паціху паднімалася ў ім нездаваленьне. Ён пачаў адварочвацца ў другі бок, разьзіраць направа ды налева, ззаду ды перад сабою. А некі асаблівы здрок, якаясь зайздрасьць ды пачуцьцё ўтраты шчасьлівых хвілін забірала яго, абдавала ўсяго, як ёсьць. Ён бачыў, як неўдалечку, збоку, адбылося цэлых тры спатканьні хлопцаў з дзяўчатамі,—у двух выпадках чакалі дзяўчаты. Як радасна сьвяціліся іх твары, калі да іх падыходзілі кавалеры! Далікатна цалавалі рукі, бралі пад пахі і пускаліся к выйсьцю з парку. Ён прыкмеціў—нядоўга йшло чаканьне. Завідваў вельмі, і яшчэ з большым няцерпам азіраўся вакола... Пачаў вырахоўваць час, ці хопіць яго на язду на ўзмор'е?.. Больш рашчотлівыя людзі сьпяшылі на вакзал трамваем, на рамізьніках, на аўтамобілях. Што ні дваццаць хвілін, гудзелі цягнікі адходную. З Дзьвіны далятаў сьвіст параходаў...

Рабілася цяжка сядзець, цягнуліся моманты гадзінамі. Тады Рыгор прыўстаў, скрытна зяхнуў ад утомы і паглядзеў устойкі. Якісь мужчына, прымеціўшы, што ён стаіць, павярнуў да яго і запытаў:

— Пан аслабаніў месца?

— Не,—суха адказаў Рыгор і зноў прысеў. Якраз вышлі з-за павароту тры знаёмых дзяўчыны з двума некімі мужчынамі: Рыгор нечакана павярнуўся і стрэўся з імі паглядамі. Знаёмыя міла ўхмыльнуліся яму. Адна пазвала:

— Ідзем разам на ўзмор'е? Каго вы чакаеце?

Усе зацішылі хаду і паглядзелі пільней на Рыгора.

— Ня маю часу,—чакаю знаёмага.

— Хіба ня хочаце з намі?—пажартавала другая.

— Што вы? Крыўдзіце мяне.

— Прыходзьце—чакаем.

І калі яны адышліся, Рыгору стала вельмі прыемна ад гэтай стрэчы. Дзяўчаты паказаліся яму, як ніколі, блізкімі і шчырымі сябрамі, якіх шкода не паслухаць. Чаму-б не далучыцца да іх компаніі? Рыгор намерыўся падняцца, каб дагнаць знаёмых, але тут-жа аддумаў: так доўга

прачакаў Наталю. Яшчэ хоць дзесяць хвілін пасядзець. Тым болей, што некае таемнае пачуцьцё настойвала—як-бы там ні было—угледзецца з ёю, і з ёю аднэю правясьці астатак дня і вечар... Гэты вечар, што нясе з сабою час збліжэньня з Наталінай душою, час салодкага ўзаемапазнаньня. Ахвяраваць ім? Нізашта... І тут Рыгор паставіў рубам, на угоду сябелюб'ю—пасядзець да змроку. А тады: прыдзе—добра, а не—плюнуць і пайсьці...

На гэтым супакоіўся ён і пачаў палачкаю выводзіць на пяску розныя фігуркі, літары. Вывеў, між іншым, слова „Наталя“. І вось—касаваў патрошку, засыпаючы драбнюткімі каменьчыкамі апошнюю літару—я, калі збоку зашамалі чыесьці шагі, блізка-блізка, што прымусілі яго хутка падняць голаў і азірнуцца.

Наталя, дробным альтовым рогатам, адказала Рыгору.

— Прачакаліся? Убачайце,—не магла раней. Вы тут заснулі, чакаючы.

У белым гаптаваным маркізэтавым плацьці, у добра падабранай да фігуры пастарцы, мякка-блакітнай, з шырокімі берагамі, у жоўтых мэштах—Наталя далёка не дапаміналa работніцы з заводу „Проводник“. Нельга было падмеціць у ёй і тых якасьцяй палітычнага работніка падпольшчыка, з выразнай псыхолёгіяй загаворшчыка-бунтаўшчыка, што ўжыўна ёй было на пасяджэньні дэлегатаў ад фабрык ды заводаў. Сур'ёзнасьць перашла ў лёгкую вясёласьць адмысловай жартаўніцы-дзяўчыны, якой ня чужы адпаведныя пачцуьці, мары і жаданьні...

Нясло сьвежасьцю ад Наталі—одэколёнам „Сірэнь“ і пудраю „А ля франсэз“,—адбівалася рухавасьць жыцьцёрадае русалкі.

Рыгор дапусьціў сабе жарт: „З ёю рабіць забастоўку?“ і пасьпяшыў адкінуць ад сябе падобныя рэчы. Стаяла-ж Наталя перад ім, як высечаны з каменю рыцар—цьвёрда ды ўверана.

І тое, што дзьве адмечаныя якасьці так пагоджана ўжываліся ў гэтай новай знаёмай, цалкам заняло Рыгора:

— Сядайце,—сказаў гасьцінна, умольна, забыўшыся, што вось-вось нэрваваў, лёгкую крыўду і насядаўшыя побач думкі.

— Калі ласка, падайцеся крыху,—папрасіў ён справа суседку.

Пажылая ймосьць скрыўленаю мінаю адказала на Рыгораву просьбу, прабарматала штосьці няўнятнае, а адсунулася. Тады Наталя села на вольнае месца, шчыльна шаргануўшыся аб Рыгораў бок.

— Убачайце.

— Нічога, не зацісьнеце.

Наталя засьмяялася і з яе ўхмылкі выблiснулі іскаркі прагавітага пачуцьця ды цёплае ласкі. Рыгор паглядзеў ёй у вочы—яны таілі ў сабе многа агню.

— Дык паедзем?

— А вы перадумалі?

— Каб ня было позна.

— Вы вінаваты, Наталя.

— Вінавата,—не адказваюся. Усё роўна справы не паправіць.

— Дык едзем... А калі пазьней вернемся?

— Гэта мяне ня смуціць.

Рыгор прыўстаў. Наталя падала яму руку, сьмела, бессаромна. Колькі ўмеў, ён прылажыў далікатнасьці і пасобіў ёй падняцца. Усё яшчэ ня маючы адвагі, яны пашлі разьдзельна на вакзал.

Перад касамі ціснуліся людзі: наплыў ахвотнікаў ехаць на ўзмор'е быў тысячны. Духата й пыл гарадзкіх вуліц гналі людзей у поле, к мору, на чыстае паветра. Раз у тыдзень—адпачынак. Хто разумеў яго каштоўнасьць—стараўся выкарыстаць як найпаўней.

Яны бачылі больш усяго буржуйнай моладзі—гладкіх, чырвонашчокіх гімназістак, у рудых, у сініх, у чырвоных кароценькіх спадничках, з белымі каўнерыкамі, з косамі; стройных, жыцьцярадых гімназістых, больш у спортсмэнскіх гарнітурах, з сетачкамі для гуляньня ў лапту, з шкуранымі апукамі для футболу. Многія з гімназістых адпраўляліся разам з бацькамі, поўнымі—брытымі, у манішках і капялюхох мужчынамі, у шаўковых блузах, з залатымі ланцужкамі па пояс, з брасьлетамі на выпешчаных руках маццаркамі... Зусім мала можна было бачыць прасьцейшай, мяшчанскай або рабочай публікі. Але пападалася і яна.

Рыгор стаў у чаргу і дастаў білеты хвілін праз дзесяць. Разам з іншымі вышлі на пэрон і захапілі яшчэ не перапоўнены цягнік.

— Я, прызнацца, рэдкі буду госьць на ўзмор'і.

— Я таксама даўно-даўно, як была там.

І калі крануўся цягнік, абое—Рыгор і Наталя—нязьмігутна сачылі ў вакно. У гэткім стане ня прымецілі, як апынуліся на месцы. Цягнік спыніўся на апошняй станцыі, якая была перапоўнена публікаю. Так і панясло раскошным дачным жыцьцём, бесклапотным, гультайным.

Каля выйсьця са станцыі кідаліся ў вочы шляхетныя прывітаньні, выгукі, задзіўленьні, пацалункі. Дзяцей сустракалі бацькі, бацькоў—дзеці, паненак—панічы і наадварот.

Рыгор з Наталяю пратаўхаліся натаўпам і завярнулі направа, сьледам за іншымі. Прашлі колькі хвілін і хутка ачуліся на ўзьбярэжжы Рыскае затокі. Якое дзіўнае зьявішча! Што за прыгожасьць! Міжвольна захапіла іх вадзяная шыр, лёгкае, п'янае паветра і гулкі, сьвятошні настрой многасотнай публікі. Здавалася, у Рызе ня было яе столькі! Ні мясьціны вольнае. Тупатня, сьмех, нясьціханая гутарка. І там, і там—песьні, музыка. Неўдалёку—багаты рэсторан, многа кіёскаў. Адтуль—бразг пасудаю, пераклічка. Уюнамі марскалі навокала прадаўцы: марожнага, кветак, газэт, цукерак. Кожны зваў купцоў, няўмоўчна хвалячы свой тавар і якасьцю, і даступнасьцю па цане. Фактычна нельга было прызнаць, што ўся гэта публіка адпачывае ці адпачне. Шолам, пыл, ту-

патня тамілі, нэрвовалі яе, выцягалі шмат энэргіі. Але ў гэтых адмоўнасьцях усё-ткі хаваўся адпачынак. Усім вядома, што пад музыку шмат лягчэй хадзіць, што натхненьне, душэўны ўздым прыдаюць сілы, храбрасьці, ахвоты.

Публіка спачывала ў сьвятошнім размаху дынамікі, у нязвычайным выліваньні цёплага пачуцьця радасьці, каханьня. Праўда, мела свой уплыў мора, мела сілу зелень і сонца. На шырокім прасторы цёмнае вады гайсалі парусьнікі, схіляючыся набок, шнырал дaўгія вузкія чаўнакі, з угону васьмі ці дзесяці крэпкіх спортсмэнскіх рук; закаханыя парачкі, усьцешаныя сем'і або таварашы ці сябры заводзілі песьні, ганяючы сінія, жоўтыя, чырвоныя лодачкі—Сірэну, Лену, Зьвязду, Діяну, Доротэю, Кармэн і дзесяткі іншых... А на воддаль, у баку ад публічнага гульбішча, віднеліся купальні. На адведзеным для купальшчыкаў вучастку, гулялі сотні юркіх цел—меншых, большых, цямнейшых, бялейшых. Як русалкі, як фаўны, цешыліся вадою пад сонцам, на прасторы, зьняўшы ўсе умоўныя і ачулыя путы-ланцугі, рэзвыя людзі. Яны здаваліся стaрадаўнымі дзікарамі-паганцамі, што ў сівую старыну спраўлялі сьвяты неасяжным стыхіям. Рэзваю хваляю бурлілі вясёлыя галасы, рогат. Падніmаліся высока белыя пырскі вады.

Рыгор з Наталяю падпільнавалі вольнае месца на аднэй з лавак і прыселі. Абярнуліся к мору. Людзкія гушчы, пераважна багатага стану, былі ім чужы, адваротны і няцікавы. Ужо ў горадзе намазолілі вочы, прыеліся. А вось мора,—тое настройвала іх маладыя палкія душы на ўздымны, ваяўнічы настрой. Акрыляліся думкі, пламянела лятуценьне. Вадзяны прастор і яго магутнасьць выклікалі ў іх рухавыя думкі, вострую цікавасьць да адцягненых пытаньняў пра стварэньне сьвету, пра яго вялікасьць, пра векавечнасьць. І тое, што чалавецтва сумела перамагчы, здавалася-б, непераможныя сілы натуры, зьмерыць агромныя прасторы мораў і акіянаў, уздымала па чарзе то ў Рыгора, то ў Наталі пачуцьцё гордасьці й сілы. Што яшчэ хаваецца ў людзкім розуме? Якая сіла вынікне, калі надыйдзе тэрмін агульнага вызваленьня прыгнечанай часткі чалавецтва? Тут і яны павінны прылажыць свае сілы, сваю сьмякалку, свае здольнасці.

Лёс паставіў іх абоіх на адпаведны ўступ вялікага змаганьня за сьветлую будучыну. Іх думка, іх ківок рукі, выгук таго ці іншага сказу варочацьмуць здарэньнямі.

VII

Усё вышэй ды вышэй рос іх уздым, усё далей ды далей пасоўваліся яны ад таго жыцьця, якое вакольвала іх. Акрыляліся надзеі, разгортваліся жаданьні душы, выцінaлі новыя словы ды новыя песьні, вырастала натхненьне. Рыгор захапіўся, уголас замарыў: „Ведаеце, Наталя: нам трэба ўсе натугі скарыстаць на тое, каб перабудаваць сьвет. Ёсьць многа прыгожасьці ў жыцьці, ды ня дадзена нашаму брату карыстацца ёю. Бушуе мора або ціха адпачывае, буяе зелень, шуміць дуброва, палош-

чацца сонца на морскіх хвалях... грае музыка, снуюць самакаты—няхай будзе гэта агульным статкам. Чаму для адных яно дасяжна, а для другіх—недаступна? Кожны чалавек—поўнапраўны гаспадар зямлі, вольны Ікар, волат, цэлы сьвет. Дакуль гэтага не зразумеем мы, рабочыя! Дакуль мы не навучымся цаніць сябе, стаяць за сваю самотнасьць, вылучаць сябе з гушчы і, вылучаючы, гусьціцца, як роўны з роўным, як вялікі з вялікім... Праўда?“

Наталя захапілася яго словамі так, як і на сходзе. Яна адкрыла ім сваё нутро, падалася насустрэч. І ў адзнаку згоды, рашучым рухам працягнула руку к яго руцэ, узяла, сьціснула, пусьціўшы жыватворчую цяплыню ў яго цела.

— Праўда. Праўда. Праўда... Мы выявім сябе ў наступнай забастоўцы.

Го! Пачалася-б яна вось зараз, у гэты момант, — які-б паварот ёй прыдалі Рыгор з Наталяю!

На некі час абое адцягнуліся паглядамі ад мора, ад сіняга неба, ад усяго, што ваколіла іх, і перанясьліся да забастоўкі.

— Як вы думаеце, Наталя, сумеем мы зрабіць наша выступленьне магутным, організаваным?

— Мне думаецца—ёсьць адпаведны настрой.

— Мяне смуцяць нашы таварышы сваёю асьцярогаю. Мала ў іх рашучасьці.

— Набяруцца. Здарэньні прыдадуць яе ім.

— Ці чуюць вось гэтыя людзі набліжэньне часу, калі мы выступім?

Наталя засьмяялася.

— Што ім да таго: яны жывуць сягоньнешнім днём—момантам.

— Захапіць-бы іх раптам.

Рыгор адчуваў у сабе нявыказную энэргію, агромністую сілу. Вось скалыхнецца і затрасе морам, здыме сонца. Ды сама стыхія здавалася яму умоўнаю па сваёй моцы і па сваім размаху. Праўда, гэта не перашкодзіла Рыгору прасякацца яе вялікасьцю і набірацца далейшага настрою.

Чырвоны промень, што заліў сабою захад неба і круглае крывяністае сонца ў асяродку гэтага променю, сапраўды, былі чароўны. Сваёю дзіўнасьцю гэты вобраз міжвольна прыцягаў да сябе увагу публікі. Быццам гарэла мора, адбіваючы полымя ў небе; і з далёкага-далёку ў пераменчывым па хварбе і па сіле цяпла, набліжаўся агонь ажно да месца гулянкі. Далёка заплыўшы, парусьнікі, здавалася, пападалі ў промень і гарэлі нястухаючымі факеламі.

Рыгор параўняў чырвань з чырваньню крыві, што „лілася ракою“ ў вогненна-празрыстай марсэльезе: натхнуўся веліччу вобразу і ціха завёў на вуха Наталі: „І ўзы-ыд-зе-э за крыва-ваю ра-ко-о-ю сонца-а праўды-і і братняй любві-ы“.

Наталя ў бадзёрай асалодзе здрыганулася:

— Во-во-во! Як удачліва вы давялі!—пахваліла Наталя.

— Сапраўды?..

Ён нахіліўся да яе і замілаваным паглядам кінуў у вочы дзяўчыне. Колькі сказаў ён гэтым паглядам! Адна чулая душа дзяўчыны-каханкі можа пачуць неабсяжныя перажываньні гэткіх момантаў. Наталя мела чулую душу і засьведчыла сваю ўдзячнасьць Рыгору тым, што знарок кранула сваёю шчакою яго шчакі без пацалунку.

Пасьля гэтага, мэрам умовіўшыся, яны прасядзелі некалькі часу моўчкі, нязьмігутна гледзячы на цямнеючы захад. Стала адчувацца вільгаць. Публіка хутка меншала ў сваім ліку; але паўнелі рэстораны, рундучкі.

Рыгор з Наталяю таксама пачулі ахвоту перакусіць. Яшчэ едучы сюды, Рыгор меў у воку пытаньне з ядою і час-ад-часу варочаўся да яго. Карцела пайсьці з Наталяю ў рэсторан і перакусіць пад музыку. Але пяршыня гэтага на ўзмор'і, дзе даражыня адлічалася сваёю веліччу, і скупасьць грошы ў кішэні не давалі сьмеласьці рашыцца зайсьці ў рэсторацыю. А вось спатнецца на якую-кольвечы няёмкасьць, і тады сапсуецца ўвесь настрой. Усё-ж, сумнявацца—Рыгор доўга не сумняваўся; сабраўшыся ад'яжджаць у горад, ён запрапанаваў Наталі выпіць па шклянцы кавы. Тая не адказвалася: яе, як дзяўчыну, вабілі музыка і багатая электрычнасьць у рэсторацыі. Смучала убогасьць адзеньня, што колькі раз яна праверыла абеглым паглядам.

Яны зашлі і, на дзіва для абоіх, нічога надзвычайнага не напаткалі: бязуважна з боку публікі выбралі столік і, на асыгнаваныя Рыгорам дзесяць злоты, падсілкаваліся на дарогу.

Ідучы на вакзал, яны разыгралі нечакана для сябе апошні акт першага знаёмства: вядучы Наталю пад руку, Рыгор улучыў момант у час гутаркі і пацалаваў дзяўчыну. Тая затаіла выхадку Рыгора ў пагоджаным маўчаньні, але праз хвіліну назвала яго на ты.

Пасьля гэтага час пабег яшчэ шпарчэй. Гутарка прыняла больш адкрыты выгляд, вышлі на поверх тыя словы, аб якіх не ўспаміналася, едучы на ўзмор'е. Сталі больш рашучымі кіўкі рук, больш сьмялейшымі пагляды. Аслабіліся думкі ў выбары асобных сказаў, у іх пабудаваньні.

Сеўшы ў вагон—шолам пасажыраў і роўны стук калёс наводзілі на яго забыўнасьць, прыдавалі роўнадушша. Здавалася, што Наталю ён сустрэў даўно-даўно і ўжо пасьпеў вывучыць яе твар, яе постаць, нават пралезьці ў яе думкі, праведаў, як і што. І міжвольна, праехаўшы паўгадзіны, ён параўняў сучаснае становішча з тым, якое было ў час язды з дому ў Рыгу. Чужыя людзі вакола, а з боку дзяўчына... ні то чужая, ні то свая. Тады была Ганна, а цяпер—Наталя. Ці мо й цяпер Ганна? Рыгор схамянуўся і паглядзеў улева: Наталя была адвярнуўшыся да вакна, і ён не зачапіў яе, каб вальней падумаць!.. „Як яно ўсё так хутка адно за другім? Здаецца ўчора ехаў з дому з Ганнай, а зараз,

вось, еду з Наталяю. Так лёгка зьмяняецца. Тая чакала нечага ад мяне і гэта, напэўна, ня ў іншым настроі. Як-жа мне цяперака трымацца? Добра-ж бы было, каб Ганна зазлавала на мяне і больш ня прышла. Хай-бы яна зьмяніла мяне на іншага". Думаў так, а падсьвядома меркаваў не парываць ні з воднаю. Ганну шкадаваў, Наталю любіў. І ў яго выбражэньні адно за другім уставалі тыя прыемна-дадатныя асабістасьці Ганьнінай істоты, якіх ня мела Наталя. „Зьліць-бы ў адну дзьве гэтыя самотнасьці, і тады-б вышла адно цэлае стварэньне... ды гэткае стварэньне, якому-б у сьвеце ня было-б роўнага. І я-бы тады меў"... Канец думак патух у выбухнуўшым гомане гарадзкога жыцьця; цягнік стаў, і публіка затупала па вагону. Стомленая ад духаты і маўчанкі, расчырвоненая, паднялася з лаўкі Наталя. Ад інэрцыі пахілілася ўбок і хапілася за рукаў Рыгора.

— Ты задрамала?

— Закалыхвае язда.

— Таму, што рэдка езьдзіш.

— Напэўна...

— А я шкадаваў цябе чапаць,—схлусіў Рыгор.

Наталя чуць прыметна ўхмыльнулася, ці западозрыўшы гэта ці задаволіўшыся Рыгораваю увагаю да сябе. Нават хацела нешта сказаць, але пры гэтым публіка затаўхалася і аддзяліла яе ад Рыгора. Яны вышлі на вакзал паасабліва і сышліся пры сходах на вуліцу.

Ня гледзячы на вечар, горад соп духатою, пылам. Пры вакзале стаяла некалькі аўтомобіляў, якія дымелі бэнзынавым дымам, яшчэ горай труціўшым паветра.

Публіка, што вышла з вакзалу, кінулася да рамізьнікаў, на трамвайную спынку, часткаю рассыпалася ў два бакі па панэлі.

— Мо' зойдзем у Вэймарскі парк на момант?

Наталя паглядзела на загарак.

— Ужо дванаццатая гадзіна. Пройдзем... Праз чвэртку гадзіны яны сядзелі на скрытнай у кустох лаўцы і пераменна гутарылі аб забастоўцы ды аб каханьні. Ганны йзноў ня краталі Рыгоравы думкі. І толькі праз гадзіну, правёўшы Наталю на кватэру, а сам варочаючыся дамоў, ён напаткаў міжвольнае, падсьвядомае пытаньне: ці не наведвала сёньня яшчэ раз Ганна?

## VIII

Прышоўшы на кватэру, Рыгор праканаўся, што ў яго ня было нікога ўвесь дзень. Не наведвала і Ганна. Для яе было-б занадта ня вытрыманым прыйсьці так хутка, пасьля пакінутай яму цыдулькі. Не са спакойнаю-ж душою пісала яе дзяўчына! Ганьне трэба было перадумаць, вымеркаваць, разьлічыць усе умовы і скуткі, каб рашыцца на яе. Пэўна, пасьля гэтага яна не пасьмела-б пісаць папроку Рыгору, каб раптоў-

ная злосьць, абурыўшая яе пры словах Вільгэльміны—„Рыгора няма ў дому“, ня вымусілі на гэта.

Ганна доўга абдумоўвала перажытае ёю пры першым спатканьні з Рыгорам у яго кватэры. Падыходзіла яна да гэтага з розных бакоў: лічыла злачыньнем з боку Рыгора і празывала слабасьцю з свайго боку. Абедзьве дагадкі прыгняталі яе, нэрвавалі. Тады яна настойна шукала тых прычын, якія-б апраўдвалі тое, што яна зрабіла; з гэнай мэтаю Ганна старалася прайсьці ў Рыгараву душу і адгадаць яго тайны. Перабірала, седзячы ў пакоі аднэю, кожную падрабязговасьць пры спатканьні з ім, дапамінала тэмы гутарак праз усю дарогу, асобныя сказы; аднаўляла дзесяткі раз вобраз Рыгора, выгляд яго вачэй, міну твару, ухмылку на губах. Усюды было чыста, не заплямена. Нельга было прычапіцца да хлопца. Няўжо такі?—Сьвядома думала не паверыць, але не хапала сьмеласьці прышчапіць да сэрца хвальшывае пачуцьцё. Аставалася вінаваціць самую сябе; Рыгарава прыгожасьць пайграла на яе душы?! Не без таго. „Рыгор падкупіў мяне сваім хараством, сваёю натураю. Гэты бялявы твар, як з мармуру, глыбокі пагляд вачэй, высокі лоб пад капяжом густых кос, сакавітыя губы! Гэта цёплая, ласкавая ўхмылка з характэрнымі рыскамі на шчаках. Узмахі рукі, пружыністыя, кароткія, мяккі тэмбр голасу, статнасьць фігуры, дабрата“... А мо‘ злая сіла затуманіла яе выабражэньне, і ўсё тое ня больш, як адна здань, мыльныя бульбаткі? Можа настрой моманту адыграў тут балючую ролю? Наляцела пачуцьцё, асьляпіла яе сьвядомасьць і папхнула на гэты крок? Нельга было, колькі ня судзіла Ганна, знайсьці канцы тае прычыны, якая заставіла па сабе гэткі глыбокі сьлед. І таму, што прычына ўцякала ад яе, дзяўчыне рабілася цяжэй нявытрыманей, неспакойлівей. Падкрадаліся чорныя думкі пра мажлівыя скуткі і тут-жа паўставала сумненьне аб шчырасьці Рыгора. Ганна пазірала на мацеру і мучылася ад аднаго адзнаньня свае віны перад ёю: вось напаткае разам нечакана старую, як тады будзе яна жыць? Ёй нельга было ня спускацца да гэтага, як чалавеку, які быў гаспадаром сям‘і, хоць і малое, з дваіх душ. Як яна сьцераглася гэтага, гуляючы больш двух год з Гарасімам Калком? Колькі мучылася, каб сутрымацца, каб адцягнуць час, а гэта...

Для Ганны невядомы былі ўсе выкрутасы жыцьця, невядома яго глыбокая заблытанасьць. Чулася, што ў гэтым выпадку яно балюча над ёю паджартавала. Трэба думаць, як згладзіць сьляды гэтага жарту. Яна намерылася была назаўтра пасьля спатканьня йсьці да Рыгора, пагутарыць з ім а многім-многім, абнадзеіцца, вырашыць наступнае. Карцела нямерна, праглося як найхутчэй перанясьціся да яго. Некалькі раз яна выходзіла з кватэры, вярталася назад, меркавала, траціла ахвоту, набіралася эгоізму і адкладала назаўтра. На змроку ўжо, здавалася, канчаткова сабралася пайсьці,—пераняла маці: прыхварэла і ўпрасіла Ганну астацца. Сэрца не дазволіла адказацца.

Затое назаўтра, дачакаўшыся вечара, яна ня мела іншых думак, ні сумненьня. Выгартавала стальную рашучасьць і з ёю а сёмай гадзіне вышла з дому, уверанымі крокамі пакіраваўшы да Рыгора. Хто мог-бы яе супыніць, пераняць? З чым-бы яна палічылася? Ішла, як ідзе цягнік, загубіўшы машыністага, як ляціць распуджаны конь, вырваўшы лейцы з рук хурмана. Перад ёю яскравым малюнкам лунаў Рыгораў вобраз, чаруючы яе, вабячы, цягнучы непераможнаю сілаю. Яна гналася за ім, хочучы схапіць рукамі, абняць, прытуліць шчыльна да сябе і выказаць насьпелыя думкі, рашэньні: як далей?

Няпрыметна прашла горадам, мінула Вэймарскі парк, параўнялася з домам, дзе жыў Рыгор. Прашла дзядзінец, усходы, ачулася пад дзьвярыма кватэры. Ні пахожае думкі, якія былі пры першым наведваньні. Сьмела, рашуча пазваніла — гэтак званіла ў сябе на кватэры. Павялізельна. Але некалькі хвілін патрывожылася: ці дома Рыгор?

Адчыніла Вільгэльміна і запытала:

— Вам каго?

— Мне Нязвычнага,—і адвярнулася: адзін тон латышкі раўняўся ўдару молатам па галаве.

— Нязвычнага няма дома.

Служка думала зачыніць дзьверы й занясла руку,—Ганна пераняла:

— Альбо пачакайце тут, альбо я пайду ў яго пакой і...

У першую хвіліну ня ведала, дзеля чаго гэта і змаўчала, ні-то думаючы, ні-то шукаючы слоў...

— Чаго чакаць?

— Я яму напішу запіску.

І тут-жа хапілася шукаць паперы: абмацала ў кішэні, перавярнула ўсё ў рыдыкюльчыку,—знашла запісную кніжачку з алоўкам і прылажыла яе да зачынетай паловы дзьвярэй.

— Я буду чакаць?!

— Хутка, некалькі слоў.

Сышоўшыся ўсёю постацьцю ў думкі, Ганна пасьпешна напісала той зьмест, які пасьля Вільгэльміна падала Рыгору. Нават не прачытала, ці ёмка, ці тое, што трэба, напісана. Падала, а сама, абураная злосьцю, разнэрвованая, з набегшымі ў вочы сьлязьмі, кінулася ўніз па сходах. У поцемку вярнулася на кватэру і, мэрам-бы протэстуючы супроціў Рыгора, запытала мацеру:

— Ці ня прыходзіў Гарасім?

У голасе ня было шчырасьці, нават сэрца ня думала пра яго.

— Ня прыходзіў. Цікава, дзе ён, што ўжо колькі дзён, а яго ня відаць.

Так, яго ня відаць! Ганна настаражылася. Сапраўды,—дзе-ж Гарасім? Ёй трэба было мець козыр у руках, трэба было мець пры сабе чым засыпаць адзначаную праколіну ў адносінах з Рыгорам. Гарасім—то мост

пры мажлівым адыходзе. Го! І яна хапілася за гэта ймя, як за выратоўны маяк, за падкінутую дапамогу. У яе ёсьцека Гарасім, чалавек, з якім доўга знаёма, з якім блізка сышоўшыся... Як-то яна магла гэтыя дні ня думаць пра Гарасіма?

Ганна азірнулася ў думках назад, праверыла, ці не магла чым навясьці яго на падазроннасьць да сябе. Ці, часамі, ня прыходзіў ён наведваць, ды не застаў на кватэры. Можа некалькі раз упадрад і пасьля махнуў рукою, зазлаваўшы на яе? Можа, можа... І помеж таго, як уставалі пытаньні, падагрэтыя раскалыханым пачуцьцём, устрывожанае выбражэньне малявала вобразы Гарасімавай зьмены, вобразы свае адзіноты, закінутасьці, бяспрытульнасьці. Хто віною гэтаму?„—Сама! Сама віною. Няхай-бы, вярнуўшыся з гасьцей, пашла да яго, наведала, як і што ён жыве. Пагутарылі-б, прагулялі-б весела час. Дык не—надало занядбаць Гарасіма. Як быццам-бы Рыгор ведаў пра гэта. Што я выйграла гэтым?"

— Няўжо Гарасім так і ня прыходзіў?—ні-то сама ў сябе, ні-то ў мацеры запытала Ганна:—Дзіва.

— А я думала, мо' вы бачыліся з ім.

Бачыліся. „Маці ня ведае нічога". Ганна на хвіліну дапусьціла, што маці дазнаецца пра ўсё, і ёй стала адначасова і горка і страшна. Яна паглядзела ў спакойны мацерын твар і не магла вытрымаць. „Затаю ўсё, а не пайду на мацерыну пакуту".

— Мо' ён заўтра прыдзе: заўтра нядзеля, і будзе вольны час.

— Пэўна, заўтра!

Яна пераняслася думкамі назаўтра. Пачала маляваць пляны, як і што давядзецца правясьці час з Гарасімам, аб чым гутарыць з ім. Мяркавала, калі ён прыдзе, з якім настроем. Ачула цягнула яе да старога прыяцеля, ён рабіўся куды бліжэйшым за Рыгора, шчырэйшым. Яна часова забыла пра яго, заўтра паправіць сваю абмылку. Ці-ж ня бывае з чалавекам?

І лёгшы пазьней звычайнага, Ганна пакуль не заснула, думала пра адно,—пра заўтрашні дзень, пра спатканьне з Гарасімам. Падганяла час, каб хутчэй мінула ноч. „Хоць-бы была пагода добрая!.. А што, як ён прыдзе зраньня, калі я буду спаць?"

Заснула заспакоенаю, суцешанаю. І паднялася назаўтра—радаснаю. Зьлезла з ложка і ў вакно... Сонца прыемным сьвятлом сустракала Ганніну вясёласьць. Сьмяяліся ў акно цёплыя праменьні. Нядзельны настрой лунаў над дваром, над будынкамі гораду. Даносіўся перазвон і ўрачысьцей гудзелі гудкі. Няўжо ня едзе ўжо да яе Гарасім? Разьлічала час: на хаду, на пераезд Дзьвіны, на пераход ад прыстані да іх кватэры. Вылічыла, што праз некалькі хвілін пакажацца ў браме. Хоць-бы не захапіў яе не адзетаю.

Лёгкім скокам Ганна ачулася пры глухой сьцяне пакою, пры вешалцы з адзежаю. Увімна пададзелася, абулася; пасьля уважліва вымы-

лася, прычасалася. Маці падала сьнедаць, а сама пашла ў горад. Так усё ёмка складалася для спатканьня! Прыдзе, а яна адна аднэю ў хаце, сядзіць пры акне і чытае...

Ганна адчыніла другую створку акна й перагнулася паглядзець на двор. Пасьля прылатвіла крэсла і, узяўшы з свае невялічкае бібліотэкі томік Шэльлера-Міхайлава ў прылажэньні да „Нівы“, пачала чытаць. Бязуважна: два радкі прачытае і паглядзіць у вакно, два радкі прачытае і паднімецца. Усё—спакойліва і ўверана, ня лічачы часу, не шкадуючы яго прабегу.

Нарэшце, раптоўна, перадумала плян. „Чаму-ж, каб ён прышоў? А калі я пайду да Гарасіма?“ Ня хочучы задумоўвацца, ці варта гэта рабіць ці не, Ганна пасьпешна сабралася і хутка ўжо была на дварэ, ідучы да Гарасіма. Лёгкі ветрык студзіў яе твар, настрой публікі паднімаў яе настрой. Усё выглядала ў яе ваччу пагоджанай, гармоннай складнасьцью. Як побач гуляюць людзі, стаяць дзярэўцы, бегае трамвай, у дадзены час, на дадзеным месцы—гэтак яна сустрэнецца з Гарасімам ці па дарозе да яго, ці на прыстані, ці пры выйсьці з двара. Мог-жа ён толькі цяпер сабрацца да яе—мала што ёй хацелася бачыць раней!

Праз паўгадзіны Ганна стаяла ў дзьвярах беднага двухкватэрнага дзеравянага доміку і глядзела зьдзіўленымі вачмі на прывешаны тоўсты паржавелы замок. Каля яго тырчэў гузічак з маленькім кавалачкам памурзанае паперкі—астатак ад быўшай візыткі.

— Дзе-ж бы ён?

Не магла дадумацца, хоць можна было дагадвацца розна: ці перабраўся на іншую кватэру, ці паехаў у водпуск. Але Ганна была ашаломленай ад нечаканасьці. Замок на дзьвярах спаралюшыў яе пачуцьцё і думкі, і яна стаяла ў нейкай отарапі, ня ведаючы чаго і што. І толькі праз доўгі кавал часу адвярнулася ад дзьвярэй і рашыла праведаць аб Гарасіме ў суседзяў. Нельга-ж бяз нічога варочацца,—запакутуе сумленьне.

Яна падышла да дзьвярэй кватэры нумар першы і пазваніла. Вышла сівенькая поўная бабулька.

— Убачайце, ці ня ведаеце, куды выехаў Гарасім Калок?

Бабуля аглядзела Ганну падазронным паглядам, памаўчала з хвілінку і нехаця адказала:

— У Лібаву,—ды зачыніла дзьверы.

Ганна міжвольна здрыганулася ўсёю постацьцю, паглядзела на яго кватэру і павярнула з двара, задуманаю, раззлаванаю.

„Няўжо праўда таму? думала яна ідучы: „Паехаў і не сказаў, не паведаміў, нават. Паехаў як упрочкі, тайком“...

Яна паглядзела ўсьцяж вуліцы і прадставіла сабе, як мог Гарасім ехаць вось гэтым самым месцам, кудою яна йшла і, едучы, мог думаць або ня думаць пра яе. Абярнулася—авось здарыцца цуд, і ён сьледам за ёю ідзе ў горад.

Ішлі іншыя людзі: якісь дзяцюк ухмыльнуўся ёй і зрабіў двухсэнсоўны намёк. Ганне стала брыдка і агідна, яна ўскорыла хаду, кінула думаць пра Гарасіма і захапілася клопатам як хутчэй вярнуцца да дому, дзе-б спакойна, наадзіне абдумаць усё.

Неўзабаве яна ачулася ў сваей вуліцы. Знаёмыя будынкі, знаёмыя дзярэўцы, нават, вось, некалькі знаёмых чалавек. Раскланялася з імі ветліва і прашла ў двор. У дзьвярах кватэры стрэлася з мацерою, якая выходзіла на двор, і не магла, каб не паведаць ёй навіны пра Гарасіма.

— Гарасім выехаў у Лібаву, ці чулі гэта?

— Няўжо?—зьдзівілася маці, пільным паглядам кінуўшы Ганьне ў твар.—А я, здаецца, зусім нядаўна бачыла яго. Хадзіла на рынак і сустрэла—бег вуліцаю. Колькі дзён да твайго прыезду... А хто табе казаў?

— Я йду ад яго: замок на дзьвярах, а суседка паведаміла, што паехаў у Лібаву.

— Чаму-ж не напісаў, ці?..—маці ўкорна паківала галавою:—і людзі-ж, аднакава.

— Э, ліха яго бяры!—вылаялася Ганна і матнула рукою:—есьці ёсьць што-кольвечы?

Маці расказала дачцэ, дзе й што знайсьці, папярэдзіла, што выйдзе крыху на вуліцу і адышлася, ківаючы галавою і мармычучы штосьці сабе пад нос. Ганна спрытна павярнулася і прышла на кватэру.

І вось... Толькі пераступіла парог, як ёю аўладала пачуцьцё некай нядбайнасьці: усе думкі, як-бы хто іх выгнаў з галавы, замерлі, прыціхлі. Яна знашла яду, усмак паела і падышла да ложка, каб крыху супачыць. Лягла, і толькі прыплюшчыла вочы, як раптам узьняліся ўспаміны пра спатканьне з Рыгорам, пра вечар, праведзены з ім у яго на кватэры, пра сваю запіску яму. Ёй стала душна й млосна, не хацелася ляжаць, ні адпачываць...

Паднялася з ложка, зьлезла і кінулася тупаць па пакоіку, ня гледзячы ні на што, прыплюшчыўшы вочы.

Тупала і сама сабе цьвярдзіла:

— Рыгор! Рыгор! Я вінавата перад табою. Я дапусьціла сабе думку, што ты мне здрадзіў... Няўжо таму праўда?..

І спыніўшыся на момант, прыстукнула нагою:

— Я цябе выпрабую... Заўтра. Не, у аўторак...у чацьвер...у чацьвер я да цябе прыду, нечакана для цябе... незнарок, раптам... Чакай мяне, чакай!

Стукнулі дзьверы—Ганна сумелася...

# МАРЫНА

*(Поэма)*

**М. Чарот**

Можа песьняй будзе,
Можа казкай—
Гэты сказ аб мінулай праўдзе,
Як па сьвеце вякамі паблудзіць...
Але, вось—
Няхай ведаюць людзі
Пра Марыну,
Дзяўчыну-краску...
Няхай ведаюць людзі,
Як забранай краіне жылося...

Народ сам пра гэта
Зложыць песьню...
Народ сам поэта...
Ён у сваіх сьпевах—
Мае веру,
Што жыцьцё яго—завесьніць...
І цяпер—
Каля плоту і ноч, і дзень
Стары старац-жабрак
Песьню гудзе...
Як-жа ён, як
Апявае мінулыя дні?..
Яго струны—нібы авадні
Жаласна енчаць...
Гэта—сьпеў сівой старасьветчыны.

Я пяю—што рабілася ўчора...
Нават там, дзе плач і гора—
Мой сьпеў вясёлы...
Жыцьцё цяпер—бурлівы вір...
Даўно разьбіў жабрацку ліру...

Ужо ні сёньня
Плакаць кінуў...
Мой сьпеў вясёлы, —
Я сьпяваю
Пра красуню-дзяўчыну,
Пра паўстанку
Марыну.

I

Ні ў палацах маляваных,
Ні ў белых харомах
Вырасла дзяўчына—Марына...
Маці яе ўзгадавала
Ў клеці, на саломе...
Ды прыгожым тварам надарыла...

Цьвіце кветкай...
Маладзенька, румяная
Ды стройная станам...
Погляд вочак—іскрынкі лучыны.
Цьвіце кветкай,
Цьвіце і ня вяне...

Пакахала сэрданькам дзяўчыны,
Пакахала Марына Івана.

Іване, Іване...
Няхай толькі гляне—
На тварык бяленькі,
На хвартух навенькі...

Паглядзеў Іванка на Марыну,
Паглядзеў—ды годзе...
На вайну забралі з хаты...
Які лёс пракляты,—
Нарадзіўся ў няшчасну гадзіну.
А Марына рутай-мятай
Расьце на выгодзе.

Ой, куды там дзеўчыне выгода:
Бягуць яе лецейкі і годы,—
А каханак на вайне
Ды на чужой старане...
Вернецца ці не?..

А у полі жыта сьпелае
Каласамі шуміць-шастае...
Жне Марынка,
Жне са сьпевамі
Ды Іванку ўспамінае часта.

Знашла яна спарышы у жыце,
Захавала у падоле,
Каб тайком у ночы зваражыці
Пра свайго мілога долю.

II

Як абрусам двор засланы—
Сьнегам заімжыла...
Едзе ў госьці ён, каханы,
А за ім—дружына.

Зіхацяць на сонцы востры пікі,
Мітусяцца чырвоныя йстужкі...
Іванка Марыну
Голасна паклікаў...
Марына да Іванкі
Вылецела птушкай.
Іван—ваявода
Чырвонай дружыны,
Шэпча ён лагодна
Словы да дзяўчыны...

Тупае нагою конь буланы,—
Стаяці ня хоча.
Слухае Марына ды ня гляне,—
Заплаканы вочы.

А з паўночы вецер
Дыхае сьцюдзёны...
Не баіцца сьмерці
Іванка-Будзённы.

Ён з каня саскочыў,
Выцер мілай вочы,
Прыгарнуў з пацехай
Ды далей паехаў...

А Марына—доўжанька стаяла
На сьнягу
Ды на марозе...
Міламу свайму жадала,—
Сустрэць шчасьцейка ў дарозе...

III

Ні ад ветру бары гамоняць,
Ні ад буры заскрыпелі сосны...
Іван-ваявода
З дружынаю едзе...
Ой, ня едзе,—яго вораг гоніць...
А у хаце ня стукаюць кросны.
Іван-ваявода
З дружынаю едзе,
Каб Марыну яшчэ раз угледзець...

А Марына ўжо даўно паткала
Ручнікі-намёты
Ды Івана ля варот спаткала,—
Думала—залёты.

Два дні і дзьве ночкі
Быу Іван ў гасьціне,—
У тузе-сумоце
Пакінуў дзяўчыну...

—О, якая жальба агартае:
Я цяпер Марына—ды ня тая...

А што—калі буду я матуляй?..
Ні да скокаў Марыне,
Ні да гуляў...
У садку сядзіць паміж півоні...
„Адна я ўчора,
Ды адна і сёньня"...
Так штодня і позьненька, і рана
Думала Марына пра Івана.

А Іванка—ліхі ваяка—
За ракою, за Бярозаю...
Уцякаў Іванка—ня плакаў.
Стаіць для паноў ён пагрозаю—
За ракою, за Бярозаю.

IV

Наехалі уланы-палякі
Ды сталі на пастой...
Ды забралі у палон краіну...
А праз тое—
Людзі як плакалі...
Плакала Марына...

Браты уцяклі — бо чырвоны,
За сыноў—бацька ў вастрозе...
Каго помста не агорне
На такім шляху-дарозе...

Наста—маці,
Плакала ня мала...
Як-бы дочку захаваці
Ад панскай навалы?..

Ой, улане,
Ліхі пане,
Згубіш ты Марыну,
А дзяўчына,
Цьвет-маліна,
Шэпча: не загіну.

Ціхім змрокам
Прышоў да Марыны ў хату...
На руках—пярсьцёнкі-дукаты...
Пазірае ласым вокам.

А шабля: бліс-бліс.
Сэрца Марыны забілася...
Да матулі—скок.
Маці заплакала—ў ногі...
А ён—вартуе парога.

Ціха было—
Шыбы бразнулі...
Марына зязюлькай—ў садок...
Ціха было —
Ціха адразу...
Нават вецер—і вецер змоўк...
Не пашла Марына ў хату...
Не хацелась дзяўчыне прапасьці,—
Была працаю ў полі занята,
Памагала каровы пасьціць.

Толькі ў ночы бяжыць да клеці,
Каб матулю спаткаць... ды наўцёк...
Так забранай краіны дзеці
Марнавалі сваё жыцьцё...

V

Ой, Марына, ой, Марына,
З вочкамі блакітнымі,

Ты жыла у тэй краіне,
Што сьлязьмі аблітая...

Цяжка дзяўчыне,
Марыне цяжка...
Сумная песьня у жнеяк,—
Працы многа—хлеба няма...
На чужынца працуй задарма...
Ты-ж гадавалася неяк...
Неяк жылося...

З васількоў вянкі пляла ты
Ды сьпявала песьні...
Ой, ты, вецер, ой, праклятгы,
Злосны ты у верасьні...

Насупіла восень
Хмары-бровы...
А Марына ў полі
Ды пасе каровы...

Па-над ёю лятуць гусі ў вырай,
Лятуць ды паволі...
Сыпле ночка сьцежку
Злотным жвірам...

Пазірае на іх змрок пудлівы...
Ой, куды, куды вы,
Ды шэрыя гусі,
Ці-ж вам тут ня гожа—
Жыць на Беларусі...

Ходзіць Марына па пожні...
Недзе коні далёка зарзалі...
А гусі-гусанькі — не адказалі.

Засмуцілася Марына,
Сэрданька застукала ў грудзёх...
Парашыла кінуць-рынуць,—
Пайсьці ў пушчы ды разлогі.

Сьлязьмі залілася Наста, —
Рукі ламала да болі,
Што дачушка пашла на шчасьце
У лес ды чыстае поле...

А Марына,
Цьвет-маліна,

Ідзе паўз лес, па даліне...
Ад паганца пана,
Польскага улана...
Ой, Марына,
Ой, дзяўчына...
— Згіне ці ня згіне
Туман ў логах
Сіні-сіні...
Чыя будзе перамога,
Многа згіне,
Згіне многа...
А Марына—жыць павінна.

VI

Калі каханьне сэрца томіць
Марыне ціхім, сонным змрокам,
Здаецца, вецер між кустоў
Сьпявае песьню аб далёкім...

Аб краі тым, што за Бярозай,
На Ўсходзе Вольным—за ракою...
Паволі зімнаю рукою
Марына расхіляе лозы...

Прыслухаецца, як капае раса...
Лёнам-кужалем распушчана каса...

Жыве ў лесе ні адзін ужо дзянёк...
Восень... холад... захліпнуўся аганёк.
Ні адна Марына ў лесе,
Ні адна ў паўстаньні, —
З хлопцамі-малойцамі вандруе...
Каб зладзіць таго, павесіць,
Хто разьбіў каханьне...
Прыдзе час—Марына не даруе.
І адважная паўстанка
Падышла да грамады.
Ад шагоў яе—
Праснулася палянка,
Ад вачэй яе—
Сьвятло, як заўсяды.

— Гэй, да ну!.. паўстанцы...
Ці-ж ня сорам...
Ночку цёмную у лесе спачываць:
За Бярозу гляньце,—

Скора, скора
Загукае песьню сыч-сава...

Ды налятуць птушкі з Усходу—
Чырвонакрылыя,
Ды прынясуць радасну прыгоду
Пра майго мілага...

Гляне, гляне сонца з-за Бярозы,
Згоніць, як расіцу, мае сьлёзы...

І пашлі паўстанцы
Ціха, ціха сьпяваючы,
І пашлі паўстанцы
Долі, шчасьця шукаючы...

А паперадзе дзяўчына—
Паўстанка Марына.

VII

Рабавалі край уланы,
Дратавалі збожжа...
А Марына у паўстаньні—
О, якое падарожжа...

Не агорне сэрца жальба-смутак...
Узяла Марына сена жмутак
Ды к пакоям пана...
Была поўнач... цемра... слота...
Ад пажару здавалася—раньне...
А Марына ўжо даўно там,—
Дзе лес ды балота.

А у ночку гэту, чуць-чуць золак,
Як паўстанцы ля стагоў драмалі,
У Марыны раптам—колка...
Ручкі яна заламала.

Таўханула нешта пад сэрца,—
Гэтак салодка-балюча
Страшна Марыне,
Марыне ня верыцца...

Ды дзяўчына не заручана...
Ёй успомніўся садок вішнёвы...
Там Іванкі.. ласкавыя словы...
Сьлёз няма... А вочкамі міргае...

Заручыў дзяўчыну—шумны гай...
Змарыў сон
Паўстанку каля стогу...
Змарыў сон,
А сьнілася ёй многа.

Вецер шастае ля вуха
Гольлямі сухімі...
Слухай, дзяўчына... Паслухай —
Дні бягуць ліхія.

Ужо золак... змрок схіляе
Скрыдлы за сыр-борам...
Сьнег-сьняжочак падыляе,
Шые шыр узорам.

Замятае шлях-дарогу...
Не знайсьці палянку...
А Марына каля стогу
Сьніць свайго Іванку.

VIII

Жудасна зімою у разлогах...
А як-жа сьдзюдзёна...
Дзьме завея... зябнуць ногі...
І гэтак штодзённа.

Раскладзеш агоньчык у гушчары—
Абагрэць хоць рукі...
І вось гэтак—днямі і начамі
Сядзіш карчом-крукам.

А Марына—ня любіла цішы,
Ня любіла захавацца ў гольлі.
Адзін раз—адна з гушчару вышла.
Ды пашла да хаты цераз поле.

Завіхрылася віхураю завея...
Ў чыстым полі—музыка, разгульле...
А ў Марыны ёсьць надзея,—
Дойдзе да матулі.

Не чакала яе сэрца вялікага жалю...
Ня ведала, што матуля
Даўно паміж хвоек —
Ў зямліцы ляжала...

Ой, як, ой, як —
Дзяўчыне Марыне

Будзе цяжка жыці...
Каласком нясьпелым
У пасьпелым жыце...

Падышла Марына,
Падышла нясьмела, —
Спачатку да клеці,
А пасьля да хаты...
Ды у дзьверы: стук-стук...

Зашумеў абрыдоны вецер
У закоце кудлатым
Ды пытае: хто тут?..

У белым пуху хаціна...
У ваконцы няма сьвятла...
Шыбы не адталі...
Ёкнула сэрца ў грудзёх...

У гэту ночку чужыя людзі
Абазвалі яе сірацінай.

А сьняжок—ляцеў, кружыўся...
У гумне зарыпела адрына...
У матчыным старым кажусе
У лес падыбала Марына.

Забрахалі сабакі у вёсцы,
Нават завылі...
Сыпле сьнегам па дарожцы,
Каб паўстанку не злавілі.

IX

За Бярозай—грукаюць гарматы,—
Гэта голас ды роднага брата...
Па-над Пціччу,
Па-над Сьвіслаччу
Лес паўстанцаў туліць...

А ў вастрозе—ды родны татуля.
За Бярозай— трашчаць кулямёты...
Адгукнуліся пад Нёмнам балоты...
Боязна Марыне...

-- Ой, дзе ты, дзе ты,
Іванка з дружынай,
З дружынай чырвонай...
Марна гінуць маладыя леты...

Над Марынай—кулі лятуць, звоняць...
. . . Дзе ты?..
Запытала ў шумным лесе рэха...
У далёкім краі
Іванка гуляе,—
З ворагам ваюе,
Марынкі ня чуе...

Шмат дзянёчкаў, як з дому паехаў...
Ужо на балоце праталіны-лужы...
А з выраю гусі,
Па-над Беларусьсю,
Лятуць поясам-гужам,
Лятуць ды гамоняць.

А за Бярозаю—кулі звоняць...

Пазірае Марынка на Ўсход...
То-ж яе Іване
Не забыў каханьня,—
Праз раку Бярозу
Папярэднім вышаў у паход...

Ой, плыве як грозна
На пана-улана
Ды чырвонае войска...
Йдуць ля Магілёва,
Йдуць каля Прапойску...
А штыкі ды шаблі сталёвы...

Ад пана-улана
Будзеш ты, краіна, адабрана.

X

Ох, як цяжка быці у палоне...
Жыць некім чужынцам
На родным загоне...
Ох, як цяжка, цяжка...

Цяжка і дзяўчыне,
Як скажуць—блудніца...
А Марына—сказу не баіцца...

Была ночка... Ухапілі болі...
Клянецца дзяўчына
Не кахаць больш нікога ніколі...
Клялася дзяўчына да ранку,
Ня раз заклікала: „Іванку"...

Надышла шчасьліва часіна,—
Паўстанка Марына
У разлогах вольнай пушчы
Нарадзіла сына...

Нарадзіла сына не з распусты...
...Што-ж дзівіцца, людзі,
Магло гэтак стацца!..
А пакуль—адным паўстанцам
У нас болей будзе...

І расьце сыночак
Ў лесе, між кусточкаў...
А які, які прыгожы...
А Марына—калыску люляе...

Ўсе паўстанцы яго забаўляюць
Ды часамі шэпчуць між сабою:
— На Івана дужа ён пахожы...
А Марына—калыску люляе...

Загукалі ды паўстанцкія рацці...
І Марыне трэба йсьці да бою...
А Марына-маці,
Маці і—паўстанка...
...Трэба йсьці да бою.

Недалёка за гарою—
Чырвоных стаянка...
Загулі над лесам кулі роем,
Затрашчалі кулямёты блізка...
А Марына пад вярбою
Гойдае калыску...

А Марыне—трэба йсьці да бою...
Над сыночкам нахілілася нізка,—
Крэпка ручкі спавівае,
Ды песеньку напявае.—

Бай, сыночку мілы, бай,
Па гушчару йдзе бабай,
З-за Бярозы йдзе каток,—
Прынясе табе мядок...

XI

Асядлала быстрых коняй
Дружына Івана,
Ды напаіла іх у Бярозе,

Каб ня смагнуць у пагоні
За панам-уланам,
Каб трывалым быці у дарозе...

Наступае чырвонае войска...
А уланы,
Ляхі-паны,
Паляць сёлы, вёскі...

Ды страляюць нічым непавінных...
Гіне усё, гіне...

Схамянуўся край забраны,
Зварухнуліся паўстанцамі лясы...
А назаўтра—рана-рана
Кінуў край наш галасіць...
Паўстанка Марына
За плячыма несла сына...
Адчыніла хату...
Аж яе чакае—
Родны брат...

А праз дзень—і бацька йдзе з вастрогу.
Каля ложка калыску павесіла...
Ні у лесе ў гольлі—
Марына на волі...
Ды нешта ня весела...
Пазірае часта на дарогу...

Шкода і матулі—ёй сьпявае хвойнік...
Але думка аб Іване
Не дае спачыну.

— Ой, ці хутка заржэ яго конік...
Думае, як гляне,—
Згінуў, ці ня згінуў?..

Раптам грукат-тупат,—
Ваявода чырвонага стану
На кані буланым ля варот...
Марына, як птушка,
На руках з маленькім да Івана.

— Гэта-ж твой сыночак,—
На, пагушкай...
Прыгарнуў Іван сыночка—
Сэрца ён ня чуе...
— Ну, Марына, гэту ночку
Дома адпачну я.

А назаўтра—зноў Іване
Будзе ў сваім стане.
Пакуль з панам—
Злым уланам
Бой не перастане.

Ой, ды не надоўга будзе разьвітаньне
Іванкі з Марынай —
Іванка Марыны
Ніколі ня кіне...

Забыла Марына пра паўстаньне...
Цьвіце кветкай...
Маладзенька, румяная
Ды стройная станам...
Погляд вочак—іскрынкі лучыны,
Цьвіце кветкай...
Цьвіце і ня вяне,
Пакахала сэрданькам дзяўчыны,
Пакахала Марына Івана.

## XII

Каля рэчкі касец косіць...
Каля рэчкі касец косіць,
Ды закасіў вечар росны...
А каля пакосу,
На вузкай палосе
Дажынае жнейка жыта...

Ой, ды гэта жыта
Коньмі ня прыбіта,
Не паломана ды чужацкім станам.
Не гамоніць лес наш паўстаньнем.

Ад пана-улана
Зямля адабрана,—
Вольнаю стала краіна...
Эх, ня ўся краіна—
Толькі палавіна...

Гэтак быць—не павінна...
Каля рэчкі,
Каля Сьвіслачы—
Іван-ваявода косіць.
Слухае Іванка,
Як над Нёманам людзі галосяць...

А Марына—
Сьпелыя каласы рэжа,
У снапы-снапочкі вяжа.
Слухае Марына—плач з-пад Белавежы...
Снапок жыта зьвяжа—
Да зямліцы вухам прыляжа...

Зашумеце, ды сыры-бары,
Загручэце, пяруны-громы,
Запалеце у забранай краіне
Палацы-харомы...
А па Нёмну
Плывуць чоўны...
А ў тых чоўнах
Ды паўстанцаў поўна,—
Мужыкоў ні адна там рота...
— Ня будзе краіна
Разгароджана дротам...
Бач, Марыне зноў ня весела—
Клічуць пушчы яе песьнямі...
Вось Марына ды Івану раіць:
— Годзе жаць, касіці
Па буйнай расіцы,
Калі Нёман ды сьлёз ня ўбірае...
Сабірацца трэба у дарогу—
Да братоў-паўстанцаў на ўспамогу.
Золак зоры з неба скінуў,
Сьцеле сьцежку раніца...
А Марына кажа сыну:
— Будзь, сынок, паўстанцам...
Ой, Марына, ой, Марына,
З вочкамі блакітнымі,—
Ратаваць пашла краіну,
Што сьлязьмі аблітая...
Туман у логах—
Сіні... сіні...
Чыя будзе перамога?..
Згіне многа...
Многа згіне...
А Марына—жыць павінна...
Вось тады, як ня будзе нявольных,
Як ня будзе паўстаньня, вайны,
Ўспамінаць толькі будуць аб войнах,—
Дзе і як адбыліся яны.

Ды ня будуць трашчаць куляметы,
Сьціхне плакаць мяцеліца куль...
Над зямлёй сакаліным узьлётам
Будзе несьціся сьпеў адусюль.

Застракоча у полі трактар...
А на спрытным кані—аўтабусе
Праедзе мужык па тракту
Краіны сваёй—Беларусі.

На палёх і сухіх балотах
Ён пагоніць каня бяз пугі...
І здабудзе з зямлі сваёй золата,
Замест сох—ён электраплугам.

О!.. жыцьцё тагды завесьніць...
Народ верыць у гэта...
Народ сам поэта,—
Народ пра Марыну
Зложыць казку-песьню.

— Ня сумуйце, хлопцы бравы,
І ня леце сьлёз, дзяўчаты,—
Лепей воля у дубраве,
Як няволя ў роднай хаце...

— Палюбіла лес дзяўчына,
Нават болей, чым Івана...
Дні няволі навучылі
Весьці з ворагам змаганьне.

— Ой, лясы-бары шумлівы,
Па-наднёманскай зямліцы,
Хай-жа будзе край шчасьлівы,—
Хай ня будзе меж-граніцы...

Гэта сьпеў дзяўчыны —
Паўстанкі Марыны...

Пра Марыну—будзе жыць паданьне,
Будзе жыць вякамі...
У людзей цяпер ня сэрца—камень,—
Ні кранеш, ні ўзрушыш
Сказам пра паўстаньне...

Але год за годам плыне...
Вецер точыць камень...
А паданьне аб Марыне—
Будзе жыць вякамі.

## З поэмы „СЫМОН МУЗЫКА“ *)

**Якуб Колас**

I

Волі, волі і прастору!
    Прэч, граніцы!
Жыве ў сэрцы плынь крыніцы,
Дух жывы—агонь дзяньніцы.
    Гэй, у гору!
Волі сэрцу і прастору!
Не зайздрошчу вашай долі,
    Багацеі!
Вы—крыўдзіцелі-зладзеі,
Вы разьбілі мне надзеі!..
    Дык даволі!
Не зайздрошчу вашай долі!..
Як здабылі рай свой панскі?
    Чым купілі?
Сэрца ваша поўна гнілі,
Бруд у кожнай вашай жыле,
    Дух паганскі...
Як здабылі рай свой панскі?
Згіне ваша тут багацьце,
    Панаваньне!
І вам будзе час зьмярканьня,
Ён нясе вам біч выгнаньня
    І пракляцьце!..
Згіне ваша тут багацьце!
Зачынілі вы нам дзьверы,
    Сьвет закрылі,
Каб ня даць разьняць нам крыльлі,
Каб ня ўніклі ў вашы былі,
Але мысьль ня ў вашай сіле...
    Эх, вы, зьверы!
Мера вам—па вашай меры!

---

*) Гэтыя вершы адносяцца к дарэволюцыйнай пары Якуба Коласа.

**Рэдакцыя**

II

Поле шырокае, роднае поле.
    І збожайка шаты,
    Прастор многадумны,
        Разумны!
Хай-жа спаткае нас шчырая воля,
    Асьветліць і хаты,
        І гумны.
Я—выгнаны сын ваш, так: я—бадзяга
    Бяз ласкі, бяз долі;
    Я—колас бяз нівы
        Маўклівы.
Хай-жа адна нас атуліць сярмяга—
    Той вецер у полі
        Шумлівы.
Эх, лес цёмнакудры, мілы мой лесе,
    Удумныя дрэвы,
    Зялёныя шаты,
        Мой брат ты!
Там лісьцейка дуба высака ў версе
    Выконвае сьпевы
        Заўзята.
Там весела-вольна, ціш там лунае...
    Краіна другая,
    І фальшы няма там.
        Як з братам,
Гутарыць краска з табою лясная,
    І ты, дарагая,
        Была там!
Сонейка ты маё, радасьць мая ты!
    Дзе ты цяпер? дзе ты?
    Ты дух мой будзіла,
        Жывіла...
Не: ня міну, ня міну твае хаты,
    Хоць можа мяне ты
        Забыла.
А тут... павуцьцё пана-магната,
    Панурыя сьцены,
    І валы-акопы,
        Затопы...
Много ахвяр тут. Эх, як багата!
    Ламалі рамены
        Тут хлопы.

Ткаў прагавіты павук свае сеці,
І вязьлі ў іх мухі
І мошкі малыя,
Сьляпыя.
Але ёсьць праўда, ёсьць яна ў сьвеце,
Ёсьць страшныя рухі,
Жывыя.

III

Плян гатовы,
Зложан цьвёрда,
Воля горда,
Непарушна.
У сьвет новы
За дубровы,
Бо тут душна!
Сустрэнь, поле,
Прытулі ты:
Я пазбыты
Твае ласкі.
Хочуць волі,
Просяць долі
Песьні-краскі.
Сустрэнь, лесе,
Ясным сьмехам,
Гучным рэхам
Загукай
І ў завесе
Тваіх шатаў
Голас братаў
Мне падай!
Глянь ты, сонца,
З-за аблокаў
Добрым вокам—
Я—твой сын!
Я ў палонцы,
Лёдам скуты,
Я прыгнуты,
Я адзін!
Разгарнуць хачу я крыльле—
Я ў сьвет вольны палячу,
Бо мне тут не па плячу,
Бо я тут—жывы ў магіле.
Я пастаўлю сілу сіле—
Волю сам я ўзяць хачу!

## З цыклю „РЭВОЛЮЦЫЯ“

### А. Гурло

### Нам шмат вякоў

*Маладняку*

Нам шмат вякоў пісала кроў законы
І розум трэзвы наш атручвала турма,—
Былі рабы мы, білі ўсім паклоны,
За грошы кленчылі і кленчылі дарма.

Мы апазналіся у веры і надзеі,
Мы абмануліся тандэтнасьцю красы:
Пад ёй хаваліся ўсе нашы ліхадзеі,
Пад ёй хаваліся спагадчыкі-хлусы.

Мы абвясьцілі бой—мы выйгралі у бої,
Шукалі праўды мы—і праўду мы знашлі,
Мы адракліська законаў над сабою,
Бо мы—свой высшы суд на небе і зямлі

# АКЦЯБРЫНЫ

**А. Александровіч**

*(Маладняк)*

Галаву сваю вечар павесіў,
заскрыпела адлігай зіма.
А ў нас на заводзе весела,
нуды ў нас ніколі няма.

Сёньня Максім з Кацярынай,
рабочыя фабрыкі „Звон“,
наладзілі баль-акцябрыны;
песьні звонкай зьвініць перазвон.

Піонэр ад рабочых падросткаў
гальштук чырвоны паднёс,
і словам гарачым. папросту,
пажадаў, каб вялікі рос.

Комсамолец з радасьцю кінуў:
—Паслухай, таварыш Максім,
нас з табой парадніла машына,
а з сынам—імя яго КІМ.

Піонэр, комуніст, комсамолец,
рабочыя фабрыкі „Звон“,
працуем цяпер мы ў прывольлі,
наша праца—жыцьцё новых дзён.

Радасьць працоўных усьпенена,
радасьць шчасьлівых хвілін...
Думкі бясьсьмертнага Леніна,
звонкія песьні машын.

# САКАВІКУ

## Хмарка

Сакавіку маё вітаньне!
Хай крые сьнег усё дазваньня,
Няхай пануе йшчэ зіма,
Хай завіруха круціць ўночы
І сьлепіць белым сьнегам вочы,
Няхай цяпла яшчэ няма;
Хай неба хмарамі пакрыта
І вецер вые так сярдзіта,
Нібы пагрозы шле вясьне,
Нібы хаўтуры ёй спраўляе
І сьцежкі сьнегам спавівае,
І дрэвы стыгнуць ў зімнім сьне...
Але я страхам тым ня веру,—
Вясна адчыніць сабе дзьверы
І сонца выгляне з-пад хмар;
І сакавік сваёй размовай
Прагоніць цяжкі сон зімовы
І аджывіць зямлі абшар.
Блакітам глянуць неба далі,
І ўсе, хто доўга так чакалі
Вясны жаданае прыход,
Свой злучаць голас з сьпевам волі,
З чароўным гымнам лепшай долі
І стопяць гэтым гымнам лёд!
Сакавіку мы шлем вітаньне!
Зімы сярдзітае кананьне
Не напалохае больш нас.—
Яе мінуўся час і сіла,
Зіму чакае ўжо магіла
І блізкі к нам вясновы час!

# НА ІМПЭРЫЯЛІСТЫЧНАЙ ВАЙНЕ

*(З запісной кніжкі)*

**М. Гарэцкі**

*24-га ліпня.* Выехалі з мястэчка. У паход, на граніцу. Перад тым—малебен. Прамаўлялі поп і гэнэрал. Крапілі нас „святою“ вадою. Усе афіцэры перацалаваліся. Салдаты крычалі: „Урра! Урра! Урра!“ Я маўчаў, і Беленькі побач са мною стаяў, і ён маўчаў.

*25-га ліпня.* Едзем. Адзін ездавы трапіў пад кола гарматы і зламаў нагу. Кажуць—наўмысьля, каб ня ехаць на вайну. „А што, каб і мне так?“—думаю.

Увечары, як прыехалі на прывал, камандзер даў нам загад, каб мы, тэлефоністыя, з сваймі двуколкамі стаялі і чакалі. Стаім ля саду, над галавою вісяць вішні, хочацца іх, але не дазволена. Прыбягае паручык Пупскі...—„Чаму не адпрагаеце?“—„Камандзер не загадалі!“—адказвае старшы.—„Што вы? малыя дзетачкі?.. Адпрагаць!“—І „аблаяў матку родну“, аблаяў найгоршымі словамі, а чорт ведае—за што.

*26-га ліпня.* Вучуся рабіць сыгналізацыю флажкамі або проста рукамі („недалёт“, „пералёт“, „знарады кладуцца добра“ і г. д.). Не разумею, дзе й калі на сучаснай вайне трапіцца карыстацца гэтай сыгналізацыяй. На якую ліхую гадзіну раблю я гэта?

*27-га ліпня.* Два дні робім акопы. Я бачу ўсё гэта першы раз у жыцьці. Пасабляю, але нясьмела. Камандзер заўважыў—і аблаяў мяне. Чуў я несправядлівасьць, было дужа прыкра, але рабіў сьмялей.

*28-га ліпня.* Капаем акопы. Учора памыўся дажджавою вадою, што нацякло за-нач на брэзэнты на двуколцы, бо блізка няма ніякай вады. Сяньня зусім ня мыўся. Варочаемся ўсю ноч пад гэтымі брэзэнтамі, як сабакі; халодна спаць. Украінец Яхімчык, новы наш запасны, кажа так: „*У менэ сабака... Я ёму будку іздэлаю, шоб не мэрз*“...

*29-га ліпня.* У мяне ўкралі бляшанку консэрваў. Думаю на Яхімчыка, але маўчу. А ён моліцца богу, адвярнуўшыся на садок, на вішні,—і ня лыс...

*30-га ліпня.* Няма часу пісаць. Робім акопы.

*31-га ліпня.* Рабіў плян усяе пазыцыі на вока (для паручыка Пупскага).

*1-га жніўня.* Выехалі. Праехалі Сімна, Красьняны. Прывал. Абедаем. Сяляне-жмогусы раздавалі сала й хлеб. Я сароміўся падыйсьці. Вельмі шкадую. Зьеў тое, што даў Беленькі і пашоў купляць, але не прадалі.

Увечары на прывале Лабкоўскі палез на вішню. Камандзер пабачыў у вакно і выскачыў з хаты.—„У морду цябе біць? У паходзе першае: абываценя ня крыўдзі!“—і трах, трах яго па шчаках то з таго боку, то з таго. Мне казалі, што камандзер б‘еццa, але я не даваў веры. Бачу. Нэрвовы ён, зазлаваўся—аж пена забіла з вуснаў. А й я быў пад вішняю, і я меўся лезьці... Камандзер і на мяне зірнуў,—вось я спалохаўся, аж сэрца абамлела.

Мы даўна стаім, а хвост нашае калёны ўсё яшчэ цягнецца міма нас на прывал да розных хутароў. Пяхоты—бяз ліку. Як яны змарыліся! Балазе я не ў пяхоце.

*2-га жніўня.* Выступілі ў 7½ раніцы. На дарозе, выстраіўшыся, чакалі нечага аж да 9½. А падняліся: *па загаду* а 6-й, а запраўды—яшчэ раней. Калі ў гэтым вінават начальнік нашае калёны, дык „капялюх“ ён за гэта, як кажуць салдаты.

*3-га жніўня.* Стаім у дарозе на прывале, недалёчка ўжо ад граніцы, супраць нам сунецца калымажка на рыжанькай парцы. Сядзіць зьбялелы вусаценькі вольны чалавек, апрануты як немец ці паляк, і побач з ім—мурлаты пехацінец-канваір, паставіўшы вінтоўку прыкладам паміж ног. Глядзім мы і ня ведаем, у чым справа, і камандзер наш паглядзеў на таго вольнага чалавека высока і нялюба. Канваір дазволіў спыніць коні, немчык выкаціўся з калымажкі, а была на ім фарсістая жалетка, сіняя, з бліскучымі гузікамі, і быў пры манішцы, і кінуўся камандзеру ў ногі. —„Ваша дзіцтва! Ваша дзіцтва!“—і ловіць, каб пацалаваць яму ў руку. —„Пшоў“—дрыгнуў камандзер нагою і адхінуўся; задуманы пазірае цераз нашыя галовы ў няведамыя далёкасьці, там дзе граніца. Падыходзіць артылерыйскі кандыдат і пытаецца ў немчыка панямецку. Той ізноў аджыўся і з бедным полымем у ваччу гаворыць, гаворыць, зьбіваецца і ўзноў гаворыць, кідаючы на нас, наўкола абступіўшых яго, шпаркія погляды, з пакрыўджанаю праўдаю. А часам прабіваецца і як-бы мімавольная вышэйшасьць яго над намі, ды мусіць яе пахаваць, як зьвер затуканы.—„Я ня шпіон... Я рускі, хоць і немец, рускі немец. Ня хочу растрэліцца... Еxаў толькі да касьцёла“...—Ён увесь бляды, трасецца і дрыжачымі рукамі дастае з калымажкі, з сена, вялікі румяны яблык і даець дабрадзею кандыдату. Але яблык вываліўся ў яго з рук, пакаціўся ў пыл, на зямлю, бліжэйшыя салдаты падаюць яму назад, а гэтым часам салдацюга-кастраміч вокае: „Попа́лся-то! Кгово́рiл: наші вашіх-то как мух подавят“...—„Зямляк! Ці я гэта казаў?!“

— Па конях!—разьлягаецца каманда, і кучка рассыпаецца ад калымажкі, шэрая стужка штыхоў, людзей, гармат, коні варушыцца далей.

Неба хмарыцца ад дажджу і ад вечару. Прывал блізка Эйдкунена (Вержбалова, Кібарты). Тут, мусіць, абначуем. Відаць пажар. Што там гарыць? Пашоў дождждык. Ізноў вязуць таго немца, ужо назад па дарозе. Сагнуўся, зьбедніўся, змок і пакорна кіруе сваймі рыжанькімі мокрымі коньмі. Па бакох у яго, на яго ж калымажцы, два салдаты з вінтоўкамі. —„Яго могуць павесіць“,—сказаў нехта з начальнікаў. Казакі гоняць нямецкую скаціну. Яны хваляцца: „Па нас кулі ум-ум-ум! Старыя немцы просяць, а мы ня кідаем, гонім“. Падпаручык Іваноў з прыемнасьцю і патураньнем у вачох слухае казакоў і глядзіць на гладкіх, чыстых нямецкіх кароў з вялізарным вымем.—„Ты, брат, ня рыкай тут у нас!“—жартаўліва гразіцца ён на рабую неспакойную карову, і пачырванеў сам ад сябе. Сьледам за казакамі бягуць нейкіх два кані бяз сёдлаў. Аднаго-ж добрага каня, з-пад забітага нямецкага афіцэра, казакі вядуць на повадзе з сабою. Вось яшчэ казакі—гоняць бараноў і бычка. Рабаваты віхрасты казачына падганяець яго бізуном. Бычок задзірае галаву і равець благім матам.—„Ён чуець незнаёмы гоман... Да непарадку ня звычны“,—жаласьліва ўзіраецца на яго запасны барадаты пехацінец.

— Бу-ух!!—раптам першы гарматны стрэл, з таго боку, дзе гарыць.

Усе троху вясёла, троху небясьпечна азіраюцца. Усім цікаўна. Пачынаецца неспакойная беганіна. Вось і прыехалі на вайну. Тэлефонныя двуколкі заяжджаюць за будынак. На падворку лемантуе баба-хутарчыха; стаіць, без каня яшчэ, вялікі воз, бегае заклапачоны гаспадар-жмогус. Зараз яны паедуць у тыл, уцякаць будуць. Дзе гарыць, нам ня відаць, але дым сьцелецца ў наш бок. Мястэчка на самай граніцы; яго запалілі немцы або казакі. Часам выбіваецца за гарою куль полымя—дый ападае. Дождждык сьціх, і толькі відаць, як сыплецца з неба драбнюсенькі гусьценькі дажджавы пыл. Гаспадар выяжджае. Баба ціха хліпае. Цямнее. Вечар. Ноч. Неспакойнае чаканьне.

*4-га жніўня.* Раніцаю рабіў крокі (плян) месца, дзе начавала батарэя. Добра, пагода, сьветла... Ля хаты ардынарац. Лебедзеў падаваў камандзеру каня і нечым не дагадзіў. Камандзер тыцнуў яму ў грудзі кулаком і дражлівым голасам крыкнуў: „Ёлуп!“ Потым я чуў, як капітан Фядотаў казаў малодшым афіцэрам: „Дарма ноч ня спалі. Вораг спалохаўся нас і ўцёк“. Ардынарцы камандзераў кажуць, нібы-та начою былі нейкія нямецкія сыгналы ў тылу ў нас. Камандзер нашае батарэі і камандзер полку паспрачаліся міжсобку троху, быўшы ўзбуджаны, але даведацца, што там за такое, нікога не паслалі і ўзноў ляглі адпачываць. Тымчасам раньне робіцца яшчэ прыгажэйшае. Зараз будзем выяжджаць у далейшую дарогу. А начою быў страшэнны холад, на небе зьзялі зоркі. Я начаваў у пуні на ячменных снапох, пакалоўся асьцюлькамі, спаў мала і неспакойна. Відаць, будзем наступаць заграніцу, бо афіцэры папераджаюць нас, каб нічога нямецкага ня елі: можа быць атручанае. Недзе далёка-далёка чуваць гарматныя стрэлы. Страляюць, мабыць, немцы. Пе-

рад намі на сінюсенькім краі неба хораша расплываюцца дымныя клубочкі: ірвуцца шрапнэлі. Настрой падвышаецца. Праскакаў міма нас казацкі гэнэрал-маёр.—„Гэта распуста! Тут плятухаецца гэты абоз!“—крыкнуў ён на ўсім скаку. А дзе гэты абоз, хто яго ведае. Паехалі і мы. Уздоўж усяе дарогі бяжыць і пытаецца, абы ў каго, пяхотны ордынарац, шукае нейкага баталённага. Мы спыніліся і стаім збоку дарогі. Чакаем, мусіць. Міма нас ідзець пяхота—бяз ліку, бясконца... Я ўзьлез на двуколку. Штыхі, як бліскучая шчэць, даўгою вужакаю ўкрылі ўсю бясконцую дарогу. Сьпераду рады сходзяць з дарогі, сыплюцца ў поле, ротамі, узводамі. Цюхаець на малой кабылцы той шуканы баталённы, несамавіты пяхотны служака. Глядзіць у пляны. Шрапнэлі паказаліся значна бліжэй,—цяпер ясна, што нямецкія. Дык зараз бой... Вось там з бакоў патроху тахаюць вінтоўкі. Вось першы кулямёт неспадзявана: тук-тук-тук-тук! Блізюхтанька ад нас.—„Наш!“—кажа мімаезны казак.—„Нямецкі б‘ець часьцей!“—паясьняець ён і едзе троху шыбчэй. Раптам—наша каманда, і батарэя рухава зашавялілася і з бітае дарогі мякка пакацілася па чорнай ральлі да нейкіх кустоў. Зараз прыехалі і спусьціліся ў глыбачэнны і дужа шырокі роў. Гэта граніца: з аднаго боку стоўп з расейскім арлом і таблiцаю: „Расія“, а з другога—з нямецкім арлом і напісам: „Нямеччына“. Зьехалі ўніз, на зялёную тэрасу. Батарэя строіцца ў баявы парадак... 1 гадзіна 15 мінут дня. Зараз будзем паліць з гармат. „Па наступаючым праціўніку!“—чуем каманду... А як тут зацішна і прыгожа на ўлоньні ў прыроды: лог, трава, кусты, ціханькі ручай. Берагі рову хаваюць нас ад воку з бакоў, над намі—сіняе жнівеньскае неба. Але зараз бой. Таварышам маім, тэлефоністым, прыкра, што я ў такі момант запісваю ў сваю кніжку. Ня лайцеся, чорт вас дзяры!

*5-га жніўня.* Ізноў раньне, ізноў дзень... Мы наступалі і адступілі. Крыўда і зьдзіўленьне. Ах, як ірваліся знарады па бакох таго рову! Раненыя пехацінцы паўзьлі а паўзьлі з кустоў к ручаю.—„Паганая вайна!“—з адчаем стогне адзін.—„Чаму? Што ты?“—пытаецца другі, мусіць, здаровы, але з абпэцканаю ў кроў шапкаю.—„Як-жа, калі наша артылерыя з левага флангу палажыла свіах казакоў і пяхоту“. „Няпраўда... Не кажы так“,—сьцішаець яго наш артылерысты. Батарэя, пастраляўшы з рову, потым пераяжджала на другую позыцыю. Няслася па нямецкай зямлі наўскачка. Я бег, бег—і застаўся. Цагляныя хаты й будынкі нямецкіх хутароў, брукаваныя, абсаджаныя дрэвамі дарогі, напісы на ростанях кінуліся мне ў вочы, як нешта дзіўнае, панскае. Бягу шыбчэй: збоку ад дарогі ірвуцца чорным сьмярдзючым дымам гранаты. Сьпярша я ня чуў страху.—Джжж!!!—над самым вухам асколак. Тады я надта спужаўся, упацеў, ногі саслаблі. Прытуліўся ў канаўцы. Заўважыў у траве курапатку. Узяў яе ў рукі, бо яна не ўцякала. Сэрца яе тукае на ўсю сілу, воле цяжкое, бы камень. Здалёк прабеглі два зайчыкі. А высака-высака круціўся бусел і нічога не баяўся. Я знашоў батарэю, калі страляніна

сьціхла. Ніхто ня ведаў, што я застаўся. Думалі, што я ўвесь час быў з усімі разам. Калі я сказаў, агледзеліся, што няма яшчэ двух тэлефоністых. Неўзабаве батарэя зьнялася і пацягнулася назад заграніцу. Паказалася ля нас маленькая разьбітая рота; я думаў—адзін узвод. Доўга-доўга ехалі назад, але ўсё йшчэ па нямецкай зямлі,—мабыць, убок куды. Не, во той гранічны роў. Бачаны пераезд. Ізноў мы на „сваёй" зямлі. Лягчэй зрабілася на сэрцы. Але што гэта: адступаем мы? Незадача? Чаму афіцэры нічога нам ня кажуць? У нашай батарэі ўсё цэлы, толькі адзін конь падбіт асколкам гранаты, павялі ў рот прыстрэльваць. Шкода яго, як чалавека. У другіх батарэях ёсьць забітыя і раненыя. Быў позны вечар, калі мы вярнуліся на ранейшую стаянку. Гаспадар вярнуўся таксама.—„Хай заб'юць усіх, нікуды не паедзем",—бурчыць гэты ўпорчывы жмогус. Афіцэры ўжо вячэралі.—„Дай каньяку!"—чуем мы скрозь вакно іхную гутарку.—„Калі ласка",—адказвае капітан Фядотаў; потым нездаволена некаму даводзіць:—„Няможна-ж без патрэбы пасылаць людзей на сьмерць". Голасу камандзера ня чуваць; ён, пэўна, маўчыць і думае сам сабе. Вакно зачыняецца.

Вячэра наша... Порцый на ўсіх не хапіла. Запасьнікі бурчаць, абураны.

Ізноў начлег на ячменных асьцюльках. Сьцюдзёна было страшэнна. Устаўшы яшчэ ўдосьвета, я калаціўся, як бедны цюцька.

Але ізноў вось сонейка, цяплыня, сьвятло, прыгожая жнівеньская раніца. Напіўся гарбаты—і пішу. Учорашні дзень, наш першы бой—як ува сьне, як у тумане.

Думкі ляцяць дамоў да родных, у Цёмны Лес. А заўчора, перад боем, я сьніў сон... Нейкія столікі, палаткі, людзі, падводы, коні. Мама крышыць мяса—дробнае, чырвонае, сырое і з гурком. І я хачу адыйсьці ўбок і купіць ёй гуркоў. Ня купіў дзеля свае прост недараванае неадважнасьці. Мама кажа некаму: „Хваліць бога, прыждала ўжо і я помачы ад дзетак". А мне сорамна-сорамна і жаль-жаль... Паводле нашых народных забабонаў, сьніць сырое мяса і гуркі—дужа дрэнны знак. І я думаю: як незразумела і цікаўна сплятаецца ў чалавеку гэтая спадчына вякоў, перажываньні многіх пакаленьняў.

---

*5-га жніўня па абедзе.* Абедалі хапаўшыся і зараз выступілі каля першае гадзіны ў паход. З намі і першая батарэя ідзець разам. Сонца паліць—дождж будзе. Ідзём у Нямеччыну ізноў па тэй-жа самай дарозе.

Адзін з нашых тэлефоністых казаў, чаму вялікія ўчора былі нашыя страты пры малой удачы. Не дарма падпрапаршчык хацеў параіць камандзеру разьбіць цагляныя хаткі. Пякельная хітрасьць немцаў. У тым двухпавярховым дамку, што пры першай нашай позыцыі, на беразе рова, нейкі салдат-пехацінец па дроту, працягненаму скрозь забітае акно і другім канцом—у нору пад зямлю, дасачыў чатырох мужчын і адну па-

ненку з тэлефонам. Яны падавалі сваім сыгналы: недалёт, пералёт. Вочаму так лоўка біла нямецкая артылерыя. Кажуць, быццам і сяньня начою таксама была адзаду ў нас сыгналізацыя, як і ўчора.—„Тут, браце, надта не паваюеш!“—„Ну, распусьціў язык, як карова!“—„Я што... Я нічога! Калі-ж праўда“.

Багаты ўражаньнямі дзень. Няпрыяцель сьпешна адступіў. Мы наступаем. Наша батарэя ідзець ў авангардзе: вобразы будзем бачыць сьвежыя, нашым войскам не прытаптаныя, ня зьмененыя.

„Старыя“ для нас месцы. Вёска завецца Плятэн, аб чым я прачытаў на ростанях на стаўпе. Бегаюць кіненыя гаспадарамі коні. Мы злавілі сьветла-гнядую кабылу—на месца нашага забітага батарэйца. Яна ня ўмее ісьці вагам у гарматнай запрэжцы, дык паставілі везьці кухню, а кухоннага рабога коніка запрэглі ў гарматную пару вынасам. Неяк дзіўна: злавілі кабылу селяніна на дарозе, і зрабілася яна нашаю.

Пажарышча з краю вёскі. У пагарэлым садзе засталася зялёная дулька з багатым ураджаем фруктаў. Казакі ў часе прывалу, ня гледзячы на адданую нам раней забарону, зараз абтрэсьлі, і нас яшчэ пачаставалі, назваўшы за нясьмеласьць „шляпамі“.

Прыкра глядзець на чорныя дымныя галавешкі, балазе выяжджаем у поле. Прастор, наўпрэкі цеснай нямецкай культуры, шырокі. Тут, кажуць, і адбыўся самы бой. Поле цяпер пустое, голае, нуднае. У канаўках, з бакоў добрай брукаванай дарогі, там-а-там валяецца ўбогае шкумацьцё нашых салдат, былых у баі. Вось нейкая ніклая кучачка ля тэлеграфнага стаўпа... Першы бачаны мною труп. Наш забіты. Ляжыць ніц. Чэрап зьнесены—жах!..

Іноў кучка дамкоў пад узгоркам, захаваная здалёку ад падарожнага дрэвамі. Завецца тож—Плятэн. Дзядок—немец сядзіць на лавачцы пад домам, друзьленькі, беленькі, сьлязьлівы. Болей—ні душы ўва ўсім пасёлку. Вось—нямецкая школа. Слаўны мураваны дом. У гародзе—процьма трусікаў. Ніхто на іх, нават з казакоў, ня галіцца. У сенцах валяецца паламаны веласіпэд. У кватэры ўсё кінута так, як было ў звычайным жыцьці. На стале стаіць недаедзены абед. На белым блюдзе многа катлет. Так хочацца іх зьесьці. А што, як атручаны? Выходзім... У чародным доме чарапковая страха разварочана знарадам. У гародзе на дарожцы забітая качка, а ў кустох шныхараць белыя, пушыстыя, як камочак бялюсенькай лёгкай воўны, трусікі; колькі іх тут—аей! Пакажа чырвонае вока—і ўцячэ, схаваецца. На градах шмат буйных гуркоў. Ня ўцерпілі—і нашчыпалі.

Направа за пасёлкам, убок ад нашае дарогі, дагарваець пуня. У ёй пагарэлі цяжка раненыя, бо там быў лекарскі прыпынак немцаў. Пагарэлі толькі нашы палонныя, бо сваіх немцы пасьпелі вывезьці. Аб гэтым кажуць паўзучыя ракам па канаве два нашы раненыя. І яны былі ў палоне і ляжалі ў тэй пуні. Яны рады, што ня зьмёрзьлі і не памёрлі, кінутыя

адны, за мінушчую ноч. Цяпер, калі іх падабралі на насілкі, адзін зараз самлеў, а другі, белы, як з таго сьвету, усё намагаецца пераказаць сваім аб мінушчай страшнай начы. Хваліць немцаў, што, пакуль ня кінулі,—дужа добра даглядалі.—„А мы думалі: прыкончаць нас“,—слаба ўсьмяхаецца ён. Але зараз іх паклалі ў фургон з чырвоным крыжам на белым палатне і павезьлі.—„У Расеюшку на пабыўку!“—жартуюць нашы батарэйцы.

Тымчасам сьпераду пад'яжджае разьведка, і батарэя цягнецца далей.

Толькі ўзабраліся на курганок... Груды сьветла-сініх нямецкіх трупаў! Расшарпаныя вопраткі, прадаўленыя каскі, паломаныя карабіны і вінтоўкі, а ля кожнага забітага—цэлыя горкі гільзаў ад выстраленых патронаў. Самыя розныя, страшней адна за адну, позы мёртвых, скручаныя, ніц, наўзнак з выстаўленымі ўгару, сьціснутымі кулакамі. Вось адзін скручаны, як корч, з пышнымі вусамі, абтыканы вецьцем,—відаць, раненага загарадзілі таварышы ад сонца, і ён памёр у страшных муках. Ці можа сам закрыў сябе страляючы. Дыханьне сьцінае мне ў горле, не магу глядзець... Можа, работа нашае батарэі!

*6-га жніўня.* Увесь гэты дзень былі ў паходзе. Наша батарэя ізноў ідзець у авангардзе. Дагналі абоз нямецкіх мірных жыхароў. Глядзелі на нас варожа і баязьліва. Едуць найболей старыя, жанчыны й дзеці. Вазы навалены ўсякім дабром, пры возе—карова з аграмадным вымем. Кожны воз—паркаю. Кіруе коньмі стары, седзячы сьпераду з піпкаю ў зубох; карову даглядаець, седзячы адзаду, старая. Дзеці і дзяўчаты—пасярод, з катом ці з сабачкам. Дзяўчат прыгожых мала. Увесь абоз, па загаду начальніка штабу, павярнулі назад, дамоў, адкуль хто выехаў.

Праяжджалі мы пустое мястэчка. На культуру завідасьць глядзець! І жаль бярэ за сэрца, што Беларусь, у параўнаньні, дзікая-дзікая!

На вуліцы ляжаў у пылу труп маладога нямецкага дзяцюка ў залапленым на локцях пінжаку. Пры ім—паламаны веласіпэд. Кажуць, гэта —перапрануты нямецкі разьведчык, забіты казацкаю пагоняю. І ўсе мы ехалі міма—так, паглядзеў і адхінуўся...

З аднаго дому выходзіць наш пехацінец. У руках банка мёду і стэарынавая сьвечка. Нашто яна яму? З-за ганку высунуўся стары немец, зьнімае перад салдатам віславухі капялюш і нізка кланяецца лысаю, з піпкаю ў зубах, галавою. Салдат гэты радасна сьмяецца. Агідна глядзець.

Ізноў дагналі яшчэ даўжэйшы абоз нямецкіх уцекачоў. Адна прыгожая немачка сьмяецца й плача на сваім возе. Старая, мусіць, маці, маўкліва аглядаецца на яе і старанна сморгае вяроўку, за якую прывязана вялікая, марудная карова.

Мы ідзём пад Кёнігсбэрг. Гдзесь глуха аддаюцца гарматныя стрэлы. Там, кажуць, б'ецца наш 20-ты корпус. Відаць далёкае і сьветлае зарыва.

Павялі пад канвоем нашага пехацінца. Што такое?—Арыштаваны за грабежніцтва.

Часам вядуць палонных немцаў. Не глядзяць на нас, але на маленькім прывале я з адным разгаварыўся. Ён умее папольску,—пазнанскі немец, а можа абнямечаны паляк. Калі яго канваір, віхрасты казак, адышоўся, ён сказаў мне:

— Вашы хахлатыя *(казакі)* такое зьвяр'ё...

— А мы аб вас так думаем,—адказаў я ў тон.

— Нашто вайна?—сказаў ён памаўчаўшы:—у Расіі і так зямлі няма куды дзяваць.

— Ваш кайзэр абвясьціў вайну.

— Няпраўда, ваш цар... *А пан ест поляк?*—з небясьпекаю ў голасе дадаў ён.

— Не... але ня бойцеся мяне, бо я не хачу вайны.

— Рускі народ добры, а казак бывае розны,—папраавіў ён на ўсякі выпадак.

Вярнуўся казак, і я пашоў к сваім, кіўнуўшы немцу галавою.

Нешта заўтра мае быць. Заснулі позна ў новенькіх акопах, зусім змогшыся, змораныя працаю. Цэлую ноч на батарэі хадзіла якаясь трывога. Я часта прачынаўся ад холаду і неспакою. Трохі дзяжурыў пры тэлефоне.

*7 жніўня.* Устаў у $5^1/_2$ гадзін раніцы. Батарэя ўся на нагах і гатова на бой. Мы стаім у вёсцы Варшлеген. Трэба запісаць, бо прыдзецца, мусіць, ня раз на яе ўздумаць, калі буду жыў.

7 гадзін. Пачаўся страшны бой. Ці выйдзем жывы?

*8 жніўня,* пятніца. Вядуць і нясуць раненых немцаў і нашых. Зьбялелы, акрываўлены немец ківае галавою. Нешта перабіта ў яго шыі. Аднаго вядзець наш салдат, абняўшы, як дзяўчыну. Другога нясуць пяць нашых на руках. Яшчэ адзін ідзець, шарпаючы па пылу, утупіўшы вочы. Перад афіцэрам—ува фронт. Палкоўнік яму панямецку:—„Гут морген!“ Палонны нешта кажа, але язык ня служыць.—„Ідзі, ідзі, галубе!“—махае палкоўнік рукою. Пашоў скародзячы нагамі.

Што было ўчора? Я жыў, але ранейшага мяне навекі няма.

Я быў з камандзерам на наглядальным пункце. Мяне старшы паслаў на вышкі глядзець у слухавое вакенца. Унізе, за дрэвам, стаяў камандзер з вугламерам, а пры ім у вакопчыку сядзеў старшы з двумя лепшымі тэлефоністымі.

Кулі засыпаюць наш дамок. Веццэ на дрэве напалову пасечана. Камандзер толькі хрысьціцца посьля кожнае каманды. Батарэя б'еце і б'еце бесьперастанку. Я баюся... Я нічога ня бачу скрозь запыленае з другога боку вакенца. Згіну бяз усякае карысьці. Кулі пабілі вакенца, калі я трошку адхінуўся. Хаваюся за комін, трасуся, атупеў. Над самаю страхою трахнуў знарад. Ахоплены дзікім страхам, засыпаны чаропкамі ад даху, бягу наніз. Каменем валюся ў вакопчык.—„Сьмерць прышла“, —шэпча адзін таварыш. Старшы гняўліва акідаець яго вокам. А каман-

дзер за тонкім дрэўцам стаіць, прыкуты ля трубы і вугламеру... Толькі хрысьціцца часьцей. Гэты чалавек мае нязьмерную мужасьць! Я сьмялею. Кулі як-бы трошкі сьціхаюць.—„Па наступаючай кавалерыі!!“—праразьлівым голасам крыча камандзер, хоць мы за два мэтры ад яго. Жах вісіць у паветры. Батарэя грукоча з перабоямі: штось там папсулася,—о, няшчасьце!—„Другое арудзьдзе засыпана знарадам!“—чуем перарывісты голас па тэлефону,—„у пятым зьбіт прыцэл“. О, няшчасьце, няшчасьце! Мы цішэем, а кулямёты застракаталі з усіх бакоў. Наўкол перабягаюць пехацінцы.—„На вышкі!!“—грозна роўкнуў на мяне камандзер, і ўсё ён хрысьціцца. Ізноў паўзу на вышкі, як загіпнотызаваны: сьмерць, дык сьмерць, абы ня мучыцца гэтак. О, не! не! жыць хачу! Госпадзі, памілуй мя грэшнага!—і хочацца хрысьціцца, як камандзер, але рэшткі розуму сьцюдзёна шавеляцца. А пехацінцам-жа ў сто раз горш... Успамінаю родных. Мысьлі блутаюцца. Во яно вакенца-сьмерць... Разьбіваю ўсё шкло са злосьцю. Сьвежая відаль.—„Нямецкая кавалерыя ўцякае за горку, знарады кладуцца па ёй!“—ашалелым, хворым голасам крычу ўніз. Чаму я рад?—„Зьлязай, зьлязай!“—гукае мяне старшы:—„гарыць дом!“ Так, дамок захапіўся ад знарада. Дым сьмярдзючы пхнецца ў рот. Зьлязаю... Камандзера і тэлефоністых няма. Дзіўлюся. Раптам бягу. Наганяю іх. Пад кулямі шыбка ідуць з трубою і ўгламерам наўскоса вуліцы к другому дому.—„Падбяры футляры“,—спакойна кажа камандзер,—„яны засталіся каля акопу“. Бягу назад, хапаю футляры, бягу ізноў даганяць іх. А дзе-ж камандзір? Забягаю за дом, куды яны пашлі, за добрыя мураваныя сьцены. Іх няма, а стаяць два казакі з адным канём і кураць. Другі конь, мабыць, здохлы ці забіты, ляжыць гарою пасярод вуліцы. —„Пабеглі на батарэю“,—кажуць казакі. І мне трэба йсьці туды, але я баюся сьмерці; ах як хочацца быць за гэтаю сьценкаю... Бягу на батарэю, а яна была ў лагчынцы, за хутарам, сажняў дзьвесьце адгэтуль. Бягу, а кулі над галавою так і гудуць, як пчолы. Сеў я ў канаўку адпачыць трохі. Гляджу, аж у канаўцы, цераз усю лагчыну, шмат сядзіць пехацінцаў. Страляюць патроху, а часам лапатачкамі поркаюцца, з дзірвана перад сабою заслону насыпаюць. Тады я папоўз па канаўцы, мінаючы іх. Калі поўз, дык прыгледзеўся, што некалькі пехацінцаў дужа нярухома прытуліліся к насыпанай зямлі перадам... Забітыя! Страх апанаваў мяне, я ўсхапіўся і сагнуўшыся пабег на ўсю сілу. Прыбег на хутар, на двор, аж там поўна батарэйцаў нашых раненых; ёсьць і пехацінцы, ляжаць усе на чыстай пасьцеленай саломцы. Цяжэй раненых несьлі ў хату. Ніхто ня мог сказаць мне, дзе дзеўся камандзер, а батарэя ўжо ізноў страляла, значыцца, недзе ён выбраў новы наглядальны пункт і адтуль па тэлефону камандаваў.—„Калі-ж гэта пасьпелі кабель к яму працягнуць з батарэі?“ —зьдзівіўся толькі я і пабег к батарэйным тэлефоністым. Каля перщага арудзьдзя мяне пераняў голас белавусага капітана Дыямантава, сядзеўшага ля прыцэлу, прыхінуўшыся задам да сталёвага шчыту-заслоны. Капітана

гэтага я рэдка бачыў, бо ён заўсёды быў не ў батарэі, а дзесь яшчэ, у абозе ці што.—„Вольнапісаны!“—крыкнуў ён,—„зьбегайце ў рэзэрвы: чаму не прысылаюць патронаў, няма ўжо чым страляць“. Я кінуўся назад, скрозь сад, туды, дзе стаялі перадкі. Там за капою саломы корчыўся ранены ездавы, а над ім стаялі зьбянтэжаныя таварышы. Я сказаў ім, што зараз трэба ехаць у рэзэрвы, а яны сталі давадзіць мне, што чалавека ім не хапае, няма як ехаць. Я, дурны, пабег назад к Дыямантаву і далажыў, што ездавыя кажуць: ня можна ім ехаць, чалавека бракуе. „Шляпа ты!“—злаяў мяне капітан:—„сам едзь або каго з санітараў пасадзі. Пшоў!“ Мне было сорамна і крыўда, што вымагаюць, як ад добра абучанага салдата, калі я зусім яшчэ слаба ведаю службу (прыехаў у батарэю месяц таму). Крыўду маю заглушыў страх, бо на мяне згары так і сыпалася адбітае кулямі з яблынак дробнае гальлё; ляталі кулі і ніжэй. Калі я прышоў, ездавыя ўжо паехалі без маёй помачы. Іх таварыш-ездавы сканаў.—„Трэба-ж яго прыбраць“,—падумаў я і скіраваўся ў хату, дзе быў фэльчар. Санітар Лабкоўскі (што камандзер біў за вішні) захварэў, дык замест яго з санітарам Фэльдманам, нашым беларускім яўрэем, па забітага хадзіў я. Нясьлі пад сьвіст куль, кульгаючы між кустоў па садзе, а здаўся ён дужа цяжкім. Фэльдман разгледзеўся, што нясём ня раненага, а забітага. Мы быццам згаварыліся і вывернулі яго з насілак пад яблыну, скуліўся ніц, як цяжкі мяшок, а самі шыбка пабеглі... Век сабе не дарую гэтай маладушнасьці, калі не сказаць—трусасьці, дзеля якой зьняважылі памяць таварыша. Потым фэльчар паслаў нас па раненага нумара, на прозьвішча Жукоўскага, к арудзьдзю падпаручыка Іванова. Падпаручык бадрыўся і падбадраў сваю арудзейную службу. Убачыўшы нас, ён як-бы вясёла кіўнуў мне галавою ад арудзійнага шчыта-заслоны, да якога туліўся плячмі, і нешта сказаў: „Нясіце, нясіце яго скарэй“—ці што другое. Прынесьлі ўдачна і паклалі ў хаце, на ложак. Фэльчар зрабіў Жукоўскаму перавязку. Тады мы закурылі — фэльчар, ранены Жукоўскі і я. А Фэльдман ізноў некуды пабег глядзець, ці няма новых раненых. У хаце ляжаў, на ўзьдзіў мне, Шалапутаў. Месяц таму назад, калі я толькі прыехаў у батарэю, мяне зьмясьцілі ў аднэй палатцы з Шалапутавым. У той час гэта быў адважны ваяка на словах, хваліўся, што ён бывалы, бо прысланы ў батарэю з Віленскае вайсковае школы за нейкія грахі, вялічаў сябе „старым юнкерам“. а мяне менаваў „шэрым“, „шпаком“, „шляпаю“. Цяпер ён тут ляжаў. Здаецца, спаў... Ці прыкінуўся? Можа, ранены? А ён пачуў нашу размову і кажа грубасамаўпэўненым голасам: „Усіх нас забяруць... Бачыце, абходзяць кругом“. Потым устаў, закурыў з намі і пашоў у дальні кут пакою, адвярнуўся к печы й заняўся там лёгкаю фізыолёгічнаю патрэбаю.—„Што вы гэта, Шалапутаў?!“ — застыдзіў яго фэльчар: — „а яшчэ вольнапісаны“... —„Ды я ў печ, нічога...“ —„І на двор ня хоча выйсьці“,—заўважыў яму ранены Жукоўскі. Пачуўшы аб панадворку, фэльчар кінуў неда-

кураную цыгару (усе нашы салдаты шмат набралі іх у разьбітых крамах у мястэчку) і пабег з хаты. За ім пашоў і я. Ых, ых, колькі там было раненых! Стагнаньні, крыкі, кроў. Ля сьценкі ляжаў ранены ў жывот бамбардзер-наводчык Талстоў, здаецца кастраміч. Я думаў, што ён лёгка ранены, а фэльчар паглядзеў на яго асаблівым поглядам, як глядзяць на людзей таго сьвету, і з найвялікшай ласкаю і далікатнасьцю даў яму цыгару, калі той папрасіў курыць. — „За паўгадзіны памрэць“, —шапатнуў мне фэльчар, калі мы адышлі ад Талстовага. І праўда, калі я мінут цераз дзесяць ізноў прахадзіў міма, то ўбачыў, што ён, бедны, стаў сінець і памёртваму заплюшчыў вочы. Асколак гранаты пасек яму кішкі. Яшчэ цераз колькі мінут падышоў фэльчар, палажыў руку на яго грудзі і потым пераксьціў, як нябожчыка:—„Каб ня так быў наеўшыся ўчора рознай зеляніны, то можа-б і вытрымаў“,—сказаў ён. Гэтая сьмерць зрабіла на мяне гнятучае ўражаньне, я нават стаў меней баяцца куль і знарадаў. А яны ізноў пасыпаліся. Адзін пялёхнуўся ў сажалку на самым падворку—і не ўзарваўся. Чорны дым ад знарадаў заслаў паветра і ўкрыў сіняе неба, дзе чыркала крыльлем бесклапотная і сьмелая ластаўка.

За сьцяною клеці, апрача раненых, патроху сабралася колькі прыбегшых, адбіўшыся ад сваіх часьцей, пехацінцаў. Барадатыя запасныя елі консэрвы з хлебам і гаманілі.

— Цяпер мы і на бога, братцы, уздумалі.

— Як прапалі.

Каб заглушыць трывогу ад гэтых слоў і блізкай траскатні кулямёта, нехта з іх наўмысьля весялейшым голасам стаў гаварыць:

— Ну, братцы, я ў Манджурыі год і восем месяцаў праседзіў, такога страху ня відаў. Чатыры тыдні ў акопах ляжалі і горкі не аддавалі, а потым паціханьку адступілі.

— І там-жа піралёт-недалёт, піралёт-недалёт, а тут у вадно месца смаліць і смаліць.

— Пойдзем, братцы, у акопы.

— Ня дойдзеш.

— Будзем стаяць. Нашто-ж нам сказалі выходзіць з акопаў.

— Забяруць, дык забяруць жывымі, усё на сьвеце болей пажывём.

— Калі-ж учора... Расьселіся, як у Расеі. Так няможна. Трэба акопы рабіць.

— Вёрст трыццаць за граніцу зашлі...

— Ат! Пастаялі-б каля граніцы, умацаваліся-б, ато йдзем і йдзем.

— Аэропляны лётаюць, усё бачаць, а яны й ня дбаюць, вядуць нас у прорву...

— Сядзелі-б мы ў акопах, хай-бы немцы йшлі на нас, нам іхнае царства не патрэбна...

Гэткія гутаркі можна было пачуць сярод іх. А гаворачы, яны самі ведалі, што благія з іх салдаты, і тое чулася ў голасе кожнага.

Прыбег Дурач; ён ранены. Галава абвязана бінтом, у крыві. Дурача рэкамандаваў мне ў лісьце мой школьны таварыш, як добрага хлопца, але я нічога добрага дзеля сябе ў ім не знашоў. Помню, на позыцыі пад Белаю Алітаю, дзе мы вартавалі мост цераз Нёман, Дурач спрачаўся са мною ў духу расійскага патрыотызму і чорнасоценства. Ён акончыў вучыцельскую сэмінарыю і, мусіць, там набраўся гэтага духу. Цяпер я глядзеў на яго і думаў: „Вот ты ранены, вот табе галаву разьбілі... А за якія такія ідэі ты пацярпеў?“

— Колькі часу?—з трудам выгаварыў ён і выкархнуў з роту кроў.

Гляджу: гадзіньнік стаіць на $11^1/_2$. Шкло пабіта, стрэлкі пагнуты. Калі й дзе ўдарыў—ня ведаю. Ах, каб ужо барджджэй скончылася гэтае пекла!—прашу я няведамую сілу.—Сьві-і-ж-ссь!—куля пралящела над самым вухам. Хаваюся за сьценку.—„Дзе-ж нашы галоўныя сілы?“—стогнуць там запасьнікі. Усе яны хочуць жыць, каб вярнуцца карміць свае сем'і і даглядаць гаспадарку. А я атупеў, страціў яснасьць думкі і чуцьцё вайсковае павіннасьці. Плятуся, як хворы або п'яны ў хату. Батарэя паліць адзіночнымі стрэламі. Няхватка знарадаў; чакаюць з рэзэрваў. У хаце ўсе нэрвуюцца. Прынесьлі яшчэ аднаго раненага.

— Шалапутаў! Уцякай, тут раненага пакласьці трэба,—кажуць там.

Шалапутаў ляжыць, як калода.

— Ведаеце, я жаліцца на санітараў буду,—панура пагражае фэльчар.

— Ну? На каго?—пытаюся, як-бы мне дужа цікаўна.

— Фэльдман... зусім ня слухаюць мяне. У Лабкоўскага жывот баліць. Лабкоўскі!—паварачваецца фэльчар на Лабкоўскага:—я на вас камандзеру далажу.

— Каллі лласка...—крывіць той грымасаю свой дзяціны, бязвусы твар. Боязьнь сьмерці сьцяла яго сваімі балючымі кіпцямі.

Прышоў ездавы Марчук, здаравенны мужынішча з прыгожай, але грубаватай беларускай гутаркаю. Прынёс цікаўную навіну: фэльдфэбалю Мордзіну ў рэзэрве адбіла плячо. Ранены Грыгарыянц нешта марматаў паармянску. Прышоў фэрвэркэр Ціхаміраў і з сваёй кастрамскою грунтоўнасьцю ўва ўсякай справе намікае нешта аб палоне. Няўжо палон?

— О, Вільгэльма, Вільгэльма! Бог цябе пакарае, калі ты вінават у гэтай жудаснай вайне,—у голас разважае Ціхаміраў:—бедныя людзі...

— Кудой плывець ераплант, тудой ён і шпокае. А ераплант кружыцца над намі, як каршун над падлаю,—устаўляе сваё слова і Марчук.

Ад Ціхамірава я даведаўся, што камандзер сядзіць на страсе аднаго дому, недалёчка ад батарэі, і адтуль па тэлефону камандуе. Усе мы змоўклі, пераможаныя тым яго гэройствам, і думалі, каб доля баранiла яго ад сьмерці. І ўжо хочацца верыць у дзівы. На маіх-жа вачох адзін запасьнік-пехацінец, стоячы ў садзе, дастаў з шапкі кулю.—„Як жалудом з дуба шчоўкнула“,—сказаў ён з усьмешкаю. Магчыма, што кулю хто-небудзь кінуў на яго, а можа была надта далёкая, саслабелая, і за-

чапілася ў шапцы, але ўсе запасьнікі-расійцы пераксьціліся, як на дзіва... Нехта нават буркнуў, што бываюць людзі, зачараваныя ад кулі, ды ніхто яго размову не падтрымаў, бо сярод шуму і гулу ад бою там было не да вялікае размовы. Усе парупіліся схавацца за рог пуні.

...Коняй многа пабіта ўчора. Аднаго раніла ў сьцягно, але ездавы не зьвярнуў на гэта асаблівае увагі, уважаючы рану за лёгкую, зьезьдзіў на ім у парк па знарады, вярнуўся, хацеў ехаць яшчэ, аж конь бух!—зваліўся і зараз здох.

Так цягнуўся гэты бясконца даўгі дзень. Ізноў і йзноў лётаў над намі аэроплян. Пяхота наша, нявідная нам, заядла па ім траскатала з вінтовак, а ён сабе, знай, плыве і кідае нейкія гаручыя стужкі над саменькай батарэяй.

Падпаручыка Іванова раніла. І ён прышоў у хату на перавязку.

— Запісаць у кнігу прыкажаце, вашродзь?—пытаецца фэльчар.

— Нашто-ж?.. Я лёгка. А калі трэба, ну, ну, запішы.—І засароміўся, і „вярнуўся ў строй" з нейкаю ўрачыстасьцю, хоць не бяз трывогі.

Кажуць, быццам казакі злавілі пяцёх „вольных" нямецкіх тэлефоністых. І яны рабілі сыгналізацыю. Іх пагналі ў штаб. Некаторыя лаюць казакаў, чаму не забілі іх на месцы. А другія кажуць: тады-б казакам награды не далі.

Ня маю часу пісаць і галава баліць ад грукату і яшчэ болей ад маёй уласнай нэрвацыі.

*8-га жніўня па абедзе.* Пішу па абедзе, паправіўшы акопчык. Ціха, спакойна. Сядзім удваіх з Борухавым на тым самым наглядальным пункце пад дрэвам, ля згарэўшага дому. Сьмярдзіць пажарышча, вецер узьнімаець залу і пясок і сыплець на нас. Спаць хочацца, бо цэлую блізка таго ноч, пасьля ўчорашняга бою, сядзеў я з Борухавым на гэтым пажарышчы. Ах, як халодна было нам. І скрозь цэлую ноч нямецкія прожэктары сьвяцілі на нас і сеялі неспакой.

Між іншым, цікаўную гутарку меў я начою з Борухавым (Ён—малады, але набожны юдзей з м. Лядоў Магілеўскае губэрні, батарэец „дзяйсьцьвіцельнае службы"). Я сказаў яму:—„Мы землякі... Запішам адрасы адзін аднаго. Калі вас заб'юць, я напішу вашым бацьком, калі мяне—вы напішаце маім". Яму зрабілася страшэнна прыкра.—„Што вы дурня валяеце?"—з сэрцам злаяў ён мяне. Потым, каб зьменшыць ураньне ад сваіх грубых слоў, ён удаўся ў маркоту і намаляваў мне сумны абраз гора, якое было-б у іхнай сям'і, каб яго забілі на вайне. Заўважыўшы, як блізка я прыймаю к сэрцу яго словы, Борухаў стаў адкрываць мне сваю душу ў такой меры, аб якой пасьля шкадуюць.—„Каб даў бог лёгкую рану і белы білет,—праўда?"—„Праўда".—„А я мог і зусім звольніцца ад службы",—азірнуўшыся і нахіліўшыся бліжэй, таёмна прызнаваўся далей:—мой браценьнік зрабіў сабе маленькі брак і сядзіць цяпер у хаце ў Лядох... Каштавала толькі 300 рублёў.

Але мой бацька надта законны. Ад гэтага цярпіць уся сям'я"... Я падумаў, што бацька яго шануе закон аб вайсковай павіннасьці, аж я памыліўся. —„Мы бедныя",—паясьніў мне Борухаў,—„нам няма адкуль узяць 300 рублёў. Затое маем багатага дзядзьку, ён даваў, каб толькі рабілі брак. Дык бацька мой не спадзяваўся выплаціць, дзеля таго ня ўзяў.—„Ну?"— „Што, ну? Наш закон не дазваляе браць дарма,—вы разумееце?"—і Борухаў з важнасьцю справядлівага чалавека ўсьміхнуўся.—„А, дык вас пэўна заб'юць на вайне, калі так"...—з наўмыснай жорсткасьцю кажу яму пад відам жарту.—„Не кажэце глупства, вучонаму чалавеку такія жарты, як... як"... Ён не знашоў параўнаваньня і надта пакрыўджаны змоўк.

Учарашні бой сьціх увечары. Кажуць, нам на падмогу падышла з левага боку нейкая дывізія.

Арудзейная прыслуга так запрацавалася за дзень ля гармат, што некаторыя нумары з трудам паднімалі рукі і разьлівалі страву з дрыжачых лыжак. Працавалі ад 7 раніцы да 9 вечара, без аддыхі і без абеду, то зараджаючы гарматы, то падкапваючы хабаты, то што.

Пасьля вячэры прыехалі пяхотныя санітары, і пачалося падбіраньне трупаў і раненых па ўсім полі.

Наш камандзер прышоў на падворак, стаў ля хаты, дзе ляжалі забітыя на саломе, пераксьціў Талстовага і сказаў: „Царства нябеснае!"

У хаце ён пацалаваўся з кожным раненым, кажучы: „*Поздравляю, брат, что удостоился пострадать за веру, царя и отечество!*"

Пры гэтым панавала ўрачыстая ціша, у некаторых на ваччу стаялі сьлёзы. Нават мне было цяжка за сваю варожасьць да ўсяго гэтага прыгожага самаашуканства.

Потым здарыўся нягожы выпадак з Шалапутавым. Выходзячы на двор, камандзер убачыў яго, ляжачага ў куце ў сенцах, прымасьціўшыся на некіх дошках, на пасьцелевым шынялі.

— Ранены, Шалапутаў?! Шалапутаў!—гукнуў яго камандзер.

— Гм-му-у...

— Ты ранен, Шалапутаў?

— *Никак нет*... у мяне нага...

— Што нага-а?—і схапіў яго цягнуць.

— Баліць дужа... Ударыў неяк.

— Вот яшчэ, задрыпанец,—з глыбокай і сарамлівай пагардаю сказаў гэрой-камандзер і шыбка, як ад чагось брыдкага, вышаў.

З афіцэраў у нас ранены яшчэ штабс-капітан Дамброўскі, але астаўся ў строі. А ў трэцяй батарэі забіты камандзер. Здаецца, я яго бачыў; гэта здаровы, добрадушны, мужчына-русак, з вялікімі рыжымі вусамі, на прозьвішча Шылаў. Кажуць, канаючы, перад вечарам, ён пажартаваў з сваімі афіцэрамі, абступіўшымі яго: „Вот табе і гэоргіеўскі крыж... Пастаўце хоць драўляны"... Трэба паясьніць, што ён сваёй батарэяй нарабіў немцам такой шкоды, што яшчэ ў часе боя гэнэрал па тэлефону

сказаў яму:—„Віншую вас, палкоўнік, з гэоргіеўскім крыжам“. Калі памёр, адзін салдат кінуўся яму на грудзі, цалаваў і плакаў. Ніводзін з бачыўшых гэта таксама ня мог утрымацца ад сьлёз. А забіла яго куля скрозь вакно на вышках, калі ён схапіў некія дзьверы й загараджваў вакно, робячы сабе наглядальны пункт. Забіты быў пад вечар, у канцы бою.

*9 жніўня.* Канец учарашняга дня быў для мяне горкі. Старшы сьмяючыся сказаў мяне: „Вы, здаецца, таксама ў хаце хаваліся“. Так, хаваўся... Няма як бараніцца. Я пачырванеў і маўчаў. Сяньня мне весялей. Сон вярнуў мне сілу, і нейкі голас супакайвае мяне, шэпча: „Ну і добра, што хаваўся, ну і добра“...

Выходзіць што ў нас сур'ёзная перамога. Немцы адступілі, кінуўшы многа забітых, раненых і зброі.

Сяньня я прачнуўся на батарэі, каля ямы тэлефоністых, ад яснага, цёплага жнівеньскага сонейка і шумнай спрэчкі афіцэраў 1-га і 2-га дывізіёну аб трофэях.

Нож мой прапаў, і няма чым карандаш застругаць на апісаньне афіцэрскае спрэчкі. Яна йдзець аб тым, хто зьбіў нямецкую 12-арудзейную батарэю, шалёна выехаўшую на голую позыцыю, відную ад нас простым вокам. Наўкол позыцыі гэтай няшчаснай і гэройскай батарэі цяпер валяюцца парэзаныя шматы коняй і людзей, кучы забітых знарадамі і задаўленых гужамі коняй, агідныя й страшныя груды людзей з адарванымі рукамі, раскіданыя рэчы. Зарадныя скрынкі паўзарваны, пагнуты, пакамечаны, як папера ў жмені, некаторыя раскрэмсаны літаральна ў шчэпкі.

Прадстаўнік першага дывізіёну, худы і чорны, вусаты капітан, як відаць, новы камандзер 3 батарэі, са сьлязьмі на вачох клянецца, прысягаецца, што батарэя зьбіта ім, не пасьпеўшы выехаць і зрабіць 3-4 стрэлы з 2 арудзьдзяў.

Афіцэры 2-га дывізіёну, прышоўшы ў госьці к нашым (я служу ў другой батарэі), сьпіраюцца. Іхныя батарэі стаялі далёка справа і ззаду ад нас, і нават я, нічога ня цямячы ў артылерыйскай справе, дзівуюся, як маглі яны, а ня мы, разьбіць тую батарэю.

Час, лік выехаўшых адначасна нямецкіх арудзьдзяў, запісы камандаў, пасьведчаньні пехацінцаў і іншае, усе довады—горача разьбіваюцца, і спрэчка схіляецца на карысьць першага дывізіёну, страляўшага 13 гадзін узапар!

Даслухаўшы сьпіраньне да канца, пашоў я мыцца, але доўга-доўга шукаў вады і нідзе не знашоў. Войска ўсю выпіла. У калодзежах на дне засталася адна гразь. Калодзежы тут найболей зачыненыя, з помпамі. Насілу выпрасіў вады напіцца ў камандзерскага ардынарца. Сяньня і абед спозьніцца, бо паехалі па ваду на рэчку, за колькі вёрст. Хадзіўшы па полю, бачыў многа забітых кароў і коняй. Чаму іх не закапваюць? На дарозе бачыў цэлую гару сабраных пехацінцамі вінтовак, шінэляй—сьветлых, сініх,—нямецкіх і шэрых, грубейшых,—нашых, ранцаў—касматых бурых

нямецкіх і палатнях нашых, шашак, кулямётных стужак, чаравікаў і іншага. І ўсё нясуць і нясуць...

Раптам пачуўся „неўскі“ гармонік! Звонкія, вясёлагульлівыя гукі заліхвацкай полечкі скаланулі мяне. Не магу выразіць таго заблутанага клубка пачуцьцяў, які падкаціўся мне пад грудзі. Я пачуў мімавольныя сьлёзы на вачох. Думкі мае паляцелі ў ціхамірнае даўнейшае жыцьцё ў мілай, роднай Магілеўшчыне. Сьвяточны дзень, скачуць, гуляюць... А тут я бачу жудаснае поле сьмерці пад сінім, цёплым, безьмяцежным небам.

Дый раптам-жа гармонік абарваўся. Можа, ня даў хто йграць перад памеркшымі вачмі забітых таварышаў...

А хай-бы йграў перамогу жыцьця над сьмерцю! Ня ўсё роўна, што тут рабіць: плакаць ці сьмяяцца?

Іграньне было чутно з недалёчкага хутара, дужа вялікага, занятага пехацінцамі. Я пашоў туды. Там на падворку і ў стадоле, на пасьцеленай жоўтай саломе поўна было раненых, абвязаных белым і акрываўленым бінтам — немцаў і расійскіх. Там-а-там, паміж раненых ляжалі непарушныя фігуры памёршых ад ран. Выскалёныя зубы, тусклыя, мятыя вочы, зблутаныя абмусоленыя вусы,—страх глядзець.

Тут і штаб. У садзе я пачуў размову начальніка нашага атраду па тэлефону з некім:

— Няма сілы сабраць. Можа тыл падбярэць. Ня меней як 700 вінтовак. Болей як за 2.000 чалавек... Але! Ляжаць ланцугамі, колёнамі. Бог ведае, ці яны раненыя спаўзьліся і памёрлі кучамі ці так разам пабіты. Артылерыя і кулямётчыкі работалі на славу! Рад старацца, вашадзіцтва!

Гора, гора нямецкім і польскім маткам! Гора, гора старым польскім маткам і чорнавокім паненкам, бо пры Варшлегене ляглі баталёны пазнанцаў.

Адзін баталіён, складзены пераважна з палякаў, выкінуў быў белы флаг. Хацелі здацца ў палон. Ды рускія не зразумелі, у чым справа,— пакасілі: бедныя палякі!

Яны, палонныя, апавядаюць аб распачлівым (адчайным) высілку немцаў зьбіць 7-га жніўня рускіх. На нашым вучастку былі іхныя тры палкі. Былі пасланы сьвежыя сілы, падвезеныя з Млавы ці што,—і ўсё дарма, шчасьце адвярнулася ад іх. Яны ўцяклі вёрст за 25.

Міма нашага наглядальнага пункту па дарозе шмат праходзіць і праяжджаець розных вайсковых. Нядаўна ехаў п‘яны казак Баўтаецца на сядле. Пад аднэю рукою пабіты тэлефонны апарат, а ў другой—бутэлька з наліўкаю. Ён папрасіў мяне падаць яму галавешачку прыкурыць і пасуліў мне пацягнуць „трошкі“ (у казацкай данской мове ёсьць гэтае слова) набгом з бутэлькі. У яго, п‘янога, гора: кажа, быццам „вольныя“ немцы (мірныя жыхары) забілі двух яго станічнікаў, а сам ён насілу вырабіўся з небясьпекі.

*10 жніўня.* Мы ў далейшым паходзе. Пішу на крутым беразе няшырокай, але поўнаводнай і глыбокай рэчкі. Мост разьбіт. Сапёры наводзяць пантоны. Наўкол мяне—драцяныя загарадкі і воўчыя ямы. Дзівуюся, чаму немцы пакінулі іх бяз усякага бою.

Пераехалі. Мястэчка. Разумеецца, бязьлюднае. Кірха (а можа—касьцёл?). Нашы каталікі забягаюць і кленчаць. Ля самай кірхі, на адчыненым вакне пустога дому, грамафон, заведзены рукою ворага, пахабным дысонансам у абставінах вайны і сьмерці равець мірнага „пупсіка“. Маладыя пехацінцы сабраліся там, сьмяюцца, рагочуць, і некаторыя падпяваюць парускy:

— Пуп-сік, мой мі-лы-ы пу-упсі-ік!..

Потым завялі неспанараўную мне нямецкую „польку“, пабраліся парамі і круцяцца, як дурныя. Старэйшыя невясёла паглядаюць на іхнае вырабляньне, абтрахаюць з сябе пыл, абціраюць пот, перабуваюцца.

У другім доме знашлі піаніна. Бязмальна кожны пабарабаніў і пальцамі і кулакамі. Дакучыла. Тады наш ездавы трахнуў шашкаю ўздоўж. па ўсіх беленькіх і чорненькіх касьцяных пішчыках,—і засьмяяўся, як панская музыка хрыпла і балюча заравела. Пехацінцы адкінулі крышку і паабдзіралі струны. Калі падходзіў некі афіцэр, усе ўцяклі хто куды. Забыўся адзначыць: учора нам абвесьцілі загад гэнэрала Рэнэнкампа, што за п‘янства будуць розгі, а за грабежніцтва—расстрэл.

Ізноў у паходзе, ізноў у паходзе. Пуста ў сэрцы, пуста ў думках... Куды ідзём? Куды прыдзем?

Ідзём, ідзём у вечныя прасторы...

# АБ КАРЫКАТУРЫ НА МАРКСЫЗМ І АБ „ІМПЭРЫЯЛІСТЫЧНЫМ ЭКОНОМІЗЬМЕ“

*(Канчатак)*

**У. Ленін**

## 4. Прыклад Норвэгіі

Норвэгія „ажыцьцявіла“ як быццам-бы немажлівыя да ажыцьцяўленьня правы на самавызначэньне ў 1905 г., у час самага размузданага імпэрыялізму. Тлумачыць пра „немажлівасьць ажыцьцяўленьня“, загэтым, ня толькі тэорэтычна бяз сэнсу, але й сьмешна.

П. Кіеўскі хоча адкінуць гэта, празываючы нас сярдзіта „рацыяналістымі“ (дзеля чаго гэта? Рацыяналістыя абмяжоўваюцца гутаркамі і да гэтага адцягненымі, а мы падказалі самы конкрэтны факт! Ці ня ўжывае П. Кіеўскі чужаземнае славечка „рацыяналісты“ гэтак-жа... як-бы мякчэй выказацца?... Таксама „ўдачліва“, як ён ужыў у пачатку свайго артыкулу слова „экстрактыўны“, прапануючы свае меркаваньні ў „экстрактыўным выглядзе“?).

П. Кіеўскі папракае нас у тым, што дзеля нас „важна надворнасьць зьявішч, а не сапраўдная сутнасьць“. Прыглядзімося-ж да дасканалае сутнасьці.

Абвяржэньне пачынаецца з прыкладу: факт выданьня закону супроціў трэстаў не даказвае немажлівасьці ажыцьцяўленьня забароны трэстаў. Справядліва. Толькі прыклад няўдачлівы, бо ён кажа супроціў П. Кіеўскага. Закон ёсьць мера палітычная, ёсьць палітыка. Ніякаю палітычнаю мераю нельга забараніць экономікі. Ніякаю палітычнаю формаю Польшчы, ці будзе яна часткаю царскае Расіі або Нямеччыны, ці аўтономнаю вобласьцю, ці незалежнаю палітычнаю дзяржаваю, нельга ні забараніць, ні адмяніць яе залежнасьці ад грашовага капіталу імпэрыялістычных дзяржаў, куплі акцый яе прадпрыемстваў гэтым капіталам.

Незалежнасьць Норвэгіі „ажыцьцёўлена“ ў 1905 г. толькі палітычная. Экономічнае незалежнасьці яна ня зьбіралася і не магла зачапіць. Якраз пра гэта кажуць нашы тэзісы. Мы менавіта падказалі, што самавызначэньне датыркаецца толькі палітыкі і, загэтым, няпраўдзіва нават ставіць пытаньне пра экономічную неажыцьцявімасьць. А П. Кіеўскі „абвяргае“ нас

прыводзячы прыклад бязмоцнасьці палітычных забарон супроціў экономікі! Добрае „абвяржэньне!“

Далей. „Аднаго ці нават многа іх прыкладаў перамогі дробных прадпрыемстваў над буйнымі не хапае дзеля таго, каб абвяргнуць правіловую тэзу Маркса пра тое, што агульная хада разьвіцьця капіталізму праводзіцца і концэнтрацыяй і цэнтралізацыяй вырабчасьці“.

Гэты довад ізноў зьмешчаны ў няўдачлівым прыкладзе, які выбіраецца, каб адвясьці увагу (чытача і аўтара) ад рэчаіснай сутнасьці спрэчак.

Наш тэзіс кажа, што пра экономічную неажыцьцявімасьць самавызначэньня ў тым-жа сэнсе, у якім неажыцьцявімы рабочыя грошы пры капіталізьме, кажа няпраўдзіва. Ніводнага „прыкладу“ *гэткай* неажыцьцявімасьці ня можа быць. П. Кіеўскі моўчкі прызнае нашу правасьць у гэтым пункце або пераходзіць да *іншага* тлумачэньня „неажыцьцявімасьці“.

Чаму ён ня робіць гэтага проста? Чаму не формулюе адкрыта і дакладна *свайго* тэзісу: „Самавызначэньне, якога нельга ажыцьцявіць у сэнсе экономічнае мажлівасьці яго пры капіталізьме, супярэчыць разьвіцьцю і таму рэакцыйнае ці зьяўляецца толькі выключэньнем?“

Таму, што адкрытая формуліроўка контр-тэзісу зразу выкрыла-бы аўтара, і яму прыходзіцца хавацца.

Закон экономічнае концэнтрацыі, перамогі буйнае вытворчасьці над дробнаю, прызнаны і нашаю і эрфурцкаю програмамі. П. Кіеўскі хавае той факт, што нідзе ня прызнаны закон палітычнае ці дзяржаўнае концэнтрацыі. Калі-ж гэта такі закон, ці таксама закон, чаму-б П. Кіеўскаму ня скласьці яго і не запрапанаваць папоўніць нашу програму? Ці справядліва з яго боку пакідаць нас з дрэннаю, няпоўнаю програмаю, калі ён адкрыў гэты новы закон дзяржаўнае концэнтрацыі, закон, які мае практычнае значэньне, бо ён выбавіў бы нашу програму ад абмылковых вывадаў?

П. Кіеўскі не дае ніякае формуліроўкі закону, не прапануе папоўніць нашу програму, бо смутна адчувае, што ён тады стаў-бы сьмешным. Усе расьсьмяяліся-б з комэдыйнага „імпэрыялістычнага экономізму“, калі-б гэты пункт гледжаньня выплыў наповерх, і паралельна закону выціскаcontainerньня дробнае вытворчасьці буйнаю, быў-бы выстаўлены „*закон*“ (у сэнсе з ім, ці побач з ім) выціскаваньня дробных дзяржаў буйнымі!

Каб высьветліць гэта, абмяжуемся адным пытаньнем да П. Кіеўскага: чаму экономістыя бяз лапак не гавораць пра „распад“ сучасных трэстаў ці буйных банкаў? Пра мажлівасьць гэткага распаду і пра яго ажыцьцявімасьць? Чаму, нават, „імпэрыялістычны экономісты“ у лапках прымушаны прызнаць мажлівасьць і ажыцьцявімасьць распаду буйных дзяржаў, і ня толькі распаду наогул, а, напрыклад, аддзяленьня „малых народнасьцяй“ (гэта прыкмецьце) ад Расіі (§ д у падзеле другім артыкулу П. Кіеўскага)?

Нарэшце, каб яшчэ відавочней высьветліць, да чаго дагаварваецца наш аўтар, і перасьцерагчы яго, адмецім наступнае: закон, праз які выціскаецца дробная вытворчасьць буйнаю, мы ўсе адкрыта выстаўляем, і ніхто не баіцца назваць асобна прыклады „перамогі дробных прадпрыемстваў над буйнымі“, зьявішчам рэакцыйным.

Назваць рэакцыйнае аддзяленьне Норвэгіі ад Швэдзіі пакуль яшчэ *ніхто* з праціўнікаў самавызначэньня не адважыўся, хоць-бы мы з 1914 году паднялі гэтае пытаньне ў літаратуры.

Буйная вытворчасьць неажыцьцявіма, калі захоўваюцца, напрыклад, ручныя прылады; зусім ні да чога думка пра „распад“ фабрыкі на ручныя майстэрні. Імпэрыялістычны нахіл да буйных дзяржаў зусім ажыцьцявімы і ў практыцы нярэдка ажыцьцяўляецца праз форму імпэрыялістычнага саюзу самастойных і незалежных, у палітычным значэньні слова, дзяржаў. Гэткі саюз мажлівы, і можна яго бачыць ня толькі ў форме экономічнага ўзросту грашовага капіталу дзьвюх краін, але і ў форме вайсковага „супрацоўніцтва“ ў імпэрыялістычнай вайне. Нацыянальнае змаганьне, нацыянальнае паўстаньне, нацыянальны аддзел зусім „ажыцьцявімы“, і відаць яны на дзеле пры імпэрыялізьме, нават, узмацняюцца, бо імпэрыялізм ня стрымлівае разьвіцьця капіталізму і росту дэмократычных тэндэнцый у гушчы жыхарства, а *абвострывае* супярэчнасьць паміж гэтымі дэмократычнымі імкненьнямі і анты-дэмократычнаю тэндэнцыяй трэстаў.

Толькі з пункту гледжаньня „імпэрыялістычнага экономізму“, бач, карыкатурнага марксызму, можна ігнараваць, напрыклад, наступнае асабістае зьявішча імпэрыялістычнае палітыкі: з аднаго боку, цяперашняя імпэрыялістычная вайна паказвае нам прыклады таго, як удаецца зацягнуць маленькую, палітычна незалежную дзяржаву праз моцу грашовых сувязяй і экономічных інтарэсаў у змаганьне паміж вялікімі дзяржавамі (Англія і Португалія). З другога боку, парушэньне дэмократызму ў адносінах да маленькіх нацый, якія куды больш бязмоцныя (і экономічна і палітычна) за сваіх імпэрыялістычных „ахоўнікаў“, выклікае або паўстаньне (Ірляндыя), або пераход цэлых палкоў на бок ворага (чэхі). Пры гэткім становішчы справа ня толькі „ажыцьцявімая“ з пункту гледжаньня грашовага капіталу, а *часамі* проста *выгадная* для трэстаў, для іх імпэрыялістычнае палітыкі, для іх імпэрыялістычнае вайны даць як можна больш дэмократычнае свабоды, аж да дзяржаўнае незалежнасьці *асобным* маленькім нацыям, каб не рызыкаваць псутасьцю „сваіх“ ваенных опэрацый. Забываць асабістасьць палітычных і стратэгічных суадносін і настойваць да рэчы і не да рэчы адно толькі завучанае славечка „імпэрыялізм“, гэта зусім не марксызм.

Пра Норвэгію П. Кіеўскі паведамляе нам, папершае, што яна „заўсёды была самастойнаю дзяржаваю“. Гэта няпраўда, і растлумачыць гэткую непраўдзівасьць нельга інакш, як буршыкознаю нядбайнасьцю аўта-

раў і няўвагаю да палітычных пытаньняў. Самастойнаю дзяржаваю Норвэгія да 1905 году ня была, яна толькі карысталася надзвычайна шырокаю аўтаноміяю. Дзяржаўную самастойнасьць Норвэгіі Швэдзія прызнала толькі *пасьля таго*, як Норвэгія ад яе аддзялілася. Калі-б Норвэгія „заўсёды была самастойнаю дзяржаваю“, то швэдзкі урад ня мог-бы паведаміць чужаземныя дзяржавы 26 кастрычніка 1905 году аб тым, што ён *цяпер* прызнае Норвэгію незалежнаю краінаю.

Падругое, П. Кіеўскі прыводзіць шэраг выпісаў, каб даказаць, што Норвэгія глядзела на Захад, а Швэдзія на Ўсход, што ў аднэй „працаваў“ выключна ангельскі, у другой нямецкі грашовы капітал і інш. З гэтага робіцца ўрачысты скутак: „гэты прыклад“ (Норвэгіі) „цалкам месьціцца ў нашы схэмы“.

Вось вам узорчык лёгікі „імпэрыялістычнага экономізму!“ У нашых тэзісах адзначаецца, што грашовы капітал можа панаваць у „любой“, хоць-бы і „незалежнай краіне“, і што, загэтым, усе гутаркі пра „неажыцьцявімасьць“ самаадзначэньня з пункту гледжаньня грашовага капіталу—спрэс блутаніна. Нам прыводзяць даныя, *якія сьцьвярджаюць* наша становішча пра ролю чужога грашовага капіталу ў Норвэгіі і да аддзяленьня і *пасьля* аддзяленьня, з гэткім выглядам, нібы гэта нас абвяргае!

Пагутарыць пра грашовы капітал і на аснове гэтага забыць пра палітычныя пытаньні,—няўжо гэта значыць разважаць пра палітыку?

Не. Ад лёгікі „экономізму“ палітычныя пытаньні ня згінулі. У Норвэгіі „працаваў“ ангельскі грашовы капітал і да і пасьля аддзяленьня. У Польшчы „працаваў“ нямецкі грашовы капітал да яе аддзяленьня ад Расіі і будзе працаваць пры любым палітычным становішчы Польшчы. Гэта да такое ступні элемэнтарна, што няёмка пераказваць гэта, але як-жа быць, калі забываюць лемантар?

Ці гіне ад гэтага палітычнае пытаньне пра тое ці іншае становішча Норвэгіі? Пра яе належнасьць да Швэдзіі? Пра абыходжаньне рабочых, калі паўстане пытаньне аб аддзяленьні?

П. Кіеўскі ўхіліўся ад гэтых пытаньняў, бо яны балюча б'юць „экономістых“. Але ў жыцьці гэтыя пытаньні стаялі й стаяць. У жыцьці стаяла пытаньне, ці можа быць с.-д. швэдзкі рабочы, які не прызнае праў Норвэгіі на аддзяленьне? *Ня можа.*

Швэдзкія арыстократы былі за вайну супроціў Норвэгіі, папы таксама. Гэты факт ня згінуў ад таго, што П. Кіеўскі „забыў“ прачытаць аб ім у гісторыях норвэскага народу. Швэдзкі рабочы мог, застаючыся с.-д., радзіць норвэжцам падаваць галасы супроціў аддзяленьня (народнае паданьне галасоў у Норвэгіі з прычыны пытаньня пра аддзяленьне адбылося 13 жніўня 1905 г. і дало 368.200 галасоў за аддзяленьне, 184 супроціў, пры гэтым прымала удзел у паданьні галасоў каля 80 процантаў меўшых права падаваць галасы). Але той швэдзкі рабочы, які, падобна швэдзкай арыстократыі і буржуазіі, адкідаў-бы правы норвэжцаў рашыць гэта пы-

таньне самім, бяз швэдаў, незалежна ад іх волі, *быў-бы соцыял-шовіністым і нецярпімым у с.-д. партыі нягоднікам.*

Вось у чым складаецца прылажэньне § 9 нашае партыйнае праграмы, праз які прабаваў *пераскочыць* наш „імпэрыялістычны экономісты“. Не пераскочыце, паны, каб не папасьці ў абдым шовінізму.

А норвэскі рабочы? Ці быў ён павінен, з пункту гледжаньня інтэрнацыяналізму, падаваць галасы за аддзяленьне? Ніколькі. Ён мог, астаючыся с.-д., падаваць галасы супроціў. Ён парушыў-бы свой абавязак сябра с.-д. партыі выключна ў тым выпадку, калі-б працягнуў таварыскую руку гэткаму чорнасотніцкаму швэдзкаму рабочаму, які-б выказаўся супроціў *свабоды* аддзяленьня Норвэгіі.

Гэтае элемэнтарнае розьніцы паміж становішчам норвэскага і швэдзкага рабочага ня хочуць бачыць некаторыя людзі. Але яны высьвядчаюць саміх сябе, калі *абыходзяць* гэтае конкрэтнейшае з конкрэтнейшых палітычных пытаньняў, якія мы ў вупор ім ставім. Маўчаць, выскалузваюцца і гэтым здаюць позыцыю.

Каб давясьці, што „норвэскае“ пытаньне можа стаяць у Расіі, мы знарок паставілі тэзіс: пры умовах *чыста* ваеннага і стратэгічнага характару зусім ажыцьцявіма і *цяпер* асаблівая дзяржава польская К. П. Кіеўскі жадае „дыскусыраваць“—і маўчыць.

Дадамо, Фідляндыя, з прычыны чыста ваенных і стратэгічных пагоджаньняў, пры вядомым скончэньні *данае* імпэрыялістычнае вайны (напрыклад, прылучэньне Швэдзіі да немцаў і паўперамога іх), якраз можа стаць асобнаю дзяржаваю, не падрываючы „ажыцьцявімасьці“ ніводнае опэрацыі грашовага капіталу, ня робячы „неажыцьцявімай“ куплю акцый фінляндзкіх чыгунак і іншых прадпрыемстваў [1]).

П. Кіеўскі ратуецца ад няпрыемных для яго пытаньняў пад заховаю пышнае фразы, якая прыметна характэрна для ўсяе яго „развагі“... „кожную хвіліну“... (літаральна гэтак і стаіць на канцы главы I)... „Дамоклаў меч можа абарвацца і спыніць існаваньне „самастойнае“ майстэрні“ („намёк“ на маленькую Швэдзію і Норвэгію).

Вось, пэўна, сапраўдны марксызм: якіхсьці ўсяго 10 год існуе асобная дзяржава норвэская, аддзяленьне якое ад Швэдзіі *швэдзкае* правіцельства

[1]) Калі пры адным канчатку сучаснае вайны якраз „ажыцьцявіма“ без малейшага парушэньня умоў разьвіцьця імпэрыялізму і яго моцы—наадварот, пры *ўзмацненьні* ўплыву, сувязяй і націску грашовага капіталу — заснаваньне новых дзяржаў у Эўропе, польскага, фінляндзкага і інш., то пры іншым канчатку вайны таксама „ажыцьцявіма“ заснаваньне новае дзяржавы вэнгэрскае, чэскае і інш. Ангельскія імпэрыялістыя ўжо зараз намячаюць гэты другі канчатак на выпадак свае перамогі. Імпэрыялістычная эпоха ня нішчыць ні імкненьняў да палітычнае незалежнасьці нацый, ні „ажыцьцявімасьці“ гэтых імкненьняў у *межах* сусьветных імпэрыялістычных адносін. Па-за гэтых меж „неажыцьцявіма“ бяз шэрагу рэволюцый і нямоцная без соцыялізму ні рэспубліка ў Расіі, ні наогул якое-б там ня было вельмі буйнае дэмократычнае перайначваньне нідзе ў сьвеце. П. Кіеўскі зусім не зразумеў адносін імпэрыялізму да дэмократыі.

празвала „рэволюцыйнаю мераю“. Але ці варта нам разьбіраць тыя *політычныя* пытаньні, якія адгэтуль выцякаюць, калі мы прачыталі „Фінансавы капітал“ Гільфэрдынга і „зразумелі“ яго гэтак, што „кожную хвіліну“—калі сеч, дык ужо з пляча—малая дзяржава можа згінуць? Ці варта зьвяртаць увагу на тое, што мы марксызм сказілі ў „экономізм“, а політыку сваю перавярнулі у перапевы прамоў ісьцінна-рускіх шовіністых?

Як абмыляліся, пэўна, расійскія рабочыя ў 1905 г., дабіваючыся рэспублікі: бач грашовы капітал ужо мобілізаваўся супроціў яе і ў Францыі, і ў Англіі і інш. і „кожную хвіліну“ мог-бы „Дамоклавым мячом“ падсеч яе, каб яна ўзьнікла!

„Патрабаваньня нацыянальнага самавызначэньня не зьяўляецца... утопічным у мінімальнай програме: яно не супярэчыць грамадзянскаму разьвіцьцю, паколькі яго ажыцьцяўленьне ня спыніла-б гэтага разьвіцьця“. Гэты сказ з Мартава абспрачае П. Кіеўскі ў тым самым параграфе свайго артыкулу, дзе ён прывёў „выпісы“ пра Норвэгію, якія *даказваюць* зноў і зноў той агульнавядомы факт, што ні разьвіцьця наогул, ні росту опэрацый грашовага капіталу ў асаблівасьці, ні скупаньня Норвэгіі ангельцамі „самаадзначэньне“ і аддзел Норвэгіі ня *спынілі!*

У нас ня раз бывалі бальшавікі, напрыклад, Аляксінскі ў 1908-10 г.г., якія спрачаліся з Мартавым, *якраз тады*, калі Мартаў быў праў! Збаві, божа, ад гэткіх „саюзьнікаў“.

### 5. Аб „монізьме й дуалізьме“.

Папракаючы нас у „дуалістычным“ тлумачэньні патрабаваньня, П. Кіеўскі піша: „Моністычная *чыннасьць* Інтэрнацыяналу замяняецца дуалістычнаю *пропагандаю*“.

Гэта зычыць зусім памарксыцку, матар'ялістычна: чыннасьць, якая адзіная, супроць кладзецца пропагандзе, якая „дуалістычная“. Да шкоды, прыглядаючыся бліжэй, мы павінны сказаць, што гэта гэткі-ж *слоўны* „монізм“, які быў „монізм“ Дюрынга. „Ад таго, што шавецкую шчотку мы залічым да аднае катэгорыі з млекаеднымі,—пісаў Энгэльс супроціў „монізму“ Дюрынга—ад гэтага ў яе ня вырасьце малочных залоз“.

Гэта знача, што *абвяшчаць* „адзіным“ мажліва толькі гэткія рэчы, уласьцівасьць, явішчы, чыннасьці, якія *адзіны* ў об'ектыўнай рэчаіснасьці. Гэту „дробязь“ якраз і забыў наш аўтар.

Ён бачыць наш „дуалізм“—папершае, у тым, што ад рабочых тых нацый, якія прыгнятаюць, мы патрабуем наперад усяго не *таго*—гутарка йдзе толькі пра нацыянальнае пытаньне,—чаго мы патрабуем ад рабочых прыгнечанных нацый.

Каб праверыць, ці не зьяўляецца тут „монізм“ П. Кіеўскага „монізмам“ Дюрынга, трэба паглядзець, у якім становішчы справа у *об'ектыўнай рэчаіснасьці.*

Ці аднакава *рэчаіснае* становішча рабочых у прыгнятаючых і прыгнечаных нацый з пункту гледжаньня нацыянальнага пытаньня?

Не, не аднакава.

1) *Эканомічна* розьніца тая, што часткі рабочае клясы ў прыгнятаючых краінах карыстаюцца крошкамі зьверх-прыбылі, якую атрымоўваюць буржуі прыгнятаючых нацый, зьдзіраючы заўсёды па дзьве шкуры з рабочых прыгнечаных нацый. Эканомічныя даныя кажуць, апроч таго, што з рабочых прыгнятаючых нацый,—*больш*ы процант праходзіць у „*масьцяркі*“, чым з рабочых прыгнечаных нацый, *больш*ы процант падымаецца ў „арыстократыю рабочае клясы“. Гэта факт. Рабочыя прыгнятаючай нацыі *да вядомай ступені* удзельнікі *сваёй* буржуазіі ў справе рабаваньня ёю рабочых (і масы жыхарства) прыгнечаных нацый.

2) *Палітычна* розьніца тая, што рабочыя прыгнятаючых нацый займаюць *прывілейнае* становішча ў цэлым шэрагу галін палітычнага жыцьця параўнаўча з рабочымі прыгнечаных нацый.

3) *Ідэёва* ці духоўна розьніца тая, што рабочыя прыгнятаючай нацыі заўсёды выхоўваюцца і школаю, і жыцьцём у духу грэблівасьці, ці пагарды да рабочых прыгнечаных нацый. Напрыклад, усякі вялікарасіец, які ўзгадаваўся ці жыў сярод вялікарасійцаў, *адчуваў гэта*.

Дык вось, у об'ектыўнай рэчаіснасьці *праз усю лінію* адлічча, бач „дуалізм“ у об'ектыўным сьвеце, які не залежыць ад волі і сьвядомасьці асобных людзей.

Як-жа аднесьціся пасьля гэтага да слоў П. Кіеўскага пра „моністычную чыннасьць Інтэрнацыяналу“?[1])

Гэта пусты бразглівы сказ, больш нічога.

Дзеля таго, каб чыннасьць Інтэрнацыяналу, які складаецца ў *жыцьці* з рабочых, якія *паколаты* на належачых да нацый прыгнятаючых і да нацый прыгнечаных, *была адзінаю*, для гэтага патрэбна не *аднакава* вясьці пропаганду ў тым і іншым выпадку: вось як трэба разважаць з пункту гледжаньня рэчаіснага (а ня Дюрынгаўскага) „монізму“, з пункту гледжаньня матар'ялізму Маркса.

Прыклад? Прыклад мы ўжо прывялі (у легальным друку два з лішкам гады таму назад!)—адносна Норвэгіі, і ніхто не папрабаваў абвергнуць нас. *Чыннасьць* норвэскіх і швэдзкіх рабочых была ў гэтым конкрэтным і ўзятым з жыцьця выпадку „моністычным“, адзіным інтэрнацыяналістычным выключна таму і пагэтулькі, паколькі швэдзкія рабочыя *бязумоўна* баранілі свабоду аддзелу Норвэгіі, а норвэскія рабочыя *умоўна* ставілі пытаньне пра гэты аддзел. Калі-б швэдзкія рабочыя не *бязумоўна* стаялі за свабоду аддзелу норвэжцаў, то яны былі-б шовіністымі, саратнікамі шовінізму швэдзкіх памешчыкаў, якія хацелі сілаю,

[1]) Глядзі, напрыклад, ангельскую кнігу Гурвіча пра іміграцыю і становішча работнічае клясы ў Амэрыцы.

вайною „ўтрымаць“ Норвэгію. Калі-б норвэскія рабочыя не станавілі пытаньня пра аддзел *умоўна*, бач „гэтак, што падаваць галасы і прапагандаваць супроціў аддзелу могуць і сябры с.-д. партыі, то норвэскія рабочыя знарушылі-б павіннасьць інтэрнацыяналістых і аддаліся-б у вузкі *буржуазны* норвэскі нацыяналізм. Чаму? Таму, што аддзел зрабіла *буржуазія*, а не пролетарыят. Таму, што норвэская, як і ўсякая, буржуазія *заўсёды* стараецца раскалоць рабочых свае краіны і „чужой“. Таму, што любое дэмократычнае патрабаваньне (у тым ліку і самавызначэньне) для сьвядомых рабочых *падлягае* вышэйшым інтарэсам соцыялізму. Калі-б, напрыклад, аддзел Норвэгіі ад Швэцыі напэўна ці мажліва адзначыў бы вайну Англіі з Нямеччынай, то норвэскія рабочыя *з гэтае прычыны* павінны былі быць супроціў аддзелу. А швэдзкія атрымалі-б правы і мажлівасьць, не перастаючы быць соцыялістымі, агітаваць у падобным выпадку супроціў аддзелу *толькі* ў тым выпадку, калі-б яны сыстэматычна, паступова, пастаянна змагаліся *супроціў* швэдзкага правіцельства за *свабоду* аддзелу Норвэгіі. У адваротным выпадку норвэскія рабочыя і норвэскі народ *не паверылі-б і не маглі-б* паверыць у шчырасьць парады швэдзкіх рабочых.

Уся бяда ў супраціўнікаў самавызначэньня паходзіць ад таго, што яны адрабляюцца мяртвымі абстракцыямі, *баючыся* разабраць дарэшты хоць бы адзін конкрэтны прыклад з жывога жыцьця. Наш конкрэтны падказ у тэзісах, што новая дзяржава польская якраз „ажыцьцявіма“ *цяпер*, калі, вядома, злучыць умовы выключна ваенныя, стратэгічныя, астаўся бяз супярэчак і з боку палякоў і з боку П. Кіеўскага. *Але падумаць* аб тым, што-ж выцеча з гэтага маўклівага прызнаньня нашае правасьці, ніхто не пажадаў. А выцякае адгэтуль выяўна тое, што пропаганда інтэрнацыяналістых *ня можа* быць аднакавай сярод рускіх і палякоў, калі яна хоча выхаваць і тых, і другіх да „адзінага чыньня“. Вялікарускі (і нямецкі) рабочы павінен стаяць бязумоўна за свабоду аддзелу Польшчы, бо йначай ён *сапраўды* цяпер лёкай Мікалая II ці Гіндэнбурга. Польскі рабочы *мог*-бы стаяць за аддзел толькі умоўна, бо спэкуляваць (як фракі) [1]) на перамогу той ці іншай імпэрыялістычнай буржуазіі, значыць станавіцца яе лёкаем. Не зразумець гэтае розьніцы, якая зьяўляецца умоваю „моністычнае чыннасьці“ Інтэрнацыяналу, усё роўна як не зразумець таго, чаму, для „моністычнай чыннасьці“, супроціў царскае арміі, згодзімся, каля Масквы, рэволюцыйнае войска з Ніжняга павінна-б ісьці на захад, а са Смаленску—на ўсход.

Падругое, наш новы прыхільнік Дюрынгаўскага монізму папракае нас за тое, што мы не клапоцімся пра „цясьнейшую організацыйную шчыльнасьць размаітых нацыянальных сэкцый Інтэрнацыяналу“ пры соцыяльным перавароце.

---

[1]) „Фракі“ прозьвішча польскіх соцыялістых, якія падзяліліся на фракцыі — „лявіцу“ і „правіцу“.

„Пры соцыялізьме самавызначэньне адпадае“, піша П. Кіеўскі, „бо тады адпадае дзяржава“. Гэта пішацца, як быццам для абвяржэньня нас! Але ў нас у трох радкох—трох апошніх радкох першага параграфу нашых тэзісаў—сказана дакладна і ясна, што „дэмократыя ёсьць таксама форма дзяржавы, якая павінна згінуць, як згіне дзяржава“. Менавіта гэту ісьціну пераказвае,—вядома, каб „абвергнуць“ нас—П. Кіеўскі на *некалькіх старонках* свайго параграфу (глава 1), пры гэтым пераказвае скажаючы. „Мы мысьлім“, піша ён „і заўсёды мысьлілі сабе соцыялістычны лад, як срога дэмократычна (!!?) цэнтралізаваную сыстэму гаспадарства, пры якой дзяржава, як апарат панаваньня аднэй часткі насяленьня над другою, гіне“. Гэта блутаніна, бо дэмократыя ёсьць *таксама* панаваньне „аднэй часткі насяленьня над другой“,—ёсьць таксама дзяржава. У чым выказваецца *адміраньне* дзяржавы пасьля перамогі соцыялізму і якія умовы гэтага процэсу, аўтар яўна не зразумеў.

Але галоўнае—гэта яго „супярэчкі“ якія адносяцца да эпохі соцыяльне рэволюцыі. Аблаяўшы нас жахліва страшным словам—„талмудыстыя самавызначэньня“, аўтар кажа: „Гэты процэс (соцыяльны пераварот) мы мысьлім, як аб'яднаную чыннасьць пролетарых усіх (!) краін, якія разбураюць граніцы буржуазнае (!) дзяржавы, якія скідаюць пагранічныя слупы (незалежна ад „разбурэньня граніц“?), якія ўзрываюць (!!) нацыянальную агульнасьць і ўстанаўліваюць агульнасьць клясавую“.

Каб ня разгнявіць суровага судзьдзю „талмудыстых“, трэба сказаць, што тут многа сказаў і зусім ня відаць думкі.

Соцыяльны пераварот ня можа быць аб'яднанай чыннасьцю пролетарых *усіх* краін з тае простае прычыны, што большасьць краін і большасьць жыхарства зямлі дагэтуль стаіць яшчэ, нават, не на капіталістычнай ці толькі спачатку капіталістычнай ступені разьвіцьця. Пра гэта мы сказалі ў § 6 нашых тэзісаў, і П. Кіеўскі проста з-за няувагі ці няўменьня думаць „не заўважыў, што гэты параграф выстаўлены намі нездарма, а якраз дзеля таго, каб абвергнуць карыкатурныя скажэньні марксызму. Для капіталізму пасьпелі толькі перадавыя краіны Захаду і Паўночнай Амэрыкі, і ў лісьце Энгэльса да Каўцкага („Зборнік Соцыял-Дэмократа“) П. Кіеўскі можа прачытаць конкрэтны малюнак тае—рэчаіснае, а ня толькі абяцанае—„думкі“, што марыць пра „об'ектыўную чыннасьць пролетарых *усіх* краін“—знача адкладаць соцыялізм да грэцкіх календаў, бач да „ніколі“.

Соцыялізм ажыцьцёвяць аб'яднанымі чыннасьцямі пролетары ня ўсіх краін, а меншасьці краін, якія дашлі да ступені разьвіцьця *перадавога* капіталізму. Менавіта незразуменьне гэтага і выклікала абмылку П. Кіеўскага. У *гэтых* перадавых краінах (Англія, Францыя, Нямеччына і інш.) нацыянальнае пытаньне даўно вырашана, нацыянальная супольнасьць даўно аджыла, „агульна нацыянальных“ заданьняў *об'ек-*

*тыўна* няма. Загэтым, *толькі* ў гэтых краінах мажліва цяпер-жа „ўзарваць“ нацыянальную супольнасьць, наладзіць супольнасьць клясавую.

Іншая справа ў краінах неразьвітых, у тых краінах, якія мы вылучылі (у § 6 нашых тэзісаў) у 2 і 3 разьдзелы, г. зн. на ўсім усходзе Эўропы і ва ўсіх колёніях і напоўколёніях. Тут *яшчэ, подлуг агульнага правіла*, ёсьць прыгнечаныя і капіталістычна неразьвітыя нацыі. У гэткіх нацыях ёсьць яшчэ *об'ектыўна* агульна-нацыяльныя заданьні; гэта заданьні *дэмократычныя*, заданьні *вызваленьня* з-пад чужога *нацыянальнага уціску*.

І вось, як на прыклад такіх нацый Энгэльс пасылаецца на Індыю кажучы, што яна здольна зрабіць рэволюцыю супроць перамогшага соцыялізму,—бо Энгэльс ня меў ніякага дачыненьня да сьмешнага „імпэрыялістычнага экономізму“, які думае, што перамогшы ў передавых краінах пролетарыят „сам сабой“, бяз пэўных *дэмократычных* мер, усюды скасуе нацыянальны уціск. Перамогшы пролетарыят рэорганізуе тыя краіны, дзе ён перамог. Гэтага нельга зрабіць адразу, дый „перамагчы“ буржуазію таксама нельга адразу. Мы сумысьля падкрэсьлілі гэта ў сваіх тэзісах, і П. Кіеўскі зноў-ткі не падумаў, *навошта* мы падкрэсьлівалі гэта ў зьвязку з нацыянальным пытаньнем.

Пакуль пролетарыят передавых краін скідае буржуазію і адбівае яе контр-рэволюцыйныя спробы, — неразьвітыя і прыгнечаныя нацыі не чакаюць, жывуць, ня зьнікаюць. Калі яны выкарыстоўваюць, для паўстаньня нават, такі, у параўнаньні з соцыяльнай рэволюцыяй, зусім невялічкі крызіс, крызіс імпэрыялістычнай буржуазіі, накшталт вайны 1915-16 г. г. (колёніі, Ірляндыя), дык бясспрэчна, што *вялікі крызіс* грамадзянскае вайны ў передавых старонках яны тым больш выкарыстаюць для паўстаньня.

Соцыяльная рэволюцыя ня можа адбыцца йнакш, як у выглядзе эпохі, што злучае грамадзянскую вайну пролетарыяту з буржуазіяй у передавых краінах і *цэлы шэраг* дэмократычных і рэволюцыйных, у тым ліку і нацыянальна-вызваленчых, рухаў, у неразьвітых, адсталых і прыгнечаных нацыях.

Чаму? А таму, што разьвіцьцё капіталізму адбываецца няроўнамерна, і об'ектыўная сучаснасьць паказвае нам, побач з вельмі разьвітымі капіталістычнымі нацыямі, цэлы шэраг нацый слаба разьвітых і зусім неразьвітых экономічна. П. Кіеўскі абсолютна не абдумаў *об'ектыўных* умоў соцыяльнае рэволюцыі з пункту погляду экономічнага разьвіцьця розных краін, і таму яго ўпінкі, нібы мы „выдумваем“ дзе-б ужыць самавызначэньне, гэта, дапраўды, тое самае, што з хворае галавы на здаровую.

З стараннасьцю, якая варта чаго лепшага, П. Кіеўскі шмат раз паўтарае выняткі з твораў Маркса і Энгэльса наконт таго, што „не выдумляць з галавы, а вынаходзіць пры дапамозе галавы ў сучасных матар'яльных умовах“ мусім мы сродкі да вызваленьня чалавецтва ад таго або

іншага соцыяльнага ліха. Чытаючы гэтыя паўторныя выняткі, я мімаволі ўспамінаю сумнае памяці „экономістых“, якія таксама нудна... жавалі сваю „новую вынаходку“—аб перамозе капіталізму ў Расіі. П. Кіеўскі хоча гэтымі выняткамі „зьдзівіць“ нас, бо мы, бач, з галавы выдумляем умовы, калі ўжыць самавызначэньне нацый у імпэрыяліетычную эпоху. Але ў таго-ж самага П. Кіеўскага мы чытаем наступнае „неосторожное признание“.

„Ужо адно тое, што мы *супроць* (курсіў аўтара) абароны бацькаўшчыны, лепш за ўсё сьведчыць аб тым, што мы будзем актыўна даваць адпор усякаму прыдушэньню нацыянальнага паўстаньня, бо гэтым мы будзем змагацца супроць нашага найгоршага ворага—імпэрыялізму“ (раз. II § с у арт. П. Кіеўскага).

Нельга крытыкаваць вядомага аўтара, нельга *адказаць* яму, не падаўшы цалкам хаця-б больш галоўных палажэньняў яго артыкулу. А калі толькі падасі цалкам хаця-б адно палажэньне П. Кіеўскага, дык заўсёды выходзіць, што ў яго на кожны сказ прыпадае дзьве-тры абмылкі або неабдуманасьці, якія перайначваюць марксызм.

1) П. Кіеўскі не заўважыў, што нацыянальнае паўстаньне гэта *таксама* „абарона бацькаўшчыны“. А тымчасам, хто хоць крыху паразважае, дык праканаецца, што гэта якраз так і ёсьць, што *кожная* „паўстаючая нацыя“ „бароніць“ сябе ад нацыі прыгнятаючай, бароніць сваю мову, сваю краіну, сваю бацькаўшчыну.

Кожны нацыянальны уціск выклікае адпор у *шырокіх масах* народу, *тэндэнцыя* кожнага адпору нацыянальна-прыгнечанага жыхарства і ёсьць нацыянальнае паўстаньне. Калі мы часта бачым (асабліва ў Аўстрыі і Расіі), што буржуазія прыгнечаных нацый *толькі* лапоча языком аб нацыянальным паўстаньні, але на справе робіць рэакцыйныя змовы з буржуазіяй прыгнятаючай нацыі за сьпіной і *супроць* свайго народу, дык у такіх выпадках крытыка рэволюцыйных марксыстых павінна быць накіравана ня супроць нацыянальнага руху, а супроць яго здрабненьня, нікчэмнасьці на тое, каб перашкодзіць яму зрабіцца звычайнай бойкай. Да рэчы будзе сказаць, што шмат хто з аўстрыйскіх і расійскіх с.-д. забываюцца на гэта і сваю *законную* ненавісьць да дробнай, нікчэмнай, мізэрнай нацыянальнай грызоце накшталт спрэчак і боек за тое, на якой мове назва вуліцы павінна быць напісана наверсе шыльды і на якой—унізе,—сваю законую ненавісьць да гэтага абяртаюць у тое, што адмаўляюцца падтрымліваць нацыянальную барацьбу. Мы ня будзем „падтрымліваць“ комэдыйнае гульні ў рэспубліку ў якім-небудзь княстве Монака або „рэспубліканскія“ авантуры „гэнэралаў“ у дробных дзяржавах Паўднёвае Амэрыкі ці на якім там востраве ў Вялікім акіяне, але гэта зусім ня значыць, што можна забыцца на лёзунг рэспублікі для сталага дэмократычнага і соцыяльнага руху. Мы кпім і павінны кпіць з мізэрнае нацыянальнае грызоты і нацыянальнага гандлярства нацый у Расіі і Аўстрыі.

але гэта ня значыць, што можна адмовіцца падтрымаць нацыянальны рух ці кожную сталую агульнанародную барацьбу супроць нацыянальнага уціску.

2) Калі нацыянальныя паўстаньні немагчымы ў „імпэрыялістычную эпоху“, дык П. Кіеўскі ня мае права казаць аб іх. Калі яны магчымы, дык усе яго бясконцыя разважаньні аб „монізьме“, аб тым, што мы „выдумляем“ прыклады самавызначэньня пры імпэрыялізьме і іншае, і да таго падобнае,—усё гэта разьвяваецца ў пух. П. Кіеўскі пабівае самога сябе.

Калі „мы“ актыўна змагаемся супроць прыдушэньня нацыянальнага паўстаньня—выпадак узяты, як магчымы, „самым“ П. Кіеўскім,—дык што гэта абазначае?

Гэта значыць, што мы маем „дзеяньне“ двая̆кае, „дуалістычнае“, калі ўжываць філёзофскі тэрмін так вось не да рэчы, як не да рэчы ўжывае яго наш аўтар: па 1) „дзеяньне“ нацыянальна-прыгнечанага пролетарыяту і сялянства *супольна* з нацыянальна-прыгнечанай буржуазіяй *супроць* прыгнятаючае нацыі; па 2) „дзеяньне“ пролетарыяту ці то сьвядомае яго часткі ў прыгнятаючай нацыі *супроць* буржуазіі і ўсіх прыхільных да яе элемэнтаў прыгнятаючае нацыі.

Бясконцы лік слоў супроць „нацыянальнага блёку“, „нацыянальных ілюзій“, супроць „атруты“ нацыяналізму, супроць „падбухторваньня да нацыянальнае ненавісьці“ і іншае,—слоў, што нагаварыў П. Кіеўскі, гэта ўсё ні што іншае, як глупства, бо калі аўтар раіць пролетарыяту прыгнятаючых краін (не забудзьма, што аўтар лічыць гэты пролетарыят за сталую сілу) „актыўна змагацца супроць прыдушэньня нацыянальнага паўстаньня“, дык тым самым ён *распаляе* нацыянальную ненавісьць, тым самым ён *падтрымлівае* „блёк з буржуазіяй“ рабочых прыгнечаных краін.

3) Калі магчымы нацыянальныя паўстаньні пры імпэрыялізьме, дык магчымы і нацыянальныя войны. Ніякае сталае розьніцы паміж тым і другім у палітычным стасунку няма. Вайсковыя гісторыкі войнаў маюць рацыю, калі паўстаньні таксама лічаць за войны. П. Кіеўскі, не падумаўшы, пабіў ня толькі сябе, але і Юніуса, і групу „Інтэрнацыянал“, якія даводзяць, што нацыянальныя войны пры імпэрыялізьме *немагчымы*. А вось гэтая іхная думка ёсьць адзіная больш-менш дарэчная тэорытычная абаснова для погляду, які ня лічыць магчымым самавызначэньня нацый пры імпэрыялізьме.

4) Бо—што гэта за „нацыянальнае“ паўстаньне? Паўстаньне, якое імкнецца ўтварыць *палітычную* незалежнасьць прыгнечаных нацый, г. зн. асобную нацыянальную дзяржаву.

Калі пролетарыят прыгнятаючае нацыі зьяўляецца сталай сілай (як дапускае і мусіць дапускаць аўтар для эпохі імпэрыялізму), дык ці не зьяўляецца адвага гэтага пролетарыяту „актыўна змагацца супроць прыдушэньня нацыянальнага паўстаньня“ *дапамогай* утварэньню асобнае нацыянальнае дзяржавы? Бязумоўна, зьяўляецца.

Наш адважны „супраціўнік“ „выканальнасьці“ самавызначэньня дагаварыўся да таго, што сьвядомы пролетарыят перадавых краін павінен *дапамагаць* выкананьню гэтае „невыканальнае“ меры.

5) *Дзеля чаго* „мы павінны“ „актыўна змагацца“ супроць прыдушэньня нацыянальнага паўстаньня? П. Кіеўскі падае толькі адзін довад: бо праз гэта мы будзем змагацца супроць нашага сьмяртэльнага ворага — імпэрыялізму“. Уся *моц* гэтага довад у выяўляецца ў *моцным* слоўцы „сьмяртэльны“, як і наогул у аўтара моц аргуманту замяняецца моцай крэпкіх і гучных слоў, „забіваньнем кала ў трапечучае цела буржуазіі“ і іншымі аздобамі стылю ў духу Аляксінскага.

Але гэты довад П. Кіеўскага не адпавядае праўдзе. Імпэрыялізм такі самы „сьмяртэльны“ наш вораг, як і капіталізм. Гэта так. Але ні водны марксісты не запамятае, што капіталізм зьяўляецца прогрэсыўным у стасунку да фэўдалізму, а імпэрыялізм — у стасунку да монополістычнага капіталізму. Значыць, ня кожную барацьбу супроць імпэрыялізму мы маем права падтрымліваць. Барацьбу рэакцыйных кляс супроць імпэрыялізму мы *не* падтрымаем, паўстаньне рэакцыйных кляс супроць імпэрыялізму і капіталізму мы *не* падтрымаем.

Значыцца, калі аўтар лічыць неабходным дапамагчы паўстаньню прыгнечаных нацый („актыўна змагацца“ супроць зьнішчэньня — значыць дапамагаць паўстаньню), дык аўтар тым самым прызнае *прогрэсыўнасьць* утварэньня, у выпадку пасьпеху гэтага паўстаньня, асобнае новае дзяржавы, вызначэньне новых меж і інш.

Аўтар літаральна ня зводзіць канцоў з канцамі ні ў *водным* сваім політычным разважаньні.

Ірляндзкае паўстаньне 1916 году, якое адбылося пасьля надрукаваньня ў „Vordote“ № 2 нашых тэзісаў, давяло, да рэчы сказаць, што аб магчымасьці нацыянальнага паўстаньня *нават* у Эўропе гаварылася не на вецер!

**6. Іншыя політычныя пытаньні, якія зачапіў і сказіў П. Кіеўскі.**

Мы ў сваіх тэзісах казалі, што вызваленьне колёній, гэта нішто іншае, як самавызначэньне нацый. Эўропэйцы часта забываюцца на тое, што колёніяльныя народы *таксама* нацыі, але цярпець такую „забыўчывасьць“ значыць цярпець шовінізм.

П. Кіеўскі „пярэчыць“:

„Пролетарыяту, ва ўласьцівым сэнсе слова, няма“ ў сапраўдных колёніях чыстага тыпу (§ с у разьдз. II). „Для каго-ж тады высоўваць „самавызначэньне“? Для колёніяльнай буржуазіі? Для фэляхаў? Для сялян? Бязумоўна, не. Калі *соцыялістыя* (курсыў П. Кіеўскага) у стасунку да колёній высоўваюць лёзунг самавызначэньня, дык гэта зьяўляецца недарэчнасьцю, бо наогул недарэчна высоўваць лёзунг рабочае партыі для тых краін, дзе няма рабочых“.

Хаця й вельмі грозны гнеў П. Кіеўскага, які абвяшчае наш пункт погляду „недарэчным“, але мы, аднак, адважымся пачціва зазначыць яму, што довады яго—памылковыя. Толькі сумнае памяці „экономістыя“ думалі, што „лёзунгі рабочае партыі“ высоўваюцца *толькі* для рабочых [1]) Не, гэтымі лёзунгамі заклікаюць і ўсё працоўнае жыхарства, увесь народ. У дэмократычнай частцы нашае програмы, аб значэньні якое „нагул“ не падумаў П. Кіеўскі, мы зьвяртаемся спэцыяльна да ўсяго народу і таму гаворым у гэтай частцы програмы аб „народзе“ [2]).

Да ліку колёніяльных і напоўколёніяльных народаў мы залічылі 1.000 мільёнаў жыхароў, і П. Кіеўскі гэтае самае конкрэтнае заявы нашае абвергнуць не патурбаваўся. З 1.000 мільёнаў жыхароў звыш 700 мільёнаў (Кітай, Індыя, Пэрсыя, Эгіпэт) належаць да тых краін, дзе рабочыя ёсьць. Але нават для тых колёніяльных краін, дзе няма рабочых, дзе ёсьць толькі нявольнікі і іхныя гаспадары, кожнаму марксыстаму ня толькі не недарэчна, але абваязкова высоўваць „самавызначэньне“.

Крыху паразважаўшы, П. Кіеўскі, мабыць, зразумее гэта, як зразумее і тое, што „самавызначэньне“ высоўваецца заўсёды „для“ *дзьвёх* нацый: прыгнечанай і *прыгнятаючай*.

Другое „пярэчаньне“ П. Кіеўскага:

„Таму мы вось у стасунку да колёній абмяжоўваемся адмоўным лёзунгам, г. зн. вымаганьнем таго, чаго соцыялістыя вымагаюць ад сваіх урадаў—„прэч з колёній!“ Гэтае вымаганьне немагчыма зьдзейсьніць у межах капіталізму, і яно завострывае барацьбу супроць імпэрыялізму, але не супярэчыць разьвіцьцю, бо соцыялістычнае грамадзянства ня будзе ўладаць колёніямі“.

Няздольнасьць або нежаданьне аўтара хаця крыху паразважаць над тэорытычным зьместам палітычных лёзунгаў проста, нават, дзіўная! Няўжо справа зьмяняецца ад таго, што мы, замест тэорытычна дакладнага тэрміну, скарыстаем агітацыйны лёзунг? Сказаць „прэч з колёній“, значыць якраз схавацца ад тэорытычнага аналізу за агітацыйны лёзунг. Кожны агітатар нашае партыі, кажучы аб Украіне, Польшчы, Фінляндыі і інш., мае права сказаць царызму, „свайму ураду“: „прэч з Фінляндыі“ і г. д., але агітатар, які ўмее разважаць, дык ён зразумее, што нельга высоўваць ні становучага, ні адмоўнага лёзунгу толькі дзеля „завострываньня“. Толькі людзі, падобныя да Аляксінскага, маглі ўпірацца, што „адмоўны“ лёзунг „прэч з чорнае думы“ магчыма выпраўдаць імкненьнем „завастрыць“ барацьбу супроць пэўнага зла.

---

[1]) Некаторыя сьмешныя супраціўнікі „самавызначэньня нацый“ пярэчаць супроць нас, кажучы, што „нацыі“ падзелены на клясы. Гэтым карыкатурным марксыстым зазначаем звычайна, што ў нас у дэмократычнай частцы програмы гаворыцца аб „аднаўладзтве народу“.

[2]) Раім П. Кіеўскаму прачытаць „пісаніну“ А. Мартынава і К-о ў 1899—1901 г. г. Ён знойдзе там шмат „сваіх“ аргумэнтаў.

Завострываньне барацьбы—гэта пустыя словы „суб'ектывістых", якія забыліся на тое, чаго вымагае марксызм: дзеля таго, каб выпраўдаць кожны лёзунг, дык трэба дакладна аналізаваць *экономічную* сучаснасьць і *політычныя* абставіны й *політычнае* значэньне гэтага лёзунгу. Ніякавата неяк разжоўваць гэта, але што-ж рабіць, калі да гэтага прымушаюць.

Неспадзявана канчаць тэорытычную дыскусію па тэорытычным пытаньні агітацыйнымі выкрыкамі—да гэтага спосабу Аляксінскага мы ўжо прыгледзіліся, але гэта дрэнны спосаб. Політычны і экономічны зьмест лёзунгу „прэч з колёній"—адно і толькі адно: свабода аддзяленьня для колёніяльных нацый, свабода ўтварэньня асобнае дзяржавы! Калі агульныя законы імпэрыялізму, на думку П. Кіеўскага, перашкаджаюць самавызначэньню нацый, вытвараюць з яго утопію, ілюзію і інш., і інш., дык як-жа можна, не падумаўшы, рабіць выключэньне з гэтых агульных законаў для *большасьці* нацый усяго сьвету? Зразумела, што „тэорыя" П. Кіеўскага—гэта карыкатура на тэорыю.

Таварная вытворчасьць і капіталізм, нітачкі зьвязку грашовага капіталу, існуюць у вялізнай большасьці колёніяльных краін. Дык як-жа можна заклікаць дзяржавы, урады імпэрыялістычных краін выбрацца „прэч з колёній", калі з *пункту погляду* таварнае вытворчасьці, капіталізму і імпэрыялізму гэта „не-навуковае", *самім* Ленчам, Кунавым „абвергнутае", „утопічнае" вымаганьне?

Ані званьня думкі ў развагах аўтара!

Аб тым, што вызваленьне колёній „немагчыма рэалізаваць" *толькі* ў сэнсе: „немагчыма бяз шэрагу рэволюцый", аўтар не падумаў. Аб тым, што яго магчыма рэалізаваць у *зьвязку* з соцыялістычнай рэволюцыяй у Эўропе, ён не падумаў. Аб тым, што „соцыялістычнае грамадзянства ня будзе ўладаць" ня *толькі* колёніямі, але і прыгнечанымі нацыямі *наогул*, ён не падумаў. Аб тым, што ніякае экономічнае розьніцы паміж „уладаньнем" з боку Расіі Польшчай ці Туркестанам па разгляданаму намі пытаньню *няма*, ён не падумаў. Аб тым, што „соцыялістычная грамада" *хоча* выбрацца „прэч з колёній" *толькі* ў сэнсе дараваньня ім *права* свабодна аддзяліцца, але *зусім* ня ў сэнсе *рэкомэндацыі* ім аддзяліцца, ён не падумаў.

За гэтае адрозьненьне пытаньня аб праве на аддзяленьне ад пытаньня аб тым, ці раім мы аддзяляцца, П. Кіеўскі вылаяў нас „штукарамі", і дзеля таго, каб „навукова абаснаваць" гэтае суджэньне перад рабочымі, ён піша:

„Што-ж падумае рабочы, які пытае пропагандыстага, як пролетары павінен адносіцца да пытаньня аб самасьційнасьці" (гэта значыць, аб політычнай самастойнасьці Украіны), „калі ён атрымае адказ: соцыялістыя дамагаюцца права аддзяляцца і пропагандуюць супроць аддзяленьня?".

Я пэўны, што здолею досыць дакладна адказаць на гэтае пытаньне. Іменна: я пэўны, што кожны разьбітны рабочы *падумае*, што П. Кіеўскі *ня ўмее думаць*.

Кожны разьбітны рабочы „падумае“: гэта-ж той самы П. Кіеўскі навучае нас, рабочых, крычаць: „прэч з колёній“. Значыць мы, вялікарасійскія рабочыя, павінны вымагаць ад свайго ураду, каб ён выбраўся вон з Монголіі, з Туркестану, з Пэрсыі, і г. д. Але няўжо гэта значыць, каб мы, пролетары, *жадалі* аддзяліцца ад эгіпэцкіх рабочых, фэляхаў, ад монгольскіх або туркестанскіх ці індыйскіх рабочых і сялян? Няўжо гэта значыць, каб мы раілі працоўным масам колёній „аддзяляцца“ ад сьвядомага эўропэйскага пролетарыяту? Нічога подобнага. Мы заўсёды дамагаліся, дамагаемся і будзем дамагацца самага сьціслага зьбліжэньня і зьліцьця сьвядомых рабочых перадавых краін з рабочымі, сялянамі, нявольнікамі *ўсіх* прыгнечаных краін. Мы заўсёды раілі і заўсёды будзем раіць усім прыгнечаным клясам усіх прыгнечаных краін, у тым ліку колёній, не адзяляцца ад нас, а як найцясьней зьбліжацца, зьлівацца з намі.

Калі мы вымагаем ад сваіх урадаў, каб яны выбраліся „прэч з колёній“, або, кажучы не агітацыйнымі выкрыкамі, але дакладнай політычнай мовай, каб яны далі колёніям поўную магчымасьць аддзяліцца, сапраўднае права *на самавызначэньне*, калі мы самі абавязкова ажыцьцявім гэтае права, дадзім гэтую „свабоду“, як толькі апануем уладай, дык *мы* вымагаем гэтага ад сучаснага ураду, *і мы зробім гэта*, як будзем самі урадам, але *зусім* не дзеля „рэкомэндацыі“ аддзяленьня, а наадворот, дзеля палегчаньня і паскарэньня *дэмократычнага* зьбліжэньня і зьліцьця нацый. Мы зробім усё магчымае, каб з монголамі, пэрсамі, індыйцамі, эгіпцянамі зьблізіцца, зьліцца, мы лічым сваім абавязкам *і сваім інтарэсам* зрабіць гэта, бо йнакш соцыялізм у Эўропе будзе *нямоцны*. Мы будзем дамагацца, каб даць гэтым адсталым і прыгнечаным, больш за нас, народам „бескарысную культурную дапамогу“, як вельмі пекна сказалі польскія с.-д., г. зн., каб дапамагчы ім перайсьці да ўжываньня машын, палегчыць працу, перайсьці да дэмократыі, да соцыялізму.

Калі мы вымагаем свабоды аддзяленьня для монголаў, пэрсаў, эгіпцян і *ўсіх* без выключэньня прыгнечаных і няпоўнапраўных нацый, дык зусім не дзеля таго, што мы *за адлучэньне іх, але толькі* таму, што мы за *вольнае добрахвотнае* зьбліжэньне і зьліцьцё, але не за прымусовае. *Толькі* таму!

І ў гэтым стасунку *адзіную* розьніцу паміж монгольскім ці эгіпэцкім мужыком і рабочым і польскім ці фінляндзкім мы бачым у тым, што апошнія—вельмі разьвітыя людзі, больш за вялікаросаў спрактыкованыя ў політычным сэнсе, больш экономічна падрыхтованыя і інш., і таму яны, мусіць, *вельмі хутка* праканаюць свае народы, законна ненавідзячыя цяпер вялікаросаў за іхную ролю ката, якую яны адыгрываюць, што нэразумна пашыраць гэтую ненавісьць на *соцыялістычных* рабочых і на

социялістычную Расію, і што экономічная карысьць, а таксама інстынкт і прызнаньне інтэрнацыяналізму і дэмакратызму вымагае як найхутчэйшага зьбліжэньня і зьліцьця ўсіх нацый у социялістычную грамаду. Дзякуючы таму, што палякі і фінляндцы—людзі вельмі культурныя, дык яны, мабыць, вельмі хутка праканаюцца ў праўдзівасьці гэтага разважаньня, і аддзяленьне Польшчы і Фінляндыі пасьля перамогі соцыялізму можа адбыцца толькі на кароткі час.

Непараўнана менш культурныя фэляхі, монголы, пэрсы могуць аддзяліцца на больш доўгі час, але мы будзем імкнуцца скараціць яго праз, як ужо казана, бескарысную культурную дапамогу.

*Ніякае* іншае розьніцы ў нашых адносінах да палякоў і монголаў няма і быць ня можа. *Ніякае* „супярэчнасьці" паміж пропагандай свабоды аддзяленьня нацый і цьвёрдай рашучасьцю ажыцьцявіць гэтую свабоду, калі мы самі будзем урадам,—і паміж пропагандай зьбліжэньня і зьліцьця нацый няма і быць ня можа.

Вось што „падумае", па нашым уразуменьні, кожны разьбітны рабочы, сапраўдны соцыялісты, сапраўдны інтэрнацыяналісты аб нашай спрэчцы з П. Кіеўскім.

Відаць, П. Кіеўскі проста паўтарыў, гледзячы на некаторых голяндзкіх і нямецкіх марксыстых, лёзунг „прэч з колёній", не падумаўшы ня толькі аб тэорытычным зьмесьце і значэньні гэтага лёзунгу, але і аб конкрэтных асаблівасьцях Расіі. Голяндзкаму, нямецкаму марксыстаму можна—да пэўнай меры—спыніцца на лёзунгу „прэч з колёній", бо, папершае, для большасьці заходня-эўропэйскіх краін *тыповым* выпадкам прыгнечаньня нацый зьяўляецца якраз *уціск* над колёніямі, а, падругое—у заходня-эўропэйскіх краінах асабліва эразумелым, відочным, жыцьцёвым зьяўляецца паняцьце „колёній".

А ў Расіі? Яе асаблівасьцю зьяўляецца якраз тое, што паміж „нашымі" „колёніямі" і „нашымі" прыгнечанымі нацыямі розьніца няясная, неконкрэтная, няжыцьцёвая.

Наколькі дазволена было-б таму марксыстаму, хто піша, будзем казаць, панямецку, забыцца на *гэтую* асаблівасьць Расіі, настолькі недазволена гэта П. Кіеўскаму. Расійскі соцыялісты, які хоча ня толькі *паўтараць*, але і думаць, павінен разумець, што ў стасунку да Расіі асабліва недарэчным будзе рабіць спробу ўстанавіць нейкую сталую розьніцу паміж прыгнечанымі нацыямі і колёніямі.

Праз увесь артыкул П. Кіеўскага чырвонай ніткай праходзіць грунтоўнае неўразуменьне: пашто пашыраць ідэю і ажыцьцяўляць, калі мы апануем уладай, свабоду *аддзяленьня* нацый, калі ўсё разьвіцьцё хіліцца да *зьліцьця* нацый? А дзеля таго самага, адкажам мы, дзеля чаго мы пашыраем ідэю ды, калі апануем уладай, ажыцьцёвім дыктатуру пролетарыяту, хаця ўсё разьвіцьцё скіроўваецца да скасаваньня прымусовага панаваньня аднае часткі грамады над другой. Дыктатура—гэта панаваньне аднае часткі грамады над усёю грамадою,—і да таго яшчэ панаваньне,

якое беспасрэдна грунтуецца на гвалце. Дыктатура пролетарыяту, як адзінае да канца рэволюцыйнае клясы, патрэбна, каб скінуць буржуазію і адбіць яе контрэволюцыйныя замахі. Пытаньне аб дыктатуры пролетарыяту зьяўляецца такім важным, што ня варты быць членам соц.-дэм. партыі той, хто адмаўляецца ад гэтае дыктатуры або хто згаджаецца з ёю толькі на словах. Але нельга не згаджацца і з тым, што, як выключэньне, у васобных выпадках, напр., калі, у вялікай дзяржаве адбылася ўжо соцыяльная рэволюцыя, дык у якой-колечы суседняй, невялічкай дзяржаве можа здарыцца, што буржуазія бяз спрэчкі аддасьць уладу, калі яна праканаецца, што няма ніякае карысьці спрачацца і калі захоча зьберагчы свае галовы. Але больш магчыма, што і ў невялічкіх дзяржавах без грамадзянскае вайны соцыялізм ня будзе ажыцьцёўлены, і таму *адзінай* програмай інтэрнацыянальнае соцыял-дэмократыі павінна быць згода на такую вайну, хаця ў нашым ідэале няма месца гвалту над людзьмі. Тое самае mutatis mutandis (з адпаведнымі зьменамі) магчыма ў стасунку да нацый. Мы змагаемся за зьліцьцё іх, але ад гвалтоўнага зьліцьця, ад анэксый *цяпер* немагчыма перайсьці да добрахвотнага зьліцьця без свабоды аддзяленьня. Мы згаджаемся—і зусім правілова,—што галоўным фактарам зьяўляецца экономічны, але тлумачыць яго ala П. Кіеўскі гэта значыць рабіць карыкатуру на марксызм. Нават трэсты, нават банкі ў сучасным імпэрыялізьме, ад якіх у роўнай меры немагчыма ўхіліцца пры разьвіцьці капіталізму, неаднолькавы ў сваім конкрэтным выглядзе ў розных краінах. Тым больш зьяўляюцца неаднолькавымі, ня гледзячы на тое, што ў асноўным яны аднародныя, палітычныя формы ў перадавых імпэрыялістычных краінах— Амэрыцы, Англіі, Францыі і Нямеччыне.

Тая самая рознастайнасьць выяўляецца і на тым шляху, які хутка праходзіць чалавецтва ад сучаснага імпэрыялізму да соцыялістычнае рэволюцыі заўтрашняга дня. Усе нацыі дойдуць да соцыялізму, гэта – няўхільна, але ўсе яны дойдуць ня зусім аднолькава, кожная надасьць пэўнае асабістасьці тэй ці іншай форме дэмократыі, тэй або іншай адменнасьці дыктатуры пролетарыяту, таму або іншаму тэмпу соцыялістычных launch пэратварэньняў розных бакоў грамадзянскага жыцьця. Няма нічога больш нікчэмнага тэорытычна і больш сьмешнага практычна, як „у імя гістарычнага матар'ялізму“ маляваць сабе будучыну ў *гэтым* стасунку аднастайнай шараватай фарбай: гэта было-б ня што іншае, як суздальская пацканіна. І каб нават сучаснасьць выявіла, што *да* першай перамогі соцыялістычнага пролетарыяту вызваліцца і аддзеліцца $\frac{1}{500}$ частка ўсіх, цяпер прыгнечаных нацый, што да апошняй перамогі соцыялістычнага пролетарыяту на зямлі (г. зн. у часе пэрыпэтый ужо распачатай соцыялістычнай рэволюцыі) аддзеліцца таксама толькі $\frac{1}{500}$ прыгнечаных нацый і на самы малы час,—нават у гэтым выпадку праўда, з боку палітычнага, і тэорытычна і практычна была-б на нашым баку, калі-б мы раілі

рабочым ужо цяпер ня пускаць на парог с.-д. партый тых соцыялістых прыгнятаючых нацый, якія не прызнаюць і не пашыраюць ідэі свабоды аддзяленьня ўсіх прыгнечаных нацый. Бо сапраўды мы ня ведаем і ня можам ведаць, колькі прыгнечаных нацый адчуюць патрэбу на практыцы аддзяліцца, каб унесьці свой дар у рознастайнасьць *форм* дэмократыі і *форм* пераходу да соцыялізму. А што тыя, хто пярэчыць свабодзе аддзяленьня, з тэорытычнага боку цяпер бясконца фальшуюць і практычна ўслугуюць шовіністым прыгнятаючых нацый, мы гэта ведаем, бачым і адчуваем штодня.

„Мы падкрэсьліваем“, піша П. Кіеўскі ў увазе да паданага намі месца, „што ў поўнай меры падтрымліваем вымаганьне“ супроць гвалтоўных анэксій.

На нашу ў поўнай меры дакладную заяву, што такое „вымаганьне“ гэта тое самае, што прызнаньне самавызначэньня, што нельга правілова адзначыць паняцьце „анэксія“, ня зводзячы яго да самавызначэньня, аўтар не дае аніякага адказу. Ён думае, мусіць, што для дыскусіі досыць высоўваць палажэньні і вымаганьні; і не пацьвярджаць іх довадамі!

... „Наогул шэраг вымаганьняў“ кажа ён далей, „якія завострываюць свядомасьць пролетарыяту супроць імпэрыялізму, мы прымаем *у іх адмоўнай* формуліроўцы, прычым знайсьці адпаведныя *станоўчыя* формуліроўкі, каб застацца на грунце існуючага ладу, няма аніякае магчымасьці. Супроць вайны, але не за дэмократычную згоду“...

Няпраўда—ад першага слова да апошняга. Аўтар чытаў нашу рэзолюцыю „ пацыфізм і лёзунг згоды“ (стар 44-45 брошуры „Соцыялізм і вайна“) і нават, здаецца, ухваляў яе, але адразу відаць, што не зразумеў яе.

Мы за дэмократычную згоду, але перасьцерагаем рабочых толькі ад таго ашуканства, ніба яна магчыма пры сучасных буржуазных урадах „бяз шэрагу рэволюцый“, як напісана ў рэзолюцыі. Мы сказалі, што „абстрактнае“ пашырэньне ідэі згоды, гэта значыць такое пашырэньне, калі ня лічацца з сапраўднай клясавай прыродай ці больш дакладна: імпэрыялістычнай прыродай *сучасных* урадаў ваюючых краін,—гэта будзе абдурваньне рабочых. Мы дакладна заявілі ў тэзісах газэты „С.-Д.“ (№49), што наша партыя, калі-б рэволюцыя дала ёй уладу яшчэ ў часе сучаснае вайны, адразу-б прапанавала дэмократычны спакой усім ваюючым краінам.

А П. Кіеўскі, запэўняючы сябе і другіх, што ён „толькі“ супроць самавызначэньня, але ня супроць дэмократыі наогул, дагаварыўся да таго, што мы „не за дэмократычную згоду“. Ну, ці-ж гэта ня сьмех?

Няма патрэбы спыняцца на кожным далейшым прыкладзе П. Кіеўскага, бо ня варта псаваць месца на тое, каб давесьці, што гэта—такія наіўныя лёгічныя абмылкі, якія выклічуць усьмешку ў кожнага чытача. Няма і ня можа быць ніводнага „адмоўнага“ лёзунгу соцыял-дэмократыі, які патрэбен быў-бы толькі „завострываньню сьвядомасьці пролетарыяту супроць імпэрыялізму“ і не даваў-бы адначасна станоўчага адказу на тое,

*як* соцыял-дэмократыя вырашыць адпаведнае пытаньне, калі сама апануе ўладай. „Адмоўны“ лёзунг, ня маючы зьвязку з пэўным станоўчым разьвязаньнем, не „завострывае“, але атупляе сьвядомасьць, бо падобны лёзунг—гэта пустое слова, голы выкрык, ня маючая сэнсу дэклямацыя.

Розьніца паміж лёзунгамі, што „ганяць“ або „пярэчаць супроць“ *палітычнага ліха і экономічнага*, засталася незразумелай у П. Кіеўскага. Гэтая розьніца выяўляецца ў тым, што пэўнае экономічнае ліха ўласьціва капіталізму наогул, пры ўсякіх палітычных надбудовах над ім, што зьнішчыць гэта ліха, ня зьнішчыўшы капіталізму, экономічна *немагчыма*, ніводнага прыкладу такога зьнішчэньня знайсьці нельга. Наадварот, палітычнае ліха зьяўляецца вынікам ухіленьня ад дэмократызму, які экономічна ў поўнай меры магчымы „на грунце існуючага ладу“, г. зн. пры капіталізьме і часамі ажыцьцяўляецца пры ім, у ваднэй дзяржаве аднэй сваёй часткай, у другой—іншай. Зноў і зноў аўтар не зразумеў якраз агульных умоў ажыцьцяўленьня дэмократыі наогул.

Якраз тое самае ў пытаньні аб разводзе. Напомнім чытачу, што пытаньне гэтае ў дыскуссіі па *нацыянальным* пытаньні ўпяршыню закранула Роза Люксэмбург. Яна выказала тую праўдзівую думку, што, бароначы аўтономію ўнутры дзяржавы (вобласьці або краіны і інш.), мы павінны, як с.-д. цэнтралістыя, бараніць вырашэньне агульнадзяржаўнай уладай, агульнадзяржаўным парлямантам найважнейшых дзяржаўных пытаньняў, да якіх належыць законадаўства аб *разводзе*. Прыклад разводу відавочна паказвае, што нельга быць дэмократам і соцыялістым, калі не вымагаць зараз-жа поўнай свабоды разводу, бо адсутнасьць гэтае свабоды гэта яшчэ горш, чымся уціск прыгнечанае жанчаны, хаця вельмі лёгка сьцяміць, што прызнаваць *права* кідаць сваіх мужэй гэта ня значыць заклікаць усіх жанчын *кінуць* іх.

П. Кіеўскі „пярэчыць“:

„Як-жа-ж выглядала-б гэтае права“ (разводу) „калі-б у *гэтых* выпадках“ (калі жонка хоча кінуць свайго мужа) „жонка ня мела-б магчымасьці яго рэалізаваць. Або, калі-б гэтая рэалізацыя залежала-б ад трэцяе асобы, або, а гэта яшчэ горш, ад волі прэтэндэнтаў на „руку“ гэтае жонкі? Ці імкнуліся-б мы тады да *такога* права? Бязумоўна, не!“

Гэтыя словы выяўляюць, што аўтар ані не разумее стасунку, які існуе паміж дэмократыяй наогул і капіталізмам. Капіталізму ўласьцівы не як асобныя выпадкі, а як тыповае зьявішча, такія ўмовы, калі прыгнечаным клясам „рэалізаваць“ іхныя дэмократычныя правы немагчыма. Права разводу ў большасьці выпадкаў застанецца нерэалізаваным пры капіталізьме, бо прыгнечаныя жанчыны задушаны экономічна, бо жанчына, ня гледзячы ні на якую дэмократыю, застанецца пры капіталізьме хатняй „нявольніцай“, нявольніцай, месца якой толькі у спальным або ў дзіцячым пакоі ці на кухні. Права абіраць „сваіх“ народных судзьдзяў,ураднікаў, настаўнікаў, прысяжных і інш. таксама ў большасьці выпадкаў пры капіта-

лізьме застанецца не ажыцьцяўлёным якраз з прычыны экономічнага уціску рабочых і сялян. Тое самае датычыць і дэмократычнае рэспублікі: наша програма „агалашае“ яе, як „самаўладзтва народу“, хаця ўсе с.-д. надта добра ведаюць, што пры капіталізьме самая дэмократычная рэспубліка вядзе да подкупу буржуазіяй вураднікаў і да хаўрусу біржы з урадам.

Толькі хто зусім няздольны разважаць або ані не знаём з марксызмам, дык робіць адсюль такі вывад: значыць навошта рэспубліка, навошта права разводу, навошта дэмократыя, навошта самавызначэньне нацыяй! Марксыстыя-ж ведаюць, што дэмократыя не касуе клясавага уціску, а толькі робіць клясавую барацьбу больш чыстай, шырокай, адкрытай, рэзкай; вось гэта нам і трэба. Чым больш поўным зьяўляецца права разводу, тым лепш зразумее жанчына, што галоўная прычына яе „хатняга прыгону“—капіталізм, а не бяспраўнасьць. Чым больш дэмократычным будзе дзяржаўны лад, тым лепш разумеюць рабочыя, што ўсё ліха гэта капіталізм, а не бяспраўнасьць. Чым больш поўнай зьяўляецца соцыяльная роўнапраўнасьць (яна ня будзе поўнай без свабоды аддзяленьня), тым больш разумеюць рабочыя прыгнечанай нацыі, што справа ў капіталізьме, а не ў бяспраўнасьці і г. д.

Яшчэ і яшчэ раз: сорам неяк разжоўваць азбуку марксызму, але што-ж рабіць, калі П. Кіеўскі ня ведае яе?

П. Кіеўскі разважае аб разводзе накшталт таго, як разважаў у парыскім „Голасе“ адзін з заграні́чных сэкратароў О. К. Сямкоўскі. „Праўда“, разважаў ён: „даць права разводу гэта ня значыць прапанаваць усім жонкам кідаць сваіх мужэй, але калі даводзіць жонцы, што ўсе мужы лепшыя за вашага, васпані, дык выходзіць тое самае“.

Разважаючы так, Сямкоўскі забыўся, што чудацтва не зьяўляецца парушэньнем абавязкаў соцыялістага і дэмократа. Каб Сямкоўскі пачаў даводзіць якой кабеціне, што ўсе мужы лепшыя за яе мужа, дык у гэтым ніхто ня ўбачыў-бы парушэньня абавязкаў дэмократа. Самае большае, што сказалі-б: нельга так, каб у вялікай партыі не знашлося вялікіх чудакоў! Але каб Сямкоўскі надумаўся бараніць і называць дэмократам чалавека, які пярэчыў-бы супроць права разводу, які, напр., каб перашкодзіць жонцы кінуць яго, зьвярнуўся-б у суд або да паліцыі ці да царквы, дык мы пэўны, што *нават* большасьць сяброў Сямкоўскага, што працуюць разам з ім у заграні́чным сэкратарыяце, адмовіліся-б ад солідарнасьці з ім, ня гледзячы на тое, што і самі яны—соцыялістыя дрэньненькія.

І Сямкоўскі і П. Кіеўскі „пагаварылі“ аб разводзе, выявілі, што пытаньня не разумеюць і сутнасьць справы абмінулі: права разводу, як і *ўсе* без выключэньня дэмократычныя правы, пры капіталізьме ажыцьцявіць цяжка; яно зьяўляецца умоўным, абмежаваным, формальна-вузкім, але тымчасам усіх, хто пярэчыць супроць гэтага права, ніводны сталы соцыял-дэмократ не палічыць ня толькі соцыялістымі, але і дэмократамі. А ў гэтым уся сутнасьць. Уся „дэмократыя“ гэта агалашэньне і ажыцьц-

цяўленьне „праў“; ажыцьцяўленьне іх пры капіталізьме зьяўляецца вельмі умоўным, магчымым у малой меры, але без падобнага агалашэньня, без неадкладнай барацьбы за права, без выхаваньня мас у духу такое барацьбы соцыялізм *немагчымы*.

Не зразумеўшы гэтага, П. Кіеўскі абмінуў у сваім артыкуле й галоўнае пытаньне, якое датычыць яго спэцыяльнай тэмы, а іменна: пытаньне, *як* мы зьнішчым, мы, соцыял-дэмократы, нацыянальны уціск? П. Кіеўскі абмежаваўся словамі аб тым, як будзе сьвет „заліты крывёй“ і інш. (што ня мае ніякага дачыненьня да справы). Па сутнасьці засталося адно: соцыялістычная рэволюцыя ўсё вырашыць. Ці, як кажуць часамі прыхільнікі поглядаў П. Кіеўскага: самавызначэньне пры капіталізьме немагчыма, пры соцыялізьме—непатрэбна.

Гэта—тэорытычна недарэчны, а практычна і палітычна шовіністычны погляд. Гэты погляд зьяўляецца неўразуменьнем вагі дэмократыі.

Соцыялізм немагчымы без дэмократыі ў дваякім сэнсе: 1) нельга пролетарыяту стварыць соцыялістычную рэволюцыю, калі ён не падрыхтоўваецца да яе праз барацьбу за дэмократыю; 2) нельга перамогшаму соцыялізму ўтрымаць свае заваёвы і прывесьці чалавецтва да скасаваньня дзяржавы, калі не ажыцьцёўлена ў поўнай меры дэмократыя. Вось чаму, калі кажуць: самавызначэньне пры соцыялізьме непатрэбна, дык гэта такая самая бязглузьдзіца, такая самая беспарадная блытаніна, як усё роўна, каб хто сказаў: дэмократыя пры соцыялізьме непатрэбна [1]).

Самавызначэньне *ня больш* немагчыма пры капыталізьме і ў такой самай меры непатрэбна пры соцыялізьме, як і дэмкоратыя наогул.

Экономічны пераварот стварае ўсё, што патрэбна для зьнішчэньня *ўсіх* відаў палітычнага уціску. Вось таму і нелёгічна, неправілова адрабляцца сасланьнем на экономічны пераварот, калі пытаньне стаіць: *як* зьнішчыць нацыянальны уціск? Яго нельга зьнішчыць без экономічнага пераўвароту. Бясспрэчна. Але *абмяжоўвацца* гэтым значыць дайсьці да сьмешнага і мізэрнага імпэрыялістычнага „экономізму“.

Трэба правесьці нацыянальную *роўнапраўнасьць*; агаласіць, формуляваць і ажыцьцёвіць роўныя „правы“ ўсіх нацый. З гэтым *усе* згодны, апрача хіба аднаго П. Кіеўскага. Вось тут-та і паўстае пытаньне, якое ўсе абмінаюць: ці не зьяўляецца пярэчаньне супроць права на сваю нацыянальную дзяржаву пярэчаньнем супроць роўнапраўнасьці?

---

1) Аб гэтым месцы артыкулу У. І. Леніна, напісаным у 1916 г., т. Зіноўеў у прадмове да артыкулу, змешчанага ў № 1 „Звезды“, зазначае, што тут У. І. Ленін мусіў-бы зрабіць некаторыя зьмены, аснованыя найперш на практыцы Вялікае Кастрычнікавае Рэволюцыі... У сучасны момант яму прышлося-б гаварыць ня проста аб дэмократыі, але аб *савецкай* дэмократыі. Цяпер ён мусіў-бы вызначыць больш дакладную мяжу паміж эпохай дыктатуры, *якая падрыхтоўвае* поўную перамогу соцыялізму, і самым соцыялізмам. *Рэд.*

Бязумоўна, зьяўляецца. І паступовая, *гэта значыць* соцыялістычная дэмократыя агалашае, формулюе і ажыцьцяўляе гэтае права, без якога няма шляху да поўнага і добрахвотнага зьбліжэньня і зьліцьця нацый.

### 7. Заключэньне. Спосабы Аляксінскага.

Мы разглядзелі ня ўсе разважаньні П. Кіеўскага. Разглядзець усе — гэта значыла-б напісаць артыкул у пяць раз большы за гэты, бо ніводнага правіловага разважаньня ў яго няма. *Правіловае* ў яго—калі няма памылак у лічбах—гэта толькі адна увага, якая падае лічбы ў банках. Усё іншае—гэта нейкі немагчымы клубок блытаніны, аздобленай выразамі накшталт „забіваньне кала ў трапечучае цела“, „перамагаючых гэрояў мы будзем ня толькі судзіць, але і засуджаць на сьмерць і зьніканьне“, „у лютых корчах будзе нараджацца новы сьвет“, „не аб граматах і правох, не аб агалашэньні свабоды народаў будзе йсьці гутарка, але аб усталяваньні праўдзіва свабодных адносін, аб вырашэньні адвечнага прыгону, аб зьнішчэньні соцыяльнага уціску наогул і нацыянальнага уціску ў асобку“ і г. д., і г. д.

Гэтыя словы хаваюць за сабою дзьве „рэчы“:

Папершае, у аснове іх ляжыць „ідэя“ *імпэрыялістычнага эканомізму*—такой самай шпэтнай карыкатуры на марксызм, такога самага поўнага неразуменьня адносін соцыялізму да дэмократыі, якім зьяўляўся сумнай памяці „экономізм“ 1894-1902 г.г.

Падругое, у гэтых сказах мы на свае вочы бачылі паўтарэньне спосабаў Аляксінскага, на чым мусім асобна спыніцца, бо П. Кіеўскі ўклаў нават цэлы разьдзел свайго артыкулу (гл. II, п. е.: „Особое положение евреев“) выключна з гэтых спосабаў.

Здаралася, што яшчэ на Лёнданскім зьезьдзе 1907 г. бальшавікі, адыходзілі ад Аляксінскага, калі ён, у вадказ на тэорытычныя довады, прымаў постаць агітатара і выкрыкваў, зусім не на тэму, гучныя словы наконт таго ці іншага спосабу эксплёатацыі і прыгнечаньня. „Ну, гэта ўжо пашло скігатаньне“, казалі ў такім разе нашыя дэлегаты. І „скігатаньне“ не давяло Аляксінскага да дабра.

Зусім такое самае „скігатаньне“ бачым мы ў П. Кіеўскага. Ня ведаючы, што адказаць на высунуты ў тэзісах шэраг тэорытычных пытаньняў і меркаваньняў, ён прымае постаць агітатара і пачынае выкрыкваць словы наконт уціску жыдоў, хоць кожнаму, крыху здольнаму разважаць чалавеку зразумела, што аніякага дачыненьня да тэмы ні пытаньне наконт жыдоў, ні ўсе „выкрыкі“ П. Кіеўскага абсолютна ня маюць.

Спосабы Аляксінскага да дабра не давядуць.

**Пераклаў А. Рамаоўскі.**

# МАРКС І ТАЛСТОЙ

## С. Вольфсон

Калі запытаць сябе аб самых бязбоязных і найбольш пасьлядоўных адмоўніках капіталістычнае цывілізацыі, якія зьявіліся сярод людзей на працягу апошняга стагодзьдзя, дык прыдзецца, на маю думку, назваць два імёны. Гэта імёны Кароля Маркса і Льва Талстога.

Нікто так глыбака, як Маркс, ня здолеў пранікнуць у нетры капіталістычнае грамады, ніхто так, як ён, ня здолеў выявіць яе соцыяльную прыроду, паказаць тыя болькі, што схаваны пад абалонкай капіталістычнае гармоніі, і навуковай мовай політыка-эконома расказаць жудаснае апавяданьне аб зьбядненьні шырокіх народных мас пры капіталізьме, іх бязьлітаснай эксплёатацыі, іх выміраньні пад уціскам капіталу, у кляшчох паупэрызму, хвароб, простытуцыі, алькоголізму, злачынства.

Талстой напісаў тысячы старонак, дзе ён, як гэніяльны мастак, адбіў той-жа самы жудасны малюнак народнай нядолі пад уціскам капіталу. Малюнак, прасякнуты ненавісьцю да паразытычных вярхоў грамады і замілаваньнем да працоўных мас.

Соцыяльны уклад сучаснасьці—соцыяльнае зло і крыўда складалі тую проблему, над якой больш за два дзесяткі год натужна біўся Леў Талстой і стварыў тое, што крытыкі звычайна называюць жыцьцёвай трагэдыяй Талстога. Соцыяльнае пытаньне што раз то мацней захоплівала Талстога, прымушала падначаліць свой мастацкі гэні імкненьню разьвязаць гэтае пытаньне. Сваю думку, сваё сэрца, сваё пачуцьцё аддаў Талсты другой паловы свайго жыцьця тым, хто стогне пад уціскам соцыяльнага зла—працоўным людзям.

Маркс і Талстой—гэніяльныя ворагі капіталістычнае цывілізацыі. Тут стыкаюцца гэтыя два асілкі. Пасьля гэтае стыкальнасьці пачынаецца тое разыходжаньне, якое робіць іх канцавоснымі процілегласьцямі, выявіцелямі двух сьветапаглядаў, бясконца варожых адзін аднаму.

Паспрабуем уразумець гэтую дыямэтрычную процілегласьць.

Перш за ўсё мушу адзначыць, што калі я называю Талстога і Маркса процілегласьцямі, дык гэтая процілегласьць у свой час была зусім не відавочнай. Калі мы, скажам, зьвернемся да гадоў талстоўскіх угодкаў або да дзён сьмерці Талстога, дык мы ўбачым, што сярод пэўных колаў марксыстых было досыць моцнае імкненьне загладзіць тое

бяздоньне, што аддзяляе Талстога ад Маркса, выявіць толькі агульнае, што маецца паміж імі, прызнаць Талстога за настаўніка ў жыцьці і амаль што не сынтэзаваць Маркса з Талстым. Нічога ня буду казаць наконт прынцыповых опортуністых накшталт Невядомскага ці Заслаўскага і квазі-марксыстых тыпу Базарава, але нават марксысты з такім тонкім розумам, як нябожчыца Роза Люксэмбург, дык і тая пісала пасьля сьмерці Талстога: „Соцыяльная крытыка і соцыяльныя ідэалы Талстога ставяць яго ў шэрагі соцыялізму і ў шэрагі славутага авангарду людзей з вялікім розумам, якія асьвятляюць сучаснаму пролетарыяту яго гістарычны вызваленчы шлях!..“ У свой час спробы злучыць Маркса з Талстым спаткалі моцны адпор з боку *Г. В. Плеханава*, які супольна з *Л. І. Аксэльрод-Ортодокс*, вызначыў, як павінен разумець марксысты Талстога. Часткаю тое самае зрабіў у двух артыкулах і *У. І. Ленін*.

Калі мы паспрабуем параўнаць Талстога з Марксам, дык мы прымушаны будзем сказаць, што пры ўзаемным надзвычайна вялікім імкненьні ўхіліць соцыяльнае зло, якое дае людзям капіталізм, зьбліжаючым абодвых мысьліцеляў, яны зьяўляюцца антыподамі, аддзеленымі друг ад друга непераходнай, незасыпнай процьмай. Адносна Маркса і Талстога ў гэтым стасунку магчыма паўтарыць словы таго-ж самага Талстога, якія сказаў ён з другое прычыны. Можна сказаць, што Маркс і Талстой,—гэта два канцы незамкнутага кругу. Канцы побач, але больш аддалены друг ад друга, чымся ўсе іншыя часткі.

Калі паспрабаваць абы-як назначыць грубую мяжу паміж Марксам і Талстым, дык трэба будзе, як толькі пачнем прыбліжацца да рачавістасьці, сказаць, што гэта—мяжа, якая аддзяляе матар‘ялізм ад ідэалізму.

І праўда, Маркс—клясычны выявіцель бязбоязнага, даведзенага да канца, пасьлядоўнага ва ўсіх сваіх частках матар‘ялістычнага сьветаўспрыманьня. Талстой—такі самы клясычны выявіцель бязбоязнага, даведзенага да канца ідэалістычнага сьветапагляду.

Для Маркса сьвет—дзеяльны, актыўны, разьвіваецца подлуг сваіх захаваных іманэнтных законаў, ня ведае аніякае волі, што над ім стаяла-б, кіравала-б ім.

Для Талстога сьвет—пасыўны, нядзеяльны, інэртны, кіруецца воляй, што стаіць над ім і ім кіруе.

Аднэй з характэрных рыс ідэалістычнага сьветапагляду зьяўляецца страх перад сьмерцю. Не дарма-ж адна з сучасных гіпотэз паходжаньня рэлігіі шукае карані яе ў гэтым самым страху сьмерці. Пераважная большасьць розных містычных тэолёга-філёзофскіх і блізкіх да іх паглядаў прадыктавана жахам перад сьмерцю, жаданьнем эбавіцца ад прыгнятаючае думкі, што гібель твае асобы—няўхільна. Ад гэтае думкі ідэалістыя і містыкі шукаюць паратунку ў веры, што сьмерць зьнішчыць толькі іхную земную, матар‘яльную абалонку, але душу зьнішчыць нельга, душа — вечная, душа няўмірушчая. „Рэлігія забясьпечвае мне

няўмірушчасьць, дык няхай жыве рэлігія!" казаў у свой час адзін сярод самых рафініраваных рускіх містыкаў *Д. С. Мераўкоўскі.*

Матар'ялізму непатрэбна пацешная вера ў няўмірушчасьць душы. Ён глядзіць проста і бязбоязна ў вочы факту будучага і няўхільнага зьнішчэньня асобы, разглядаючы сьмерць, як адзін з фактаў замены матэрыі. Пачынаючы з Эпікура, праз дэ-ля-Мэтры, аж да новых часоў, матар'ялістыя паўставалі супроць містычнага страху перад сьмерцю. Беспасрэдны філёзофскі папярэднік Кароля Маркса Людвік Фэербах казаў: Fürcht' dich nicht vor dem Tod! Du verbleibst ja Stets in der Heimat (Ня бойся сьмерці! Ты ўсё-ж застанешся на бацькаўшчыне).

Адзін з беспасрэдных філёзофскіх наступнікаў Маркса *Г. В. Плеханаў* паміраючы казаў: „Што гэта за сьмерць? Замена матэрыі". „Ты бачыш бярозу?"—пытаўся ён у жонкі: „мо' я зраблюся калі-небудзь такой бярозай. Што ў гэтым дрэннага?"

Адносіны Талстога да пытаньня аб сьмерці зьяўляюцца надзвычайна паказальнымі для яго ідэалістычнага сьветапагляду. Проблема сьмерці з выключнай сілай усё жыцьцё ганялася за Талстым. Портрэт Талстога магчыма было-б, можа, намаляваць подлуг узору Бэклі: мастак намаляваў свой аўто-портрэт і зьмесціў ззаду сябе сьмерць, якая заглядае яму ў вочы. Пачынаючы з „Севастопольских рассказов" і „Войны и мира", ды канчаючы „Смертью Ивана Ильича", „Тремя смертями", Талстой лепшыя старонкі свае мастацкае творчасьці аддаваў проблеме сьмерці. У момант крызісу пытаньне сьмерці стала перад Талстым з нябывалай моцай. Ён пытаўся ў сябе: „Няхай я дасягну найвялікшых благ, якія магчымы для чалавека,—навошта ўсе яны, калі ўсё гэта скончыцца гібельлю, зьніштажэньнем, сьмерцю?" Ня ўмеючы разьвязаць гэтага злошчаснага пытаньня, Талстой гатовы быў скончыць жыцьцё самагубствам. Выйсьце, што ён знашоў, казала: „Жыцьцё—сон. Сьмерць—прабуджэньне". Гэта быў, бязумоўна, хітра сплецены софізм, які абвяшчаў, што сапраўднае жыцьцё пачынаецца там, дзе яно ў рачавістасьці канчаецца. Гэта было ўяўнае выйсьце, і гэтага ня мог не разумець Талстой. Горкі ў сваіх успамінах апавядае, што калі ён гутарыў з Талстым наконт сьмерці, дык яму здавалася, што ён гуляе з сьмерцю, жартуе з ёю і стараецца неяк ашукаць яе: „Я цябе не баюся, я цябе люблю, я чакаю цябе". А сам востранькімі вочкамі заглядае: „А якая ты? А што па-за табой, там далей? Зусім ты зьнішчыш мяне ці нешта застанецца жыць?"

Гэтае падваеньне было абумоўлена злошчаснай двоістасьцю Талстога. Талстой, які быў паганцам да мазгоў касьцей, які прагнуў жыцьця, любіў усе яго радасьці і асалоды, які навучаў не шкадаваць цела і аскэтычна пазбаўляць сябе самага неабходнага, мог знайсьці толькі ўяўнае выйсьце, верачы ў няўмірушчую душу. Яму патрэбна была няўмірушчасьць цела, але ён ведаў, што такой няўмірушчасьці няма. І гэтая сьвядомасьць зрабілася крыніцай найвялікшай пакуты Льва Мікалаевіча Талстога.

Талстой быў ідэалістым і таму для яго „тая матар'яльная форма, у якой застае нас на гэтым сьвеце прабуджэньне нашае сьвядомасьці сапраўднага жыцьця, зьяўляецца нібы мяжой, што абмяжоўвае вольнае разьвіцьцё нашага духу. Матэрыя—гэта мяжа духу. Сапраўднае-ж жыцьцё—гэта зруйнаваньне гэтае мяжы.

Талстой навучаў, што „нашае сапраўднае жыцьцё гэта ня тое, знадворнае, матар'яльнае, якое адбываецца тут, на зямлі, на нашы вочы, а ўнутранае жыцьцё нашага духу, для якога тое жыцьцё, што мы бачым, толькі рыштаваньні, патрэбныя, каб пабудаваць гмах нашага духоўнага ўзросту".

Значыцца, той сьвет, што наглядаў Талстой, быў спрадвечным сьветам ідэалістых,—сьветам, які бачылі Плятон, Арыстоталь, сьв. Аўгусьцін, біскуп Бэрклі, Фіхтэ, Гегель,—сьветам, расшчэпленым на дзьве паловы. Сьвет духу, ідэі, актыўнасьці і сьвет плоці, грахоўнага цела, пасыўнасьці civitas dei и civitas diaboli, панства боскае і панства шатанскае, там той сьвет і сьвет гэты.

„Пад нагамі мёрзлая цьвёрдая зямля" кажа Талстой, „наўкола вялізныя дрэвы; па-над галавой—хмарнае неба; цела сваё адчуваю; адчуваю боль галавы; заняты думкамі, але тымчасам ведаю, адчуваю ўсёю істотаю, што і моцная, мёрзлая зямля, і дрэвы, і неба, і маё цела, і мае думкі,—што ўсё гэта толькі створана маймі пяцьма пачуцьцямі, гэта—маё ўяўленьне, сьвет, пабудованы мной"...

Такім чынам, калі мы, з першым прыбліжэньнем да рачавістасьці, заўважылі, што Маркс—матар'ялісты, а Талстой—ідэалісты, дык мы цяпер маем магчымасьць гэтую увагу зрабіць больш дакладнай і сказаць, што калі Маркс—об'ектыўны матар'ялісты, дык Талстой—суб'ектыўны ідэалісты. І праўда, у якім сэнсе мы, марксыстыя, называем сябе об'ектыўнымі матар'ялістымі? У тым, што мы прызнаем, што нашы суб'ектыўныя перажываньні зьяўляюцца вынікам зьяў об'ектыўнага парадку. Для суб'ектыўнага-ж ідэалістага не знадворны об'ектыўны сьвет стварае нашы прадстаўленьні—але наадварот.

Я ўспрымаю сьвет так, вы—іначай, трэці—яшчэ іначай, і, такім чынам, няма ведама, чым-жа сьвет зьяўляецца сапраўды, што ён прадстаўляе сабою сам па сабе? Я аб ім разважаю на падставе сваіх суб'ектыўных уражаньняў. На сьвеце тысячы відаў розных жывёлін, і кожны з гэтых відаў успрымае сьвет пасвойму. Значыцца, нашы суб'ектыўныя людзкія прадстаўленьні аб сьвеце не даюць аніякай падставы думаць, што мы маем дакладнае прадстаўленьне аб ім. Вось як звычайна разважаюць ідэалістыя, і гэты іхны спосаб разважаньня нарэшце ўсяго прыводзіць да адмаўленьня ў існаваньні чаго-б та ня было, апрача свае ўласнае асобы—бэрклеанаў соліпсызм, ці, нават, да адмаўленьня свайго існаваньня,—тое, што папярэднік расійскага матар'ялізму, Н. Г. Чарнышэўскі, назваў ілюзіёнізмам.

Аднаго таго, што мы сказалі, хопіць, каб прызнаць ідэалізм Талстога наскрозь прасякнутым самым чыстым суб'ектывізмам. Ён абвяшчае, што ўвесь акаляючы яго сьвет толькі плод яго органаў пачуцьця.

„Людзі“, дзівіцца ён, „ніяк ня могуць пагадзіцца з нерэальнасьцю ўсяго матар'яльнага. Усё-ткі стол ёсьць і заўсёды... ён ёсьць, і для ўсіх ён ёсьць, такі самы, як і для мяне, кажуць звычайна. Ну, а як закруціш два пальцы ды качаеш адну кульку, дык бясспрэчна адчуваеш дзьве? І вось таксама кожны раз, калі я так вазьму кульку, дык будзе дзьве. І для кожнага, хто возьме такую кульку—будзе дзьве, а тымчасам дзьвюх кулек няма. Таксама і стол для закручаных пальцаў маіх пачуцьцяў—стол, а ён, мо', паўстала, адна тысячная частка стала, зусім нават ня частка стала, а нешта зусім іншае“.

Такім чынам, што такое сьвет для Талстога? Гэта нешта не рэальнае, што выклікаецца да жыцьця ігрой нашых пачуцьцяў і прадстаўленьняў. Гэта нешта таемнае, няпрыступнае для нашага разуменьня, што знаходзіцца за сямі замкамі боскае таемнасьці. Сапраўднае разуменьне чалавека канчаецца ў Талстога разуменьнем уласнае асобы. „Колькі-б ня вывучаў чалавек жыцьцё відочнае, даступнае нашым пачуцьцям, тое жыцьцё, якое ён наглядае ў сабе і другіх, жыцьцё, якое адбываецца без натугі з яго боку,—жыцьцё гэтае заўсёды застанецца для яго таемнасьцю“. Сьвет для Талстога—гэта збор непазнавальных кантавых рэчаў у сабе.

Маркс і тут зьяўляецца процілегласьцю Талстога. Ён непазнавальную кантавую рэч у сабе абярнуў на пазнавальную, або, іначай кажучы, ён з рэчы ў сабе перарабіў яе на рэч для сябе. Ён, разам з Энгэльсам, паказаў, што „пудзінг пазнаюць праз тое, што яго ядуць“, што сьвет пазнаюць праз тое, што яго выкарыстоўваюць дзеля нашых людзкіх мэт. Паскольку мы падпарадкуем сабе сьвет, дык няма і ніякае гутаркі аб яго прынцыповай *непазнавальнасьці* і магчыма гаварыць толькі аб яго замалой *пазнанасьці* ў кожны пэўны момант. І ступень гэтае пазнанасьці залежыць ад запасу тых вед, што мае чалавецтва ў кожную даную эпоху. Сьвет, які бачыць Талстой, гэта—сьвет, створаны яго прадстаўленьнямі аб сьвеце. „Усё тое, што мы бачым у гэтым сьвеце“, кажа Талстой, „атрымлівае тую форму, якая ўжо жыве ў нашым прадстаўленьні (сьвядомасьці), набытым у ранейшым жыцьці (ідэі)“.

Значыцца, з пункту погляду Талстога, прадстаўленьне аб кані, прадстаўленьне аб гары і г. д. мы маем толькі таму, што ў нас жыве ідэя каня, ідэя гары і г. д. Гэта-ж пэўны зварот да сярэднявяковага прынцыпу „uniwersalia ante rem!“ У Талстога мы сустракаемся з тэй самай ураджонай, апрыорнай, тагосьветнай ідэяй, якую нізьвяргалі яшчэ Лёк і дэ-ля-Мэтры.

Процілегласьць адпраўных пунктаў Маркса і Талстога робіць іх антыподамі на ўсім працягу іхнае думкі.

Маркс—матар'ялісты. Гэта адначасна гаворыць і аб тым, што ён—атэісты, што ён ня верыць ні ў якага бога. Рэлігія і навука выключаюць друг друга. Прадстаўнікі чыстае навукі заўсёды могуць паўтараць словы выдатнага францускага хіміка, які сказаў, што гіпотэза бога яму не патрэбна. Навука—гэта практыка, нагляданьні, дапытлівае шуканьне. Рэлігія—гэта вера, паданьне, догма. Ня можа быць рэлігійнае навукі, таксама як няма навуковае рэлігіі. Гэтыя словы нельга злучыць, таксама як нельга казаць аб ледзяным вары ці аб кіпячым лёдзе. Маркс быў ідэолёгам рабочае клясы, і таму ён змагаўся супроць рэлігіі ня толькі як вучоны, але прымаў пад увагу і тое соцыяльнае зло, якое яна дае працоўным масам. Маркс лічыў соцыялізм натуральным ворагам рэлігіі. „Надыход соцыялізму“, казаў ён, „гэта—выхад рэлігіі“.

Талстой ня толькі наскрозь рэлігійны мысьліцель, ён—заснавальнік, апостал, навучальнік новае рэлігіі, якую я-б назваў нова-хрысьціянствам, рэлігіі, вызваленай ал элемэнтаў культу, абраднасьці, але ані ня вольнай ад веры ў бога-стварыцеля, бога-кіраўніка, бога-гаспадара. „Я—парабак, а гаспадар—бог!“

„Са мной вось што здарылася: пачаў я больш адцягнена разважаць аб пытаньнях жыцьця, аб тым, у чым яно, навошта яно, да чаго імкнуўся... І я пачаў думаць—дзіўна сказаць—пачаў гадаць—ці ёсьць бог, ці няма яго, і нібы зноў знашоў яго, і так мне радасна зрабілася, і такой моцнай упэўненасьць стала ў ім і ў тым, што мне можна і я павінен мець зносіны з ім, і што ён чуе мяне, і такая радасьць зрабілася... Галоўнае ў гэтым пачуцьці—адчуваньне поўнае забясьпечанасьці, адчуваньне таго, што ён ёсьць, што ён—добры, ён мяне ведае, і я ўвесь абкружаны ім, ад яго прышоў, да яго іду, складаю частку яго, дзіця яго“...

Талстым кіруе „жывое пачуцьцё бога“. Па-за богам няма жыцьця. Па-за богам няма радасьці. Па-за богам няма сьвету. Іначай не магло быць з мысьліцелем, для якога сьвет—гэта шэрае, нуднае царства мяжджэрыстай матэрыі, але для Маркса, які ведаў, што сьвет актыўны, дзейны, чынны, што ён заўсёды аднаўляецца,—для Маркса непатрэбна было ніякай рэлігіі. „Крытыка рэлігіі зрывае непраўдзівыя кветкі з нявольніцкіх пут не дзеля таго, каб чалавек надзеў другія путы—мараў і заспакаеньня, крытыка жадае, каб ён скінуў усякія ланцугі і сарваў жывую кветку. Крытыка рэлігіі штурхае чалавека на тое, каб ён пачаў думаць, дзейнічаць, перабудоўваць рачавістасьць. Так робіць зачэплены крытыкай чалавек, у якога прачнуўся розум.

Дэмаркацыйная мяжа, якая аддзяляе Маркса ад Талстога, цягнецца ў аднолькавай меры па філёзофскай і соцыолёгічнай прасторы.

І Маркс і Талстой добра разумелі надзвычайна цяжкае становішча працоўных пры капіталізьме, разумелі, што нясе капіталістычная цывілізацыя працоўным масам. „У халоднай вадзе эгоістычнага меркаваньня патапіла яна (буржуазія. С. В.) сьвятое парываньне пабожнага лятуценьня,

рыцарскага натхненьня і абыватальскай сантымэнтальнасьці. Яна абярнула ў менавую каштоўнасьць асабістую вартасьць чалавека і на месца бясконцнае колькасьці відаў, шчасна набытай і патэнтаванай вольнасьці паставіла адну бяссорамную свабоду гандлю. Словам, эксплёатацыю, схаваную пад рэлігійнымі і палітычнымі ілюзіямі, яна падмяніла эксплёатацыяй адкрытай, простай, бяссорамнай і сухой". („Комуністычны маніфэст").

„...сучасны рабочы, замест таго, каб узвышацца разам з прогрэсам прамысловасьці, усё больш апускаецца ніжэй умоў існаваньня свае ўласнае клясы. Рабочы робіцца жабраком, і жабрацтва разьвіваецца яшчэ шпарчэй, чымся насельніцтва і багацьце" (Там сама).

„...Награмаджэньне багацьця на адным канцы гэта—адначасна награмаджэньне жабрацтва, пакуты працы, нявольніцтва, цемнаты, зьдзічэньня і моральнага выраджэньня на процілеглым канцы, г. зн. на баку рабочае клясы"...

Так казаў Маркс.

Тая самая процілегласьць паміж узрастаючым багацьцем кучкі чужаедаў і страшнай галечай шырокіх мас, якую абмалёўваў Маркс, складае тую цэнтральную проблему, над разьвязаньнем якой надужваўся Талстой праз усю апошнюю палову свайго жыцьця і няўменьне разьвязаць якую зьяўлялася яго найвялікшым пракляцьцем. Незадоўга перад сьмерцю Леў Мікалаевіч пісаў: „Здавалася-б, што тыя знадворныя варункі, у якіх знаходзяцца людзі нашага часу, павінны былі-б давесьці яго дабрабыт да найвышэйшай ступені. Зямлі, прыгоднае для вырабу, у людзей столькі, што ўсе яны мелі-б магчымасьць са збыткам карыстацца на ёй усім, што патрэбна ім у жыцьці. Сродкі перадачы думак і сродкі зносін (друк, пошта, тэлеграф, чыгункі, паравыя і электрычныя рухавікі, аэропляны і інш.), г. зн. сродкі таго, што найбольш забясьпечвае дабрабыт людзей, сродкі яднаньня, дашлі да высокай ступені дасканаласьці. Сродкаў барацьбы з прыродай, палягчэньня працы прыдумана гэтулькі, што, здавалася-б, усе людзі маглі-б у поўнай меры здаволіць свае патрэбы, без напружнасьці працы, што пазбаўляе вольнага часу і шкодзіць здароўю. Усё гэта ня тое, каб дабрабыт людзей павялічыўся, але, замест гэтага, людзі нашага часу пакутуюць, мучаюцца і целам, і душой, як ніколі ў старыя часы не пакутвалі і ня мучыліся, і пакута і мукі гэтыя павялічваюцца з кожным годам.

Талстой біўся над пытаньнем аб тым бяздоньні, што існуе „паміж людзьмі з чыстымі кіпцямі, устаўнымі зубамі, з удалікатненай вопраткай, ядой, убраньнем памяшканьняў, дарагімі швачкамі,—людзьмі, якія трацяць, не кажу ўжо штодзенна сотні рублёў, па пяць, тры, два рублі штодня, і напоўголымі, напоўгалоднымі, бруднымі, ня маючымі адпачынку, няпісьменнымі і ў заўсёднай залежнасьці ад галечы людзьмі, якія працуюць па 16 гадзін штодня за 2 рублі ў тыдзень. Адносін паміж гэтымі людзьмі,

калі ня станамі, дык разрадамі людзей, інакш яно і ня можа быць, няма ніякіх, апрача загадаў, кары і выпадковай, каб змарнаваць час, нікчэмнай дабрачыннасьці з боку людзей з чыстымі кіпцямі і пакорлівага выкананьня, выпрашваньня і захаванай зайздрасьці і ненавісьці з боку людзей, маючых мазолістыя, брудныя рукі".

Дзе выйсьце? Як знайсьці яго? Як зрабіць? Па якім шляху пайсьці?

Вы ведаеце, па якім шляху пашоў Маркс. Гэта быў шлях гістарычнага дасьледваньня мінулага; у выніку гэтага дасьледваньня Маркс знашоў, што ўся гісторыя людзкое грамады зьяўляецца барацьбой кляс. Гэта быў шлях дасьледваньня мэханізму сучаснага грамадзянства. Вывады і дасьледваньні Маркса—гэта было найвялікшай справай яго жыцьця, зрабіўшай яго імя няўміручым. Маркс вывучыў і выявіў мэханізм эксплёатацыі клясы клясай, прысвоеньня аднымі дадатковай вартасьці другіх, выявіў фэтышысцкі характар капіталу. На падставе свайго дасьледваньня Маркс і прышоў да пагляду на будучыну людзей; прышоў да вываду аб тым, што павінен адбыцца захоп улады новай клясай, рабочай. Але, ці зьяўляецца захоп улады працоўнай клясай сапраўдным пачаткам вызваленьня чалавецтва ці гэта новы этап клясавае барацьбы, замена адных пануючых другімі? Маркс адказаў на гэта: „Усякі, быўшы дагэтуль рух гэта быў рух меншасьці або адбываўся ў інтарэсах меншасьці. Рух пролетарыяту гэта самастойны рух пераважаючае большасьці ў інтарэсах пераважаючае большасьці. Пролетарыят, самы нізкі слой сучаснага грамадзянства, ня можа падняцца, ня можа выпрастацца, ня зьнішчаючы дашчэнту ўсю, што ўзвышаецца над ім, надбудову з слаёў, якія складаюць афіцыйнае грамадзянства. Але Маркс ня быў фаталістым, і ён ведаў, што гэтае вызваленьне, апрача таго, што патрабуе об'ектыўных і пэўных пасланак, вымагае яшчэ значных высілкаў з боку грамадзянства, яго актыўнасьці і энэргіі.

Мы зноў прышлі да аднаго з найбольш галоўных разыходжаньняў Маркса і Талстога, да аднаго з вадападзелаў двох сьветапаглядаў.

У той час, калі для Маркса вызваленьне чалавецтва зьявіцца вынікам правамернага разьвіцьця гістарычнага процэсу, абумоўленага зьменаю вытворчых сіл грамадзянства, і, значыцца, тых матар'яльных варункаў, у якіх існуе чалавецтва, для Талстога гэтыя матар'яльныя варункі зьяўляюцца зусім не першапрычынай, а вытворным ад маральнага і разумовага стану. Значыць, вызваленьне чалавецтва Талстой уяўляе выключна, як рэзультат зьмены гэтае моральнасьці. „Спасеньне нашае цяпер у вадным", кажа Талстой: „у пераконаньні, што сапраўднае жыцьцё наша ня ў целе нашым, а ў тым духу боскім, які жыве ў нас і што дзеля таго, усе тыя высілкі, якія мы пакладалі раней на палепшаньне нашага цялеснага—як асобнага, гэтак і грамадзянскага—жыцьця, мы можам і мусім пакладаць на адну патрэбную і важную для чалавека спра

ву,—на тое, каб кожнаму ў самым сабе выхоўваць і замацоўваць любоў („Любите друг друга“).

У артыкуле „Единая заповедь“ Талстой кажа: „... каб было паміж людзей яснае разуменьне таго, чаго яны не павінны рабіць, дык не магло·б ужо далей трываць тое зьвярынае, прыкрае і розуму, і пачуцьцю жыцьцё, якім мы жывем цяпер“...

Вось якава думка, якая зьяўляецца галоўным асяродкам усіх выступленьняў Талстога па грамадзянскіх пытаньнях. Поўная пагардлівасьць да матар'яльных умоў сучаснасьці, навучаньне прасьвятленьню сьвядомасьці, павышэньню моральнасьці. „Шчасьце не залежыць ад знадворных прычын“—лейт-мотыў, які чуцен на тысячах старонак талстоўскіх твораў. „Дайце мне пункт апоры, і я перавярну ўвесь сьвет“, казаў некалісь Архімэд. Талстой знашоў сабе той пункт, апіраючыся на які, верылася яму, ён здолее перавярнуць увесь соцыяльны сьвет. Вялікая моральная ідэя,—вось адзіны рычаг, пры дапамозе якога Талстой хацеў вызваліць чалавецтва ад таго соцыяльнага уціску, пад якім яно зьнемагае.

Процілегласьць Маркса і Талстога знаходзіць сваё асабістае пацьверджаньне ў тым, што першы быў колектывістым, другі—абсолютным індывідуалістым. Для першага свабода чалавецтва надыйдзе толькі ў выніку зьмены соцыяльных варункаў існаваньня колектыву. Для другога яна надыйдзе праз вызваленьне асобы: вызваліць грамадзянства магчыма толькі праз вызваленьне сябе. У Маркса тэорыя, што ўстанаўляе гістарычную неабходнасьць соцыялізму, апаноўвае сьвядомасьцю мас і робіцца матар'яльнай сілай, дапамагаючай ажыцьцяўленьню гэтае гістарычнае неабходнасьці. У Талстога моральная ідэя, якая ёсьць у галаве і сэрцы асобы, зьяўляецца фактам абсолютнай вартасьці ў самой сабе.

Маркс заклікаў масы да чыннасьці, актыўнасьці, да творчасьці, да перабудовы жыцьця. Талстой строга ганіць усякую спробу чалавека падначаліць сваёй волі грамадзянскі процэс.

Гэтая тэндэнцыя досыць выявілася ўжо ў „Войне и мире“. Наполеон у Талстога—нікчэмны. Наполеон у Талстога гіне найперш дзякуючы таму, што ён хоча падначаліць сваёй волі чалавецтва. Кутузаў у Талстога—вялікі і перамагае таму, што ён пасыўны, таму, што ў ім у значнай меры ажыцьцёўлены каратаеўскі пачатак нявольніцкай пакорлівасьці лёсу, бо, як казаў часамі Платон Каратаеў, „усё на сьвеце адбываецца, дзякуючы ня нашаму розуму, а боскаму суду“. Пасьля крызісу гэтая тэндэнцыя выкрышталізоўваецца ўсё выразьней. Талстой ненавідзіць кожнага, хто будуе жыцьцё, яго зьмяняе, яго перабудоўвае (можа дзіўным выглядае выказ „Талстой ненавідзіць“, але ўсё любячы Талстой умеў ненавідзець усёй сілай сваёй палкай натуры). Талстой—настаўнік сугляданьня жыцьця і моральнага самаўдасканаленьня. Талстой ня хоча перабудоўваць заганы жыцьця—ён хоча ўцякаць ад іх. І не дарма самай шчырай любоўю кахаё ён тых сваіх гэрояў, якія ад соцыяльнага зла, ад людзкой

крыўды, ад грамадзянскага уціску ўцякаюць у кельлі, пустыні і скіты. З якім жаласным замілаваньнем апавядае Талстой аб старцу Фёдару Кузьмічу, былым імпэратары ўсерасійскім, які зрабіўся пустэльнікам, аб айцу Сергіі, пакінуўшым шайтанава царства і пашоўшым у манаскі скіт, аб усіх тых, хто ў аскетычным самакатаваньні пакутуе за грахі тае клясы, да якое ён належаў. І не дарма наступнікі Талстога лічаць за апофэоз усяго яго жыцьця ўцёкі з дому. Роза Люксэмбург таксама з глыбокай пашанай гаворыць аб тым, як ён, „82-гадовы дзед, амаль што перад самай сьмерцю ўцякае і тым вызваляецца ад пут буржуазнага сямейнага жыцьця і накшталт старога асьлепшага арла напружаньнем усіх сваіх апошніх сіл імкнецца ляцець, каб з разьбітымі крыламі пры ветры й тумане памерці ля чужога парога“.

Так, уцёкі—гэта быў адзіны вывад з сьветапагляду Талстога. Не змагацца, не перабудоўваць, не зьмяняць, а ўцячы ад крыўды людзкой, выратаваць сябе ад яе, захаваць незаплямленай сваю белую вопратку і крышталёвую чыстасьць свае душы, сваю асабістую сьвятасьць. Вось і ўсё.

Максім Горкі, які нейкі час быў блізкі да Талстога, добра яго ведаў, добра вывучыў і моцна, моцна любіў, Горкі, які, подлуг яго ўласных слоў, пры спатканьні з Талстым, гатовы быў крычаць усім і кожнаму: „глядзеце, які дзіўны чалавек жыве на зямлі“,—вось што Горкі кажа аб Талстым: „Мяне заўсёды адхіляла ад яго гэтае ўпартае дэспотычнае імкненьне абярнуць жыцьцё графа Льва Мікалаевіча Талстога ў „житие иже во святых отца нашего болярина Льва“...

Чалавек, з якім мае справу Талстой, гэта—ізоляваны ад людзей індывідуум. Гэта ня толькі не Марксаў жывы чалавек, які жыве пры пэўных умовах клясавага грамадзянства, гэта, нават, не фэйербахаў адцягнена-рачавісты чалавек, гэта чалавек да-фэйербахаў. Робінзон, да якога можа мець дачыненьне антрополёгія, але-ж зусім не соцыолёгія.

Для таго, каб ведаць і разумець Маркса, трэба памятаць, што ён быў дыалектык. Маркс быў дыалектык у сваіх філёзофскіх поглядах, у сваіх экономічных дасьледваньнях, у сваіх гістарычных творах, у сваёй політычнай чыннасьці. Дыалектыка была жывой душой марксавай творчасьці, якая не прызнавала аніякае адцягненае ісьціны. Ісьціна, якой карыстаўся Маркс, была заўсёды конкрэтнай, апранутай у цела і кроў гістарычнага факту. Думка Маркса дапытліва пранікала ў нетры рачавістасьці, і яна ніколі ня лётала ў па-завобалачнай вышыні адцягненасьці, і таму ўся яго сыстэма зьявілася гэніяльным сынтэзам уразумелага існаваньня эпохі. Жыцьцё было для Маркса адвечным бязупынным процэсам зьмены адных зьяў другімі, пэрманэнтнай замены зьяў іх уласнымі процілегласьцямі, замены жыцьця—сьмерцю і сьмерці—жыцьцём. Маркс ніколі ня меў дачыненьня да ізоляваных фактаў, а разглядаў іх выключна як фазісы нейкага процэсу ва ўсёй іхнай шматвобразнай сувязі з элемэнтамі рознага парадку.

Калі для разуменьня Маркса заўсёды трэба мець на увазе яго дыалектыку, дык нельга ўразумець Талстога, ня маючы на увазе таго, што ён быў мэтафізыкам. Для дыалектыка *A* гістарычна робіцца *B* і *B—C*; для метафізыка, які мысьліць подлуг прынцыпаў формальнае лёгікі, *A* заўсёды—*A*, усё іншае—софізм і лёгічны фокус-покус. Мэтафізык ад галавы да пят, Талстой мысьліў па формуле: „так—так, не—не, што звыш гэтага, тое—ад д'ябала". Прынцыпы моралі, звычаёвасьці і этыкі Талстой успрымаў, як раз на заўсёды дадзеныя, адвечныя, нязьменныя, непарушныя ў сваёй імпэратыўнай сьвятасьці, ці, лепш сказаць, у сьвятой імпэратыўнасьці.

У свой час Маркс і Энгэльс паклалі шмат працы на тое, каб давесьці адсутнасьць адзінага, усюдыпрысутнага, запраўднага ва ўсім сьвеце прынцыпу.

Для Талстога ісьціна была адзінай, адвечнай, непераходнай: ня гневайся, не аддавайся похаці, не кляніся, не гвалтуй, любі ворагаў,—вымагаў Талстой ад людзей. Моральны кодэкс Талстога ня ведаў эпох, народаў, кляс: так—так, не—не, звыш гэтага—ад д'ябала. Хто з правага боку, хто з левага, хто з богам, хто з д'ябалам. Бязьмежная простолінейнасьць Талстога ня ведала ніякіх компромісаў, засьцярог, зігзагаў. Ня гневайся—вымагаў Талстой, і гэтае вымаганьне сваё адрасаваў да ўсіх, усіх... „Міліярдэр, кароль, кат, турэмшчык, жабрак, міністар, злодзей, пісьменьнік, манах,—хто-б ты ні быў—спыніся", заклікаў Талстой. Ад душагубаў і ад ахвяр, ад гвалтаўнікоў і гвалтаваных, ад павукоў і мух вымагаў Талстой аднаго таго самага. „Ня гневайся, адказвай на гвалт любоўю, любі ворага", заклікаў апостал нова-хрысьціянства. Гвалт—зло, ведаў Талстой. І гвалт быў для яго заўсёды злом. Ён вінаваціў цароў і міністраў, якія гвалтам прыгнятаюць народ, але ў тэй самай меры ён вінаваціў і народ, які пробаваў на гвалт адказаць гвалтам. „Агня нельга патушыць агнём, гвалту нельга спыніць гвалтам", навучаў Талстой.

Мэтафізычнае імкненьне Талстога асабліва выявілася ў яго адносінах да так званых ідэолёгій вышэйшага гатунку—да навукі і мастацтва.

Гэніяльны мастак, Талстой пабачыў, якой моцнай прыладай у руках клясы прыгнятацеляў зьяўляюцца навука і мастацтва, як выкарыстоўваюць эксплёататарскія клясы грамадзянства свае веды, каб падняволіць эксплёатуемых; ён убачыў, як пануючыя клясы бяруць да сябе на службу дасягненьні навукі, і тады Талстой зрабіў так, як і мусіў быў зрабіць паступовы мэтафізык: ён пракляў навуку і мастацтва.

Талстой зрабіўся абсолютным адмоўнікам навукі. Ён злосна, не паталстоўску злосна, кпіў з сучаснае навукі і з яе жрацоў. У гутарцы з Горкім, Талстой неяк сказаў: „Навука—зьлівак золата, прыгатаваны ашуканцам-альхімікам. Вы хочаце зрабіць яе больш простай, зразумелай усяму народу,—значыць: выбіць шмат фальшывай монэты". Талстой быў пасьлядоўным у сваёй мэтафізычнай закасьцянеласьці і дзеля гэтага прыхо-

дзіў да недарэчных софізмаў, якія мяжаваліся з скэптыцызмам невука. У лісьце да селяніна, пад назваю „О ложной науке“ (1 жніўня 1909 г.) Талстой пісаў: „Людзі, якія займаюцца цяпер навукай і лічацца вучонымі, вывучаюць усё на сьвеце. І гэткіх вывучэньняў, што называюцца навукай, такая вялікая колькасьць, што наўрад ці ёсьць на сьвеце такі чалавек, які ня тое, каб ведаў усе гэтыя так званыя навукі, але мог-бы хаця пералічыць іх... І ўсе гэтыя навукі, маючыя самыя дзіўныя, выдуманыя грэцкія ці лацінскія назвы, лічацца аднолькава-важнымі і патрэбнымі. Яны (вучоныя. С. В.) з аднолькавай стараннасьцю і важнасьцю дасьледжваюць пытаньне аб тым, колькі важыць сонца і ці ня сойдзецца яно з такой вось ці гэткай зоркай, і якія казюлькі дзе жывуць, і як плодзяцца, і што ад іх можа зрабіцца, і як зямля зрабілася зямлёй, і як пачала расьці на ёй трава, і якія на зямлі ёсьць зьвяры і птушкі і рыбы, і якія былі раней, і які цар з кім ваяваў, і з кім быў жанаты, і хто калі складаў вершы і песьні і казкі, і якія законы патрэбны, і чаму патрэбны турмы і шыбеніцы, і як і чым замяніць іх, і з чаго складаюцца якія каменьні і якія мэталі, і як і якая пáра бывае, і як застывае, і чаму адна хрысьціянская царкоўная рэлігія сапраўдная, і як рабіць электрычныя рухавікі і аэропляны і падводныя лодкі, і інш., і інш, і інш. І ўсё гэта навукі з самымі дзіўнымі, вычварнымі назвамі. І ўсім гэтым дасьледваньням, якія перадаюцца друг другу з надзвычайна вялікай важнасьцю, канца няма і ня можа быць затым, што справа мае пачатак і канец, а глупству ня можа быць і няма канца“...

Чаму-ж Талстой так бязьлітасна варожы да навукі?

„Адмаўляюся я ад таго, што сярод нас называецца навукай, таму, што ўсё тое, што сярод нас называецца гэтым імем, гэта выпадковы падбор вед, якія патрэбны ці цікавы, ці зьяўляюцца пацехай для невялікай колькасьці людзей, вызваліўшых сябе ад цялеснай, патрэбнай для жыцьця працы і перанёсшых гэтую працу на шыю народу, пазбаўленага ў большасьці выпадкаў самых першабытна-патрэбных яму вед. Адмаўляюся я ад таго, што ў нас называецца навукай яшчэ і таму, што веды, якія на нашым сьвеце лічацца навукай, купляюцца і прадаюцца, як кожны тавар, і таму па кішэні толькі заможным клясам і нямногалікім людзям з народу, якім ці асаблівыя здольнасьці, пераважна памяць для вывучэньня гэтых вед, ці асаблівыя жыцьцёвыя выпадкі даюць магчымасьць, вывучыўшы гэтую выгодную ў жыцьцёвым сэнсе навуку, адыйсьці ад народу і, дзякуючы навуцы, сесьці на яго шыю“. („Еще о науке“. 1909).

Талстой вельмі добра разумеў тое, чаго не разумее большасьць ідэалістых—клясавы характар навукі. Ён казаў: „Калі-б разбойнікі, якія жывуць драпествам, або злодзеі, што жывуць зладействам, склалі сваю навуку, дык навука іхная не магла-б быць нічым іншым, як толькі ведамі аб тым, як найвыгаднейшым спосабам рабаваць, красьці ў людзей, якія трэба мець на гэта прылады і як з найбольшай прыемнасьцю карыстацца

нарабаваным. Тое самае і з навукай нашага пануючага стану". Наскрозь прасякнуты мэтафізыкай, Талстой адвярнуўся ад навукі, якая служыць чужаедным станам грамадзянства, а разам з тым адвярнуўся сьпіной да кожнай навукі. Ён не зразумеў таго, што так гэніяльна проста высьвятліў Маркс, а іменна: што навука з спосабу *заняволеньня* народных мас павінна зрабіцца фактарам іхнага *вызваленьня*, што яна некалі ня будзе ўжо монополіяй пануючых дзесяткаў, а павінна зрабіцца ўласнасьцю працоўных мільёнаў. Талстой не заўважыў соцыяльнага значэньня таго саюзу працы і навукі, аб якім яшчэ Фэрдынанд Ласаль казаў, што ў яго жалезных абоймах згіне парадак эксплёатацыі чалавека чалавекам. Талстой не заўважыў, што і біолёгія, і хімія, і астрономія, і мэдыцына, і іншыя навукі, адносна якіх ён казаў, што яны здавальняюць гультайскай цікавасьці і забіваюць галаву людзей глупствам,—што ўсе гэтыя навукі накіроўваюць да перамогі чалавека над сьляпымі стыхіямі прыроды, што яны робяць з нашых плянэт, замест царства пакуты і плачу, царства радасьці і гармоніі. Ён не заўважыў, нарэшце, што толькі навука здолее асьвятліць чалавецтву шлях, які накіроўвае да таго, што ён сам лічыў найгалоўнейшай мэтай чалавецтва, што толькі соцыолёгія, толькі політычная экономія, толькі іншыя навуковыя дысцыпліны, якія Талстой з пагардай разглядаў, як несапраўдную навуку, высьвятляць чалавецтву, як яно пяройдзе ў тую паласу свайго разьвіцьця, калі „ня будзе людзей галодных або пазбаўленых магчымасьці карыстацца зямлёй, на якой яны радзіліся, ня будзе жанчын, аддаючых на зьдзек свае цела, ня будзе спакусы, п'янства, алькоголю, опіуму... ня будзе падзелу на варожыя народы, ня будзе забойстваў на вайне людзей чужых народаў і свайго народу на гільоцінах і шыбеніцах, ня будзе рэлігійнага ашуканства і шмат чаго іншага"...

Няжывая мэтафізычная догма панавала над жывымі творчаскімі мазгамі Талстога, калі ён выказваў свае разважаньні аб навуцы. Яна паралiжавала яго самыя цьвярозыя думкі па гэтым пытаньні. Калі чытаем разважаньні Талстога аб навуцы, дык увесь час адчуваем нейкае дзіўнае пачуцьцё. Часамі здаецца, што Талстой зразумеў, што не навука, як такая, служыць справе прыгнечаньня і заняволеньня, але яму служыць навука, якую захапілі пануючыя клясы і зрабілі з яе апору сучаснага соцыяльнага ладу.

Не памыляецца, тысячу раз не памыляецца Талстой, калі кажа: „Мы вельмі рады і хвалімся тым, што наша навука дае нам магчымасьць карыстацца энэргіяй вадаспаду і прымусіць гэтую сілу працаваць на фабрыках, або таму, што мы прабілі тунэлі ў гарах і інш. Але, на наша ліха, гэтую сілу вадаспаду мы прымушаем працаваць не на карысьць людзей, а дзеля ўзбагачэньня капіталістых, якія вырабляюць рэчы раскошы або прылады для зьніштажэньня людзей". Але адсюль, здавалася, натуральна зрабіць вывад, які сам сабой прыходзіць на думку,—і гэта вывад аб тым, што чалавецтва павінна імкнуцца, каб устанавіць такі грамадзянскі

лад, калі сіла вадаспаду будзе служыць на агульную карысьць, калі дынамітам будуць прабіваць тунэлі, а ня ўзрываць людзей і г. д., і г. д.; і што людзі павінны змагацца за тое, каб такі лад зьдзейсьніць, павінны яго заваяваць; што справа, значыцца, не ў навуцы, але ў тых грамадзянскіх абставінах, у якіх яна мусіць разьвівацца.

Талстой жорстка кпіў з тых вучоных, якія лічаць, што „навука толькі тады навука, калі чалавек у лябораторыі пералівае з шклянкі ў шклянку вадкасьць, раскладае спэктр, рэжа жаб і морскіх сьвінак, разводзіць на асаблівым навуковым жаргоне нявыразныя, для яго самога незразумелыя, тэолёгічныя, філёзофскія, гістарычныя, юрыдычныя, політыка-экономічныя мярэжы умоўных сказаў“. Ён клікаў іх ад гэтай несапраўднай навукі перайсьці да навукі сапраўднай,—тэй, „якая сапраўды заслугоўвала-б тае павагі, якой цяпер вымагаюць сабе людзі аднэй, найменш важнай, галіны навукі.—Даведацца, як трэба і як нельга наладзіць сумеснае жыцьцё людзей: як наладзіць родавыя адносіны, як выхаваць людзей, як карыстацца зямлёй, як урабляць яму самому, не прыгнятаючы другіх людзей, як адносіцца да чужаземцаў, як адносіцца да жывёлы і шмат чаго другога, важнага ў жыцьці людзей“.

Пракляцьце ідэалістычнае мэтафізыкі неадчэпна навісае над Талстым, калі ён разважае аб навуцы. Дзякуючы гэтаму, ён не разумеў, што пераліваньне з шклянкі ў шклянку вадкасьці, расклад спэктру і тысячы іншых, з яго пункту погляду, бескарысных і, нават, шкодных маніпуляцый, зьяўляецца неабходнымі пасланкамі наладжаньня новага вольнага жыцьця. Ён не разумеў таго, што вельмі добра зразумеў і абаснаваў Маркс,—таго, што кожны крок на шляху падпарадкаваньня чалавеку сіл прыроды зьяўляецца адначасна крокам да соцыяльнага вызваленьня чалавецтва. Далей, ён не зразумеў, што тая самая навука, якую ён называў адзінай сапраўднай навукай, якая паказвае, як надыйдзе новы грамадзянскі уклад жыцьця, пры якім ня будзе ні страшэннай сьмяротнасьці сярод дзяцей, ні простытуцыі, сыфілісу, ні выраджэньня цэлых пакаленьняў і клясавага забойства чалавека,—што гэтая навука да яго часу ўжо выкрышталізавалася ў тую навуковую дысцыпліну, імя якое „марксызм“ і якую Талстой кінуў, як непатрэбнае рызьзё ў кучу псэўдонавуковых тэорый. Марксызму, гэтаму чарназему навуковае думкі, адзінай глебе, на якой у нашыя часы магчыма толькі рабіць карысную працу ў галіне дасьледваньняў аб грамадзянскім чалавеку,—Талстой проціставіў пабожную веру ў тое, што „сапраўднай навукай можа быць і будзе толькі тая навука, у аснову якое будзе пакладзена рэлігійна-моральная навука аб душы чалавека, аб богу і моральнасьці“...

Мо' нікому не пашанцавала так, як Талстому, абмаляваць той нікчэмны і ганебны стан, у якім знаходзіцца мастацтва пры капіталістычным ладзе,—ладзе, што з твораў мастацтва робіць „пацеху, якой у такой вялізнай колькасьці займаецца армія профэсыянальных мастакоў, якая

дае магчымасьць багатым людзям жыць ня толькі не натуральна, але супроць профэсуемага гэтымі самымі людзьмі прынцыпу гуманнасьці жыцьця. Жыць так, як жывуць багатыя гультаі, асабліва жанчыны, далёка ад прыроды, ад жывёлы, у штучных умовах, з атрофіраванымі або ненатуральна-разьвітымі гімнастыкай мускуламі і аслабленай энэргіяй жыцьця нельга было-б, каб ня было-б таго, што называецца мастацтвам, ня было-б тае забавы, пацехі, якая хавае ад вачэй гэтых людзей бяссэнснасьць іхнага жыцьця, ратуе іх ад нэндзнай нуды. Адбярэце ад усіх гэтых людзей тэатры, концэрты, выстаўкі, ігру на фортэп'янах, романсы, романы, якімі яны займаюцца, упэўненыя, што занятак гэтым ёсьць вельмі далікатны, эстэтычны і таму добры занятак, адбярэце ад мецэнатаў мастацтва, якія купляюць карціны, апякуюцца над музыкамі, маюць сувязь з пісьменьнікамі, іхную ролю протэктараў важнае справы мастацтва, і яны ня будуць мець магчымасьці жыць далей і ўсе загінуць ад нуды, тугі, бо ўразумеюць бяссэнснасьць і незаконнасьць свайго жыцьця" („Что такое искусство?").

Але калі Талстой пытаўся ў сябе, чаму мастацтва так перайначана ў нашу эпоху, дык ён не казаў нічога больш, апрача няясных, ідэалістычна-містычных слоў аб тым, што людзі страцілі веру ў праўду хрысьціянскае навукі, што ты сам боскі і брат усім людзям.

Так Талстой да канца ня здрадзіў сабе і сваім памылкам і думаў, што рэлігійна-этычнай вадзічкай магчыма патушыць бязьлітасны пажар клясавае барацьбы і магічнай чарадзейскай моцай эвангельскага слова ажыцьцёвіць царства спакою і „во человецех благоволение".

Меражкоўскі назваў Талстога „тайновидцем" плоці. Так, мастак Талстой быў „тайновидцем", які ўмеў бачыць і рысаваць тое, што недаступна нам, людзям са звычайнымі талентамі і здольнасьцямі, але геніяльны мастак і „тайновидец", пераходзячы ад антрополёгічнага чалавека да грамадзянскага процэсу, ужо ня быў „тайновидцем" і рабіўся напоўвідзячым утопістым. Калі Талстой зьвяртаўся да соцыяльнага жыцьця, дык на яго вачох зьяўлялася бяльмо містыкі і мэтафізыкі, якое перашкаджала яму разглядзець і вывучыць мэханізм гэтага жыцьця. Вось чаму, у той час, калі вялікі „тайновидец" грамадзянскага процэсу—Маркс заўважыў у гэтым процэсе элемэнты наступнага аднаўленьня грамадзянства, адчуў тую клясовую сілу, якая рэволюцыянізуе грамадзянства, у імгле рачавістасьці сягонешняга дня ўбачыў абрысы дня заўтрашняга,—Талстой беспарадна і бясплодна шукаў элемэнтаў аднаўленьня і, не знаходзячы іх, ляцеў у далі, пазбаўленыя ўсякае рэальнасьці або, у лепшым выпадку, спыняўся на консэрватыўных і напоўрэакцыйных грамадзянскіх групах, якім гісторыя ані не дала магчымасьці зрабіцца фактарам рэволюцыйнае перабудовы грамадзянскае організацыі.

Маркс-Энгэльс былі выхадцы з буржуазіі, і іхнай самай вялікай рэволюцыйнай заслугай зьяўляецца тое, што, адарваўшыся ад свае клясы, яны зрабіліся ідэолёгамі клясы, якую пасоўваючыя наперад сілы гіста-

рычнага процэсу прызначылі зрабіцца насіцелем рэволюцыйнага вызваленьня людзей ад рэжыму прыгнечаньня і заняволеньня працы.

Талстой паходзіў з шляхетных вярхоў; ён—найвялікшы і найбольш трагічны сярод пакаленьня каючайся шляхты. З болем адчуваючы сваё пахаджэньне з клясы „ликующих и праздно болтающих“, Талстой ідэалізаваў клясу, якая зьявілася беспасрэдным антагоністым шляхты, г. зн. сялянства. Вялікі пан, які адчуваў усю брыдоту рускага баярства, што сядзела на мужыцкім карку, ён чым болей ненавідзеў паразытычных баяр, тым мацней кахаў працоўнае сялянства.

У вадносінах Талстога да сялянства выявілася традыцыйная псыхолёгія народніцтва, якое бачыла ў адсталых формах земляўласьніцтва рускага сялянства заруку аднаўленьня грамадзянскага ладу краіны. Талстой ідэалізуе быт рускага сялянства, ідэалізуе яго пакорлівасьць лёсу, яго разумную вытрываласьць, яго лагоднасьць і нясупраціўленьне злу гвалтам і выхваляе сялянскую абычайнасьць. Яго ўлюбёны гэрой той, хто выяўляе маральны пачатак на вёсцы, старэнькі селянін. Ён, які ня ведаў умоўнасьцяй культуры, які ня быў папсаваны капіталізмам, які жыве, як належыць жыць земляробу, і потам здабывае сабе хлеб,—ён быў для Талстога будаўніком царства боскага на зямлі. Талстой, які зьяўляўся пакутуючым за свае грахі панам, увасабляўся ў мужыка, пачынаючы з павярхоўнага апрошчаньня,—з саматканай кашулі ды таго што хадзіў босым, і канчаючы тым, што свой сьветапагляд накіроўваў на шлях шматвяковага, мужыцкага, земляробскага сьветаразуменьня. Тыя свае мастацкія хварбы, што зіхацелі найпрыгажэйшымі колерамі каханьня і спачуцьця, аддаваў Талстой тым, у кім ажыцьцяўляўся сялянскі дух адвечнае пасыўнасьці—Платону Каратаеву ў „Войне и мире“, заікліваму Акіму ў „Власти тьмы“. Адным з самых галоўных вынікаў капіталістычнае эпохі зьяўляецца конфлікт паміж вёскай і горадам. Вёска—гэта вогнішча земляробскае працы і горад—гэта кузьня прамысловае працы,—з іх капіталізм робіць антагоністых. Спрэчку паміж горадам і вёскай гісторыя безагаворна вырашыла на карысьць гораду.

У капіталізьме Талстой бачыў толькі адмоўныя бакі. Ён ведаў, што капіталізм прыносіць няшчасьце народным масам, ён бачыў, што капіталізм дарэшты псуе патрыархальна-прымітыўны сялянскі быт, ён бачыў, што крэпасьць капіталізму—гэта горад. І Талстой зьненавідзеў горад—царства д'ябала, пракляў гарадзкую культуру, пераклаў на сваю этыка-рэлігійную мову словы пушкінскага Алека аб гарадох, „где мысли гонят, любви стыдятся, торгуют волею своей, главы пред идолами клонят и просят денег да цепей“.

У горадзе—„плоды просвещения“, на вёсцы—„власть тьмы“.

Талстой злосна зьдекваецца над гэтымі „плодами просвещения“, над пасьледкамі гарадзкое цывілізацыі. І снуе ад сябе духоўныя ніткі да вясковай „*власти тьмы*“.

Горад псуе нявіннасьць вясковага жыцьця, горад робіць распусьнікамі вясковых хлопцаў ды дзяўчат,—і Талстой сумуе аб гэтым таксама, як дзесяткі год да яго сумавалі рускія народнікі. Аднаўленьня жыцьця Талстой чакаў ад вёскі, якой гісторыя ў рачавістасьці пакінула толькі адно выйсьце: скіравацца на шлях соцыяльна-гістарычнага руху на чале з горадам ці быць праглынутым тваньню цемнаты і адсталасьці. У гэтым выявіўся рэакцыйны утопізм Талстога, падобна да таго, як рэволюцыйная празорнасьць Маркса заключалася ў тэй ацэнцы ўзаемаадносін паміж вёскай і горадам, якую ён зрабіў. Аднэй з галоўных заслуг буржуазіі Маркс лічыў тое, што яна падпарадкавала вёску гораду. „Яна“, казаў Маркс у „Комуністычным маніфэсьце“ наконт буржуазіі, „выклікала да жыцьця вялізныя гарады, значна павялічыла гарадзкое жыхарства, параўнаўча з вясковым, і вызваліла, такім чынам, значную частку насельніцтва ад ідыотызму вясковага жыцьця“. Тое, што Маркс называў „ідыотызмам вясковага жыцьця“, здавалася Талстому крыніцай пакорлівай і разумнай лагоднасьці і пакуты расійскага селяніна. І наадварот, там, дзе Талстой бачыў толькі адны злавесныя цені капіталістычнае эксплёатацыі, жабрацтва і распусты, Маркс здолеў ацаніць рэволюцыйную ролю буржуазіі ў часы яе маладосьці. Маркс напамінаў буржуазіі, што ля яе парога стаіць кат гісторыі. Але ён лічыў яе найвялікшай гістарычнай заслугай тое, што „менш чым за сто год свайго панаваньня, буржуазія стварыла больш магутныя і больш вялізарныя вытворчыя сілы, чымся ўсе папярэднія пакаленьні, складзеныя разам“.

Мэтафізычны склад мысьленьня Талстога і дыалектычны розум Маркса знашлі свой поўны адбітак у развагах абодвух мысьліцеляў аб капіталізьме. Адносіны Талстога да гораду—продукту і вогнішча капіталізма, характэрызуецца абсолютным няпрызнаньнем гораду. Варожасьць да гораду, асноўнай орбіты новага гістарычнага пэрыоду, і вельмі паважныя адносіны да вёскі—рудымэнту папярэдняе гістарычнае эпохі,—гэта было з боку Талстога наўмысным ігнораваньнем соцыяльнае рачавістасьці. Талстой і ведаць не хацеў рачавістасьці, якая не згаджалася з яго ідэалам. Гэтаму ідэалу супярэчылі факты,—тым горай для фактаў... Талстой, як і кожны утопісты, гуляў у жмуркі з гісторыяй.

Мастацкі гэні Талстога даваў яму поўную магчымасьць маляваць такі жудасны, якім ён быў, быт царскае Расіі і тым самым абуджаць ненавісьць да гэтага быту. Тыя старонкі, на якіх Талстой апавядаў аб экзэкуцыях, карах сьмерцю, дзе ён казаў аб паразытызьме пануючых, дзе ён маляваў трагічную комэдыю суду, дзе ён даваў абразкі вураднікаў, тупых і самаўпэўненых верхаводцаў, амбітных інтэлігэнтаў,—гэтыя старонкі ва ўмовах царскае Расіі, *міма волі* Талстога або, больш праўдзіва, супроць яго волі, гралі ролю самых лепшых рэволюцыйных проклямацый. Адносна гэтых старонак Пляханаў зазначыў, што ў той час, калі Талстой навучае не пярэчыць злу гвалтам, яны абуджаюць у чытачу імкненьне проціпаставіць рэакцыйнаму гвалту рэволюцыйную сілу. Ён

раіць абмежавацца зброяй крытыкі, а гэтыя яго найлепшыя старонкі бязумоўна выпраўдваюць самую рэзкую крытыку пры дапамозе зброі.

Мастак Талстой быў няўмысным, але магутным агітатарам, які заклікаў да барацьбы з рэжымам уціску, зьнішчажэньня і прыдушэньня чалавечае асобы. Але філёзоф Талстой, моралісты Талстой да гэтай барацьбы ня толькі не заклікаў, але яе сурова ганіў. „Не магу маўчаць“, казаў Талстой, бачачы тое, што робіцца наўкола. Але ня ўмеўшы і не хацеўшы маўчаць, ён утопічна верыў у тое, што царства д'ябала будзе пераможана яго рэлігійна-аскэтычнай навукай. Ён з гэтымі навучаньнямі зьвяртаўся да ўсіх, аж да Аляксандра III і Пётры Сталыпіна, да якіх пісаў вялізныя лісты, поўныя эвангельскіх угавораў. Аб Талстым апавядаюць, што аднойчы, заўважыўшы, як у цэнтры Масквы гарадавы цягнуў кудысь за каўнер 12-гадовую дзяўчынку, якая адбівалася ад яго, Леў Мікалаевіч падышоў да гарадавога і запытаўся ў яго: „Ты, братка, чытаў эвангельле?“ Гарадавы зірнуў на яго з пагардай ды адказаў: „А ты, братка, чытаў наказ гарадавым?“

Утопізм Талстога выяўляўся ў тым, што ён думаў, нібы „наказ гарадавым“ згіне ў выніку апэляцыі да боскай моралі, тымчасам як Маркс ведаў, што „наказ гарадавым“ толькі продукт вельмі складанага процэсу, абумоўленага барацьбой за існаваньне, процэсу, падзяляючага людзей на групы, кожная з якіх да другой—папраўдзе, як воўк. Маркс зразумеў, што „наказ гарадавым“, г. зн. увесь апарат уціску клясы клясай згіне толькі ў выніку самае рэволюцыйнае клясы сучаснасьці, чыя перамога будзе азначаць перамогу ўсяго чалавецтва над прыроднымі стыхіямі і соцыяльнымі супярэчнасьцямі. Калі адносна шмат якіх мастацкіх твораў Талстога трэба сказаць, што яны бязумоўна маюць рэволюцыйнае значэньне, дык прасякнутыя утопічнай мэтафізыкай яго філёзофскія разважаньні, супроць волі Талстога, нібы як кпіны над Талстым, зьяўляліся карыснымі тое самае рэакцыі, супроць якое Талстой абураўся.

На думку консэрватараў усякага роду і масьці, Талстой быў рэлігійным навучальнікам, рэзонэрам, на прыкрыя напамінаньні якога аб эвангельлі магчыма было адказаць вокрыкам аб „наказе гарадавым“. Сталыпіны і Маклаковы, да якіх Талстой адрэсаўваў свае лісты, як да „возлюбленных братьев о Христе“, якім ён казаў, што сорам вешаць і ня добра катаваць, адносіліся да гэтых абвінавачваньняў зусім так, як крылоўскія ваські: ваські рэакцыі слухалі і каталі... Паколькі-ж талстоўскія навучаньні не рабіць і не супраціўляцца злу даходзілі да чулай успрыімнай моладзі, дык яна ліла ваду на млын рэакцыі. Яна схіляла моладзь да таго, што пытаньні соцыяльнае перабудовы грамадзянства будуць разьвязаны толькі па шляху моральнага самаўдасканаленьня. Такім чынам, моладзь навучалася ня йсьці на шлях актыўнае барацьбы з грамадзянскім злом, а спадзявалася перамагчы гэтае зло, уцёкшы ад жыцьцёвага паскудзтва.

Навучаньні Талстога адхілялі моладзь ад барацьбы рэволюцыі і радасьцяй жыцьця ў бок аскетычнага зьнішчэньня ў сабе ўсяго жывога і непраўдзіва-разумнага, эпічнага сугляданьня таго, што робіцца наўкола.

Ёсьць карціна, не памятаю мастака, чыя яна, якая завецца „Виденние Толстого". На ёй намалёваны 80-гадовы дзядок, слабы, нядужы, прыгнечаны гадамі, цяжкімі думкамі ды пакутай. Наўкола гэтага дзядочка—здані: павешаны селянін, труп якога целяпаецца на папярэчыне; азьвярэлы казак, які падняў нагайку над галавой безабароннае жанчыны; галодныя дзеці з уздутымі жывоцікамі—іх шмат, зданяў, наўкола маленькага беспараднага дзядочка, які ў цяжкой раздуме бясьсільна схіліў галаву...

Гэтая карціна нібы ілюструе беспараднасьць Талстога, яго бясьсільле што-небудзь зьмяніць у акаляючым яго сьвеце, сьвеце вялікіх соцыяльных няшчасьцяў, вострых грамадзянскіх конфліктаў, яго поуную расьцярушанасьць перад аблічам суровай соцыяльнай сучаснасьці, зьвярыны твар якое ён так болезна адчуваў, так гэніяльна маляваў і так падзіцячаму—наіўна, так утопічна спадзяваўся ўшляхетніць.

Талстой—апошні сярод вялікіх утопістых, якія ў сваім розуме бачылі недзе ідэал вызваленага з няволі вольнага гарманічнага чалавецтва. Ён не знашоў вялікага гістарычнага шляху, які прыбліжае нас да гэтага ідэалу. Ён блукаў па пустыні абстракцыі, мэтафізыкі, рэлігійнасьці. У гэтай пустыні ён загінуў,—далёка ад таго шляху, якога трагічна-напружна шукаў, але які быў знойдзены ня ім, а яго антыподам—Марксам.

Гісторыя кожныя дзесяць год дае новыя, як граніт непарушныя, довады таго, што ідэал, які даваў натхненьне найразумнейшым людзям чалавецтва, у тым ліку і самому Талстому, ідэал бескласовага грамадзянства і вызваленай ад няволі працы, будзе зьдзейсьнены праз шлях, асьветлены прожэктарам марксызму. Але гэта—ня шлях самапалепшаньня і грамадзянскае пасыўнасьці, а цяжкі, пакутны, цярністы шлях барацьбы і перамогі.

Філёзофія Маркса знашла свайго фізычнага насіцеля ў пролетарыяце ўсяго сьвету; філёзофія Талстога знашла водгук у сотнях адзінак—лятуценьнікаў, утопістых, у большасьці выпадкаў вельмі чыстых, вельмі шляхетных, але вельмі беспарадных і тыорытычна-бясьсільных інтэлігентах.

Навука Маркса зьяўляецца востра-аточанай, загартаванай гісторыяй зброяй у руках самае перадавое клясы сучаснасьці. Навука Талстога зьяўляецца фіранкай, за якой хаваюцца ад соцыяльнай завірухі і навальніцы палахлівыя душы.

Маркс ці Талстой?..

# АГЛЯД НАВУКОВА-ЛІТАРАТУРНАЙ ДЗЕЙНАСЬЦІ Ў. М. ІГНАТОЎСКАГА

**В. Друшчыц**

Навукова-літаратурная дзейнасьць У. М. Ігнатоўскага праходзіла ў цяжкіх умовах. У. М. Ігнатоўскі прымушан займацца навуковаю працаю ўрыўкамі, пастолькі, паколькі яму дазваляў час, адрываемы ім ад адпачынку. Рэволюцыйная дзейнасьць у маладыя годы, у эпоху рэволюцыі 1905 г., два разы вырывае т. Ігнатоўскага з унівэрсытэту.

Першы раз т. Ігнатоўскі за удзел у рэволюцыйнай чыннасьці быў зволен з гісторыка-філёлёгічнага інстытуту ў 1904 г., другі раз з Пецярбурскага унівэрсытэту ў 1907 г. Дзякуючы гэтаму Ў. М. Ігнатоўскі пабываў у трох вышэйшых школах: у Пецярбурскім гісторыка-філёлёгічным інстытуце, Пецярбурскім унівэрсытэце і Дэрпцкім (Юр'еўскім) унівэрсытэце. Вучэньне ў трох вышэйшых школах хаця і з перарывамі, было надзвычайна карысным для спэцыяльнай адукацыі Ў. М. Ігнатоўскага. Самыя перарывы вучэньня ссылкай былі скарыстаны ім для папаўненьня адукацыі; у часы ссылкі т. Ігнатоўскі, прымушаны умовамі нагляду паліцыі спыніць сваю рэволюцыйную актыўнасьць, перачытвае цікавіўшую яго гістарычную літаратуру і пашырае свае веды. Праца ў розных унівэрсытэтах, пад кіраўніцтвам розных профэсароў, асабліва ў сэмінарыях, дае яму магчымасьць рабіць мэтод дасьледчай і навуковай працы. У гэтым кірунку асаблівае значэньне мела праца ў Дэрпцкім унівэрсытэце, дзе т. Ігнатоўскі працаваў у сэмінарыях профэсароў А. Н. Ясінскага, І. І. Лапко і А. А. Васільлева.

Вядомыя вучоныя, яны былі адначасна і вопытнымі настаўнікамі, і кіраўнікамі сэмінарскіх прац студэнтаў. У лябораторных працах пад кіраўніцтвам гэтых вядомых вучоных апрацаваўся навуковы мэтод т. Ігнатоўскага. Але чыста формальны мэтод падыходу да гістарычных зьяў ня мог задаволіць т. Ігнатоўскага. Як рэволюцыянэр, ён ня мог задаволіцца навукай для самай навукі. Чытаючы ў маладыя годы К. Маркса, Каўцкага і др. пісьменьнікаў, ён знаходзіўся ўжо ў час свайго вучэньня пад уплывам ідэй і другога боку. Тав. Ігнатоўскі прыўлашчвае сабе ідэю, што навука павінна быць пярэдана шырокім працоўным масам. Ён перакананы ў тым, што няма навукі для навукі. Што навука ёсьць вялікае арудзь-

дзе, якім карыстаюцца капіталістыя ў сваіх мэтах. Дасягненьні навукі, навуковыя веды павінны быць перададзены ў рукі працоўных мас. Азнаямленьне з гісторыяй, тэй навукаю, якою ён сам цікавіўся, павінна быць шырока распаўсюджана сярод гушч працоўнага люду. Дзеля гэтага кожнаму навуковаму працаўніку патрэбна апрацаваць яшчэ асобны мэтод, мэтод популярнага, гэта значыць простага, яснага, але разам з тым навуковага выкладаньня. Над гэтым дасягненьнем, над дасягненьнем такога мэтоду ўжо ў студэнцкія годы працуе У. М. Ігнатоўскі.

У часы шуканьня і апрацоўкі мэтоду для лепшага і бліжэйшага падыходу да народных мас, т. Ігнатоўскі падыходзіць да вырашэньня свайго імкненьня ў тым, што неабходна скарыстаць нацыянальную мову народу. Гэта пераконаньне апрацоўваецца не адразу. Замахі шырокай рэволюцыйнай дзейнасьці сярод шырокіх мас Пецярбургу, дзе ён працаваў ў рэволюцыю 1905 г., яшчэ захапляюць т. Ігнатоўскага і затрымліваюць яго ўступленьне на больш вузкую сьцежку. Аднак, далейшая праца на Беларусі на пасадзе настаўніка ўсё болей і болей пераконвае ў неабходнасьці гэтага пераходу. Атрымаўшы пасаду настаўніка ў прыватных гімназіях г. Вільні, т. Ігнатоўскі зьвязваецца з Беларусьсю, беларускім нацыянальным рухам. Вільня ў гэты час была цэнтрам адраджэнчаскага беларускага руху, і т. Ігнатоўскі, усёды выдаваўшыся актыўнасьцью і адгукваўшыся на жыцьцёвыя імкненьні, уступае ў цесную сувязь з беларускімі культурнікамі і канчаткова пераходзіць на шлях беларускай працы. Тэорытычны погляд, ужо вызначыўшыся ў студэнцкія годы ў 1904 г., цяпер зьдзейсьніваецца ў практычнай дзейнасьці і адначасна з гэтым і ў навуковых інтарэсах. Ужо будучы настаўнікам у Вільні, свой вольны час,—а яго трэба сказаць амаль што не заставалася ад нагрузкі настаўніцкаю працаю, і фактычна гэта быў час адарваны ад адпачынку,— т. Ігнатоўскі аддае працы над гісторыяй краіны, дзе ён радзіўся і вырас, а іменна, гісторыі Горадзеншчыны.

Гэтаю працаю т. Ігнатоўскі, наколькі я памятаю, займаецца ў 1912 г. Ужо гэта праца вызначыла той кірунак навуковай цікавасьці. Гэта—гісторыя Беларусі, яе жыцьцё ў мінулым. Праца гэта была надрукована пазьней, ужо ў 1920 г., у часопісі „Рунь“, выходзіўшай у Менску.

У гэтым творы т. Ігнатоўскі даў сьціслы нарыс Горадзеншчыны, пачынаючы з XI і канчаючы дзевятнаццатым векам. Вызначыўшы першыя весткі аб Горадзеншчыне і горадзенскіх гарадох: Слоніме, Бярэсьці, Суражы, Кобрыне, Горадні,—першае ўпамінаньне аб каторай адносіцца да 1128 г.—і другіх, аўтар затым дае гісторыю Горадзеншчыны ў часы наступу татар. Значная частка Горадзеншчыны з гарадамі Бярэсьцем, Слонімам Суражам і Горадняй была разбурана нападам татар. Затым Горадзеншчына пападае пад уладу галіцкіх князёў і, нарэшце, уваходзіць у склад Літоўска-Беларускай дзяржавы. Адзначыўшы рост экономічны і культурны Горадзеншчыны да канца XVI в., аўтар далей дае малюнак

цяжкага становішча Горадзеншчыны ў XVII, XVIII ст. ст. У XVII ст. Горадзеншчына страдае ад окупацыі яе рускімі войскамі з 1655—1657 г., а затым швэдзкімі ад 1657 да 1661 г. Як самы горад Горадня так і ўся Горадзеншчына былі зусім разбураны і разараны гэтымі войнамі і окупацыямі. Восемнаццаты век прыносіць новае няшчасьце для Горадзеншчыны. Войскі Пятра I, як союзьнікі, займаюць Горадзеншчыну. На яе тэрыторыі адбываецца вайна паміж швэдамі і саюзнымі польска-літоўскімі і рускімі войскамі. Горад Горадня ў 1706 г. займаецца швэдамі, а ў 1708 г.—зноў рускімі. Горадзеншчына была так разбурана, што урад прымушан быў даць цэлы шэраг льгот для падняцьця экономічнага палажэньня.

Адзначыўшы соцыяльнае, палітычнае і культурнае становішча Горадзеншчыны ў гэты пэрыод, яе заняпад у XVIII ст. і пераход у 1795 г. пад уладу Расіі, т. Ігнатоўскі зноў зьвяртае сваю увагу на разбурэньне Горадзеншчыны ў часы наполеонаўскіх войн. З 1805 па 1812 г. у Горадзеншчыне зьмяшчаецца маса рускіх войск, праходзяць францускія, на тэрыторыі Горадзеншчыны адбываецца цэлы шэраг боек. Окупацыя французамі выклікае контрыбуцыі і рэкруцкія наборы. Усё гэта цяжка адбіваецца на насяленьні, якое страшэнна бяднее. Беднасьць насяленьня, асабліва сялянства, тлумачыцца яшчэ цяжкасьцю прыгону. Прыгон у Горадзеншчыне ўцяжаецца тым, што „паміж панам і селянінам (падданым) была ня толькі соцыяльна-экономічная розьніца, але й нацыянальная. Паны-земляўласьнікі большаю часткаю былі палякі або сполёнізаваныя ліцьвіны і беларусы, а сяляне—проста беларусы; апроч таго, была й розьніца ў веры: памешчыцкая, панская вера—каталіцтва і мужыцкая, хлопская вера—уніяцтва або праваслаўе“.

Зьнішчэньне прыгону ў Горадзеншчыне мала палепшыла становішча сялянства. У Горадзеншчыне было звольнена ад прыгону 349.267 чал. Выкупная сума была вызначана ў 120, 180 і 240 рубл. за дзесяціну зямлі,—сума ў некалькі раз вышэйшая самой каштоўнасьці зямлі.

Такім чынам, ужо ў гэтым артыкуле выразна вызначылася навуковая цікавасьць т. Ігнатоўскага,—гэта мінулае Беларусі з яе цяжкім і зьменным лёсам. Прыгнечаныя капіталам станы грамадзянства, цяжкасьць іх палажэньня выклікае ў аўтара спачуваньне да іх долі, і ўва ўсіх далейшых працах об'ектам досьледаў Ігнатоўскага становіцца Беларусь і яе мінулае.

Другім творам т. Ігнатоўскага зьяўляецца яго „Кароткі нарыс гісторыі Беларусі“, вышаўшы ў трох выданьнях: ў 1919, 1920 і 1921 г. г. у г. Менску. Гэта праца т. Ігнатоўскага найболей вядома шырокім колам грамадзянства. На ёй вучыліся, вучацца і будуць вучыцца як студэнты, так і вучні сямігодак. Напісаны проста, даступна, гэты твор адбівае пэдагогічную здольнасьць т. Ігнатоўскага, заўсёды карыстаўшагася популярнасьцю, як талентны выкладчык. Гэта ўменьне яснага і выразнага выкладаньня

зьяўляецца характэрнай адзнакай творчасьці Ігнатоўскага і самым каштоўным бокам „Кароткага нарысу“.

Трэба сказаць, што першае выданьне, вышаўшае ў часы польскай окупацыі, у значнай меры было скарочана цэнзураю польскай дэфэнзывы і ўбачыла сьвет у страшэнна папсованым выглядзе. Другія выданьні вышлі таксама без належнага перагляду, дзякуючы занятасьці аўтара бягучымі справамі па савецкім будаўніцтве, як наркома, спачатку, землеробства, а потым—асьветы.

„Кароткі нарыс“ склаўся з лекцый, чытаных аўтарам у 1917 годзе ў пэдагогічным інстытуце. У гэтым творы ўжо поўнасьцю выявіліся погляды аўтара як гістарычныя, так і палітычныя. У сваёй прадмове да „Кароткага нарысу“ т. Ігнатоўскі піша:

„Нам усім добра вядомы той палітыка-соцыяльны уклад жыцьця, які быў пад цяжкаю рукою самаўладзтва ўва ўсёй Расіі наогул і ў нас на Беларусі асабіста. Змагаючыся з усім тым, што было карысна для пролетарска-сялянскіх мас Расіі, самаўладзтва разам з тым змагалася з усім тым, што насіла на сабе адзнакі мясцовага нацыянальнага характару. Усё вялікае, агульнае ставілася замест дробнага, мясцовага і нацыянальнага. З афіцыяльнага боку існавала палітычна і культурна толькі адзіная і непадзельная Расія, якая ведала і падтрымлівала адзіную і непадзельную гісторыю, агульна-рускую гісторыю царска-панскага кірунку. На гэтай царскай, агульна-рускай гісторыі адукаваліся і мы, вышаўшыя з працоўных мас Беларусі“.

Дзякуючы гэтаму „мы ніколі ня ведалі і цяпер ня ведаем запраўднай агульна-рускай гісторыі, бо толькі тады магчыма знаць агульнае, калі мы ведаем дробнае, асабістае, прыватнае, з якога складаецца агульнае“.

„Мы прызвычаіліся лёгка глядзець на прыватнае й дробнае і не даваць яму запраўднага значэньня, а часам мы і зусім дробнага ня бачым. Цяпер трэба пісаць і працаваць іначай. Мы павінны з гары спусьціцца ўніз, каб тут, унізе, а не з вышыні птушынага лёту рабіць нашу працу. Калі чалавек з вышыні птушынага лёту глядзіць уніз,—усё здаецца яму гладкім, роўным і аднастайным: зьнікаюць з вачэй этнографічныя і клясавыя межы, кліматычныя й другія адзнакі. Чалавек з гары бачыць толькі агульны плян і ня можа шчыльна прыглядзецца да асабістасьцяй размаіта-каляровага малюнку. Каб добра разглядзець дэталі малюнку, трэба спусьціцца ўніз“.

„І ніводзін куточак нашага ранейшага многапакутнага жыцьця ня можа і не павінен астацца бяз нашага шчыльнага абгляду. І калі ўсе, нават найцямнейшыя куточкі жыцьця ня толькі кожнага народу, але і соцыяльных груп гэтага народу будуць вядомы, тады толькі будзе магчыма ўзяць крыльле вольнай птушкі, падняцца ўверх і адтуль, з вышыні, паглядзець на жыцьцё ўсіх народаў“.

Гэтым уступам т. Ігнатоўскі ясна выявіў свой погляд на гісторыю і свой падход да гістарычных процэсаў. Уразуменьне агульна-гістарычнага процэсу магчыма толькі пасьля вывучэньня гэтага процэсу ў кожнай краіне з яе этнографічнымі, географічнымі і клясавымі асаблівасьцямі. Вывады і абагульненьні магчымы толькі пасьля падрабязнага і шчыльнага вывучэньня фактаў. Вывучэньне мінулага Беларусі набывае значэньне ня толькі мясцовае, але і агульнае—для высьвятленьня агульна-гістарычнага процэсу.

Разам з гэтым вызначаецца і характар самага падыходу да гістарычных фактаў і падзей, характар клясавага высьвятленьня іх.—„Народ" у розных краёх пачынае ўглядацца ў сваю структуру і дзяліцца па сваіх інтарэсах на дзьве няроўныя групы. З аднаго боку зьбіраюцца ў невялічкі гурток эксплёатуючыя элемэнты з вялікім капіталам і яшчэ большым апэтытам. З другога боку расьце вялікая грамада эксплёатуемае працоўнае клясы, спакон веку забітае, пакрыўджанае і аграбленае. Кожная з гэтых кляс-груп пачынае вясьці сваю лінію, гатуецца да барацьбы і, урэшце, змагаецца за свае інтарэсы". Такім чынам, у „Кароткім нарысе гісторыі Беларусі" выразна вызначаюцца дзьве асноўныя рысы прац т. Ігнатоўскага. Першая—гэта неабходнасьць вывучэньня гістарычнага процэсу Беларусі як для высьвятленьня яе мінулага, так і для ўразуменьня агульнага гістарычнага процэсу, і другая,—што народ ня ёсьць якая-небудзь цэльная адзінка, а заўсёды складаецца з розных груп-кляс, інтарэсы якіх зьяўляюцца процілеглымі і выклікаюць барацьбу.

Для лепшага разгляду мінулага Беларусі „Кароткі нарыс гісторыі Беларусі" падзелен на чатыры пэрыоды „па асобнасьцях політычна-соцыяльнага і культурнага жыцьця беларускага народу": Полацкі, Літоўска-Беларускі, Польскі і Расійскі.

Першы пэрыод, выкладзены найбольш поўна, абымае гісторыю Беларусі з IX ст. па XIII ст., другі—Літоўска-Беларускі—з XIII па XVI, трэці—Польскі—з XVI па XVIII і Расійскі—з канца XVIII ст. Апошні пэрыод самы кароткі па тэй прычыне, што аўтар думаў даць асобны нарыс у сувязі з рэволюцыйным рухам на Беларусі.

Ужо чытаючы курс гісторыі Беларусі ў Менскім настаўніцкім інстытуце ў 1917 г. ў г. Яраслаўлі, дзе знаходзіўся пасьля эвакуацыі ў 1915 г. настаўніцкі інстытут, т. Ігнатоўскі чытаў адначасна і курс нацыянальнага руху на Беларусі. У працягу гэтай працы былі напісаны ім лекцыі, якія былі надрукованы ўжо ў 1921 г. ў Менску пад назвай „Кароткі нарыс нацыянальна-культурнага адраджэньня Беларусі". (Лекцыі, чытаныя для студэнтаў Менскага пэдагогічнага інстытуту ў г. Яраслаўлі ў 1917-1918 г. г.). Менск 1921 г.

У нарысе культурна-нацыянальнага адраджэньня т. У. М. Ігнатоўскі дае кароткі, але сьцісла агляд беларускага нацыянальнага руху з пачатку XIX ст. да першых год XX ст. Праца пісалася „ў бежанскім гаротным

стане“ і „ня было патрэбных падручных матар'ялаў, каб зрабіць усё так добра, як жадалася“, і па гэтай прычыне аўтар просіць прабачэньня, „што я, можа, ня так добра і ня так грунтоўна зраблю невялічкую працу маю“. Ня гледзячы на цяжкія умовы працы, т. Ігнатоўскі пераконаны, што ён „павінен быў працаваць, павінен быў палажыць і свой малюсенькі каменьчык у той агромністы будынак, які будуецца цяпер на Беларусі. Мне здавалася, што ўсе сыны Беларусі павінны цяпер стаць на працу для рабочасялянскай бацькаўшчыны сваёй, для сваёй гаротнай старонкі“.

Кіруючыся гэтым сазнаньнем аб неабходнасьці працы кожнага беларуса на карысьць рабоча-сялянскай бацькаўшчыны т. Ігнатоўскі дае свой „Нарыс“, ня гледзячы на ўсе цяжкасьці і перашкоды для працы ў умовах бежанства.

Пры ўсёй сваёй сьцісласьці, праца мае багаты зьмест. Даўшы, як уступ, агляд шырокага нацыянальнага руху сярод эўропэйскіх народаў пасьля Вялікай францускай рэволюцыі, калі „шмат народаў прачнулася“, і „прачнуўся, напасьледак, і народ беларускі“. Беларусы, увашоўшыя ў склад Расійскай імпэрыі, у пачатку XIX ст., былі „як цёмная забітая сялянская грамада, абліваўшая сваім потам і сьлязьмі горкай долі панскую, шляхоцкую зямлю“. Цяжкая паншчына адняла ў беларусаў „пачуцьцё сваёй чалавечай вартасьці і нацыянальнасьці. Ня было часу „хлопу“-беларусу думаць вялікую думку аб тым, хто ён такі, якое ён клясы, якога ён роду і племені. Знаў ён толькі, што ён „тутэйшы“ працаўнік-земляроб; што ён усё робіць і нічога ня мае“. Такое палажэньне беларускага народу адбылося дзякуючы таму, што інтэлігэнцыя адышла ад мужыка і зьлілася з інтэлігэнцыяй ці Польшчы, ці Вялікарусі“.

„Працоўная грамада не магла сама, сваймі ўласнымі сіламі пачаць працу для свайго адраджэньня“. Гэта было цяжка і па тэй прычыне, што беларуская мова, быўшая з XIV па XVII ст. дзяржаўнай мовай ў Літоўска-Беларускім княстве, мова, меўшая багатую літаратуру, у пачатку XIX ст. была ўжо ў стане „простай“, „хлопскай“, „мужыцкай“ мовы. „Яна перастала быць мовай школы, канцэлярыі і царквы“, „яна схавалася ў сялянскай хаце“. Такое палажэньне беларускай мовы давяло да таго, што „і цёмны селянін пачаў думаць, што яго мова ёсьць толькі мужычая мова, мова някультурнага, і беспрацоўнага люду; што на гэтай мове не магчыма ані пісаць, ані чытаць, ані друкаваць кніжак“.

Такую думку пануючыя станы падтрымлівалі сярод сялян, „выстаўляючы на зьдзек простую мову“. „І беларус-мужык, які шанаваў сваю мову, не дагадваўся аб сваёй культурна-нацыянальнай асобнасьці“.

Беларускае адраджэньне пачалося не сярод сялянскіх мас, а сярод апалячанай беларускай інтэлігэнцыі, якая даводзіла, што Беларусь, хаця ў політычным сэнсе зьяўляецца неадрыўнай часткаю Рэчы Паспалітай Польскай, аднак мае „мясцовыя культурныя асобнасьці“.

Адначасна з польскімі творамі адносна Беларусі паяўляюцца „спробы твораў у беларускай мове“. Адным з першых твораў была „Энэіда“, перадаваўшаяся „з вуснаў у вусны і стаўшая як-бы народным творам“.

У 30 і 40 г. г. у польскай літаратуры „зьявілася так званая беларуская школа“. Прадстаўнікамі гэтай школы былі Рыпінскі, Ян Чачот, Баршчэўскі і іншыя, лічыўшыя Беларусь польскай провінцыяй, але пісаўшыя ужо і на беларускай мове.

Адзначыўшы затым працы этнографаў і гісторыкаў як польскіх, так і рускіх—Тышкевіча, Каляйдовіча, Кіркора, т. У. М. Ігнатоўскі пераходзіць да агляду творчасьці Дуніна-Марцінкевіча, Сыракомлі і поэмы „Тарас на Парнасе“, затым разглядае пісьменства эпохі паўстаньня 1863 г. Аглядаючы другую палову XVIII ст., т. Ігнатоўскі яшчэ болей пашырае свой агляд, ахапляючы дзейнасьць этнографаў—Гільдэнбранда, П. Бяссонава, Насовіча, Шэйна, Н. Я. Нікіфароўскага, Раманава, навуковую дзейнасьць акадэміка Е. Ф. Карскага, і дае агляд прац па гісторыі Беларусі рускіх вучоных.

Пасьля гэтага зноў пераходзіць да прыгожага пісьменства і дае нарыс беларускай літаратуры, пачынаючы з Мацея Бурачка і Янкі Лучыны і канчаючы Якубам Коласам, Янкай Купалай, Максімам Багдановічам, Цішкай Гартным і Алесем Гаруном.

Даўшы такі агляд, т. Ігнатоўскі ўсебакова высьветліў як навуковую распрацоўку, зробленую ў XIX ст. адносна Беларусі, так і яе літаратурную творчасьць. Такая праца для студэнтаў пэдагогічнага інстытуту, для якіх яна чыталася, і для пачынаючых азнаямленьне з беларускім пытаньнем якраз надзвычайна патрэбна, бо ў кароткім відзе яна ўсебакова ўводзіць чытача ў сутнасьць справы. У заключэньне т. Ігнатоўскі адзначае, што праз XIX ст. памалу йшла праца па адраджэньню Беларусі. „Працавала шмат народу. Працавалі палякі, вялікарусы і беларусы. Якая будзе далейшая доля—залежыць цалком ад нас, беларусаў. Мы павінны, урэшце, узяць справу ў свае ўласныя рукі“.

З адчыненьнем Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту ў Менску ў 1921 г., т. У. М. Ігнатоўскі быў запрошаны профэсарам па катэдры гісторыі Беларусі. Апроч агульнага курсу гісторыі Беларусі, чытанага для студэнтаў I курсу, т. Ігнатоўскі чытаў на працягу 1922-23 і 1923-24 вуч. год курс гісторыі Беларусі XIX ст. ў сувязі з рэволюцыйным рухам. Гэты курс прыходзілася распрацоўваць па сырым матар‘яле, па непракладзеных яшчэ сьцежках. Вынікам працы зьявіліся лекцыі, адціснутыя пакуль што ў абмежаваным ліку экзэмпляраў на шапірографе і толькі цяпер аддадзеныя ў друк. Праца гэта ёсьць натуральны працяг „Кароткага нарысу па гісторыі Беларусі“; яна абымае гісторыю Беларусі з канца XVIII ст. да сучаснага моманту. Для ўсіх грамадзян, цікавячыхся гісторыяй Беларусі, паяўленьне з друку гісторыі Беларусі XIX і XX ст. ст. будзе вельмі каштоўным здабыткам як па сваёй якасьці, так і па тэй прычыне,

што мы зусім ня маем прац па гісторыі Беларусі XIX і XX ст. ст. Заслуга т. Ігнатоўскага ў гэтым кірунку ёсьць заслуга піонэра.

У часопісях, выходзіўшых у Менску, надрукавана некалькі асобных артыкулаў т. Ігнатоўскага гістарычнага зьместу. З такіх артыкулаў у часопісі „Полымя“ быў надрукован артыкул пад назваю: „З гісторыі асьветы на Беларусі ў пачатку XIX сталецьця“.

У гэтым артыкуле т. Ігнатоўскі дае нарыс дзейнасьці Віленскага унівэрсытэту, адчыненага замест Галоўнай Школы ў 1803 г. Унівэрсытэт складаўся з чатырох факультэтаў: фізыка-матэматычнага, мэдычнага, навук моральных і політычных і філёлёгічнага. Унівэрсытэт меў яшчэ адну асаблівасьць: ён кіраваў усімі школамі Віленскае акругі. Школы большаю часткаю мелі клерыкальны характар. Выкладоваю моваю была мова польская, і праз школу адбываецца „канчатковая полёнізацыя беларускага шляхецтва“. „Аб полёнізацыі сялянства гаварыць ня прыходзіцца затым, што школа была недаступнаю для панскага „быдла“, як тады называлі сялянства“.

Але разам з полёнізацыяй ва унівэрсытэце ідзе і другі нахіл: ва унівэрсытэце вядзецца праца, маючая краязнаўчы характар. Студэнтамі ўтвараюцца гурткі як легальныя—„шубраўцаў“, так і нялегальныя—„філёматаў“ і „філарэтаў“.

Гэтыя гурткі зьбіраюць і распрацоўваюць матар'ялы, сабраныя студэнтамі па розных кутках Беларусі, як этнографічнага, так і прыроднага характару. Ад студэнтаў цікавасьць да мясцовых асаблівасьцяй пераходзіць да профэсароў, сярод якіх паяўляюцца выдатныя дасьледчыкі Беларусі—Лукашэвіч, Ярашэвіч, Нарбут, Даніловіч і інш.

Разгляд дзейнасьці Віленскага унівэрсытэту з боку яго значэньня для Беларусі і яе нацыянальнага адраджэньня зьяўляецца надзвычайна важным, і т. Ігнатоўскі пракладае ў гэтым напрамку першую сьцежку.

У зборніку „Беларусь“, выданым у Менску ў 1924 г., зьмешчаны два артыкулы т. Ігнатоўскага: 1) „Вялікі Кастрычнік на Беларусі“ і 2) „Комуністычная партыя Беларусі і беларускае пытаньне“.

У першым артыкуле даецца гісторыя Кастрычнікавай рэволюцыі на Беларусі. Пры гэтым ахоплена гісторыя Першага Ўсебеларускага Зьезду і яго рады, гісторыя нямецкай окупацыі, затым—дзейнасьць Беларускай Савецкай Рэспублікі, потым—польскай окупацыі і падпольнага руху ў часы польскай окупацыі і, нарэшце, перамога Савецкай улады. У артыкуле „Комуністычная партыя Беларусі і беларускае пытаньне“ высьветлена як дзейнасьць Комуністычнай партыі, так і дзейнасьць Беларускага Савецкага ураду па-за межамі Беларусі ў часы нямецкай і польскай окупацый. Абодва артыкулы дапаўняюць адзін другога. Напісана проста і даступна. Можна толькі пашкадаваць, што занадта зжата, сьцісла. Трэба памятаць, што вялікія падзеі Кастрычніка становяцца ўжо гістарычнымі, а ня сучаснымі фактамі. Многае, што для удзельнікаў здаецца ясным і зразу-

мелым, для падрастаючага пакаленьня невядома. Многія факты, асабліва настрой удзельнікаў, не занатованы ў дакумантальных даных. Пажаданы быў-бы, паводле прыкладу Ленінграда і Масквы, выпуск спэцыяльных зборнікаў дакумантаў і мэмуараў, якія датычацца Вялікага Кастрычніка. Заслуга т. Ігнатоўскага, палажыўшага фундамант у распрацоўцы падзей Кастрычніка на Беларусі, вельмі значна. Будзем жадаць і спадзявацца, што т. Ігнатоўскі будзе працаваць і далей у гэтым кірунку і дасьць болей пэўныя і дэтальныя працы па Кастрычнікавай рэволюцыі на Беларусі, што зьяўляецца надзвычайна патрэбным для азнаямленьня самых шырокіх кол грамадзянства, асабліва маладога, ня бачыўшага і не перажыўшага падзей Кастрычніка.

Для шырокіх кол грамадзянства, для азнаямленьня яго з мінулым Беларусі, а таксама—з яе экономічным сучасным палажэньнем, т. Ігнатоўскі напісаў кніжку на рускай мове пад назвай: „Белоруссия. Территория население, экономика и главнейшие моменты истории“. (Минск, 1924 г.).

У самай популярнай форме т. Ігнатоўскі дае апісаньне тэрыторыі Беларусі, характару яе прыроды, клімату, глебы Беларусі, яе лясоў і іх колькасьці; затым вызначае колькасьць насяленьня і яго нацыянальны склад на аснове перапісу 1897 г. і робіць параўнаньне з перапісам 1920 г.; на аснове таго-ж перапісу 1897 г. дае агляд соцыяльнага складу насяленьня, выяўляючы яго на аснове заняткаў, і высьвятляе гушчыню насяленьня. Адзначыўшы, што падаўляючая большасьць насяленьня, каля 90%, жыве па вёсках, т. Ігнатоўскі дае агляд галоўных гарадоў Беларусі і іх паступовы рост з 1860 г. па 1910 г.

Другі аддзел кніжкі—экономіка Беларусі. У гэтым аддзеле даецца сьціслы нарыс асноўных заняткаў насяленьня Беларусі: земляробства і яго характару ў дробных і буйных гаспадарках, вызначаецца характар землеўладаньня на Беларусі ў даваенныя часы; затым падкрэсьлены галоўныя натуральныя багацьці Беларусі—лес і торф і дан сьціслы выклад даваеннага становішча абрабляючай прамысловасьці на Беларусі; у канцы аддзелу дан агляд рамяства і гандлю на Беларусі таксама ў даваенныя часы.

Трэці аддзел зьмяшчае „Важнейшие исторические моменты“, у якім дан сьціслы нарыс гісторыі Беларусі ад IX сталецьця да акту 4 лютага 1924 г., прынятага прэзыдыумам „ВЦИК“ аб пашырэньні меж Беларускай Савецкай Соцыялістычнай Рэспублікі далучэньнем да яе частак Віцебскай, Смаленскай і Гомельскай губ.

Гэта праца т. Ігнатоўскага, вышаўшая з друку ў сакавіку 1924 г., праз 6 месяцаў была поўнасьцю распрадана. Гэта выразьней усяго сьведчыць аб яе якасьці. І, сапраўды, яна мае такі багаты зьмест і так проста напісана, што задавальняе інтарэсы самых шырокіх кол працоўнага грамадзянства.

У. М. Ігнатоўскі не забывае ў сваіх працах і падрастаючую моладзь. Для азнаямленьня беларускай моладзі з важнейшымі пытаньням

сучаснасьці і гэроічнай барацьбой нядаўнага мінулага працоўных беларускіх мас з сваймі клясавымі ворагамі, ён дае ў часопісі „Маладняк" тры артыкулы: 1) „Бальшавіцкім шляхам", 2) „У кіпцюрох белага арла і 3) „Ленін і прыгнечаныя нацыянальнасьці".

Ува ўсіх вышэйазначаных працах т. Ігнатоўскі выступае як гісторык або палітык-публіцысты, высьвятляючы або мінулае Беларусі, або яе сучаснае экономічнае, нацыянальнае і політычнае становішча. Некалькі асобнае месца займаюць дзьве працы,—ужо не на гістарычныя тэмы, а на тэмы літаратурна-крытычнага характару. Першая—крытычны нарыс „Босыя на вогнішчы" пры поэме М. Чарота тэй-жа назвы і другая—„Мотывы лірыкі беларускага песьняра М. Чарота" (Менск 1922 г.). У першым нарысе т. Ігнатоўскі разьбірае поэму М. Чарота „Босыя на вогнішчы", а ў другой—дае агляд усёй літаратурнай творчасьці песьняра. Для нас гэты артыкул цікавы ня толькі з боку яго об'ектыўнага зьместу, але і з боку выяўленьня поглядаў і настрояў самога т. Ў. М. Ігнатоўскага, выразна адбіўшыхся ў гэтых працах. Лірычныя творы песьняра М. Чарота, у якіх яскрава вызначыліся індывідуальныя імкненьні і сьветапогляды М. Чарота, былі ўдзячнаю тэмаю для т. Ігнатоўскага, і ён з захапленьнем разьбірае іх, бо гэтыя погляды і тэндэнцыі адпавядалі яго ўласным сьветапоглядам і настрою. „Сьвежасьць думкі і пачуцьця, наш комуністычны, пролетарскі настрой і клясавы сьветапогляд родняць песьняра з нашым трывожным, хутка бягучым, рэволюцыйным часам. Пясьняр, апроч таго, зьяўляецца адраджэнцам беларускай культуры, як культуры пролетарых і сялян, падняўшыхся на барацьбу проціў політыка-соцыяльнага, а разам з тым і культурна-нацыянальнага уціску... Усе мы добра ведаем нашага песьняра. Наша радасьць—яго радасьць, наша гора—яго гора". Аднолькавыя тлумачэньні да сваіх сьветапоглядаў мог-бы напісаць т. Ігнатоўскі, бо тыя самыя мотывы клясавага сьветапогляду ў умовах культурнага адраджэньня Беларусі гучаць і праходзяць чырвонаю стужкаю праз усе працы т. Ігнатоўскага. Калі гэтыя ідэі паявіліся ў вобразных поэтычных формах, т. Ігнатоўскі з прыемнасьцю разьбірае іх, бо гэта і яго ўласныя думкі.

„Спрадвеку заплаканы край" стаіць у цэнтры ўсіх думак ня толькі песьняра М. Чарота, як піша т. Ігнатоўскі, але і ў цэнтры думак самога т. Ігнатоўскага.

„Баліць сэрца ў песьняра, што браты яго—сяляне і пролетары Заходняй Беларусі—адрэзаны ад яго панска-польскім кардонам"; ад гэтага-ж баліць сэрца і ў самога аўтара крытычнага нарысу.

„Раць працы ўступіла у бой з капіталам"... „Барацьба і праца, праца і барацьба"—аднолькава адносяцца і да Чарота, і да Ігнатоўскага.

„Назад пясьняр ня пойдзе", піша т. Ігнатоўскі аб М. Чароце: „Ён глядзіць у потнае вакно вялікай будучыны, і хочацца яму разьбіць яго... разьбіць і глянуць, якія колеры хварбуе новы сьвет". Ён поэта новага

закалу. Песьні,—толькі песьні крыўды; песьні аб блакітным небе і кветках не сьпяваюцца ў яго. Ён ня з тых кроткіх, ціхіх поэтаў, якія ня ведаюць поля бойкі. Ён любіць жыцьцё, ён мае сваю індывідуальнасьць, але ён не выключае сябе з тых абяздоленых, ад імя каторых ён гаворыць і сьпявае", і затым дадае: „Маладыя песьняры не павінны вучыцца сьпяваць свае песьні на стары, сумны лад. Трэба сьпяваць весялей для другіх. Трэба падымаць іх дух, сталяваць іх волю". Такім чынам, т. Ігнатоўскі выразна высьветліў і свой настрой, і свой погляд на творчасьць і дзейнасьць поэты і рэволюцыянэра, абавязкам якога зьяўляецца ўзбудзіць „спрадвеку заплаканы край". Тав. Ігнатоўскі ня толькі выразна падкрэсьлівае ідэю клясавай барацьбы ў творах Чарота, але разам з М. Чаротам пераконаны ў перамозе працы над капіталам:

„У жыцьці йдзе клясавая барацьба ўласьнікаў капіталу з людзьмі працы. Рабочыя і сяляне змагаюцца і павінны змагацца з фабрыкантамі і панамі. Павінна быць збудавана ўлада рабочых і сялян, каторая забясьпечыць іх політыка-соцыяльныя правы. Адвечная барацьба паміж капіталам і працай абавязкова закончыцца перамогаю працы".

Апроч гэтых прац, многа артыкулаў т. Ігнатоўскага зьмешчана ў газэтах „Савецкая Беларусь" і „Звезда".

Аглядаючы навукова-літаратурную дзейнасьць т. Ў. М. Ігнатоўскага, можна выразна бачыць, што яго навуковы інтарэс заўсёды зьвязаны з тэмамі, якія датычацца Беларусі. Пачынаючы з першага артыкулу і канчаючы апошнім, т. Ігнатоўскі ўсю сваю увагу аддае распрацоўцы гісторыі Беларусі, беларускага адраджэньня і рэволюцыйнага руху ў Беларусі. Як гісторык па спэцыяльнасьці ён па большасьці распрацоўвае гістарычныя пытаньні.

Нельга не заўважыць, што ў нашай, мала распрацаванай гісторыі, т. Ігнатоўскі праклаў новы сьлед у вывучэньні гісторыі Беларусі і асабліва гісторыі XIX ст., амаль што не зачэпленай да апошняга часу досьледамі гістарычнай навукі. Але т. Ігнатоўскі цікавіцца дасьледваньнем гісторыі Беларусі ня толькі па матывах інтарэсаў чыстай гістарычнай навукі. Ён глядзіць на навуку, як на крыніцу, адкуль патрэбна чэрпаць сілы для беларускага адраджэньня. Культурна-нацыянальнае адраджэньне Беларусі зьяўляецца кіруючай ідэяй т. Ігнатоўскага, бо праз адраджэньне: „Нашу краіну, што звалі ўсе дзікай, зробім квяцістай, прыгожай!" (Чарот). Але адраджэньне само-па-сабе ня ёсьць непасрэдная мэта; т. Ігнатоўскі пераконаны, што культурна-нацыянальнае разьвіцьцё кожнага народу, у тым ліку і беларускага, ёсьць найбліжэйшы і найкарацейшы шлях да інтэрнацыяналізму.

Разглядаючы гістарычныя падзеі, як марксысты, т. Ігнатоўскі высьвятляе іх з боку клясавай барацьбы. „Народ" ня ёсьць цэльнае, аднольковае цела, „ён дзеліцца па сваіх інтарэсах на дзьве няроўныя групы... Кожная з гэтых кляс-груп вядзе сваю лінію, гатуецца да барацьбы і, урэшце, змагаецца за сваі інтарэсы.

# НЕЎСТАНОЎЛЕНЫЯ ВЫПАДКІ НАШАГА ПРАВАПІСУ

Я. Лёсік

Сюды трэба аднесьці перш-на-перш: 1) правапіс гуку „і“; 2) правапіс складаных слоў і 3) правапіс чужаземных слоў.

1. **Правапіс гуку і.** Правапіс гуку „і“ падпарадкаван у нас аднаму правілу з правапісам гуку „у“. Правапіс Тарашкевіча, які стаў цяпер *беларускім* правапісам, дае такое правіла: „На пачатку слова дзеля вялікшае складнасьці **у, і** замяняюцца на кароткае **ў, й**, калі яны стаяць пасьля галоснага гуку: *мы ўжо зрабілі, я йду да цябе*“ (Белар. граматыка для школ, стар. 6, 1918 г.). У другім месцы, на стар. 69-й тэй-жа граматыкі, чытаем: „Галосныя **у, і** дзеля складнасьці (?) замяняюцца на **ў** і **й**, калі папярэдняе слова канчаецца галосным: *было ў бацькі тры сыны; яна ўжо пашла; ён яго й поіць і корміць; яна йдзе* і г. далей. Але пасьля зычнага **у** і **і** не замяняюцца на **ў** і **й**: *я тут ужо даўно; ён у хаце; ён ідзе сюды, брат і сястра* і г. д.“

Агулам кажучы, гэтае правіла ў аснове можна прызнаць „правільным“, але ў такой супольнай форме яно занадта агульнае для пісьма і дае шырокі прастор асабістаму разуменьню таго, што такое *складнасьць*, дый справа тут ня ў „складнасьці“, а ў пэўным *фонэтычным* законе.

Калі правапіс гуку **у** на аснове гэтага правіла дагэтуль ня выклікаў яшчэ асаблівага непаразуменьня, то справа з правапісам гуку **і** стаіць зусім блага. Трэба глянуць на нашыя кнігі, каб адразу кінулася ў вочы што ў правапісе гэтага гуку пануе поўнае бязладзьдзе: нескладовае (кароткае) **й** кожны піша там, дзе яму здаецца *складней*. Тымчасам, на пісьме кожны значок, кожная літара павінна падлягаць пэўнаму цьвёрдаму правілу, каб кожны аднолькава разумеў значэньне й месца гэтых літар і значкоў на пісьме.

Падбіваць правапіс гуку **і** аднаму супольнаму правілу з правапісам **у** нельга, бо гэта гукі розныя паміж сабою як сваёю прыродаю, так і сваім значэньнем у мове. Яны займаюць рознае палажэньне ў мове, ставяцца ў розныя гукавыя злучэньні і супольным правілам кіравацца ня могуць.

Зблiжае гэтыя гукi адна ўласьцiвасьць, адзiн фонэтычны (гукавы) закон—яны могуць быць *складовымi й нескладовымi.*

Напрыклад: у словах „iду“, „навука“ гукi **i**, **у**—*складовыя*, або галосныя, бо твораць асобныя склады (*i-ду, на-ву-ка*), а калi мы скажам *ты йдзеш, ён наўчыцца*, то тыя самыя гукi сталi ўжо *нескладовымi*, або зычнымi цi „кароткiмi“, як няправiльна iх называюць.

Паводле-ж свайго значэньня ў мове, гэтыя гукi, пры асобным ужываньнi, зусiм розныя памiж сабою. Ужываючыся асобна, гук **i** бывае або *злучнiкам* (брат i сястра, вада й агонь), або памацняльным *дапаможнiкам* (**Ï** куды ты пойдзеш, гэтакi малы?! Вот табе й на!), а гук **у** ў такiх выпадках бывае толькi *прыназоўнiкам* (предлогом): *у хаце, было ў бацькi тры сыны*; як прыназоўнiк, ён можа стаць прыстаўкаю: *умыць, улетку.*

Будаваць правапiс гэтых гукаў на аснове *складнасьцi* нельга, бо гэта паняцьце няпэўнае, суб'ектыўнае. Яго трэба абаперцi на фонэтычны закон, якому падлягаюць гэтыя гукi ў беларускай мове.

Паводле гэтага закону, гукi **у**, **i** памiж зычнымi або пасьля зычнага заўсёды будуць складовымi, напрыклад: *лiпа, лiпiнка, сiнi; сук, суку, мука, навука.*

Пасьля галоснага перад зычным, а таксама пасьля галоснага ў закрытым складзе знаходзiм **ў**, **й** нескладовыя, напрыклад: праўда, воўк, поўсьць, жэўжык, воўна, поўны, тоўсты, роў, кроў, даў, казаў, гарэў, цярпеў; вайна, капейка, хвойка, зайцы, край, гай, мой, твой, салавей муравей.

Гэтаму не супярэчаць такiя словы, як *хваiнка, поiць, краi, звычаi* i iншыя, дзе пасьля галоснага перад зычным стаiць складовае **i**. Гэта аб'ясьняецца недакладнасьцю нашага кiрылiчнага пiсьма. Правiльна, паводле гукавога пiсьма, такiя словы трэба запiсаць так: *хвайiнка, пойiць, крайi, звычайi.* Такiм парадкам, складовае **i** стаiць тут памiж зычнымi, на сваiм законным месцы. У такiх словах, як „хваiнка, поiць, краi“, аснова канчаецца на нескладовае „й“, а далей ужо йдуць суфiксы або флексii.

Напрыклад: у слове „хваiнка“ (ад „хвоя-хвойа“) аснова будзе „хвой“ (не пад нацiскам „хвай“), а потым iдзе суфiкс „-iнк-“, як ад „лiпа“—„лiп-iнк-а“; у слове „поiць“ аснова „пой“, а суфiкс—„i“, як у слове „кос-i-ць“, а ў словах „краi“ (край-i), „звычаi“ (звычай-i) аснова „-край-“, „-звычай-“, а далей стаiць канчатак множнага лiку йменьнiкаў з мяккаю асноваю, як у слове „конь—кон-i“.

Усе асновы падобных слоў канчаюцца на „й“, а вядома, што суфiксы й канчаткi не зьмяняюць асновы, а толькi прыдаюць iм новую форму, а разам з формаю—новае значэньне, падобна да таго, як вушка, прыробленае да гладышыка, або казырок, прышыты да шапкi, не зьмяняюць самога прадмета, а толькi прыдаюць iм iншую форму.

Карацей сказаць, нашыя літары **я, е, ё, ю, і** пасьля галосных азначаюць два гукі: **й**+адпаведны галосны. Адгэтуль, калі мы скажам: *нагою, рукою, сястрою*, то гэта будзе: *нагойу, рукойу, сястройу*.

Значыць, **й** (нескладовае) можа стаяць ня толькі пасьля галоснага перад зычным (*вайна*) ці пасьля галоснага ў закрытым складзе (*твой, гай*); яно можа стаяць і паміж галоснымі: *мною-мнойу, сабою-сабойу, ёю-йойу* і т. далей. Тымчасам, нескладовае „ў“ паміж галоснымі стаяць ня можа. У такіх разох на месцы „ў“ стаіць „в“ або „л“, бо гэтыя тры гукі ў беларускай мове чарадуюцца паміж сабою, напрыклад: *гадоўля—гадаваць, будоўля—будаваць, галоўка—галава, поўны—повен, чаўны—човен, насіў—насіла, прасіў—прасіла* і т. д.

Гук „у“ мае яшчэ адну ўласьцівасьць. Калі ён стане на пачатку складу *пад націскам*, то прымае да сябе прыдыханьне ў форме блізкага да сябе гуку „в“, напрыклад: *вугаль, вугал, навука, павук*.

Прыдыханьне гэта адпадае, калі націск зыходзіць з „у“, напрыклад *навука—наўчыцца, павук—паўціна, вугаль—угольчык*.

У гутарках Заходняй Беларусі прыдыханьне ў такіх разох адпадае заўсёды (бач. запісы Федароўскага), а ў літаратурнай мове найчасьцей застаецца пры „у“ й не пад націскам: *навучаньне, павуціна* і г. далей, хоць фонэтычна яно тут непатрэбна. Гук „о“ пад націскам таксама прымае прыдыханьне „в“ (*вока, вочы, восень, возера, вокны, навогул, Радзівон*), але гэтае прыдыханьне адпадае заўсёды, калі з гуку „о“ націск зыходзіць, напрыклад: *вокны—акно, аконца; восень—асеньні, возера—азёры, навогул—наагул* і г. далей.

На гэтых фонэтычных законах трэба й будаваць правапіс для нявыразных гукаў **у** й **і**. А нявыразнымі яны бываюць толькі ў тых разох, калі стаяць асобна або на пачатку слова, бо ў іншых гукавых злучэньнях яны заўсёды выразныя (*сіні, суну*) і запісваюцца так, як чуваць.

Трымаючыся фонэтычнага закону, якому падпарадкаван гук „у“ ў беларускай мове, правіла для правапісу гэтага гуку ў выпадках яго нявыразнасьці трэба выразіць так: *калі „у“ стане асобна ці на пачатку слова, то пасьля галоснага перад зычным трэба пісаць „ў“ нескладовае*, напрыклад: было **ў** бацькі тры сыны, было гэта *ўчора* і г. далей.

Сьцісла датрымліваючы гэтае правіла, паміж галосным трэба пісаць „в“, а ня „ў“, напрыклад: *хата в агні, каза ўлезла в агарод*, а таксама калі „ў“, стоячы ў канцы слова (у закрытым складзе), сустрэнецца з словам, што пачынаецца з галоснага гуку, то лепш пісаць „в“, напрыклад: *ішов адзін, жыв адзін кравец*.

З няпрывычкі такое пісьмо можа паказацца штучным, але яно граматычна правільнае.

Але каб „старыны ня рухаць, а навін не заводзіць“, то правапіс нескладовага „ў“ можна абмежаваць аднэй умовай, як гэта было ў Тарашкевіча, г. зн., што „ў“ пішацца тады, калі гук „у“ стане пасьля галоснага,—тым больш, што такое пісьмо ня выклікала дагэтуль асаблівых конфліктаў з фонэтыкай мовы, бо гук „у“, будучы нявыразным, заўсёды займае аднолькавае месца й значэньне ў мове—прыназоўніка ці прыстаўкі.

Выключэньне трэба зрабіць толькі для такіх слоў: *увага, уважліва, умова, угода, урад, урадовы, упадак, уклад, уціск, ухвала, устава* і нек. іншых. Гэтыя словы лепш заўсёды пісаць з „у“ складовым. Таксама пачатковае „у“ ў чужых словах ніколі не падмяняецца „ў“: *унівэрсытэт, унівэрсал, Уран, узурпатар, Угоршчына* і іншыя.

Ня тое з гукам „і“. Гэты гук у нявыразных выпадках займае рознае месца і мае рознае значэньне, як зазначалася вышэй, а дзеля таго яго правапіс мусіць быць крыху „труднейшы“ за правапіс свайго сябра—гуку „у“.

Агулам правапіс гуку „і“ можна выразіць так: *калі „і“ стане пасьля галоснага перад зычным або паміж галоснымі гукамі, то пішацца „й“ нескладовае*, напрыклад: „*Ой рана на Йвана, прышло й лета, рэчкі й азёры, прышла Йльля; хто йдзе, той паклоніцца* і г. далей.

Пасьля зычнага або паміж зычнымі будзе „і“ складовае, напрыклад: *дзень і ноч, вот і добра!*

Дзеля таго, што „і“ можа быць і злучнікам і дапаможнікам, а ў залежнасьці ад гэтага займаць рознае палажэньне ў мове, то ў правапісе яго трэба мець на увазе такія выпадкі:

1. Будучы злучнікам, „і“ становіцца нескладовым (пры вызначаных правілам умовах) у тых разох, калі злучае аднолькавыя часьціны зьлітага сказу, што ня маюць пры сабе паясьняльных слоў, г. зн., калі „і“ злучае *чыстыя*, поруч пастаўленыя і без паясьняльных слоў, аднолькавыя часьціны зьлітага сказу, напрыклад: *саха й барана* самі не багаты, а ўвесь сьвет кормяць. *Ціха й плаўна* коцяцца воды. А цемната ўсё *гусьцее й гусьцее* ды закрывае ад вачэй і поле, і лес. *Пуста й гола* ўсюды. Тут поплеч *рэчка й поле. Бацька й маці* вярнуліся з поля.

Але калі паміж аднолькавымі часьцінамі зьлітага сказу стаіць якое-небудзь паясьняльнае слова або калі пры пералічэньні ў зьлітым сказе робіцца перапынак (паўза) у голасе (на пісьме гэтая паўза азначаецца коскаю), то „і“ застаецца складовым („не скарачаецца“), напрыклад: Яны разам *вучыліся* і разам *пасьвілі* скацінку ў полі. Ён цяпер мае ўжо сваю сямейку, свой прытулак, *жывёлу* і свой *кусок* хлеба. Стаіць машына, грозна *дыша* і сівым дымам цяжка *пыша. Ідзе* жняя *і* весела *пяе*. Тут былі—*і* старыя, *і* малыя, *і* бабы, *і* дзеці.

Само сабою разумеецца, што злучнік „і“ ніколі „не скарачаецца“ на пачатку новага сказу ці пасьля якога-небудзь знаку прыпынку, напрыклад, у такіх сказах: Ідзе наш дзядзька, *і* па бруку адзін за дзесяць робіць груку. Мы з ім сустракаліся, *і* часта.

У вершах, дзеля складу, „і“ ў такіх разох можа „скарачацца“ й „не скарачацца“ (слова „скарачацца“ трэба разумець так, што „і“ перастае тварыць склад, г. зн. перастае быць галосным ды падмяняецца ётам—*й*; а самае лепшае гэтага слова ня ўжываць ды казаць: „і“ складовае або нескладовае ці *ёт*), напр.: Стогне, плача *і* галосіць завіруха злая. Конік, сошка *і* араты мерна йдуць па полю (*Я. Кол.*). У стуку *і* груку забудзем мы муку працы свае (*Я. Куп.*).

2) „І“, будучы памацняльным дапаможнікам, звычайна падмяняецца ётам (й), калі стане пасьля галоснага або паміж галоснымі, напр.: Вот табе *й* на! Прышло *й* лета. То *й* добра! Галоднаму *й* пушнінка-малінка. Сіла *й* салому ломіць. Адны вочы *й* плачуць, і сьмяюцца. Ён яго *й* поіць, і корміць (У гэтых двух прыкладах „і“ можна разглядаць, як злучнік з памацняльным значэньнем). Ляніваму каню *й* дубіна ня страшна. Аднаму *й* у кашы ня спорна. Няўжо-ж ты *й* гэтага ня ведаеш?!

Тут можа быць выключэньне толькі ў тых разох, калі памацняльнае „і“ вымаўляецца з націскам; тады пасьля папярэдняга слова робіцца паўза, а „і“, як на пачатку складу, вымаўляецца з ётам (*йі*). Дзеля таго, што ў нашым пісьме ётавыя галосныя не азначаюцца, то ў такіх выпадках, разумеецца, трэба пісаць „і“ складовае, як пасьля зычнага, напр.: *Аднаму і* ў кашы ня спорна. Ляніваму *каню і* дубіна ня страшна. *Адны* вочы *і* плачуць, і сьмяюцца.

Трэба памятаць, што нескладовы злучнік „і“ і нескладовае памацняльнае „і“ вымаўляецца *зьлітна* з папярэднім словам, бо зычныя гукі заўсёды як-бы прыліпаюць пры вымове да галосных, напр.: Вот *табе й* на! Няўжо-ж *ты й* гэтага ня ведаеш?! *Сіла й* салому ломіць. *Саха й* барана.

У гэтых прыкладах словы: „табе й“, „ты й“, „сіла й“, „саха й“ вымаўляюцца зьлітна, як „тый“, „табей“, „сілай“, „сахай“ і г. далей.

3) У дадатак да правапісу злучніка „і“ трэба сказаць яшчэ вось што. Сынтакс беларускае мовы вучыць нас, што злучнік „і“ часта падмяняецца злучнікам „ды“ ($да+і=ды$).

Гэты злучнік „ды“, агулам кажучы, мае аднолькавае значэньне з злучнікам „і“. Розьніца паміж імі тая, што злучнік „і“ мае больш агульнае значэньне; ён зьвязвае як далейшыя, так і бліжэйшыя паняцьці, а злучнік „ды“ ўжываецца толькі для больш цясьнейшага злучэньня слоў.

Найчасьцей гэты злучнік зьвязвае выказьнікі (сказуемые), надаючы ім характару большае чыннасьці, руху і лёгкага процівастаўленьня. Злучнік „ды“ заўсёды ставіцца ў тых разох, калі трэба выразіць, што на-

ступнае дзеяньне-выказьнік становіць сабою як-бы вынік (рэзультат) першага, напр.: Напісаў прашэньне *ды* да міравога. А ён ўзяў *ды* расказаў усё чыста. Увашоў *ды* моўчкі стаў каля дзьвярэй. Запрэгла муха шэсьць камарыкаў *ды* паехала ў сьвет. Выбраў воўк найбольшага барана *ды* кажа яму. Воўк схапіў віёрку *ды* хацеў яе зьесьці. Паскакаў мароз каля яе, а як разумнае гутаркі не пачуў, дык узяў *ды* замарозіў яе.

Такім парадкам, у некаторых разох там, дзе мог быць злучнік у форме складовага ці нескладовага „і“, ставіцца злучнік „ды“.

Злучнік „ды“ можа прымаць пасьля сябе памацняльнае „і“, калі трэба надаць выказьніку большай сілы й значэньня. Такое памацняльнае „і“ звычайна пішацца зьлітна з „ды“, напр.: Глянуў *дый* заплакаў. Узяў *дый* пабіў скрыпку на друзгі. Што-ж?—кажа баран воўку:—такая мая доля! Але каб ня мучыцца мне доўга *дый* табе каб не ламаць зубы аб мае старыя косьці, дык стань у лагчынцы ды разьзяўся, а я ўзьбягу на ўзгорак, разганюся ды ўскочу табе ў горла цалкам.

**2. Правапіс складаных слоў.** Дагэтуль у правапісе складаных слоў, як у правапісе гуку „і“, нашае пісьмо ня мае адзінства й згоды. Кожны піша так, як яму здаецца лепш і выразьней, хоць прынцып для правапісу складаных слоў паложан яшчэ Б. Тарашкевічам у яго „Бел. граматыцы для школ“. Гэты прынцып выражан ім у правіле для правапісу *складаных* лічэбнікаў; яго застаецца толькі разьвіць ды правадзіць на практыцы.

Правапіс *складаных* слоў шмат залежыць ад таго, *якія формы* слоў леглі ў аснову складанага слова. Дзеля гэтага трэба, хоць каротка, азнаёміцца з спосабамі складаньня слоў у беларускай мове і з тымі прычынамі, што вытвараюць складаньне слоў. Аб гэтым у Карскага (Белоруссы, т. II, 2, стр. 113) чытаем вось што:

Складанае слова вытвараецца тады, калі два (ці больш) словы, стояўшы ў сказе ў пэўных сынтаксычных суадносінах паміж сабою, так цесна зьліваюцца, што набываюць новае агульнае значэньне; пры гэтым першая часьць слова звычайна аслабляе й сваё формальнае значэньне, часта прымаючы ў іменьніках форму асновы. Дый другая часьць таксама пасьля складаньня ў некаторых выпадках зьмяняе сваю форму.

У формы складаных слоў могуць уваходзіць усе часьціны мовы. Для правапісу цікавы толькі тыя складаныя словы, што зложаны з зьменных часьцін мовы—з слоў скланяльных і спрагальных.

Калі два словы зьліваюцца ў адно, то першае можа не зьмяняць свайго граматычнага канчатку; яно толькі траціць здольнасьць скланяцца, калі гэта скланяльнае слова, напр.: *пазногаць, вялікдзень.* Часта аснова першага слова зьвязваецца з другім словам т. званымі злучальнымі гукамі *-о-*, *-е-* (не пад націскам *-а-*, *-я-*, напр.: верб*а*лоз, земл*я*трус, кур*о*дым, сух*е*дні.

Першы род складаньня слоў (бяз злучальных гукаў) называецца *зьлітным складаньнем* (вялікдзень, пазногаць), а другі (з злучальнымі гукамі)—*сувязным складаньнем* (*вербалоз, сухедні*).

Але часта ад складанага слова, вытваранага *зьлітным* складаньнем, роднае яму слова выводзіцца ўжо пры помачы складаньня *сувязнага*, напр.: ад „вялікдзень“ прыметнік „вялікодны“ мае злучальны гук, або сувязь „о“, чаго ў пачатковым слове ня было: *вялікдзень*—вялік+дзень.

Калі абедзьве часьці складанага слова, вытваранага зьлітным ці сувязным складаньнем, становяць сабою словы *зьменныя*, то яны (гэтыя часьці складанага слова) могуць стаяць у розных сынтаксычных суадносінах, або ў рознай сынтаксычнай сувязі паміж сабою. Гэтая сувязь можа быць *незалежная (мёд-віно піць, бел-малойчык, бел-кудравы, рыжа-пярэсьценькі; айцец-маці плачуць*, каля Дунаю ходзячы, у Дунаю просячы), або *падпарадкаваная*, ці залежная; падпарадкаваньне можа быць: а) азначальнае *(дабрыдзень*; ты мне й *дабрыдзеню* майму ня рад), б) дапаўняльным (*мядзьведзь, ліхадзей*) і в) абладальным (*сухадушны*). Складаньне сувязнае звычайна бывае падпарадкаваным, або залежным; слоў з незалежным злучэньнем у сувязным злучэньні ў беларускай мове бадай што няма. Такія выпадкі, кажа Карскі, вельмі рэдкія.

Вытварэньне складаных слоў у народнай мове вызначаецца стройнасьсьцю [1]) ў сваёй пабудове; нязграбных вытварэньняў, якія часта бываюць у літаратурнай мове (сямёхгодка [2]), трохкутнік), асабліва ў перакладах

[1]) Гэта слова *чыста* беларускае, напр: „Саўка ды з Грышкам *строілі* дуду“, значыць наладжвалі, каб добра йграла.

[2]) На слове „сямёхгодка“ (назоў школы) варта затрымацца, бо яно трапіла, нават, на вывескі і, такім парадкам, гатова абярнуцца ў традыцыю, не зважаючы на сваю „нелепость“ з боку беларускага складаньня слоў, ня кажучы ўжо пра тое, што яно й цяжкае, і брыдкое, падобнае да вытваранага газэтаю „С. Беларусь“ слова „стагодзьдзе“, замест прыгожага „сталецьце“, як „налецьце“, „ліхалецьце“.

Тут ня месца разьбірацца ў істоце справы (аб гэтым бач мой нарыс „Увагі да беларускае літаратурнае мовы, журнал „Полымя“ № 2-10, 3-11); скажу толькі, што пабеларуску трэба, ня мудруючы лукава, гаварыць так, як і парасійску: *сямілетка*, а не „сямёхгодка, а таксама *сталецьце*, а не „стагодзьдзе“.

Наша інтэлігэнцыя, знаёмая з законамі беларускае мовы толькі з маленькае „Беларускае граматыкі для школ“ Б. Тарашкевіча, думае, што нашыя лічэбнікі скланяюцца толькі так, як паказана для ўзору ў гэтай граматыцы. Тым-жа часам, нашая мова, вытварыўшы сваё асобнае, чыста беларускае, скланеньне для лічэбнікаў, захавала й старое славянскае скланеньне (як у расійскай мове) ды ўжывае яго заўсёды, калі гутарка йдзе аб прадметах няжывых. Паводле гэтага старога славянскага скланеньня, лічэбнікі *пяць, шэсьць, дзесяць*... у родным і давальным склонах маюць формы на „і“: *пяці, шасьці, дсесяці*... (як у расійскай мове). Вось чаму кажуць: „*Сямі* поль пшанічанька, *васьмі* крыніц вадзічанька“ (з песьні). „Тут-жа ляжалі ключы ад усіх *трыццаці* (а не „трыццацёх“) пакояў“. „Хлопчык гадкоў *шасьці, васьмі* (але „адзін *дзесяцёх* не спаможа“, разумеецца людзей, *жывых* прадметаў)“. „Аднаго разу, як я меў яшчэ *лет* каля *дзесяці*, паслалі

чужаземных складаных слоў, народная мова ня ведае. Стройнасьць сувязных (з злучальнымі гукамі) складаных слоў выяўляецца, паміж іншым, у тым, што канцавая часьць (другая) пасьля складаньня ня часам зьмяняе сваю форму ды прымае такі від, у якім да складаньня звычайна ня ўжывалася (*сямідон*; ляцеў *сямідон*, зьвіў гняздо ён, зьнёс сем яек: сем чорных, сем белых (тыдзень), або калі й ужываецца, то ў другім значэньні (*вербалоз*, *сыровадка*).

Пераходзім цяпер да правапісу складаных слоў.

1) У складаных словах злучальныя гукі *-о-*, *-е-* выступаюць выразна і запісваюцца толькі пад націскам, напр.: *сыровадка*, *куродым*, *сухедні*; не пад націскам, пішам *а-я*, напр.: *сенакос*, *пустацьвет*, *ліхалецьце*, *зямлятрус*, *зямляроб* [1]) і гэтак далей.

2) Складаныя словы, як і складаныя лічэбнікі, пішуцца так, як кожная іх часьць, калі яна ўжываецца асобна, г. зн., што як у першай, так і ў другой часьці складанага слова застаюцца тыя самыя галосныя, што стаяць *у васнове* слова, калі яно пішацца асобна, але толькі ў тым выпадку, калі *націск* прыходзіцца *на другую* часьць складанага слова, напр.: Беларусь, сенажаць, белабокі, белагаловы, церасьсядзельнік, зямлятрус, вярбалоз, вялікалюд, вялікаселец, вялікадворац, нямаведзь, дзеньгубіць, прадзеньгубіць, дзеньдзівірыць (гультайстваваць), вестаноша, белапаясы, ветрагон, белабрысы; грэхаводнік, сэрдабольны, гэтарочны (гэтага году); штодзенны, штодня варкатня, голаледзіца, вочывідкі, жоўтабрушка (птушка), чорнагалоўка (трава), сыраежка (грыб), самасейка, чорнабыль, чорнабыльнік, чорназём, чорнакніжнік (старасьвецкае слова), доўгавязы, доўганосы, чорнабрывы-чорнабровы, новасёлкі, сіваваронка, старарэчча, богамол, Малібожка (фамілія), богабойнасьць, кошаланоша, благавесьнік, горладзёр, добрадзей, ліхадзей, галавасек, коламазь, доўгатрывалы, кошаплёт, марнатраўнасьць, старцавод, торбатрос, табаканюх, чарваточына (ад „чарва́“) і—чэрваточына (ад „чэрві“), чортапалох, голапяты доўгапяты, голабокі, горбаносы, домаверка (аканомка, вахмістрыня), доўгагрывы, касавокі, аднамасны, аднастайны, роўнапраўны, роўнавялікі, адналетак, роўналетак, дробнарэзка, саломарэзка, Саломарэцкі (фамілія), новабранец, бажаволіць (ад „бажаць“—хацець), пакацігарошак, сарві-

---

мяне ў начы ў двор“... „Сказаў, што *па трыццаці* летах зноў вернецца“. „Не хватала яму рублёў *дваццаці*“ (усе прыклады ўзяты з запісаў Федароўскага й Шэйна).

Адгэтуль маем такія формы складаных слоў, дзе першая частка іх—лічэбнікі: Сядзіць хлопчык *тры* ці *чатырылетні*“. „*Сторублёўка*, *Сяміранка* або *Сямірэнка*“ (хвальварак Гарадзенскага павету)“. „Ляцеў *сямідон* (ад „сем дзён“), зьвіў гняздо ён“ і г. далей.

[1]) „Зямляроб“—слова не беларускае; гэта няўдалы ўкраінскі пераклад расійскага слова „земледелец“; пабеларуску трэба казаць „*рольнік*“ ад слова „ральля“ (бач. слоўнік Насовіча), а таксама „рольніцтва“, а не „зямляробства“ (расійск. „земледелие“). Сам я ніколі ня чуў у вуснах народу слова „зямляроб“, а перачытаўшы ўсе зборнікі Шэйна й Федароўскага, таксама ня сустрэў яго ні разочку.

галава, паласказуб (ад „паласкаць зубы“), мовазнаўства, прыродазнаўства, словавытварэньне і г. далей, словы, зложаныя з „поў“: *поўгода*, *поўчварта рублі*, *поўпята*, *поўшасты вярсты*, *поўвасьма*, *поўсема*, *поўчвартаста*, *поўпудовік* і іншыя, можна пісаць і з „а“, як—*палукашак*, *палуднаваць*, *палумісак*, калі на „поў“ ня прыходзіцца націск (*поўдзень*, *поўгада*), бо слова „поў“ цяпер асобна рэдка ўжываецца, хоць такія словы, як *поўдарож*, *поўасьміны*, паказваюць, што лепш трымацца літары „о“.

3) Калі націск прыходзіцца на першую часьць складанага слова або на злучальны гук, то другая часьць падлягае аканьню (*е* застаецца, як заўсёды, пасьля націску), напр.: поўнач, поўдзень, поўгада, вялікдзень, дабранач (мужч. род.): „Ня той дабранач, што на-нач, а той дабранач, што на ўвесь век“, дабрыдзень („дабрыдзень“, як і „дабранач“, маюць першую часьць скарочаны прыметнік, дзе націск прыходзіцца на канчатак: дабр*а*, дабр*ы*), ягомасьць (замест „мосьць“), імасьць, палукашак (палу+кош=кашак), пакац*і*гара, сыровадка (замест „водка“ ад „вада“), як н*е*пагадзь (непагода).

3) Калі ў тэй ці другой часьці складанага слова адбыліся фонэтычныя (гукавыя) зьмены, то такое складанае слова падлягае аканьню, напр.: *галялёд* (з „голалёд“, дзе цьвёрдае „л“ падупала асыміляцыі наступнаму мяккаму „ль“), *санажаць* (з „сенажаць“; тут наадварот, мяккае „сь“ прыпадобнілася да наступнага цьвёрдага складу „на“), *галяледзіца*, *бадай* („бог дай“), *сваволя*, *сваволіць*, *канавал*, *канавод* (з „каня валіць, вадзіць“), *кажамяка* (вельмі старое слова, калі „ж“ было яшчэ мяккае), *селядоршы* (другі пасьля старэйшага брат) або *серадольшы*, *начлег* (таксама старое слова, калі „ч“ было толькі мяккае, дый зложана яно толькі з карэньняў слоў), *мядзьведзь* або *вядзьмедзь*; сюды трэба аднесьці словы: *сяголета*, *сягодня*, *сягоньня* (тут „д“ асымілявалася з „н“, адкуль і вытварылася падвойнае „ньн“) ці *сёньні* або *сягоньні*, бо слова „сей“ цяпер асобна калі й ужываецца, то вельмі рэдка, дый то толькі ў песьнях, дзе мова як-бы застыла, дзякуючы вершу; у песьнях часам можна сустрэць: „Паслужы нам *сей* дзень нядзелі“, прычым, цікава, што гутарка йдзе пра бога, а, значыць, тут можна бачыць царкоўны ўплыў.

4) Калі складанае слова зложана з цэлых слоў (незалежнае складаньне), што азначаюць адзін які прадмет, то гэтыя словы пішуцца *з злучком*, напр.: шура-бура, хвоя-веліч, малыш-каратыш, Ігнат-пракурат (хітрэц), шчука-рыба, Дунай-рака, папараць-кветка, айцец-маці (агульны назоў бацькоў, значыць: *бацькі*), айцец-матка, рыба-плотка, шатавіла-матавіла, хлопцы-малойцы, браточкі-сакалочкі, малодкі-лябёдкі, рута-мята, палын-трава, срэбра-злота, размай-зельле, клён-дзярэўца, пушча-лес, шчыр-бор, узьвей-вецер, вецер-дуронік, груша-сіраціна, каліна-маліна

(эмблема дзявочай цноты), рабіна-нешчасьліва дрэва (эмблема жаночага ўдоўства), трынь-трава, струны-самагуды, песьня-дума, дудка-весялушка, песьня-весялушка, вясельле-разгул, пацеха-забава, паміж пустакбалот, траўка-мураўка, сын-сірата, хлеб-соль, салавей-птушка, сарокачы-чы-чы і шмат, шмат іншых.

Таксама з злучком пішуцца падвойныя фаміліі (Дунін-Марцінкевіч, Лабко-Лабаноўскі, Дуж-Душэўскі, Сьвятаполк-Мірскі), складаныя прыметнікі (цёмна-сіні, сьнежна-белы), складаныя прыназоўнікі (з-за стала, з-пад лому, па-над морам) і складаныя выклічнікі (ха-ха-ха! ого-го! дзын-дзын! бом-бом! іга-га-га!).

**3. Правапіс чужаземных слоў**. Перш, як перайсьці да правапісу чужаземных слоў, трэба хоць крошку затрымацца на пахаджэньні гэтых слоў ды выясьніць сабе, як яны *вымаўляюцца*, будучы абеларушанымі.

Асноўную масу слоў беларускае мовы складаюць патомкі слоў некалі адзінае славянскае прамовы. Гэта відаць хоць-бы з таго, што шмат слоў нашае мовы аднолькавы з словамі іншых славянскіх моў, як, напрыклад: *нага*, *рука*, *галава*, *стол*, *вада*, *хлеб*, *гара*, *дуб*, *ліпа*, *агонь*, *жывот*, *рыба*, *яда* і шмат, шмат іншых. Але часам, без граматычных дасьледзін, трудна пазнаць, што гэтыя словы *родныя* паміж сабою, бо яны перажылі неаднолькавыя фонэтычныя й морфолёгічныя і іншыя зьмены ў розных славянскіх мовах. Напрыклад, нашыя словы: „сёньня“, „бадай“, „балазей“ ці „балазе“ патрабуюць ужо граматычнах дасьледзін, каб выявіць, што яны вытварыліся з агульна-славянскіх слоў: *сёньня*=*сяго дня*, *бадай*=*бог-дай*, *балазей*—параўнальная ступень ад прыметніка „*балагі*“=добры, харошы, *балазе*—форма меснага склону даўнейшага назоўніка йменнага „болага“—„болого“; адгэтуль ц.-славянскае слова „блага“ і нашае беларускае „блага“ з супраціўным ц.-славянскаму значэньнем; гэтае-ж слова мы знаходзім у „Слове а палку Ігараву: „рака Няміга ня *болагам* (не дабром, ня збожжам у віцінах) цячэць, а кроўю браціі свае“, а таксама расійская станцыя пад Ленінградам—„Бологое“ і г. далей.

Як паасобныя словы, так і ўвесь слоўны склад кожнае жывое мовы нясупынна зьмяняецца. Нам толькі *здаецца*, што ўсё жыцьцё мы гаворым аднолькава, і дзеля гэтага наша мова здаецца нам нязьменнаю, непарушнаю. Гэтак, пазіраючы на стрэлку ў гадзіньніку, мы ня бачым яе руху, і хоць-бы дзень і ноч ня зводзілі вачэй з расьліны, то ўсё роўна не заўважым яе росту, ня ўгледзім, як яна расьце, але праз дзьве-тры мінюты мы ўгледзім, што стрэлка перасунулася, а праз дзень-два знойдзем зьмену ў росьце расьліны. А зьмены ў мове адбываюцца яшчэ цішэй, а да таго, мы ня можам вярнуцца назад, каб паслухаць, як гаварылі гадоў трыццаць-пяцьдзесят назад. Толькі людзі з тонкім чуцьцём мовы, што ўсё жыцьцё цікавіліся мовай, могуць адрозьніць, што ў часы іх маладасьці гаварылі ня так, як гавораць цяпер.

І гэты працэс зьмены ў мове адбываецца нясупынна, бесьперастанку й незалежна ад волі чалавека. Памаленьку, паступова, чуць-чуць, пад уплывам кліматычных, прыродных і іншых акалічнасьцяй, відазьмяняюцца органы мовы (язык, нёба, гартань, нос, губы, зубы), а разам з гэтым пачынаюць зьмяняцца гукі і вытварацца новыя, хоць вельмі блізкія спачатку да старых. Такім парадкам слова заварушылася, рушыла ў дарогу, а гукі (фонэтыка) пацягнулі за сабою форму слова (морфолёгію), перастаўляючы часьці адных слоў да другіх (флексіі, канчаткі) і такім спосабам зьмяняючы *род*, як, напрыклад, „*піва п'яная*", „пагнаў *стаду сваю*", дзе пад уплывам аканьня „о"—прымета ніякага роду—абярнулася ў „а"—прымету жаночага роду, адгэтуль і зьмена ў прадстаўленьні роду і г. далей і г. далей.

Апанаваць мовою і кіраваць ёю можна толькі пазнаўшы яе прыроду, яе законы, таксама як апанаваць зьявамі прыроды можна толькі ў тым выпадку, калі будуць вядомы тыя законы, што выклікаюць гэтыя зьявы.

Поплеч з зьменаю старых слоў, вытвараюцца новыя словы. Разьвіваецца культурнае—гаспадарскае й тэхнічнае жыцьцё, родзяцца новыя паняцьці, пашыраецца разумовы сьветагляд народу—і зьяўляюцца новыя словы, вытвараныя на ўзор старых, ужо вядомых слоў.

Але няма і ня можа быць такое мовы, каб яна магла абысьціся запасам адных толькі сваіх родных слоў. Патрэбы жыцьцёвага, перш-наперш, экономічнага характару, прымушаюць людзей аднаго народу зносіцца з людзьмі другога народу, і такім парадкам адзін народ запазычае словы ў другога народу, напрыклад, назовы невядомых раней рэчаў, прадметаў, паняцьцяў і г. далей.

І ў беларускай мове, як у мове кожнага іншага народу, што мае ці меў зносіны з іншымі народамі, ёсьць словы чужыя, *чужаземныя*, запазычаныя ў суседніх народаў або ў тых, з якімі ён найбольш экономічна й культурна стыкаўся.

Паводле чужаземных слоў у тэй ці іншай мове мы можам судзіць, з кім народ меў найбольш цесныя зносіны. Так, у расійскай мове мы знаходзім шмат слоў татарскіх (деньги, лошадь, кнут), ц.-славянскіх (надежда, одежда, храм, говорящий, сидевший, враг, гласны) і кітайскіх (бумага, чай), нават іх слова „хозяин" трэба аднесьці да слоў монгольскіх (славянск. „гаспадар", „гасудар"), а ў беларускай мове ёсьць словы пахаджэньня нямецкага, лацінскага, польскага; пападаюцца словы літоўскія і нават жыдоўскія, а слоў расійскіх і ц.-славянскіх бадай што зусім няма. Да слоў *чыста* расійскіх трэба аднесьці хіба словы „самавар", „бумажка" (папяровыя грошы) да новае слова „савецкі", а да ц.-славянскіх слоў належыць слова „блага" з супраціўным значэньнем (там—дабро, у нас—блага=кепска) да слова „неба" поплеч з сваім „нёба", што ў роце, „дрэва" а часам „уладыка" (свая рука—уладыка); на Ўсходняй Беларусі часам

кажуць: „сабака злая і на ўладыку (значыць, на гаспадара) лае“, але жаноч. род слова „сабака“ пры агульна-беларускім „мой сабака“, а таксама слова „лае“ замест „брэша“ сьведчаць, што гэтая прыказка ня чыста беларускага пахаджэньня.

*З нямецкае мовы* перашло ў нашую мову шмат слоў, што азначаюць розныя паняцьці ці прадметы прамыслова-гандлёвага ці рамеснага характару, напр.: крама, рынак, пляц, рум (месца на беразе рэчкі, дзе складаюць таварны лес), цэгла, крэйда, дах, шупляда, ліхтар, пляшка, ліхтарня, цьвік, шрот, гэбель, шруба, штука, штукар, цесьля, цукер, друк, друкарня, рахоўля, рахунак, рахаваць, пак, пакаваць, пакунак, брук, гандаль, гвалт, бавэлна, шалі, шабля, рышток, рыштунак, рыштаваньне, шыба, шынка, шынок, шынкар, талер, талерка, шэлег, швагра, грабар (зямлякоп), шляк (палоска на хустцы ці на тканіне), шлях (гасьцінец), шляхта, тузін, (тузень), смалец, рэшта, цэбар, швэндацца, варта, вартаваць, вартаўнік, вандраваць, грунт, дрот, ланцуг, кахля, клямка, кірмаш, кошт, конаўка (=пітнік), лейцы, маляр, муляр, майстар, майстэрня, майстраваць, мусіць, прымус, махляваць, махляр (=круцель), бровар, абцас, плястыр, прасаваць, проба, штабнаваць, гаптаваць, шкарпеткі, магазын, хурман-ка, вахмістрыня і інш...

*З лацінскае мовы* маем шмат слоў агульна-культурнага значэньня; яны зашлі да нас або праз Польшчу, або праз старасьвецкую школу, дзе некалі, як і ўсюды ў Эўропе, панавала латынь, дзеля гэтага словы лацінскага пахаджэньня найбольш пашыраны былі сярод шляхты і вуніяцкага духавенства. Сюды належаць: літара, лемантар, (з „элемэнт“), рэч (з „рэс“, адгэтуль польск. „рэчпасполітая“), лемантаваць (дзеці, калі вучыліся лемантару, то крычалі; адгэтуль, *лемантаваць*, у голас крычаць), акуляры, дакляраваць (абяцаць), дарэктар, студэнт (кожны вучань), адукацыя (асьвета), рацыя, раца (прамова з пажаданьнем), сэсія, пасэсар (арандатар), пасэсія (тое, што было *па сэсіі*), цяпер ужываецца ў значэньні „сьмех“ (*пасэсія ды годзі*!), артыкул (стацьця закону), бэсты, арганісты (з грэцк. „алтарысты“, адгэтуль ужо сучасны „камуністы“, „сацыялісты“, у форме прыметнікаў), амбіт-ка, сьлебізаваць (чытаць па складох), сьлябізор (хто чытае па складох), воніты, ванітаваць, гармата, акурат (пад уплывам народнага ўсьведамленьня „якурат“), папер-а, аркуш, арышт, камора, воцыт, матэрыя, мур, пацеркі, парафія, фэст, авантура, авантурнік, актор, альтана, густ, гумар, натура, практыка, пракурат (хітрэц), раптам, акцыдэнцыя (выпадковы даход; „з акцыдэнцыі бывае ліска без хваста“), аксаміт, аканом і шмат іншых.

*З грэцкае мовы* мы маем словы, зьвязаныя з прадметамі рэлігійнага культу (хаўтуры, амбона, алтарысты), і пераважная большасьць уласных іменьняў людзей. Трапляюцца словы *літоўскія* (шула, жлукта, стадола, клыпаць, клыпаты, еўня, Еўе, пуня, клуня, куль, пакля, пакульле, рэзгі-

ны, азярод, сьвіран, рупіць, рупны) і нават *жыдоўскія* (хэўра, хаўрус, гаман, кагал, балагол, гармідар, хванабэрыя, агул, агулам).

Апошнім сталецьцем сталі пераходзіць да нас словы расійскія (*напрасна, прама, савецкі*), але цьвёрда запазычаных і пашыраных расійскіх слоў, як зазначалася вышэй, бадай што зусім няма, калі ня лічыць такіх слоў, як *самавар, параход*. Наадварот, беларускія словы ў расійскай літаратурнай мове пападаюцца даволі часта (абарона=защита, націск= рас. „нажим", требование); яны трапілі туды праз беларускіх выхадцаў-культурнікаў, як Сымон Полацкі і інш. У свой час расійцы выганялі іх з свае літаратурнае мовы, як словы *польскія*.

Мала, але далёка больш, у беларускай мове слоў польскіх; сюды належаць: хлопец, моц, скарга (белар. „жальба") быдла, пан, пані, паненка (гэтыя тры словы выходзяць з ужытку), ягомасьць, імасьць, васпан, маспан, (таксама рэдка ўжываюцца), брама, стужка, тарка (цёрка), шлюб, бачнасьць, сродак, шата, шых, трымаць і іншыя. Пераважная большасьць польскіх слоў маюць значэньне *асабістых* адносін паміж людзьмі (пан, ягомасьць).

Апроч пералічаных, вядомых шырокім народным масам, *чужаземных* слоў, што ўжываюцца ўжо нараўне з сваімі роднымі словамі, наша *літаратурная мова* пераймае шмат слоў *інтэрнацыянальных* (міжнародных), г. зн., такіх чужаземных слоў, што абазначаюць агульныя *навукова-тэхнічныя* паняцьці, выпрацаваныя галоўным чынам людзьмі навукі, як, напрыклад, *конгрэс, парлямэнт, лёзунг, колёквіум, соцыялізм, комунізм, тэлеграф, мэдыцына, поэзія, рэволюцыя, коопэрацыя, конституцыя, філёлёгія, геомэтрыя, геолёгія, аэроплян, эволюцыя, аўтомобіль, астрономія* і шмат іншых.

Чужаземныя словы, трапіўшы ў шырокія народныя масы, пачынаюць жыць агульным жыцьцём з моваю гэтых народных мас, г. зн., падлягаюць фонэтычным і морфолёгічным законам, паводле якіх жыве й разьвіваецца мова гэтых мас, і часам зусім перарабляюцца, напрыклад: *лемантар* (элемэнтар), *сьлебізаваць, акоман* ці *аконам* або *аканом* і інш.

Словы інтэрнацыянальныя—больш *кніжныя*. Агулам кажучы, яны ня могуць стаць словамі *народнымі* ў тым значэньні, што абернуцца ў словы *штодзеннага* ўжытку.

Напрыклад, трудна сабе прадставіць, каб *пэрпэндыкуляр* ці *гіпотэнуза*, як геомэтрычныя тэрміны, сталі словамі штодзеннага ўжытку. Мала таго, як тэрміны, г. зн., словы *наўмысьля*, штучна прыдуманыя, з міжнародным значэньнем, яны й ня могуць быць падпарадкаваны фонэтычным законам кожнае мовы, бо зьмяніўшы іх гукавы склад, мы тым самым можам зьмяніць або зацямніць іх значэньне. Вось чаму ўсе народы стараюцца перадаваць гэтыя словы на пісьме больш-менш аднолькава (у вуснай перадачы зрабіць гэта далёка трудней; калі, напрыклад, слова

„колёквіум“ скажа француз, немец ці беларусін, то з гукавога боку гэта будзе далёка не адно й тое, бо кожная мова мае сваю асобную фонэтыку, сваю ўласную вымову). Але й гэтыя, інтэрнацыянальныя, словытэрміны прыходзіцца ўжываючы *скланяць* ці *спрагаць*, дзеля гэтага граматыка кожнага народу прыдае гэтым словам *канчаткі* сваіх родных слоў, напрыклад: мы ў словах падобных да „рэдактар“, што азначаюць прадметы жывыя, дзейныя, суфіксы „ор“ ці „эр“, як не беларускія, падмяняем сваім суфіксам „ар“, як у словах аднолькавага значэньня: *знахар, сталяр, пісар* і т. далей.

Значыць, у словах *чужаземных* трэба разьбіраць словы чужаземныя абеларушаныя, што сталі ўжо словамі штодзеннага ўжытку, і словы *інтэрнацыянальныя* або *кніжныя*, шырокім масам невядомыя або мала вядомыя.

Тут могуць спытаць: хто-ж іх будзе *разьбіраць*? Або, як кажа рэцэнзэнт майго „Правапісу“ (бач журнал „Асьвета“ № 1): „дзе большменш об'ектыўны крытэрыум ужывальнасьці або няўжывальнасьці слова ў масах народу?“ Адказваем: разьбіраць іх будзе школа, а крытэрыум установяць людзі навукі—мовазнаўцы, філёлёгі, хто знаецца на гэтай справе.

Адгэтуль відаць, што наш першы граматысты Б. Тарашкевіч стаяў на правільнай дарозе, калі ў правапісе чужаземных слоў выдзяляў словы *абеларушаныя* і словы *кніжныя*. Ім на стар. 70-й у § 104-м тэй-жа „Беларускай граматыкі для школ“, даецца такое агульнае правіла для правапісу чужаземных слоў: „Словы чужаземныя, узятыя з чужое мовы даўно, пішуцца так, як гэта чуваць у штодзенным ужытку: *літара, аканом, арганісты, паляруш* (кажуць і „паралюш“. *Я. Л.*), *калідор, леварвэр*,[1]) *камісія* і г. д.

Словы чужаземныя, што ўжываюцца ў кніжках і ў кніжнай мове і да народу не дашлі або дашлі нядаўна, пішуцца так, як у тэй мове, скуль яны ўзятыя: *тэлеграф, тэлеграма, літэратура* (хоць лепш пісаць „літаратура“ з літараю „а“ пасьля „т“, бо мы маем слова „літара“ *Я. Л.*), *монолёг, тэатр, дынастыя, партыя, рэдакцыя, інспэктар, дырэктар* (лепш пісаць „дарэктар“ з „а“ пасьля „д“, бо гэтае слова ўжываецца ў народзе нараўне з такім словамі, як *літара, аконам, акуляры* і інш... *Я. Л.*), *рэдактар* і г. далей“.

Да апошніх трох слоў робіцца ўвага, што суфікс „ар“ заместа „ор“ пад уплывам беларускіх слоў на „ар“, як: *пісар, знахар* і т. далей.

Далей у Тарашкевіча йдзе некаторая дэталізацыя правапісу чужаземна-кніжных слоў.

---

[1]) Той-жа А-нік у сваёй рэцэнзіі на мой „Правапіс“ („Асьвета“ № 1, стар. 49) не згаджаецца з гэтым прынцыпам ды кажа нават, што „нелітаратурным і малапісьменным трэба лічыць правапіс *леварвэр*“. Гэта моцна сказана, але чаму-ж расійцы, напрыклад

Як агульная аснова для правапісу чужаземных слоў, гэтае правіла трэба лічыць дасканалым. Яго трэба толькі больш дэталізаваць і паясьніць прыкладамі. Няўдалыя тут, як прыклады, два словы: *дырэктар* і *літэратура*. Як ужо зазначалася вышэй, слова „дарэктар“ трэба лічыць абеларушаным, бо яно ўжываецца ў народных гушчах нараўне з іншымі абеларушанымі словамі лацінскага паходжаньня (бач поэму Я. Коласа „Новая Зямля“, разьдзел XIV—„Дарэктар“); значыць, яго трэба пісаць з літараю „а“ пасьля „д“, а ня з „ы“, як у лацінскай мове і, такім парадкам, яно адойдзе да першае катэгорыі чужаземных слоў; туды-ж трэба аднесьці й слова „літаратура“ з літараю „а“ пасьля „т“, а ня з „э“, бо мы маем абеларушанае лацінское слова „літара“.

Як бачым, у нашым правапісе чужаземных слоў няма нічога „спрэчнага“, як некаторыя думаюць, а таму, хто любіць „спрэчкі“, можна сказаць, што правапіс, *агулам* кажучы, рэч спрэчная, бо гэта справа умоўная, і тут ёсьць шырокае поле для спрэчак і для „пабед“ на правапісальным полі бітвы. Бо—што такое *правапіс?* Правапіс—гэта збор правіл, часткаю абапёртых на законах мовы, а часткаю умоўна-прынятых, каб навучыцца *аднолькаваму* пісьму, бо калі кожны стане пісаць так, як яму захочацца, то й прачытаць нельга будзе. Гэтак сама, калі кожны стаў-бы жыць так, як яму захочацца, то шмат каму й жыцьця ня стала-б, і пры такой анархіі было-б не грамадзянскае жыцьцё, а нясупынная грамадзянская барацьба—„спрэчка“. Вось чаму як для грамадзянскага жыцьця *канечна* патрэбны нормы-законы, так і для пісьма патрэбны *нормы-правілы*.

Што да правапісу *чужаземна-інтэрнацыянальных* слоў, або, як іх Тарашкевіч называе, кніжных слоў, то тут трэба кіравацца такімі, ніжэй паданымі, нормамі-правіламі. Некаторыя з гэтых правіл выпрацаваны Тарашкевічам, а некаторыя я падаю з украінскага правапісу чужаземна-інтэрнацыянальных слоў, прынятага іх Акадэміяй Навук; расійскага, апрацованага для шырокага ўжытку, правапісальнага статуту для чужаземных слоў няма.

1. Замест падвойных зычных, пішуцца простыя, напр.: каса, маса, сума, програма, граматыка, тэлеграма, комунізм, процэс, профэсар, тэрыторыя, ілюстрацыя, ілюмінацыя, бэлетрыстыка, афэкт, апарат, апэляцыя, асыміляцыя, асыстэнт, Асырыя, эсэнцыя, гама, група, колега, корэктура, корэспондэнцыя, місія, опозыцыя, пасажыр-пасажэр, пэсімісты, Прусы, Расія, рускі, тэрорызм і г. д.

Толькі ў некаторых словах, як *Ганна*, *бонна*, *ванна*, *манна*, *мадонна*, *бульля (папская)*, *Будда*, *буддызм*, *Мэкка*, *Отто*, застаюцца падвойныя літары.

---

пішуць „тарэлка“, „ладонь“ і лічаць гэта „пісьменным“, хоць у гэтых словах такая самая перастаноўка складоў, як і ў словах *леварвэр* або *калідор* ці *паляруш* (талерка з „талер“—тарэлка, ладонь—далонь). Справа тут у тым, што словы „тарэлка“, „ладонь“ з перастаўленымі складамі *абруселі* і ў такой форме сталі чыста расійскімі словамі, як нашае слова „лемантар“ або „леварвэр“.

2. Чужаземнае l передаецца мяккім „ль“, як гэта чуваць у пераважнай большасьці абеларушаных чужаземных слоў *(пляц, лямпа, пляцка, пляшка, клямка, ляк)*, напрыклад: Лёндон, лёзунг, монолёг, філёзофія, філёлёг, лёяльны, колёквіум, Голяндыя, Фінляндыя, інтэрнацыяналь, цыркуль, але ў наступных словах на канцы пішацца цьвёрдае „л“: капітал, адмірал, артыкул, мускул, тытул, канікулы, формула, протокол, рэгулы, фістула, курбункул і інш.

3. Чужаземнае **і** пасьля зубных *(д, т, з, с)* і зацьвярдзелых *(ж, ш, ц, р)* передаецца літараю **ы**, напр.: дыплёмат, дынастыя, дыктант, тып, тыран, партыя, антыхрыст, актыў, пасыў, актыўны, пасыўны, унівэрсытэт, асыстэнт, сынтакс, нацыя, рацыя, констытуцыя, рэволюцыя, коопэрацыя, рэжым, шыфр, аварыя, Баварыя, Фінляндыя, Голяндыя і іншыя, як у словах абеларушаных, напр.: *Сымон, тыфус, магазын, даць дыхту* і інш. Пасьля іншых зычных будзе **і**, напр.: маніфэст, міністар, архіў, капітан, пірат, фамілія, навігацыя і інш.

У словах „Сібір“, „сібірны“, „азіят“ знаходзім пасьля зубных „і“, адгэтуль пасьля зубных „з“ „с“ перад канчаткам трэба пісаць „і“, напр.: Азія, аказія, фантазія, поэзія, колізія, рэцэнзія, сэсія, камісія, місія і інш.

4. Чужаземнае **е**, (э) звычайна передаецца літараю **э**, як гэта чуваць у штодзенным ужытку *(фэст, пасэсар, сэсія, аптэка*; „пасылайце да *аптэкі*, ці ня будзе крыху лепей“), напр.: маніфэст, тэатр, тэхніка, тэлеграф, унівэрсытэт, рэспубліка, пэдагог, рэдактар, бібліотэка, канцэлярыя і інш., а таксама на пачатку слоў: этыка, элегія, экватор, эволюцыя, этымолёгія, элемэнт, эфэкт, Эўропа, Эгіпэт, эвангэлія, але ў словах *епіскоп, езуіт, Ерусалім, евангелія* часьцей чуецца гук „е“ (йэ), і ў гэтых словах трэба пісаць літару „е“.

Пасьля чужаземнага **г** (лацінск. g) і **к** пішацца літара **е**, як у словах абеларушаных *ангельскі, гестка, кецка, цукер, кірмаш* (з *„кермаш“*), *кілішак* (з *„келіх“*). *кірунак* (з *„керунак“*), напр.: альгебра, геомэтрыя, географія, геодэзія, геолёгія, Гедымін, герман (=немец), Германія, рэгент, агент, агентура, евангелія, генерал, генэза, легенда, геніяльны, інтэлігенцыя; анкета, букет, анкер, банкет, скелет (касьцяк), дэгенэрат, генэолёгія, Георгі, гені, Ягела (Ягайла), Альгерд, Еўгенія і іншыя.

З прычыны блізкага падабенства ў вымове „g“ і „j“, у некаторых словах поплеч з „ге“ ўжываецца „je“ (на пісьме—*е*), напр.: рэгестр-рэестр, агент-аент, генэрал-енэрал, географія-еографія, геомэтрыя-еомэтрыя. Таксама—*лёгіка-лёіка (=лёйіка)*.

5. *Словы тыпу „Юры“*. У беларускай мове, як і ў іншай славянскай мове, няма йменьнікаў адзіночнага ліку з канчаткам „і“, бо гук „і“, а пасьля цьвёрдага зычнага—„ы“, у назоўным склоне служаць прыметай множнага ліку (краі, сталы, сані). Выключэньнем можа быць толькі слова „Юры“ з стараславянскага прыметніка „юрый“, дзе „ый“ сьцягнулася ў „ы“, як гэта звычайна бывае ў беларускай мове. Праўда, для некаторых

гаворак форма „Юры“ паказалася ня свойскай для іменьнікаў, і там гук „ы“ падмяніўся гукам „а“, ды сталі гаварыць „Юрай“ (з націскам на „ю“) па падабенству з такімі словамі, як *край, каравай, мігай, няхай* (*„Няхай“*—нядобры чалавек. Стаіць *мігай*, пад мігаем—*сапай...), Мацей, Гардзей* і іншыя. Але ўсё-ж такі пераважае форма „Юры“.

Гэтае слова можа служыць узорам для правапісу такіх грэцка-лацінскіх слоў, як: Юлі, Георгі, гені, пролетары, Горацы, Дары, Фабі, Пліні, Овіды, Полібі, Вэргілі, Вэзуві, Флаві, Нунцы і інш... У гэтых словах „й“ (ёт), што зьнікае ў назоўным склоне, зьяўляецца пры скланеньні, напр.:

Н. Юры, пролетары, гені, Горацы.

Р. Юр‘я (Юрйа), пролетар‘я, генія, Горацыя.

Д. Юр‘ю (Юрйу), пролетар‘ю, генію, Горацыю.

Т. Юр‘ем (Юрйем), пролетар‘ем, геніем, Горацыем.

Ад гэтых слоў можна вывадзіць і множны лік, як ад слова „Юры“ (Два *Юр‘і* ды абое дурні), напр.:

Н. Юр‘і, пролетар‘і геніі.

Р. Юр‘яў, пролетар‘яў, геніяў.

Д. Юр‘ям, пролетар‘ям, геніям.

Т. Юр‘ямі, пролетар‘ямі, геніямі.

Назоўны склон падобных слоў становіць форму прыметнікаў *(Юры, пролетары, гені*, як *добры, убогі)*, але скланяюцца яны, як іменьнікі, прычым, у словах з асноваю на „р“ (Юр-ы, пролетар-ы) пры скланеньні канчатак назоўнага склону *(ы)* зьнікае, а ў іншых застаецца (ген*і*-і, нунц*ы*-і), хоць іх можна было-б падпарадкаваць аднолькаваму скланенью з словам „Юры“.

Апошнім часам слова „пролетары“ сталі пісаць, як слова *гаспадар, пісар*, але гэтую форму трэба прызнаць няўдалай, бо славянскі суфікс „ар“, абазначаючы прадмет дзейны, выражае профэсію асобы (аўчар, штукар, знахар, пісар), тымчасам слова „пролетары“ абазначае прымету прадмета, а не яго профэсію.

6. *Словы тыпу „Азія“, „сэсія“*. Усе падобныя словы належыць пісаць, як слова „тыя“, г. зн., з канчаткам **ыя** пасьля зацьвярдзелых і зубнога **д** і **ія** пасьля іншых зычных, напр.: арыя, Абісынія, акацыя, акадэмія, алегорыя, анатомія, Англія, Азія, Арабія, армія, Армэнія, Аўстрыя, біблія, баталія, Бэльгія, хэмія, Данія, Еўгенія, фамілія, фантазія, аказія, філёлёгія, філёзофія, Галія, Францыя, Грэцыя, геомэтрыя, Галіцыя, гармонія, гісторыя, Гішпанія, Ілірыя. Японія, каліграфія, колізія, колёнія, кампанія, копія, лінія, магнэзія, манія, місія, мітолёгія, мумія, Норвэгія, опінія, ортографія, парафія, Пэрсія, Расія, поэзія, паліцыя, Саксонія, Швэцыя, утопія, профэсія, вакацыя, Зофія, зоолёгія і падобн.

Пасьля „д“ і „т“, заўсёды будзе *„ыя“*, каб не дапусьціць пераходу „д“, „т“ у беларускае „дзь“, і „ць“, напр.: камэдыя (комэдыя), Індыя, Фінляндыя, Голяндыя, партыя і падобн. Значыць, зубныя *з, с* (бач 3) ня злучаюцца з „і“ толькі ў аснове слова, а *д, т* і ў аснове, і ў канчатку.

7. Чужаземныя злучэньні **іа**, **іе**, **іо** (лацінск. літары) перадаюцца злучэньнямі **ія**, **іе**, **іо**, а пасьля зацьвярдзелых і зубных „д“ „т“—*ыя*, *ые*, *ыо*, напр.: нацыянальны, рацыянальны, геніяльны, спэцыяльны, матэрыял, фіялка, варыянт, піетызм, гігіена, кліент, эмбрыон, біографія, бібліотэка, соцыолёгія, соцыялізм, біолёгія, фіолетавы, хрысьціянін (!), Трыест, патрыярх, патрыот, трыолет, Сыон, аўстрыяцкі, Адрыян, Фабіян (Пабіян), фортэпіян, Юліян, Квінтыліян, Октавіян, павіян, Люцыян, Тэртуліян, Вэспазіян, Альбіон, легіон, буліон (бульён), мэдаліон (мэдальён), міліон (мільён), Орыон, Сцыпіон, Гэзіод, кур‘ер (курыер), мэморыял, плягіят, вар‘ят (варыят), Адрыянополь, Адрыятыка, Антыохія, арыянізм, аўдыенцыя, хрысьціянін (замест „хрыстыянін“), дыягноза, дыялект, дыялёг, дыямэнт, Дыяна, дыета, дыецэзія, Дыодор, Дыоклецыян, энтузыязм, глядыятар, грэгорыянскі, геліотроп, гігіена, гіерархія, гіерогліф, ідыот, індыяне, ініцыятыва, кіоск, кар‘ера (карыера), Корыолян, Мэдыолян, місіонэр, міязмы, пацыент, спэцыяльны, Сыям, сыямскі, трывіяльны, вырыянт, зодыяк’ фіолетавы, Трыест, патрыот, Сыон, трыолет, аўстрыяцкі і іншыя.

8. Гук **ф** у словах кніжных ці запазычаных нядаўна перадаецца літараю **ф**, напр.: форма, фронт, факт, фортуна, географія, філёзоф, фабрыка, маніфэст, фамілія, Афон, афіцэр, Францыя, француз (гэтае слова пішам з літараю „ф“, каб ухіліцца ад падабенства з словам „пранцы“, што азначае заразную хваробу), Францішак, фэст і іншыя.

Але калі запазычанае слова з гукам „ф“ ужываецца даўно, то яно абеларусілася, і ў такіх абеларушаных словах гук „ф“ падмяніўся гукамі **х**, **п**, **хв**, напр.: Піліп, Язэп, хунт, хварба, кахля, картопля (бульба), пантопля, шупляда, хваля, Хама, Апанас, Хвёдар і іншыя.

9. Чужаземнае **th** (Θ) перадаецца літараю **т**, напр.: каталік, катэдра, Тодар, Тамаш, Агата, арытмэтыка, ортографія (правапіс), патос, тэатар (оэатр), Атэны, атом, Пітагор, міт (міθ), лёгорытмы, рытма і іншыя.

10. Чужаземны дыфтонг **au** (лацінск. літары) перадаецца злучэньнем **аў**, напр.: аўтэнтык, аўтар, аўтар, аўдыторыя, аўдыенцыя, аўкцыон, браўнінг, фаўна, лёкаўт, а таксама—Эўропа, фэўдальны, эўрыка і іншыя, але перад галосным будзе **ау**: *Шопэнгауэр*, *Ауэрбах*, *Бауэр* і інш.

11. Пасьля чужаземных прыставак **ад-**, **кон-**, **об-**, перад ётавымі галоснымі ставіцца апостроф(‘), напр.: ад‘ютант, кон‘юнктура, аб‘ект, суб‘ект, кон‘югацыя, а таксама пасьля **р** у такіх словах: *кур‘ер*, *бар‘ер*, *кар‘ера*, *ар‘ергард*, *вар‘ят*, але—мэморыял, Адрыянополь, арыянізм, варыянт, патрыот (бач. 6),—тут пасьля „р“ стаіць „ы“.

12) Мяккі знак (**ь**) у чужаземных словах пішацца пасьля маккага **н**, а часам пасьля **ль** перад ётавым галосным, напр.: *Нью-Ёрк*, *Вільям*, *рэльеф*, *баральеф*, *мэдальён*, *мільён*, *бульён* і іншыя.

13. У правапісе некаторых чужаземных уласных іменьняў могуць быць адступленьні ад некаторых, вышэй паказаных правіл, каб дакладней перадаць гукавы склад такога слова. Напрыклад, могуць пісацца падвойныя зычныя (Тассо, Эдда, Мэкка, Мільлер), а літара „і“ можа пісацца пасьля зубных і зацьвярдзелых у васнове слова: *Люзітанія, Кодікс, Шіраз, жюрі*, і падобн.

14. У чужаземных словах дапускаюцца такія злучэньні, як *бю, кю, гю*, невядомыя беларускай мове, напр.: бюро, бюджэт, Гюго, Бэльвю, Дэ-Бюсі, Мюзэта і падобн.

15. Вульгарызованыя формы некаторых сучасных чужаземных слоў у літаратурнай мове не дапускаюцца; прыкладам, трэба пісаць і гаварыць: *доктар, фэльдшар, адвокат, доктрынэр, гувэрнэр, вокзал, экзамэн, аэроплян, вэлёцыпэд, інспэктар*, а ня йначай.

16. Беларускія народныя ўласныя йменьні найлепш пісаць так, як гавораць у народзе кожнае мясцовасьці, напр.: Язэп, Якуб, Янка, Піліп, Апанас, Тамаш, Лукаш, Грыгор, Паўлюк-Павал, Мікола, Грышка, Юры-Юрай-Юрка, Пётра-Петра-Пятрусь, Міхал-Міхайла-Міхась, Тодар-Хвёдар, Сымон-Сямён, Канстантын-Кастусь-Костусь, Ладымер (славянск. слова), Казімер, Сьцяпан-Сьцёпка, Антон-Антось, Алёкса; Ганна, Магда, Магдалена, Марыля, Марыся, Наста, Юста, Стэпа, Стася, Юстына, Зося, Алеся, Катарына-Кацярына, Амілія, Яўгеня, Крыстына, Міхаліна і іншыя. Такім парадкам усе гэтыя грэцка-лацінскія ймёны descriptionануць беларускімі.

У беларускай мове бадай што ва ўсіх словах, дзе ў ц.-славянскай мове стаіць V (іжыца), гэты гук падмяніўся гукам „у“, прыкладам: Кvпріан-Купрэй, Кvрила-Курыла (хоць кажуць і „Кірыла“), Акvліна-Куліна, Глvкерыя-Лукер'я, Евтvхій-Аўтух, мvро-мура (Адным мурам мазаны).

17. Гукі **з** і **с**. Некаторыя грэцка-лацінскія словы з гукам „с“ захавалі гэты гук, а некаторыя зьмянілі яго на „з“, напр., гук „с“ маем у наступных словах: консул, сэнсацыя, унівэрсытэт, але гук „з“ пераважае: цэнзар, цэнзура, цэзар, муза, Зофія, эпізод, поэзія, колізія, Азія, фантазія, рэцэнзія; „з“ знаходзім і ў суфіксе „-ізм“ (лац.-„ісмус“): клясыцызм, ідэалізм, формалізм, барбарызм, гуманізм, соцыялізм, комунізм, катэхізм, матэрыялізм, ідыотызм, полёнізм, русыцызм, рэялізм і падобн.

18. Словы з чужаземным суфіксам **унак** (нямецк. „унг“). Гэты суфікс знаходзім у словах, запазычаных з нямецкае мовы, а таксама ў беларускіх, вытвораных на іх узор, напр.: гатунак, кірунак, ладунак, малюнак, пакунак, абсталюнак, *пацалунак* (славянск.), *пачаступнак, падарунак*, рабунак, рахунак, *ратунак*, рыштунак, *рысунак*, *справунак*, стасунак, трунак, варунак, візэрунак, вэрбунак, пастэрунак (вартоўня).

19. У наступных словах націск найлепш ставіць на апошнім складзе: аргумэнт, документ, інструмэнт, монумэнт, постумэнт, мамэнт і т. далей.

20. Трэба заўважыць правапіс такіх прыметнікаў: ангельскі, эўрапейскі, рэдакцыйны, рэлігійны, фамілійны (рэлігійнасьць, фамілійнасьць), а

таксама дзеясловаў: полемізаваць, аргумэнтаваць, аналізаваць, корэктаваць, рэдагаваць, як *ваяваць, рахаваць*.

21. Гук **ш** у чужаземных словах: арышт, кшталт, нарэшце (і—„нарэсьце"), рэшта, шкарлятына, шкелет (скелет), шкло, шабля, шляхціц, шляк, шляя, шлюза, шнур, шпег, шпік, шпілька, шпіталь, шпулька, шпрынц, шпрынцаваць, штафэта, штандар, штука, штурм, шых (лад, парадак) штабнаваць, шкарпэткі, пашпорт, шмараваць, штэмпель, пошта (почта), шпагата, але ў словах: *скандал, смалец, спацар, сьпірытус, спрыт страйк* (забастоўка) знаходзім „с".

Нарэшце трэба памятаць, што для правапісу чужаземных кніжных (інтэрнацыянальных) слоў устанавіць пэўных цьвёрдых правіл нельга, бо гэта словы рознага пахаджэньня, з рознымі фонэтычнымі (гукавымі) законамі. Тут могут быць толькі увагі паасобнага, прычым, агульнага характару. Разумеецца, для штодзеннага ўжытку гэтага мала; тут патрэбен правапісальны слоўнік.

# УСПАМІНЫ РЭВОЛЮЦЫЯНЭРКІ

**В. Вахоўская**

Нарадзілася я ў 1855 годзе ў Хэрсонскай губэрні, у маёнтку дзеда майго Качулава. Праз тры гады сям'я мая перабралася ў Каменец-Падольск, дзе бацька служыў чыноўнікам у губэрскай управе. Бацька мой быў паляк, маці—руская. Па Падольскай губэрні пракацілася хваля польскага паўстаньня 1863 году, і хоць я фактычнага боку гэтага паўстаньня не памятаю, але застаўся ў памяці настрой перажытых забурэньняў. Памятаю апавяданьні пра стычкі з расійскімі войскамі, пра гэройскія ўчынкі паўстаўшых, пра тыя надужыцьці, якія чыніліся над пераможанымі палякамі, пра кары сьмерцю, пра ўдоў і сірот. Бачыла розныя рэчы, як пярсьцёнкі, брошкі, ланцугі, якія таямніча захоўваліся, як сымболі паўстаньня; чула польскія гымны, якія пелі шэптам, пры зачыненых вокнах і дзьверах. Усё гэта, як я думаю, было першым штуршком у разьвіцьці майго рэволюцыйнага кірунку. Потым дробныя прасьледваньні польскае мовы, чорных сукенак, зачыненьне касьцёлаў, звальненьне з пасад служачых палякоў—выклікалі ў мяне спачуцьцё да пераможаных, абрыду да гвалту і моцны протэст супроць расійскага ураду.

З 12 год я вучылася ў гімназіі, а з 15, разам з 2-3 таварышкамі па гімназіі, пачала чытаць сур'ёзныя кнігі. Пісараў, Чарнышэўскі, Мардоўцаў, Амулеўскі адвярнулі мяне ад протэсту супроць політычнага уціску і накіравалі яго супроць экономічнай няроўнасьці, супроць уціску бедных—багатымі, неадукаваных— вучонымі, слабых—дужымі. Усе сымпатыі мае зьвярнуліся на уціснутых, бедных. Мне зрабілася сорамна, што ў мяне ёсьць сродкі на жыцьцё, што я ня прымушана зарабляць на сваё жывеньне. Я сэрцам сьцяміла, што сваім існаваньнем абавязана працоўным, што я ў даўгу перад імі і павінна аддаць усе свае сілы на тое, каб палегчыць іх становішча і зьмяніць тыя умовы, якія спрыяюць разьвіцьцю такой няроўнасьці. Але як гэта зрабіць? Трэба вучыцца, вучыцца і знайсьці адгадку ў навуцы. Я надумала ехаць заграніцу, у унівэрсытэт, прайсьці прыродазнаўчыя навукі, потым гістарычныя, на падставе гэтых вед—растлумачыць мінулае і цяперашняе, вызначыць будучае і тады ўжо пачаць дзеіць. З такімі шырокімі навуковымі плянамі я, пасьля году цяжкай барацьбы з бацькамі, паехала ў Цурых, маючы 17 год ад нараджэньня.

У Цурыху ў мяне ня было нікога знаёмых. На вуліцы, пачуўшы расійскую гаворку, я падышла і пазнаёмілася з трыма дзяўчатамі, з якімі неўзабаве вельмі пасябравала. Яны былі блізкія да гуртка Бакуніна, які ў 1872 годзе часта наяжджаў у Цурых і жыў у ім.

Гэта быў год заўзятай барацьбы ў інтэрнацыянале—Бакунін быў выключаны, а прыязныя да яго сэкцыі паўднёвай Швэйцарыі, Гішпаніі, Італіі аддзяліліся ад інтэрнацыяналу і ўтварылі Паўднёвую Фэдэрацыю. Я была надзвычайна зьдзіўлена, даведаўшыся ўпяршыню, што на сьвеце ўжо ідзе змаганьне рабочых з капіталістымі. З сквапнасьцю накінулася на рабочыя газэты, вывучала рабочае пытаньне, соцыяльны рух. Навука адышла ў бок. Нязгоды ў інтэрнацыянале балюча адбіваліся на маёй душы. Я лічыла ўсіх, хто змагаўся за вызваленьне уціснутых, такімі надзвычайна-ідэальнымі людзьмі, што іх нязгоды былі для мяне незразумелы. Але дзе там. Цурыхскае жыцьцё паміж рускіх панесла цяжкія удары майму ідэалізму. Мае таварышкі запрапанавалі мне пазнаёміцца з Бакунінам, але я адмовілася. Мне здавалася дзіўным знаёмства такога вялікага чалавека са мною, нікчэмнай дзяўчынкай. Аднойчы ўвечар, калі я сядзела ў сваім пакоі, аблажыўшыся газэтамі й кнігамі, да мяне пастукалі ў шыбу і паклікалі на вуліцу. Я вышла і ўбачыла вялізную, велічную постаць Бакуніна з некалькімі маладымі дзяўчатамі. Быў прыгожы васеньні вечар, мяне паклікалі на спацар. Такім чынам адбылося наша знаёмства. Бакунін запрашаў мяне да сябе йграць на роялі. Бэтховэн быў і яго і маім улюбёным композытарам, і я пачала хадзіць да яго йграць сонаты Бэтховэна. Ён займаў вялікі пакой, з зусім простай абстаноўкай. У яго зьбіралася чалавек 15-20 моладзі, якія, разьмясьціўшыся кучкамі, зусім вольна гутарылі, спрачаліся, пелі; я йграла на роялі, а Міхайла Аляксандравіч сядзеў за вялікім сталом, заваленым паперамі і газэтамі, з сваёй люлечкай у зубох і пісаў. Час-ад-часу ён адкладваў пяро, прыслухоўвася да гутаркі, рабіў свае увагі, жартаваў, падыходзіў да рояля, прасіў яшчэ сыграць некаторыя месцы, рабіў свае увагі аб маёй музыцы, да якой адносіўся з ухвалай. Ня гледзячы на розьніцу ў гадох, у разумовым разьвіцьці, эрудыцыі, жыцьцёвай спрактыкаванасьці, моладзь адчувала сябе вельмі вольна і проста ў кампаніі Міхайлы Аляксандравіча, які анічуць не падпарадкаваў сваёй уплыўнасьці, хоць падчас і выгаварваў, рабіў увагу, але ўсё гэта ў такой добрадушнай форме, так зычліва, спакойна і перакананa, што кожны прымаў, як належнае.

Я ўступіла членам у Бакунінскі гурток, які быў нешматлікім, але складаўся з паважных і гадамі і розумам членаў. Галоўным кіраўніком гуртка быў Міхайла Пятровіч Сажын, чалавек дужай волі, глыбокага розуму і нязвычайна энэргічны й працавіты. Ён рэзка адзначаўся ад другіх рускіх, што жылі ў Цурыху і былі ў большасьці людзьмі маладымі, балбатлівымі, шумлівымі, у якіх у нутры яшчэ ўсё бушавала. У Сажына ўжо ўсё перабушавала, былі выпрацаваны цьвёрдыя перакананьні,

стройныя асновы жыцьця. Ён вельмі мала гаварыў, але шмат рабіў. Бывала, на нашых сходках падымалася якое-небудзь пытаньне; усе шмат спрачаліся, гаварылі за і супроць яго. Сажын усё маўчаў і ў канцы абагульняў усё сказанае, рабіў вывад, прапанаваў разьвязак, з якім звычайна ўсе згаджаліся. К вясьне гурток уладзіў друкарню, і пачалося друкаваньне кнігі „Дзяржаўнасьць і анархія“—Бакуніна. Усю справу наснуджаньня друкарні і самога друкаваньня вёў выключна Сажын.

Другім гуртком у Цурыху, куды больш шматлікім, быў гурток Лаўрова. У ім ня было такога строгага падбору і, побач з такімі выдатнымі людзьмі, як, зразумела, сам Лаўроў, Сьмірноў, Падолінскі, Чарнышоў, было шмат зусім зялёнай моладзі. Я толькі адна з усіх бакунінцаў бывала ў гэтым гуртку і пасябравала з некалькімі выдатнымі дзяўчатамі, з якімі мы ўтварылі жаночы гурток, меўшы сваёй мэтай вывучэньне разьвіцьця соцыялістычных ідэй і руху. Большасьць з удзельніц гэтага гуртка судзіліся пазьней па справе 50-ці. За гэты час я ўмацнела ў сваіх пераконаньнях: я верыла, што расійскі народ па натуры сваёй—соцыялісты, што абшчына ёсьць першая аснова соцыялістычнага побыту, што калі яна будзе вызвалена ад апякунства ураду і пачне вольна разьвівацца, то прывядзе да соцыялістычнага ладу. Трэба йсьці ў народ, абформіць яго соцыялістычны сьветагляд, організаваць для паўстаньня. Я выехала ў Расію, у Пецярбург. Зіма 1873-74 году прашла вельмі жыва сярод пецярбурскай моладзі; уладжвалі сходы, на якія зьбіралася шмат моладзі. Аб тым, што трэба йсьці ў народ, ужо ня было спрэчак, пытаньне было вырашана і цяпер ішло толькі аб тое, пад выглядам каго туды йсьці і што там рабіць. Адны казалі, што трэба йсьці рабочымі і організоўваць паўстаньні, другія лічылі больш мэтазгодным займаць прывілейнае становішча, як сельскіх настаўнікаў, пісароў, акушорак, і вучыць народ, знаёміць яго з усімі няпраўдамі жыцьця, з соцыялістычным ладам, са спасобамі барацьбы. Адпаведна гэтым напрамкам утварыліся гурткі. Я асялілася з Яўгеняй Канстантынаўнай Судзілоўскай, якая была разам са мной у гуртку Бакуніна, у Цырыху; адтуль-жа прыехаў Лермантаў, які ўвашоў у зносіны з Сажыным і Бакуніным, да нас далучылася яшчэ некалькі асоб, і мы ўтварылі гурток. Прыслалі нам з заграніцы літаратуру, у тым ліку і надрукаваную ўжо „Дзяржаўнасьць і анархія“. Мы займаліся яе пашырэньнем, зносінамі з моладзьдзю і гурткамі і к вясьне зьбіраліся ўсе ў народ. Прыязным да нас гуртком як сваймі ідэямі, так і агульным паходжаньнем ад Бакуніна быў гурток Каваліка. Сяргей Піліпавіч Кавалік быў выдатнай асобай сярод тагочаснай моладзі. Разумны, адукаваны, разьвіты з пераконаньнямі, якія ўжо зусім скалаліся к таму часу, ён вельмі энэргічна праводзіў програму сваёй чыннасьці. Працаваў ён неяк лёгка, заўсёды з усьмешкай, нібы так, між іншым. Мне заўсёды здавалася, што гэта не сапраўдная яго работа, што ён павінен зрабіць нешта надта вялікае. У студзені 1874 году Лермантаў, Кокушкін і я былі

арыштаваны III-ім аддзяленьнем. У некага з тых, што былі арыштаваны на граніцы, знашлі мой адрас, нехта сказаў на выпытах, што я прасіла дастаць мне сялянскі пашпарт. Прасядзела я ў III-ім аддзяленьні тры месяцы і мяне выпусьцілі. Шмат каго з сваіх сяброў я ўжо не застала— яны пашлі ў народ, у тым ліку і Судзілоўская. Затым пачаліся арышты тых, хто пашоў у народ, гурткі раскідаліся, сувязі траціліся. Трэба было зьберагчы і аб'яднаць тых, што засталіся. Я пачала займацца з рабочымі; на кватэру краўца Чукура прыходзілі рабочыя з фабрык, з якімі я чытала і гутарыла, але гэтыя зняткі скора спыніліся, дзякуючы вельмі прыкраму здарэньню. На тэй кватэры, дзе жылі тыя рабочыя, з якімі я займалася, былі яшчэ і другія, не спрапагандаваныя, якія напіліся і пачалі буяніць; прышла паліцыя,ператрэсла ўсіх і ў куфры маіх рабочых знашла забароненыя кніжкі. Даведаліся, што яны атрыманы з кватэры Чукура; такім чынам дасачылі мяне, і ў пачатку студзеня 1875 году я была зноў арыштавана і ўжо надоўга. Мяне прылічылі да вялікай справы, з якой стварылі працэс 193. Перш я сядзела ў Каломенскай часьці, потым у Раственскай, а к восені, калі скончылі будаваць „Дом предварительного заключения", мяне аднэй з першых перавязьлі туды і трымалі там аж да 1878 году, калі пачаўся наш суд. Адзіночнае зьняволеньне я пражывала параўнаўча лёгка: я шмат чытала, шыла, вышывала і артыстычна перастуквалася. Мяне прысудзілі да сасланьня ў воддальныя губэрні Расіі, але, як недарослую, аддалі умоўна на парукі бацьку майму ў Падольскую губэрню, у маёнтак пад строгі нагляд. У Падольскай губэрні я была пад наглядам яшчэ першай з соцыялістычнай моладзі і мне было вельмі сьмешна, калі ў час прыезду майго ў Каменец-Падольск я зьяўлялася ў паліцыю, каб паказацца ёй разам з ксяндзамі, якія таксама знаходзіліся ў той час пад наглядам і глядзелі на мяне, як на таварыша па няшчасьцю, з надзвычайным зьдзіўленьнем. У вёсцы ў бацькі я спрабавала займацца ў прыходзкай школе, але мяне вельмі скора выправадзілі адтуль. У гэтай глушы я ня была зусім адарванай ад рэволюцыйнага руху, дзякуючы таму, што мяне калі-ні-калі адведвалі мае сябры: Зося Пяроўская, Зося Лешэрн, Уладзімір Дэбагоры-Макрыевіч, Марыя Кажанава. Яны знаёмілі мяне з програмамі нарадзіўшыхся партый „Народнай волі", „Чорнага перадзелу" і прапанавалі ўступіць у члены, кожны ў сваю партыю. Я не адважвалася. Зьмены програмы партыі былі настолькі сур'ёзныя, што мне трэба было праверыць вывады на падставе фактаў жыцьця; апрача таго, для мяне мала было спрыяць, па натуры сваёй я магла быць толькі членам дзейным, дзеіць-жа зараз не магла, бо не адважвалася парваць з усім мінулым і стаць нелегальнай. Я пастанавіла пачакаць да таго часу, калі мне пашчасьціць вызваліцца ад паручыцельства бацькі, якое мяне вельмі зьвязвала.

Я пабралася з Анатолем Язэпавічам Бонч-Асмалоўскім, якога я ведала яшчэ студэнтам у Пецярбурзе, і выехала з ім у яго маёнтак Блонь

Менскай губ., Чэрвеньскага павету. У восень 1880 году я езьдзіла ў Пецярбург, дзе спаткалася з сваімі сябрамі па працэсу 193. Асабліва ў памяці мне адзін вечар, які я прабыла на кватэры Жалябава і Пяроўскай; там былі, апрача іх, Ціхамiраў, Якімава, Міхайлаў і яшчэ колькі асоб. Пяроўская, на выгляд сьціплая, маладзенькая дзяўчынка, сядзела каля стала і нешта шыла, ціха размаўляючы са мной. На маё заўважаньне: „Вы адыходзіце ад народу“, яна з сьлязьмі на вачох адказала: „Так, я заўсёды думала жыць у вёсцы і працаваць з сялянствам, але гэта немагчыма, нам не даюць, другога выйсьця для нас няма“. Жалябаў горача і натхненна разьвінаў плян чыннасьці сьледам за забойствам цара. Ён верыў, што яно выкліча народнае паўстаньне, „але“, дадаваў ён: „калі нават паўстаньне не адбудзецца, а толькі замах будзе ўдатным і цар будзе забіты, я здавольненым пайду на сьмерць“. Ціхамiраў супакойна, мэтодычна выкладаў свой плян скліканьня земскага сабору. Якімава—з сваім круглавідным, ружовым тварам зьзяла здароўем, шчасьцем і верай у правасьць сваёй справы. Усе былі адухоўлены, жылі поўным жыцьцём, верылі ў блізкасьць перамогі. Мы разьвіталіся; Ціхамiраў правёў мяне да маёй кватэры (я застанавілася ў гасьцініцы). Быў агідны, халодны і дажджлівы асеньні вечар. Мы падпалілі ў каміне, нагрэліся; зьявіўся настрой падзяліцца тым, што ляжала на душы, і Ціхамiраў расказаў, як моцна ён змарыўся душой, нэрвы ня вытрымліваюць заўсёднага напружаньня розуму і пачуцьця, хочацца спакою, бясконцага спакою, ні аб чым ня думаць, нічога не адчуваць, нічога не рабіць. На маё заўважаньне, што неабходна даць сябе супачын, абнавіць сілы, якія зноў пойдуць на тую-ж самую справу, але ўмацаваныя, абноўленыя будуць яшчэ больш вытворнымі, ён адказаў, што гэта немажліва, не такі час, трэба даражыць кожнай хвілінай і моцна стаяць на сваім пасту. Ён застаўся на сваім пасту, але сілы надламаліся, нэрвы зрабіліся нікуды нявартымі, і чалавек, як кажуць сяляне, зрабіўся „сапсованы“.

У 1882 годзе я была ў Адэсе, дзе спаткалася з Верай Мікалаеўнай Фігнэр, якая пачала знаёміць мяне з сваймі гурткамі. У гэты час у Вільні быў арыштаваны мой муж, западазроны ў наснуджаньні друкарні ў Менску. Паліцыя дабралася і да мяне, але на шчасьце я зараз-жа заўважыла, што за мной сачаць, пасьпела ў час папярэдзіць маіх знаёмых і спыніць усякія зносіны з імі. Праз колькі дзён мяне арыштавалі, але ніякіх сьлядоў я за сабой не пакінула, нікому не пашкодзіла і супроць мяне былі толькі няясныя падазрэньні. Пратрымалі мяне чатыры месяцы і выпусьцілі пад нагляд. Я выехала ў Вільню, каб даведацца пра мужа, але там, паводле тэлеграмы з Адэсы, мяне зноў арыштавалі, і, пратрымаўшы два месяцы, управадзілі ў Блонь пад строгі нагляд, бяз права выезду.

Пачалася глухая рэакцыя. Сябры мае рассыпаліся па ўсім сьвеце: хто ў турмах, хто ў сасланьні, хто эміграваў заграніцу. Я адчувала сябе вельмі адзінотнай. Вера ў магчымасьць безадкладнага паўстаньня, а ра-

зам з ёю і энтузыязм, з якім я гатова была пры першым закліку нешкадуючы аддаць жыцьцё сваё для дабра людзтва, улегліся. Зьявіліся новыя клопаты—дзеці. Я пастанавіла сабе, што цяпер не пара заклікаць да паўстаньня, а трэба, карыстаючы з моманту зацішша, рыхтаваць асобных людзей з народу, якія-б былі здольны кіраваць масамі. Я зрабіла спробу пранікнуць у школу, але неўзабаве прыехаў інспэктар народных школ і застрашыў настаўніка с. Блоні, што звольніць яго, калі ён будзе кампанаваць з намі. Настаўнік быў вельмі мілы, малады хлапец, Казакевіч; з ім мы сьсябравалі, і ён ціхачом даведваўся да нас з некаторымі сваймі старэйшымі вучнямі, сялянамі с. Блоні. З гэтага пакаленьня нашых вучняў выпрацавалася некалькі цікавых тыпаў.

Іван Цэхановіч—вельмі разумны чалавек, разьвіты, шмат чытаўшы; ён меў вялікі ўплыў на сялян; яго выбіралі ў сельскія старасты, потым—валасным старшынёй, але тут ён зьбіўся з панталыку, адышоў ад нас, сяляне пачалі адносіцца да яго з недавер'ем. Я ўсё была ўпэўнена, што ён да нас вернецца, што гэта часовае засьляпленьне, але, на жаль, ён захварэў і памёр.

Мікалай Цэхановіч, прыраджоны рэволюцыянэр. Разумны, прадпрыімны, настойлівы. Прыраджоны яму рэволюцыйны тэмпэрамант заўсёды падбіваў яго на протэст і падчас на орыгінальныя ўчынкі. Ён быў двойчы сасланы ў Сібір, у першы раз—з маім сынам Іванам—за ўтварэньне гурткоў сярод сялян і за агітацыю. Зьвернуты па амністыі, ён зноў узяўся за рэволюцыйную працу. Садоўнік профэсыяй, ён хадзіў засаджваць і абраза́ць сады ў аколічныя вёскі і там агітаваў як мага. Ён падбухторыў сялян напісаць прашэньне ў жандарскую ўправу аб адабраньні зямлі ў двух суседніх вяльмож і падзеле яе паміж сялянамі. У 1905 годзе ён намаўляў сялян сабрацца натаўпам і йсьці ў Менск падымаць паўстаньне. Гэтая пропаганда ня мела посьпеху. У час выбараў у 2-ую Дзяржаўную Думу ён дастаў сабе ў пристава візытную картку, якая давала яму шырокую магчымасьць зьбіраць у сёлах сходы і рыхтаваць да выбараў. Прыстаў быў упэўнены, што ён будзе агітаваць за „акцябрыстых". Але вышла зусім на другое. Цэхановіч пачаў самую шырокую агітацыю за падзел зямлі і г. д. Аб гэтым дашло да жандарскай управы, якая паведаміла пристава і загадала арыштаваць Цэхановіча. Прыстаў баяўся яго арыштаваць з-за сваёй карткі і зьвярнуўся нават да мяне, каб я ўпрасіла Цэхановіча аддаць яму яго картку. Зразумела, Цэхановіч не аддаў, але ўрэшце яго ўсё-ж такі арыштавалі і ў другі раз саслалі ў Сібір, дзе ён і памёр.

Васіль Шыбайла, тыповы рэволюцыянэр-беларус. Супакойны, цьвёрды, упарты. Ён меў толькі адну дзесяціну зямлі і жыў з плотніцтва, потым вывучыў у нас крухмальную вытворчасьць. У душы яго заўсёды хавалася вера ў падзел панскай зямлі, калі і ён сваю частку дастане. Ён так быў упэўнены ў гэтым, што, хоць яму прапанавалі самыя выгадныя

работы на старане, ён не хацеў уходзіць з свайго сяла, каб не прапусьціць падзелу. Ён агітаваў за сельска-гаспадарчую забастоўку, каб ніхто з сялян ня йшоў да паноў працаваць, пры гэтым упэўніваў, што не працуючы можна вельмі мала есьці і на пражыцьцё хопіць сваіх вясковых сродкаў: паны доўга ня вытрымаюць такой забастоўкі і здадуцца. Ён быў арыштаваны па справе майго сына Івана, адседзеў больш паўгода ў Менскай турме. Пры адходзе палякаў і прыходзе бальшавікоў ён ляжаў у Менскай Земскай больніцы цяжка хворы. Я прынесла яму паесьці, бо баялася, што ў гэтым клуме яго не пакормяць, і застала яго ўжо апранутым, гатовым ехаць дамоў. Ніякія мае ўгаворы, каб ён застаўся ў больніцы лячыцца далей, не памаглі. Баяўся прапусьціць падзел зямлі; паехаў і там сканаў.

Сьцяпан Мігуцкі—селянін, гаспадар, цяжкадум; ён цяжка варочаў мазгамі, але меў мяккую, далікатную душу, быў нахільны к успрыйманьню Талстоўскага вучэньня. Ён бясконца любіў забароненую літаратуру, адносіўся да яе з глыбокай пашанай. Калі блонская моладзь надумала ўладзіць сваю бібліотэку, муж мой дастаў ім шмат нелегальнай літаратуры. і бібліотэка даручана была Сьцяпану Мігуцкаму, які хаваў яе, як свае вока. Два разы быў арыштаваны па справе Івана Бонч-Асмалоўскага і па нашай агульнай справе ў 1908 годзе. І па першай і па другой адседзеў доўга ў турме, але гэта ня зьменшыла ў ім замілаваньня да кніжкі. Памёр ён ад тыфусу ў 1919 годзе.

Гэта былі найбольш выдатныя тыпы блонскай моладзі, пачынаючы з 1885 году. Каля гэтага-ж часу (дзевяностыя годы) Анатоль Язэпавіч Бонч-Асмалоўскі надумаў утварыць з больш разьвітых хлопцаў земляробскую сябрыну (арцель) на соцыялістычных начатках. Для гэтага ён апрацаваў адпаведны статут і аддаў сябрыні поўную гаспадарку з неабходным інвэнтаром і насеньнем; але падышоў вельмі незадачны год—поўны неўраджай, што выклікала расчараваньне ў мала сьвядомых членаў, і сябрына раскідалася. Сьвядомых-жа членаў сябрыны на чале з Мікалаем Цэхановічам было вельмі мала, каб весьці справу далей.

Другое пакаленьне моладзі разьвівалася пад уплывам ужо гэтых старых, а таксама і маіх дзяцей—Івана, Ірыны і Радзівона, якія да таго часу ўжо падрасьлі. Дзеці нашы вучыліся ў блонскай сельскай школе, што дало ім магчымасьць блізка сыйціся з сялянскімі дзецьмі і прыдбаць сярод іх сяброў. Самым выдатным з рэволюцыйных дзеячоў сяла Блоні быў Максім Лукашык, які цалком аддаўся гэтай працы, кінуў для яе зямлю, сям'ю, родную вёску. Чыннасьць яго была досыць значная, паказаньні на яе спатыкаюцца ў літаратуры. Ён уступіў у Партыю соцыялістых-рэволюцыянэраў, потым—максымалістых. Два разы быў засуджаны ў Сібір. У першы раз зьвярнуўся, дзякуючы амністыі, у другі—уцёк. У сасланьні ў яго пачаліся сухоты. Ён прышоў да вываду, што жыць хвораму ня варта і надумаў скончыць жыцьцё самагубствам; але яму захацелася да-

дому, у астатні раз пабачыць родныя мясьціны, і аднэй глухой ноччу ён цішком прабраўся ў сяло Блонь, у господу сваёй сястры, дзе і схаваўся ў сене. На другі дзень сястра яго прышла паведаміць аб гэтым мяне. Становішча яго было вельмі небясьпечным: наўкол сялянскія сядзібы, яго лёгка маглі ўбачыць. Тут, на радзіме ён пачуў сябе лепш, зьявілася надзея, што ён паправіцца, а разам з гэтым зьявілася і агіднасьць да „самазьнішчэньня“, як ён гаварыў. Мы пастанавілі перш за ўсё знайсьці яму бясьпечны прытулак.

Анатоль Язэпаў паехаў у Гомель, і там Кулябка-Карэцкі прапанаваў часова прыпыніць яго ў сябе. І вось зноў уначы з вялікай асьцярожнасьцю Максім дабраўся да вакзалу, сеў у вагон, дзе яго спаткаў Анатоль Язэпавіч. Ён пражыў у Гомлі, пакуль не ўдалося з дапамогай братоў Луцкевічаў зьмясьціць яго ў санаторыі пад Вільняй. Тут ён прабыў два месяцы, а затым яго перавезьлі заграніцу і прыстроілі ў Давечы ў Швэйцарыі. Да вайны я з ім перапісвалася і пасылала яму грошы. Вайна спыніла нашы зносіны і толькі потым я даведалася, што ён памёр у санаторыі. Нікога мне так ня шкода, як беднага Максімку, што не дажыў ён да лепшых часоў.

Блонь была чулай да ўсіх кірункаў рэволюцыйнага характару, дзеля чаго ў ёй зьбіраліся самыя рознастайныя рэволюцыйныя элемэнты. У часы рэакцыі 80-х гадоў, калі пачаў разьвівацца талстоўскі кірунак, да нас прысылалі хлапцоў, якія вучыліся ў нас сельска-гаспадарчым работам, а потым ішлі ў талстоўскія абшчыны. Тыя, хто зьвяртаўся з сасланьня з Сібіры, заяжджалі ў Блонь і тут адпачывалі, знаёміліся з становішчам. Гэтак пагасьцявала тут Бутоўская—мая таварышка па гімназіі, якая была засуджана на 4 гады катаргі. Таксама Сяргей Піліпавіч Кавалік з жонкай і дачкой—пасьля шматгадовай катаргі і сасланьня,—мой даўны знаёмы і таварыш па працы ў пецярбурскіх гуртках 70-х гадоў. Блізкая мая знаёмая яшчэ з маладых дзён К.К.Б., жанчына год на дзесяць старэй ад мяне, якая несказана зьдзіўляла мяне сваім моральным абліччам сваёй фанатычнай адданасьцю рэволюцыйнай справе. Не магу не сказаць некалькі слоў аб гэтай надзвычайна выдатнай жанчыне. Яна—адзіная, другой такой няма і ня было... Яна—комуністка самым складам сваёй душы. Да чаго другім трэба было рыхтавацца, працаваць над сабой, змагацца са сваймі насьледнымі пержыткамі,—у яе ўсё гэта было закладзена ад прыроды. Бязьмежная любоў да людзей, самаадданасьць, умельства жыць суцэльна думкамі і інтарэсамі другіх, адсутнасьць асабістых інтарэсаў, хоць-бы якой уласнасьці,—рабілі яе ўсімі каханай, усім неабходнай, для ўсіх жаданай. У яе была толькі адна ўласнасьць: ідэя і каханьне да людзей. Хто ёй спачуваў, той быў бясконца ёй дарагі. Мне было падчас крыўдна на яе, калі яна выяўляла сваю дабрату і ласку перад людзьмі, ня зусім вартымі гэтага, але ў гэтым яе нельга было перайначыць, яна заставалася на старым: соцыялісты, рэволюцыянэр—усё для яго. Я была

больш вымагальнай і нязноснай. Але затое да людзей процілеглага лягеру яна магла быць бязуважнай і нават жорсткай. У мяне пазнаёмілася яна з Грыгорам Гершуні і Любоўю Клячко, і тут зарадзіўся зародак Партыі социялістых-рэволюцыянэраў у 1899 годзе.

Зьбіралася ў Блоні і соцыял-дэмократычная моладзь, таварышы дачкі маёй Ірыны (яна далучылася да соцыял-дэмократычнае партыі), як Рагозін, Віскі. Шмат каго адсюль перавозілі нелегальнымі заграніцу, шмат хто прыяжджаў проста адпачыць. Менскія жандармы лютавалі. „Як толькі прыдзе вясна“, казалі яны, „зьяжджаюцца ў Блонь рэволюцыянэры з усяго сьвету і сачы іх тут“. З маіх менскіх знаёмых у часы маёй маладосьці мне асабліва ярка ўспамінаецца Аўгеня Адольфаўна Гурвіч. Мы з ёй ня былі зьвязаны ніякімі справамі, але гэта сьціплая маладая дзяўчына, вельмі разумная, з багатымі ведамі, з далікатнай, чулай душой, узбуджала да сябе маю пашану і пачуцьцё каханьня. Я з радасьцю назірала за ростам і аформленьнем яе палітычнай сьвядомасьці і захаплялася яе вытрыманасьцю, цьвёрдасьцю і вернасьцю сабе ва ўвесь час яе палітычнай чыннасьці.

З 1900 году шмат часу і сіл уходзіла ў мяне на клапоты аб членах маёй сям‘і, якія пачалі падпадаць арыштам і засланьню. Старэйшы сын Іван быў арыштаваны ў Менску яшчэ гімназістым 7-ае клясы ў 1901 годзе і сасланы на тры гады ў Сібір; затым, калі быў сакратаром „Працоўнай групы“ 2-ой Дзяржаўнай Думы, зноў быў арыштаваны ў Пецярбурзе. Дачка Ірына была арыштавана ў 1901 годзе ў час дэмонстрацыі на Казанскай плошчы, потым далучылася да Соцыял-дэмократычнае партыі і неаднакроць падпадала пад кару. Анатоля Язэпавіча арыштавалі ў 1901 г. і саслалі ў Сібір. Сын Радзівон упяршыню быў арыштаваны ў Пецярбурзе ў 1904 годзе, а затым у 1905 годзе на зьезьдзе соцыялістых-рэволюцыянэраў у Кіеве, за што быў засуджаны на тры гады крэпасьці, якія поўнасьцю і адседзеў. Аб усіх іх трэба было клапаціцца, езьдзіць пабачыцца, а ў мяне на руках было яшчэ двое малых ды Блонская сельская гаспадарка, якую мы трымалі ў парадку і намагаліся весьці прыкладна. Калі Анатоль Язэпавіч быў сасланы, мне шмат дапамагаў у гаспадарцы наш прыяцель, агроном Морыц Лазаравіч Саламонаў, які зьвярнуўся з усходняй Сібіры, адбыўшы 8 год сасланьня ў Верхаянску. Толькі дзякуючы яго ведам, энэргіі, здольнасьці рабіць добры уплыў на абкружаючых, я магла справіцца з гэтакай непасільнай для мяне працай. Але і яго ня мінуў гэты агульны лёс. І яго арыштавалі ў Блоні паводле загаду з Пецярбургу і павезьлі туды. Я засталася зусім адна, ня ведала, што пачаць, што рабіць, адчай апанаваў мяне. Але на шчасьце яму пашанцавала, удалося апраўдацца ад абвінавачваньняў, якія на яго ўзьвялі, і праз два месяцы ён вярнуўся. Радасьць мая была вялікая.

Рэволюцыя 1905 году прынесла мне таксама шмат клапот. Усе мае— Анатоль Язэпавіч, Іван, Ірына, Радзівон Бонч-Асмалоўскія, пляменьні-

ца Варвара Вахоўская (у замужжы—Антошына) пашлі ў рэволюцыю. У час маскоўскага паўстаньня ў мяне ня было ніякіх зьвестак аб іх: я ня ведала, ці жывыя яны, і вось, з першым цягнікам, які адыходзіў з Менску ў Пецярбург, я паехала, пастанавіўшы сабе дапяць у Маскву і адшукаць іх. У Пецярбурзе я прачытала ў газэце аб затрыманьні ў Кіеве зьезду соцыялістых-рэволюцыянэраў і паміж прозьвішчаў арыштаваных знашла— „Бонч-Асмалоўскі“. Каторы іменна—я ня ведала, але несказанна ўзрадвалася,—значыць, хоць адзін жывы. Тут-жа я адшукала Варвару Вахоўскую, праз яе дастала сувязі ў Маскву і з першым адыходзіўшым цягнікам паехала туды. Прыехала я назаўтрае пасьля таго, як сямёнаўцы ўзялі Прэсьню. Поўнае зруйнаваньне, прастрэленыя дамы, заваленыя вуліцы, цемра, то тут, то там стрэлы—жудасна... Хутка я знашла Ірыну і Івана, а праз іх і кватэру Анатоля Язэпавіча, куды пачалі зьбірацца ўцекачы з Прэсьні, якіх радасна сустракалі. Тут былі: Жэня Ратнер, якую таксама прыехала адшукваць маці, Сокалаў-Мядзьведзь і шмат іншых.

Вельмі дзіўна і цяжка было нам—памешчыкам—весьці соцыялістычную пропаганду сярод сялян, але ў гэтым нам дапамагаў сам урад. Тое, што за намі заўсёды сачылі, часта трэсьлі, арыштоўвалі выклікала спачуваньне і давер'е да нас з боку сялян. Бывала, толькі што выйдуць з вагона жандары, якія прыехалі з Менску ў Пухавічы, каб трэсьці нас, як хто-небудзь з вакзалу бяжыць у Блонь, папярэдзіць нас і часта нават асоба зусім незнаёмая. Калі нас судзілі ў Менску, трэба было сарваць сэсію суда, дзеля таго, што правазаступнікі нашы не адважваліся весьці справу пры даным складзе суду. Суд быў сарваны з прычыны хваробы Анатоля Язэпавіча Бонч-Асмалоўскага. Судзьдзі страшэнна ўзлаваліся і зараз-жа паслалі доктара й прокурора ў Блонь, каб агледзець хворага. З Менску яны паслалі тэлеграму, каб на вакзале ім былі нарыхтованы коні. І праўда, прыстаў чакаў іх, парка коняй для іх стаяла каля ганку. Яны пасьпешна селі і крануліся—прыстаў наперадзе, яны ззаду. Ад'ехаўшы трохі, хурман спыніў коняй, нібы нешта папраўляючы, даў прыставу абмінуць і, калі той трохі ад'ехаўся, зьвярнуў зусім у другі бок, па дарозе на Чэрвень. Ехалі яны, ехалі доўга, пакуль, урэшце, прокурор не пачаў сумнявацца і ня спытаўся, ці скора-ж урэшце, будзе Блонь. Хурман зьдзіўлена адказаў: „Вам у Блонь? а я думаў у Ігумен“,—і павярнуў коняй назад. У Блоні ўсе дзівуюцца, чаму яны ня едуць; прыстаў рассылае ў розныя бакі конных шукаць іх. Так прашло гадзіны са дзьве, пакуль яны, урэшце, прыехалі. Наконт гэтага здарэньня рабілі дазнаньне, дапытвалі шмат каго, але нічога ня выкрылі. Хурман быў нам зусім незнаёмы і ўсё гэта надумаўся зрабіць сам. Вялікая справа, якую стварыла начальства, „па пропагандзе ў Блоні“, была вельмі няўдатнай для абвінавачаньня. Абвінавачанымі былі Анатоль Язэпавіч, я—Варвара Іванаўна, сын наш Іван Бонч-Асмалоўскі, пляменьнік мой Уладзімер Вахоўскі, настаўніца Ярмоліна і сяляне с. Блоні—Сьцяпан Мігуцкі, Максім Лу-

кашык, Віктар Каток. Прыцягваўся да адказнасьці яшчэ Мікалай Цэхановіч, але ён да таго часу памёр у Сібіры. Супроць нас меліся паказаньні прыставоў, вураднікаў, аднаго селяніна з с. Блоні і вакзальнага стоража. Два апошніх на судзе адмовіліся ад сваіх паказаньняў, дзеля таго што яны былі вымушаны ў іх пагрозамі поліцыі. Апрача поліцэйскіх паказаньняў, нічога не засталося. Як ня быў суд настроены супроць нас, а прышлося нас усіх апраўдаць. Прокурор падаў касацыю ў Сэнат; назначаны быў другі разбор справы. Засудзілі Анатоля Язэпавіча, мяне, Івана Анатолевіча, Сьцяпана Мігуцкага на 9 месяцаў за хаваньне забароненай літаратуры, з залікам таго тэрміну, які мы адседзелі да суда. Ярмоліну, Максіма Лукашыка і Віктара Катка—на 1 год за публічныя выступленьні. Мне прышлося праседзець 9 месяцаў да суду ў Менскай турме ў агульных камэрах. Ня гледзячы на тое, што мне ўжо было 52 гады, а мае таваркі былі маладыя дзяўчаты гадоў па 20-25, што нас у камэры было чалавек 15, гэта зьневаленьне ня было для мяне вельмі цяжкім, дзякуючы таму, што мае тварышкі па камэры вельмі рупатліва, далікатна і уважліва адносіліся да мяне. Я й цяпер з прыемнасьцю ўспамінаю гэтых мілых дзяўчат, маіх нявольных дзевяцімесячных таварышак за кратамі й за замкамі.

# БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРНАЯ СУЧАСНАСЬЦЬ (1920—1925 г.г.)

Ўл. Дзяржынскі

## Зарысы і нататкі*)

> А лапці і анучыны
> Адбэрсаны, адкручаны.
> Нуда маўчыць ціхом;
>
> Спраўляюцца заручыны
> Вясельніцы засмучанай
> З вясёлым жаніхом.
> (*Я. Купала—„Безназоўнае“*).

*Бядуля-Ясакар.* Кожны раз, калі мне здараецца вандраваць па абшарах, не скажу бязьмежных, але ўсё-ткі абшарах, беларускага найноўшага пісьменства, я на дарозе гэтага вандраваньня нязьменна спатыкаю таямнічую бор-пушчу. Разгарнуўшыся ад краю да краю, маркотна ўсьміхаецца яна мне і вабіць у цень сваёй сакоўнай зелені. Прыбліжаюся, уваходжу.

Навокал мяне бязьмежны хаос буйнай расьліннасьці, зграмаджанай тут нечыяйсь магутна-капрызнай воляй з усіх мо. канцоў сьвету. Вось беларуская хвоя-баруня; хачу насыціць пагляд свой яе сьмела-ймкненным размахам угару і ўшыркі, аж раптам бачу, як з яе іглістае кароны шле мне гульлівыя ўклоны гасьціннага прывітаньня кучаравая пальма, з лісьцяў якой павявае смаглым подыхам падзваротнікавага сонца; зьдзіўлены такой фантастычнай мэтаморфозай, шукаю больш рэальнай апоры для сваёй крытычнай сьвядомасьці, і спыняю свой пагляд на векавечным дубе; у крышталёвы блакіт неба падняў ён свае магутныя рамёны; здаецца, вось-вось схопіць ён гэтыя блакіты і нізрыне да сваіх магутных ног-карчагаў, каб атуліць полагам гэтых блакітаў сваё каравае цела, каб утапіць у гэтых блакітах бязьлікую сям'ю сваіх галін; але што-ж я бачу: з гэтых галін, замест рэльефнага орнамэнту дубовага лісьця, зьвісаюць гірлянды чырвона-зялёных шыракалістых паўднёвых павояў; ачараваны такімі дзівамі, я ўглыбляю свой погляд у самыя нетры гэтага бору і бачу,

---

*) Працяг. Гл. „Полымя“ № 1, 1925 г.

як вечназялёныя мірты і олеандры спляліся ў хмельным карагодзе навокал нашай плачкі-бярозы; але ня могуць яны разагнаць яе смутку і тугі, што журботнымі косамі ралак спавіваюць беластройны стан яе; а побач, рубіновыя каралі рабіны кроплямі гарачай крыві сплываюць у глыбокую чашу сьнежна-белай буйнай лотаці, да якой выцягваецца касьцістая рука з жоўтай зелені памаранцавага куста; а навокал—зарасьлі, зарасьлі і зарасьлі; ні сьцяжынкі, ні сьледу; машастовы кілім фантастычнай расьліннасьці, вытканы ў яскрава-ўсходніх узорах, засьцілае спод гэтага бору, фальбонамі зьвісае з ляшчыннага гушчару, кутасамі трымціць у панурай жалобе аліўкавых елак; на гэтым кіліме красуюцца побач з васількамі і пралескамі нейкія крывава-чорныя напоў-краскі, напоў-жывёлы, якія сваім салодка-церпкім араматам хмеляць да болю, да няпрытомнасьці.

Беларуская прырода ў хаотычна-цуднай гармоніі сплялася з паўднёвай экзотыкай.

І бачу я, што гэтае бяздоньне расьліннасьці да краёў напоўнена гэткім-жа бяздоньнем жывых істот—істот рэальных і фантастычных. І адчуваю я, як бор жыве ў такім магутным жыцьцёва-дынамічным рытме, што маім пачуцьцям трудна схапіць паасобныя рухі гэтага рытму, трудна ўсьвядоміць сабе іх. А бор, непазнаны, незразумелы, навісае нада мной усім цяжарам сваёй нязвычайнасьці, і далёкай здаецца кветка, што вострым сваім пахам хмеліць мазгі мае. Вырываюся з гэтага неразгаднага бору, уцякаю да сьветла-праменных бярозавых гаяў, да квяцістых сенажацяй наднямоньня, да каласістых ніў працоўных вёсак, урэшце, да магутных гарадзкіх мурашнікаў, каб адпачыць там ад хаосу гэтага бору Але заставацца там доўга не магу: мяне зноў цягне ў цень яго хмельных туманаў, каб упівацца чарамі яго таямнічае, дваістае істоты.

І кожны раз, калі я, вярнуўшыся з вандраваньня па абшарах нашага найноўшага пісьменства, здаю сябе на волю эмоцый, выкліканых гэтым вандраваньнем у маёй істоце, то хвалі гэтых эмоцый нязьменна прыбіваюць човен майго выабражэньня да панура-маляўнічых берагоў гэтага экзотыка-беларускага бору. Кожны раз так бывае! Але сёньня хачу я перасесьці з чаўна выабражэньня на човен крытыкі; мо' такім спосабам удасца мне прыпадняць хоць рубок тае вечна-зьменнае заслоны, што закрывае ад вачэй маіх істоту гэтага літаратурнага бору. Папрабую.

---

Скупая на словы беларуская крытыка. Ня любіць яна залішне песьціць нашых поэтаў і пісьменьнікаў. Ня прывыкла адгукацца яна хоць-бы на выдатнейшыя праявы беларускае літаратуры. Навісае яна дамоклавым мячом свайго ўпартага многазначнага маўчаньня над нашымі літаратурнымі корыфэямі і поэтамі ніжэйшай катэгорыі, гняце іх трывогай чаканьня, непакоіць, дражніць, абурае... і маўчыць. І гэтае злавешчае маўчаньне ўпіраецца, як асінавым калом, знакам запытаньня ў творчасьць кожнага

з мастакоў беларускага слова. Бы крыжоў на могілках—гэтых знакаў запытаньня на постаці беларускага пісьменства! Так, бы крыжоў на могілках.

Але калі скупая і неласкавая наша літаратурная крытыка ў адносінах да беларускага пісьменства наогул, то ў адносінах да творчасьці Бядулі-Ясакара гэтая няшчодрасьць дасягае свайго найвышэйшага пункту. І запраўды. Калі Д.-Марцінкевіч, Фр. Багушэвіч, Цётка, Я. Колас, Я. Купала, М. Багдановіч, Ц. Гартны, М. Чарот, А. Гурло і інш. усё-ткі ўласкавілі нашу крытыку настолькі, што яна абдарыла іх хоць рубком злотаблеску сваёй увагі, то Бядуля-Ясакар дагэтуль не пранік за брамы яе гасподы, дагэтуль не засеў да столу яе бяседы, бяседы вельмі скромнае, але ўсё-ткі бяседы. Праўда, сям-там у беларускім друку (рэцэнзіі) спатыкаюцца паасобныя выразы датычна творчасьці Бядулі-Ясакара, але ўсе яны маюць такі агульны і нязначны характар, што ні рыскі не дадаюць да таго літаратурнага портрэту, які рана ці позна павінен быць зарысован нашай літаратурнай крытыкай. І цікава тут адзначыць, што постаць Бядулі-Ясакара як поэты беспараўнаньня больш увагі прыцягнула з боку замежнай літаратурнай крытыкі, пераважна польскай і украінскай. Ужо яго юнацкая вязанка лірычных імпрэсій „Abrazki“ дала падставу польскім рэцэнзэнтам адчуць у поэце глыбокія крыніцы самабытнага, цалкам орыгінальнага на беларускай літаратурнай ніве, мастацкага адчуваньня і багата-вобразнага выяўленьня гэтага адчуваньня, дала падставу прарочыць цікавую будучынку маладому таленту. Затым яго творчасьць неаднокраць выклікала водгукі і ў украінскім друку, дзе таксама падкрэсьлівалася мастацкая маляўнічасьць і эмоцыянальнасьць яго музы. Але гэта, як відаць, рабіла нязначны уплыў на беларускую крытыку, якая да сучаснага моманту як-бы ўнікае якой-колечы стычнасьці з творчасьцю Бядулі-Ясакара. Гэта з аднаго боку.

А з другога боку перад намі ня менш цікавая зьява. Бядуля-Ясакар нязвычайна плённы поэта і пісьменьнік. На працягу 15 год яго літаратурнай працы (так, сёлета Б.-Я. сьвяткуе 15-ці гадовы юбілей сваёй літ. працы) яго творы літаральна затаплялі ўсе беларускія выданьні (газэты, часопісі, альманахі, календары), яго творамі зачытваліся самыя шырокія гушчы, але чамусьці беларускія выдавецтвы знаходзілі непатрэбным выдаваць іх асобнымі зборнікамі (выключэньнем зьяўляюцца „Abrazki“ мініатурны зборнічак лірычных вершаў у прозе, надрукованы—у 1913 г.— лацінікай, дзякуючы чаму мала вядомы ў цэнтральнай і ўсходняй Беларусі). І толькі ў 1922 г., г. зн. на дванаццатым годзе літаратунай працы Б.-Я., пабачыў сьвет невялічкі зборнік яго вершаванай поэзіі „Пад родным небам“, а ў 1923 г. паявіўся і зборнік яго прозы „На зачарованых гонях“. Але ў гэтых зборніках знашлі сабе месца творы пераважна апошніх год яго творчай працы.

Чым-жа вытлумачыць такі незайздросны лёс твораў Б.-Я. у беларускім выдавецкім пляне? Ці яго творчасьць ня прыцягвала да сябе шырокіх гушч, ці не выбіваўся з яго творчасьці выдатны мастацкі талент, ці губляліся яго творы ў хвалях беларускага пісьменства, ці ня было ў іх нічога самабытнага, сьвежага, новага ў параўнаньні з тым, што мелася на нашым літаратурным рынку?

Чым-жа вытлумачыць урэшце тое, што і тая сэрыя юбілеяў і ўрачыстых публічных ушанаваньняў беларускіх поэтаў, якая хваляй пракацілася па паверхні нашай сучаснасьці, зусім не чапіла Б.-Я.?

Ставячы ўсе гэтыя знакі запытаньня, я ня маю на мэце даць беспасярэдняга адказу на іх, тым больш, што ў рамкі гэтага артыкулу павінна быць уложана, як відаць з загалоўку, нашая літаратурная сучаснасьць, а ня мінулае, аднак я дазволю сабе хоць пабежна акінуць поглядам сваёй крытыкі ўвесь пройдзены шлях творчасьці Б.-Я., хоць-бы ў некаторых, па маёй думцы, найбольш характэрных яго пунктах і паваротах.

---

Калі я прабую ўявіць сабе хоць-бы ў агульных контурах той шлях, па якім крочыла й крочыць муза Б.-Я., то гэты шлях паўстае перад маім уяўленьнем у постаці зусім непадобнай да таго паняцьця, якое мы звычайна ўкладваем у слова шлях. Я бачу перад сабой ня рэльефную лінію шляху-гасьцінца, які так выпукла значыць сябе больш або менш аднастайнымі прысадамі па бакох, а бачу завілую сыстэму сьцежак, каляін, паасобных шляхавых ліній, якія то хаотычна пераплятаюцца між сабой, то, разьдзеленыя глыбокімі ярамі, разьбягаюцца ў стораны, каб за паваротам згрудзіцца зноў у вадзін клубок. І яшчэ адна акалічнасьць кідаецца ў вочы: тыя дзьве лініі прысад, якімі на ўсёй сваёй даўжыні абсаджаны літаратурныя шляхі найвыдатнейшых мастакоў беларускага слова (мотывы соцыяльнага і нацыянальнага адраджэньня бацькаўшчыны) неяк губляюцца ў хаосе завілае шляхавае сыстэмы творчасьці Б.-Я. Праўда, сямтам то пры спусках, то пры паваротах дзьве лініі гэтых прысад падымаюцца над гэтай сыстэмай, рэзка выдзяляюцца на горызонце, але праз хвіліну зноў губляюцца ў агульным малюнку.

І запраўды. Перанясемся на хвіліну да вытокаў творчасьці Б.-Я. 1910 г. Вершы. Перад намі малюнак прыроды „Зімовая раніца“:

Над маладымі лясочкамі
Хварбы цьвілі залатыя,
Зьзялі ў высі аганькі.
Над хутарочкамі,
Як нябывыя,
Млелі дымкі.
Пушча сівая шапталася,
Ранак над сьнегам радзіўся,

Шмат было казак і чар.
Шыр хварбавалася,
Ціха дзівіўся белы абшар.

Накшталт гэтага ранку радзілася муза Б.-Я. І паявілася яна на гонях беларускага пісьменства не з традыцыйным сьпевам-галошаньнем а краі ўбогім, а людзях гаротных, у лапці абутых, а нівах благенькіх, а хатаньцы курнай, а на яе струнах „хварбы цьвілі залатыя“, „пушча сівая шапталася“, струны яе абяцалі „шмат казак і чар“. А як-жа спаткалі на гонях беларускага пісьменства гэтую новую госьцю? І на гэта адкажам вобразам з наданага вершу: „Ціха дзівіўся белы абшар“, так белы, бо даволі такі аднастайны абшар нашага тагочаснага пісьменства. Адчувалася, што паявіўся мастак новага вобразу, новае тэмы, новага настрою. Адчувалася, што гэты мастак чэрпае з нейкіх новых крыніц сабе натхненьне, што ён нам можа паказаць нейкія новыя кругавіды.

З хацінкі курнай вырвусь. Над зямліцай
Наладжу арфу я з зарніцы.
Нацягну струны я з праменьняў сонца.
Іх будзе многа, шмат, бясконца.
У зоркі-ноты ўглядацца буду,
І панясецца сьпеў да люду.
Мне будзе месяц пад нагамі глебай,
Я апрану блакіты неба...

—вось дэкларацыя, якую напісаў на сваім мастацкім сьцягу Б.-Я. у 1912 г ў вершы „Мары поэты“. Праўда, нязвычайная дэкларацыя! „З хацінкі курнай вырвусь“—і гэта ў той момант, калі гэтая хацінка курная была такой умілаванай, такой ідэалізаванай, такой выпешчанай фігурай у беларускім пісьменстве! Нейкая нязвычайная гарэзія чулася ў гэтым прызнаньні, але разам з гэтым адчувалася і нейкая сьвежая імпэтная сіла, бурлівасьць. Ці ўдалося Б.-Я. ажыцьцёвіць у сваёй творчасьці гэтую дэкларацыю, ці ўдалося яму запраўды вырвацца „з хацінкі курнай“, ці струны яго ліры заўсёды былі нацягнуты з праменьняў сонца—гэта іншая справа, але дэкларацыя папраўдзе яскравая і размашыстая, хаця і ня зусім поўная, бо ў ёй бракуе аднае нязвычайна характэрнае рыскі датычна тых крыніц, адкуль маніцца поэта чэрпаць матар'ял для сваёй творчасьці:

Я пад соснай стаю, лясуна выклікаю;
Глуш сівая наводзіць тугу на мяне...

— вось яна, гэтая рыска. Ні арфа з зарніцы, з струнамі, нацягнутымі з праменьняў сонца, ні зоркі-ноты, ні блакіты неба не здавальняюць поэту, яны ня ў сілах разагнаць тае тугі, што „глуш сівая наводзіць“ на яго, і Б.-Я. выклікае лясуна. Заўважце гэта, нікага іншага, а іменна лясуна; і гэтаму лясуну будзе суджана адыграць такую вялізную ролю ў творчасьці Б.-Я.!

Такім парадкам, ужо ля сваёй вытокі творчасьць Б.-Я. прабуе выліцца рознымі струменямі. З аднаго боку, вырываньне з хацінкі курнай, а калі прыходзіцца поэце вырывацца, то гэта азначае, што гэта курная хацінка мае над ім уладу, трымае яго ў сваім палоне, ня пушчае ад сябе. Хто каго пераможа? З другога боку—імкненьне ў нябесныя блакіты, туды, дзе „хварбы цьвітуць залатыя“, да чыстага хараства. І ў празрыстамутных водах трэцяга струменю мы бачым насьмешліва-гарэзьлівую грымасу лясуна, які ад гэтае пары ўжо ня дасьць спакою на працягу шмат год поэце. Зразумела, што гэтыя тры струмені ня вычэрпвалі ўсёй творчасьці Б.-Я. нават ля яе вытокаў. Побач з гэтымі струменямі, жывая вада яго творчасьці пачынала бурліць цэлай сеткай меншых раўчакоў і крынічак. Але агульны контур такі—курная хатка (з яе поэта хоча вырвацца); на другім баку лясун (яго поэта кліча), і пасярэдзіне арфа з зарніцы. На гэтым вось фоне і адбываецца ўся далейшая эволюцыя творчасьці Б.-Я., на гэтым фоне яскрава праяўляецца ўся капрызнасьць вечназьменнай дынамікі гэтае творчасьці, на гэтым фоне ўрэшце разгарнуўся малюнак, поўны дыалектычных супярэчнасьцяй, якімі так багата муза Б.-Я. І запраўды.

1912-13 г. Курная хацінка. Сялянская галота, у вапошняй нэндзы. На стале зацірка. Трагэдыя выбару: ці зламаць элемэнтарныя звычаі гасьціннасьці, ці ўтраціць пяць лыжак заціркі. Другі малюнак. Летняя ноч. Багаты гаспадар Кастусь пільнуе ў полі зжатага жыта. Яго ўбогі сусед Ліканор у гэтую-ж ноч прыходзіць красьці Кастусёва жыта. Драматызм спатканьня і нечаканы разьвязак. Трэці малюнак. Вёска Жаброўшчына, усе жыхары якой жывуць з калецтва—жабруюць. Жабрачка Магдуля родзіць дачку, не калеку. Гэта і зьяўляецца прычынай трагэдыі:

„... Як глянула Магдуля першы раз на дачку сваю, дык абамлела на месцы; зірнула другі раз, абмацала яе, абнюхала з усіх бакоў, заламала рукі свае ды горка заплакала, загаласіла: „А Езус! А божухна родненькі! Няшчасную, няшчасную дачку радзіла я на сьвет!... Што мне рабіць з ёй? Ой, ня вытрываю!.. Ніякага калецтва,—стагнала Магдуля.—Хай-бы яна хоць у бацьку пашла ды сьляпой радзілася, а то з чаго яна будзе хлеб есьці?..“ І маці паправіла гэтае няшчасьце тым, што выкалала вочы дзіцяню („Ашчасьлівіла“). Малюнак чацьверты. Зноў курная хацінка. Гаспадар Арцём за сталом дапівае пляшку гарэлкі. На палу паміpае дачка, трынаццацёхгадовая дзяўчынка. Няпрытомная з гора маці. Сьмерць і страшэнная роспач.

Вось перад намі адзін струмень творчасьці Б.-Я.,—струмень яго рэалістычнае прозы. Але зірнем у другі бок:

„Прытуліся ка мне, дзяўчынка каханая! Бо сонейка заходзіць, бо цені гусьцеюць, і каля млына над возерам устаець, быццам белая воўна, пахучы туман...

А мо' і праўда, што ў розных там замчышчах крыштальных ваююць паміж сабой рыцары дня з рыцарамі ночы?

А мо' і праўда, што на пурпурных хмарках ручайкамі ліецца чырвоная кроў?

А мо' і праўда, што ў цёмнай хмызе русалкі з доўгімі валасамі пяюць цяпер песьню захаду?..

Нешта казачнае бачу я ў багатых колерах неба...

Нешта таемнае гаворыць мне вячэрняя зорка...

Сэрца маё пératлумачыць сабе ўсе гэтыя дзіўныя малюнкі..

Вось другі струмень творчасьці Б.-Я. У колёрыце тыповая романтыка. Вячэрняе сутоньне. Цёмная хмыза з русалкамі. Казачнасьць і таемнасьць. Устрывожанае сэрца. А над усім гэтым адчуваецца дырыжэрская палачка яшчэ аднаго, нявідочнага, але ўжо прысутнага тут пэрсонажу—лясуна. Нядарма клікаў яго поэта!

Дапоўнім колёрыт гэтага другога струменю яшчэ вершаваным адрыўкам:

У небе іграе жар-месяца зьзяньне.
Асіны пад ветрам скрыпяць.
Над пусткай нясуцца начніцаў стагнаньні
І цені над рэчкай дрыжаць.
Хаўтурныя сьвечкі на дзікім балоце
Зіяюць і гаснуць ў кустах.
Там шэпчуцца ведзьмы у зыбкім чароце;
У ціне купаецца страх. *(Скупы).*

І тут, як бачым, лясун у сваёй асобе не выступае; покуль што ён абмяжоўваецца тым, што аб сабе напамінае сваімі сябрамі-зьвястунамі: ведзьмамі, страхамі, русалкамі, начніцамі... Але ў хуткім часе хвалі творчасьці Б.-Я. на сваіх грабянёх падымуць і гэтага таямнічага лясуна ў яго ўласнай асобе.

Зірнем цяпер на трэці струмень творчасьці Б.-Я., на струмень, які пачынаецца яшчэ ў „Зімовай раніцы“; на яго малярскай палетры красуюць вось якія хварбы:

Вось засьвяцілася сонейка,
Песьціла, вабіла, грэла,
Даль залацілась палёў.
Белая гонейка
Слухала сьмелы
Хор вераб'ёў...
Гулка журчалі крынічанькі,
Бо без лядочку асталісь,—
Іх і ня здужаў мароз.
Хоць невялічанькі
Гулка сьмяялісь
Проста да сьлёз...

Гэтыя радкі зьяўляюцца вельмі характэрнымі для тых мэлёдый, якімі будзе гучэць „арфа з зарніцы“ пад павевам крышталёвых парываў імкненьня ў царства чыстага хараства. І ў гэтым трэцім струмені мы бадай-што на працягу ўсёй творчасьці Б.-Я. будзем пераважна бачыць малюнкі прыроды або найдасканальшы орнамэнт цудных узораў, вытканых на канве народнага вобразу, народнае легэнды.

У гэткіх контурах уяўляецца мне творчасьць Б.-Я. ля самых сваіх вытокаў. А далей?

1914-15 г. г. Бурліць і пеніцца струмень, што абмывае берагі лясуновага царства. Дый ня струмень ён ужо, а магутная рака, на водах якой сплывае львіная доля творчасьці Б.-Я. А якой дзіўнай фантасмагорыяй выглядае гэтае лясуновае царства на фоне тагочаснага беларускага пісьменства! Дзіўнай і нязвычайнай, новай і так непадобнай да ўсяго таго, што мела права залічаць сябе да беларускага мастацкага слова! Бо-ж лясунавае царства, якое мы бачылі ў творчасьці М. Багдановіча, гэта толькі прэлюдыя да тае лясуновае сымфоніі, якую ў гэты час мы пачулі на струнах ліры Б.-Я. Найяскраўшымі момантамі гэтае лясуновае сымфоніі ў гэтым часе зьяўляюцца два малюнкі: апавяданьне „Лясун“ і фантазыя „Русалкі“.

„Лясун хаваўся ад людзей у панскім лесе і жыў там.

Гэта быў высокі малады дзяцюк з доўгімі, ускалмачанымі валасамі, якіх не часалі і ня стрыглі, бадай, ад самага раджэньня.

Ён быў сухі, бляды, з глыбока-ўпалымі сінімі, бліскучымі вачыма, якія пазіралі пастаянна ў адзін пункт з нейкай затаёнай натхнёнасьцю. Яго дурная ўсьмешка наводзіла жудасьць, нібы ўсьмешка голага чэрапа.

Доўгая, аж да пят, кашуля яго мела колер рудаўкі з прымешкай зялёных траў. Яна была цьвёрдая, як бляшаная, і сядзела на ім, як доўгі мех“...

Але-ж які гэта лясун, запытаецеі Гэта-ж вясковы дзяцюк, праўда, памешаны ўмыслова, але ўсё-ткі рэальны, жывы чалавек! Так думаеце? Але чаму-ж гэты дзяцюк так падобны да запраўднага лясуна, таго лясуна, якога малюе нам фантазія народу? Дый чаму паказвае поэта нам гэтага, нібы рэальнага чалавека на такім фоне, які можа пасаваць толькі самаму запраўднаму лясуну? Вось рыска гэтага фону:

„У лесе цёмна, гэтак цёмна, ажна, здаецца, можна рукамі мацаць гэтыя цёмныя, халаднаватыя хвалі.

У лесе ціха, гэтак глуха-ціха, як у магіле. Душыць гэтая ціш і дыханьне затрымлівае...

У гушчары заплакала сава. Водгалаські разыходзяцца па бакох і варочаюцца назад, дробяцца ўдалі, нібы град аб шыбіны...

Зноў ціха.

Дрэва аб дрэва скрыпіць: дзьве сосны цалуюцца ў салодкай млявасьці“...

Настраёвы фон, ці-ж ня праўда? Запраўднае лясуновае царства! І ня дзівецеся, што Б.-Я. умее так дасканала надзяляць рэальнага чалавека рысамі лясуна! Поэта з няменшым мастацтвам умее рабіць і наадварот: у постаці запраўднага лясуна вы ў іншым месцы пабачыце рысы рэальнага чалавека. Так, лясуна і жывога чалавека, лясуновае царства і рэальны сьвет Б.-Я. умее нейкімі, мо‘ яму аднаму вядомымі, чарамі аб‘яднаць, злучыць, сынтэзаваць. Гэта яго і выключна яго жанр у нашым пісьменстве.

Фантазія „Русалкі“—адно з найдасканальшых дасягненьняў беларускага літаратурнага мастацтва. Сатканая на тэй-жа аснове, што і „Лясун“, на аснове мітычна-романтычнай, гэтая фантазія выдзяляецца тым, што ў ёй яскрава праяўляюцца тыя мэлёдыі, якія струменяць пад знакам „арфы з зарніцы“. Так, толькі на струнах „арфы з зарніцы“ маглі радзіцца тыя гірлянды найцуднейшых вобразаў, якімі цьвітуць песьні русалак у гэтай месячнай сымфоніі. І калі дзе-колечы здолеў вырвацца поэта з хацінкі курнай, то толькі тут, у гэтай месячна-русальнай сымфоніі.

І запраўды. Заглянеце ў той струмень творчасьці Б.-Я., які абмываў сваімі жыватворчымі водамі парогі курнай хацінкі! Гэты струмень, струмень рэалістычнае прозы, хаця ў параўнаньні з ранейшымі гадамі (1912-13) асаблівага поступу наперад не праявіў, але ўсё-ткі бязупынку напамінаў аб тым, што курная хацінка ўсё яшчэ мае ўладу над поэтай. На хвалях гэтага струменю ў гэтыя годы выплывае сэрыя рэалістычных малюнкаў у апавяданьнях: „Туга старога Міхайлы“, „Мядзьведзь“, „Як у біблії“, „Дудар“, „Рабая сучка“ і інш.

Мы бачым, што і ў гэтыя годы творчасьць Б.-Я., як і ля сваіх вытокаў, абсаджана з аднаго боку прысадамі романтыкі, з другога—рэалізму, і ў бязупынным рытме паміж гэтымі прысадамі адначасна дорыць беларускаму пісьменству мастацкія ўзоры гэтых літаратурных плыняй.

√ Але побач з гэтымі двума асноўнымі струменямі ў творчасьці Б.-Я. к гэтаму часу ўсё мацней і багацей пачынаюць бурліць і іншыя мотывы. Рысы поэты-грамадзяніна ўсё больш і больш увыпукляюцца на фоне тагочаснае творчасьці Б.-Я. Імпэрыялістычная вайна і ўсе тыя нязвычайныя ахвяры, якія пашырае яна ў імя золата, у імя капіталу, да глыбіні абураюць поэту і з-пад яго пяра паяўляецца сэрыя водгукаў на гэта. І ўсе жудасы гэтае вайны нідзе ў беларускім пісьменстве ня выстаўлены так яскрава, не пракляты з такім запалам, як у Б.-Я.

Вы будзеце араць гарматамі тымчасам
І тысячамі куль затым баранаваць.
Вы будзеце гнаіць крывёй і цёплым мясам,
Штыхамі растрасаць...
Засееце жалеза, волава, патроны—
І чорнай сьмерці колас хутка зашуміць...

Вы будзеце жаць гібель, пошасьці і стогны,
Пакуту малаціць...

Побач з водгукамі на вайну муза Б.-Я. у гэтыя годы ўсё часьцей наігрывае і адраджэнцкія мотывы. Поэта-адраджэнец з асаблівай сілай выступае ў вершах, напісаных „на біблейны лад". Чаму іменна на біблейны? На гэта, мне здаецца, былі дзьве прычыны: папершае, сама самой напрашвалася паралель паміж біблейнай Іудэяй і тагочаснай Беларусьсю; біблія высьпеўвала выгнаньне сыноў Ізраіля з роднае айчыны, высьпеўвала тую чужацкую няволю, ярмо якой душыла сыноў біблейнага Ізраіля. Гэтыя самыя мотывы, як нельга лепш пасавалі беларускаму поэце-адраджэнцу, які хацеў пяяць аб няволі, нацыянальнай і соцыяльнай, беларускага працоўніка. А другой і галоўнай прычынай, мне здаецца тое, што Б.-Я. і ў гэтым жанры сваёй творчасьці хацеў быць зусім орыгінальным, як і ў іншых сваіх літаратурных жанрах. Адраджэнцкія мотывы ў самых рознастайных адменьніках, на ўсялякія лады ў той час перапяваліся і часткай былі перапеты. І каб дабыць з іх новыя, сьвежыя іскры, Б.-Я. клаў гэтыя адраджэнцкія мотывы на кавадла біблейных псальмаў. І трэба прызнацца, што сваёй мэты поэта дасягаў. Але ў рамкі біблейнага псальму Б.-Я. укладае ня толькі тыпова-адраджэнцкія мотывы. Полымем рэволюцыйнага бунту супроць соцыяльнага зла, супроць панаваньня капіталу, гарадь яго біблейныя псальмы.

Ой, хто гэта ідзець у вопратках чырвоных
З адвагай у грудзёх, з мячом, з стралой ў руках?
Кіпіць у жылах кроў. Агонь ў вачох бяздонных.
Усюль наводзіць сьмерць, усюль наводзіць страх.

Дрыжы, магнат, сатрап! То раб разьбіў кайданы,
Пусьціўся ён у сьвет да сонца і да зор.
Ён спаліць, як агнём, і зьдзекі і абманы.
Застогне ўся зямля, застогне ўвесь прастор.

Нясець ён волю ўсім пакрыўджаным народам,
Нявольнікам зямлі нясець ён лепшы лёс.
Ляціць арлом, віхром, шалёным карагодам,
Ён славаю грыміць ад нізу да нябёс...

То працы вечнай сын, то сын жуды, нядолі
Паганаму жыцьцю паставіў рубяжы.
Змагацца ён пашоў з агідай злой у полі.
Дрыжы, груган, дрыжы! Дрыжы, сатрап, дрыжы!

— вось як натхненна прарочыў Б.-Я. у 1914 г. у біблейным псальме „Ісая 63" недалёкую пару чырвонага Кастрычніка. І наогул, у вязанцы вершаў „На біблейны лад" поэта-грамадзянін у васобе Б.-Я. найпаўней праяўляўся ў дакастрычнікавую пару.

Такім парадкам у 1914-15 г.г. ральлю творчасьці Б.-Я. з аднаго боку, баразьніў плуг лясуна, і з гэтых барозен буялі пышныя расьліны

романтыкі (галоўным чынам на канве народнага міту і фантастыкі); з другога боку—гэтую ральлю баразьніў плуг мастацкага рэалізму (малюнкі курнае хацінкі); побач з гэтым ральлю яго творчасьці ў розных кірунках праразалі глыбокія барозны грамадзка-адраджэнцкіх і ваенных мотываў". А што-ж сталася з „арфай з зарніцы?

„Арфа з зарніцы" самастойных барозен, больш-менш глыбокіх, на ральлі творчасьці Б.-Я. у гэтую пору не пакідае. Яна найчасьцей лунае над налеткамі лясуна і ўслугоўвае яму сваімі сонечна-праменнымі струнамі („Русалкі").

Калі мы цяпер пойдзем гонямі літаратурнай працы Б.-Я. далей, то на ўсім працягу іх аж да 1920 г. мы будзем бачыць у вагульных рысах падобны малюнак. Праўда, 1916-1917 г. г. зьяўляюцца неўраджайнай парой на гэных гонях. Даволі рэдкую расьліннасьць на іх мы спатыкаем. Але і гэтыя рэдкія сьведкі творчага жыцьця поэты сьведчаць, што ў агульных рысах яго літаратурныя каляіны зьяўляліся простым працягам ранейшага шляху.

У 1918 г. муза поэты ажывае. Але і цяпер яна не растаецца з лясуновым царствам. Наадварот. Гэтая плынь творчасьці Б.-Я. цяпер паказала сябе ўва ўсёй сваёй велічы. „Сымфонія" (1918 г.) і „Містэрыя" (1920 г.)—гэта вокны, праз якія мы ўпяршыню заглянулі ў самую глыбіню тэй крыніцы, адкуль выплывала гэтая плынь лясуновага царства. Свайго апогэю гэтая старана творчасьці Б.-Я. дасягнула ў містычнай легэндзе „Божыя сьляды". Праўда, у сваёй аснове гэтая легэнда мае пэўныя рэалістычныя рысы; але на канве гэтых рыс містычныя бяздоньні яе выступаюць яшчэ больш рэльефна і яскрава.

Але ўся творчая энэргія Б.-Я. далёка не магла зьмясьціцца ў берагох гэтае романтычнае плыні. Поэта-грамадзянін з новай сілай прабуджаецца ў асобе Б.-Я. 1918-20 г. г. зьяўляецца вельмі плённымі і з боку адражэнцкіх мотываў. Што-ж датыча яго рэалістычнае прозы, то за гэты пэрыод Б.-Я. падарыў нам толькі адно выдатнае апавяданьне „Бондар" (1920). У гэтым апавяданьні з асаблівым мастацтвам праявілася тая тэндэнцыя пісьменьніка ў бок псыхолёгічнага аналізу, якая што-раз то болей будзе выдзяляць прозу Б.-Я. на фоне беларускага пісьменства.

Асноўную ідэю гэтага апавяданьня, а іменна: ідэю, што зародкі мастацкага таленту, мастацкае організацыі заложаны ў вялікай потэнцыі ў прадстаўнікох працоўнае масы, Б.-Я. неаднакраць разьвівае ў сваіх творах („Малітва малога Габрусіка", „Вялікодныя яйкі" і інш.).

Мы дагэтуль разглядалі ў агульных рысах (так, толькі ў самых агульных рысах, бо не закранулі зусім вязанкі яго вершаў „Віленскія ўспаміны", не закранулі мастацкіх інтэрпрэтацый народных легэнд і наогул народных мотываў, не закранулі твораў, дзе поэта выяўляў свой погляд на проблемы мастацтва і хараства, не закранулі „ваяцкіх песень", не закранулі дзіцячых апавяданьняў-казак) *тэматычную схэму* твор-

часьці Б.-Я і ў гэтым разглядзе падышлі да таго рубяжа, за якім пачынаецца ўжо тая паласа ў беларускім пісьменстве, якую я, згодна з плянам гэтага артыкулу, называю „літаратурнай сучаснасьцю“. І хаця гэтая тэматычная схэма і стварае пэўныя контуры ў літаратурным портрэце Б.-Я., але ні ідэолёгічнага, ні мастацкага выразу гэтым контурам не надае. Вось чаму мне прыдзецца спыніцца хоць пабежна на некаторых ідэолёгічных і мастацкіх рысах творчасьці Б.-Я.

Які-ж грамадзка-ідэолёгічны зьмест укладаў Б.-Я. ў свае творы? Гэтага пытаньня адным адказам нельга вычарпаць, як ня вычэрпвалася творчасьць Б.-Я. аднэй якой-колечы плыньню. Тут прыдзецца даць некалькі адказаў.

Першы. У сваёй рэалістычнай прозе Б.-Я. усю сілу свайго мастацкага таленту пакіроўвае на падкрэсьліваньне таго соцыяльнага зла і несправядлівасьці, у якім гібелі беларускія працоўнікі. У сэрыі гэтага роду апавяданьняў пісьменьнік паказвае самыя жудасныя праявы матар'яльнае нэндзы і паказвае іх найчасьцей на экране псыхолёгічнага аналізу ахвяр дарэволюцыйнага соцыяльнага ладу. Сюды трэба аднесьці і вершы, у якіх Б.-Я. протэстуе супроць зьдзекаў „магната і сатрапа“ — слупоў капіталізму. Сюды-ж прымыкаюць і творы з адраджэнцкімі настроямі. Нацыянальнае адраджэньне беларускага народу, неадлучна зьвязваецца з соцыяльнай базай дзеля таго, што пад гэтым народам Б.-Я. разумее выключна працоўныя гушчы, пераважна сялянскія.

Другі адказ. Нават над „арфай з зарніцы“, г. зн. пад парываньнямі поэты ў крышталёвыя блакіты чыстага хараства навісала гэтая грамадзкасьць:

Ты павінен свой доўг назад несьці сюды
Ў сваю курную хатку, скуль вышаў на сьвет,—
Беларускі народ ратаваць ад бяды.
І тады толькі выпаўніш свой ты завет...

(*„Калі хочаш пазнаць“*, *1915 г.).*

Трэці адказ. У тых творах, дзе Б.-Я. выступае романтыкам, наогул адсутна якая-колечы грамадзкая ідэолёгія. Тут поэта жаглюе выключна на хвалях сваёй глыбокай эмоцыянальнасьці, на хвалях фантастыкі народнага міту, народнае легэнды, народнага вобразу.

Пераходзім цяпер да мастацкага зьместу, які ўкладаў Б.-Я. у свае творы. Гэтае пытаньне зьяўляецца надзвычай трудным, а таму і цікавым. І запраўды. Што-ж такое ўяўляе сабою Б.-Я. як мастак? У чым сіла і самабытнасьць яго мастацкага таленту? Якімі мастацкімі сродкамі карыстаецца Б.-Я. для выяўленьня сябе як поэты? І г. д.?

Над усімі гэтымі знакамі запытаньня ў выглядзе адказу можна было-б надпісаць адно слова: дваістасьць.

Так, гэта слова ў агульных рысах можа найлепш характарызуе мастацкую музу Б.-Я.

Ужо сама мастацкая організацыя Б.-Я. ў сваёй псыхічнай істоце дваіста. Яно і зразумела. Поэта, як і кожны мастак, зьяўляецца продуктам асяродзьдзя і эпохі. Не паглыбляючыся ў аналіз тае эпохі, у якую рос і гадаваўся мастацкі талент Б.-Я., у вочы кідаецца дваісты характар асяродзьдзя, сокамі якога жывілася муза Б.-Я. Уплывы дзьвёх нацыянальных культур, уплывы дзьвёх нацыянальных псыхічных асаблівасьцяй перакрыжоўваліся ў істоце Б.-Я. і ў рэзультаце вынікаў той завілы орнамэнт мастацкае творчасьці, які так яскрава выдзяляе Б.-Я. на фоне беларускага пісьменства. Гэтую рысу сваёй мастацкай організацыі дасканала разумее сам поэта і вось у якіх вобразах яе выяўляе:

„Дзьве музы клічуць мяне. Два зданьні вабяць мой дух. Яны палоняць мяне сваім хараством. Яны крывавяць мае грудзі. Яны разрываюць маё сэрца на дзьве часткі...

Першая: Атуленая ў лёгкім чорным шоўку. Залатая арфа ў руцэ. Яна пазірае на мяне чорнымі, роснымі ад сьлёз матыльковымі вачыма. Нібы цені красак пад месяцам, дрыжаць яе бровы. Твар бледны і кволы. Густыя цёмныя валасы рассыпаны па сьветлых плячох. Яна дзіўна-прыгожая ў сваім смутку. Яна чаруе мяне, нібы срыбнае зьзяньне зорак. Праз працяглыя стогны чую яе шэпты: „Ка мне... Ка мне“...

Памятай, што ў тваіх жылах кіпіць кроў гарачага Ўсходу“...

Гэта адна старана псыхічнае організацыі Б.-Я. З яе выплывае струмень тае паўднёвае экзотыкі пачуцьця, эмоцыянальнасьці, полымем якой падыхае з усёй творчасьці поэты. А вось другая старана гэтае псыхічнае організацыі:

Атуленая славянскім шлюбным вэльмам. Валасы ільняныя й доўгія, убраныя ў жывых васільках, распушчаны, як у русалкі. Твар круглы і ружовы. Вочы вясёлыя зьзяюць, як два блакітныя сонцы. Яна трымае гусьлі ў руках і пяе шчырую песьню беларускай зямлі, песьню жняёў на полі зялёным... Магутна кліча яна мяне. Голас яе зьвініць, як жывы ручаёк: „Цябе выгадаваў мой край. Цябе кармілі мае гарапашныя сяляне. Цябе грэла маё жыватворчае сонейка. Табе сьвяцілі мае зоркі паўночныя. Песьні маіх дзяўчат, маіх салоўкаў і жаваранкаў цябе чаравалі. Нібы жбан крынічнай вадою, я напоўніла тваю істоту казкамі і забабонамі беларускіх старцаў і гусьляроў. Мая зямля—твая маці. Мае багатыя палі і лугі, узгоркі і даліны, лясы й рэчкі далі сілу твайму целу й душы Я табе даравала жывую біблію майго краю. Твой Ерузалім—тут. Мае аратаі—твае браты. Выплаці мне вялікі доўг, які ты мне вінаваты... Ты мой... мой“... („Дзьве музы“).

Ці-ж патрэбны якія-колечы комэнтарыі да гэтага? І ці можа быць больш пэўны ключ да разуменьня мастацкае істоты Б.-Я., чымся вобразы гэтых „Дзьвёх муз“? Так, толькі гэтым ключом „Дзьвёх муз“ можна адамкнуць тыя таямніцы музы Б.-Я., якія накладаюць адбітак нязвычайнай самабытнасьці на яго творчасьць. Пойдзем далей.

Дваістасьць літаратурных плыняй. Романтыка і рэалізм нідзе ў беларускім пісьменстве не перапляліся ў творчасьці аднаго поэты ў такіх скрайніх праяўленьнях, як у Б.-Я. Поэта чэрпае матар'ял для свайго натхненьня ў роўнай меры як з крыніц об'ектыўных, так і з крыніц суб'ектыўных.

Грамадзкае жыцьцё, жыцьцё беларускага працоўніка бязупынку стукае ў дзьверы яго мастацкай організацыі і выліваецца ў форме рэалістычнай прозы, у форме вершу-протэсту, вершу-бунту супроць ненормальнасьці і нікчэмнасьці існаваўшага соцыяльнага укладу, супроць нацыянальнага уціску. І над гэтай доляй яго творчасьці вее постаць тае другое музы, якая напамінала поэце: „Мае аратаі—твае браты".

З другога боку, поэце не дае спакою „кроў гарачага Ўсходу". На жылах, напоўненых гэтай крывёй, іграе тая першая муза, „атуленая ў лёгкім чорным шоўку", з „чорнымі, роснымі ад сьлёз матылькавымі вачыма". Іграе такую смутна-палкую песьню, творыць такую змрочна-пламенную легэнду. І з гэтай песьні, з гэтай легэнды выступае перад намі Б.-Я. у постаці романтыка, выступае з багажом „Містэрый", „Сымфоній", „Песень паўночных", „Лясуноў", „Русалак", „Божых сьлядоў" і іншай нечысьці. Так, з крыніц суб'ектыўных, з крыніц, што бурляць крывёю гарачага Ўсходу чэрпае сабе натхненьне і матар'ял Б.-Я, як романтык. Але пры дапамозе якіх мастацкіх сродкаў выліваецца гэты суб'ектыўна-пачуцьцёвы матар'ял у літаратурныя формы? Якім вобразам, эпітэтам, якімі колерамі і мэлёдыямі карыстаецца Б.-Я., як романтык?

„Табе сьвяцілі мае зоркі паўночныя. Песьні маіх дзяўчат, маіх салоўкаў і жаваранкаў цябе чаравалі. Нібы жбан крынічнай вадою, я напоўніла тваю істоту казкамі і забабонамі беларускіх старцоў і гусьляроў"— гэтак настаўляла поэту тая другая муза, з „валасамі ільнянымі і доўгімі, убранымі ў жывых васільках". Бо адкуль-жа мог чэрпаць Б.-Я. гэтыя вобразы і мэлёдыі, як не з беларускае прыроды, як не з беларускае жывое казкі, песьні, легэнды, як ня з жывой фантастыкі тых братоў-ратаяў, поруч з якімі ён гадаваўся і працаваў? Так, мастацкія сродкі творчага выяўленьня ўва ўсёй творчасьці Б.-Я. паходзяць з мясцовае беларускае глебы. І з гэтага боку ён наскрозь беларускі нацыянальны поэта. Мала таго. Ні ў кога з беларускіх поэтаў і пісьменьнікаў беларускі мастацкі фольклёрызм не знашоў сабе такога поўнага і шырокага застасаваньня, як у Б.-Я. Беларуская народная фантастыка, народная казка, легэнда, песьня, вобраз, эпітэт, народная мэлёдыя ні ў кога з беларускіх поэтаў не займаюць такога пачэснага месца, як у Б.-Я. Але на гэтым спынімся ніжэй, пры разглядзе яго поэм „У зачарованым краю" і „Ярыла". Тут толькі зазначым, што ніяк нельга згадзіцца з М. Гарэцкім, які кажа „Абразы—беларускія, але таксама агорнутыя наўмыснай стылізаванасьцю і паказаныя быццам праз нейкае небеларускае шкло". Абразы-то беларускія, і шкло таксама беларускае, але адно шкло і адны абразы яшчэ ня твораць поэзіі; тут патрэбна нейкая мастацкая іскра, якая надавала-б

жыцьця гэтым абразом, якая-б організавала гэтыя абразы ў мастацкі твор, больш або менш закончаны. І вось у тых іменна творах, дзе Б.-Я. выступае романтыкам, адчуваецца, што гэтая мастацкая організуючая іскра мае небеларускі характар, адчуваецца, што ў гэтым беларускім вобразе, што пад гэтым беларускім шклом б'ецца пульс небеларускага жыцьця, струменяць хвалі небеларускага пачуцьця. А шкло тут ні прычым, тым больш, што яно з абодвых бокоў найчысьцейшае беларускае.

Наступнай характэрнай рысай Б.-Я., як мастака, зьяўляецца тое, што ў яго творчасьці ажыцьцёўлен найдасканальшы сынтэз музыкі і вобразу, той сынтэз, які так рэдка ўдаецца ажыцьцёвіць нават найвыдатнейшым мастаком слова.

Вобраз—гэта бог, якому пакланяецца Б.-Я. з самага пачатку сваёй мастацкай працы. Уся яго творчасьць—гэта пагоня за новым вобразам, за новымі хварбамі.

Вось адзін з самых раньніх яго беларускіх вершаў (адзначаны датай 1909 г.) „Зарніцы“:

Зарніцы над рэчкай ігралі сягоньня
І хварбы плылі у бяздоньні, ў бяздоньні.
Букетам агнёвым цьвілі і квітнелі
І з кожнаю хвіляй бляднелі, бляднелі.
Загасьлі зарніцы, *загойдалісь змрокі*, [1])
Русалкі пусьціліс у скокі, у скокі.
Жар-месяц крывавіў нябесныя далі,
А крушні сівыя маўчалі, маўчалі...
Хваінкі дрыжэлі, бялелі туманы,
Над крыжам насіліс кажаны, кажаны.

Ці беларускае пісьменства ў 1909 г. шмат знала такіх вобразаў, на якіх пабудован увесь гэты юнацкі верш? Ці спатыкалі вы там вобразы, падобныя да такога: „загойдалісь змрокі“?

Пад датай 1910 г. („Скупы“) чытаем:

Хаўтурныя сьвечкі на дзікім балоце
Зіяюць і гаснуць ў кустах.
Там шэпчуцца ведзьмы у зыбкім чароце,
*У ціне купаецца страх.* [1])

Так, у гэтай пагоні за новым вобразам Б.-Я. ужо ў 1910 г. прачувае густы імажыністых і дорыць ім вобраз—„у ціне купаецца страх“. А чым далей, тым болей. Бязупынныя экскурсіі ў народную творчасьць, каб зачарпнуць там „жывой вады“ народных вобразаў, можна прасачыць па ўсёй яго творчасьці. І вось у 1918 г. мы ўжо спатыкаем у яго творчасьці тыпова імажыніцкія вобразы, якіх можа пазайздросьціць любы з сучасных беларускіх імажаністых; напрыклад:

[1]) Курсыў наш. Ул. Дз.

*Курыць люльку вадзянік,*
Туліць рэчку дым-туман.
Да бярозкі дуб прынік,
А ля дуба сьпіць курган...

Але вобраз для Б.-Я. усё-ткі не становіцца самамэтай. Калі ён пушчаецца ў такую пагоню за гэтым вобразам, то толькі з тэй мэтай, каб пры дапамозе гэтага сьвежага, новага вобразу выявіць тую ці іншую праяву сваёй мастацка-эмоцыянальнай істоты. Вось чаму вобраз, у Б.-Я. заўсёды сьвежы і новы, ня выпяльваецца лішне наперад, ня кідаецца лішне ў вочы, ня гвалціць суцэльнасьці твору. Вось чаму вобраз у яго цянюе заўсёды ў тон з цэлым, не паказваючы швоў мэханічнага злучэньня з цэлым творам.

Аднакі, ці менш у творах Б.-Я. музычнасьці? Ці ня вее на нас роем самых рознастайных мэлёдый з яго вершаў? Дый ці толькі вершаў? Проза Б.-Я., асабліва тая, што пад знакам романтыкі, наскрозь музычна. Усе яго гэтыя „Abrazki", „Сымфоніі", „Русалкі", „Лясуны" і г. д. усё гэта—вершы, напісаныя рознастайнымі рытмамі, што ўтуруюць пульсу эмоцыянальнага жыцьця, якім да краёў напоўнена гэтая галіна творчасьці поэты. „Божыя сьляды", гэтая вялізарная містыка-легэнда, уся, спачатку і да канца, хвалюецца пералівамі найбагацейшага рытму. Нават рэалістычная проза Б.-Я. багата гэтай музычнасьцю ў большай меры, чымся падобная проза любога з беларускіх пісьменьнікаў. Музычная структура вершаў Б.-Я. часткова ахарактарызована П. Л. у рэцэнзіі на „Пад родным небам" [1]). І вось, на падставе аналізу выключна гэтае архітэктонікі вершу, рэцэнзэнт робіць гэты вывад:

„Дагэтуль у беларускай літаратуры мерылі асобнаю меркаю, і часта бывала так, што тое, што па гэтай мерцы выходзіла значным, у параўнаньні з другімі літаратурамі выходзіла зусім нязначным. Гэтая-ж кніжка Бядулі мае рэчы, заслугоўваючыя пільнай увагі нават калі іх мерыць не беларускай меркай" [2]).

Тая стылізацыя вершу, якая ў М. Багдановіча мела лябораторны характар і пры тым у нязначным маштабе, у поэзіі Б.-Я. праяўляецца часта навальна (мае месца і лябораторны характар) у значна большым маштабе.

Так. Поэзія Б.-Я атулена вобразамі й музыкай, як вішнёвым цьветам. Але заўважце, што вобраз у яго не мэханічна паложан на ноты музыкі, а найшчыльней з ёю зьвязан органічна. Органічны сынтэз вобразу й музыкі—характэрная рыса творчасьці Б.-Я.

Такім парадкам мы папрабавалі даць хоць некаторыя, але на наш погляд больш-менш тыповыя, зарысы таго літаратурнага портрэту Б.-Я.,

[1]) „Адраджэньне", 1922.
[2]) Ibidem, стар. 319.

якім быў ён да 1920 г. Цяпер перад намі заданьне, пазнаёміцца з тымі творамі Б.-Я., якімі ён уваходзіць у нашую літаратурную сучаснасьць.

1920 г. зьяўляецца рубяжом, якім заканчваецца апошні пэрыод гісторыі старой Беларусі, Беларусі нявольніцкай, і пачынаецца новы разьдзел пад знакам соцыяльнага і нацыянальнага вызваленьня беларускіх працоўнікаў, пад знакам соцыялістычнага будаўніцтва новага, маладога жыцьця. Чырвоны Кастрычнік напаіў сваімі жыватворчымі сокамі самыя глыбокія пласты беларускае працоўнае глебы, але лютыя сьцюжы і маразы окупацый нямецкай і польскай лёдам скавалі гэтую глебу і не далі магчымасьці закрасаваць буйнай рэволюцыйнай расьліннасьці. І толькі 1920 г. (другая яго палова) быў тэй навальніцай, якая здрузгатала гэтыя капіталістычныя аковы, якая раз назаўсёды далучыла беларускіх працоўнікаў да вялікае справы будаваньня новага жыцьця. Але 1920 г. зьяўляецца рубяжом ня толькі ў грамадзка-політычным жыцьці Беларусі: 1920 г. зьяўляецца рубяжом і ў гісторыі беларускага пісьменства. Так, рубяжом. Бо імена ад гэтага часу мы бачым істотныя зьмены на паверхні нашае літаратуры. Тое сталае дно, якое мела месца ў беларускім пісьменстве да гэтае пары, цяпер відавочна зьмяняецца. На літаратурнай арэне паяўляюцца новыя асобы, з новымі настроямі, мотывамі, ідэаламі. Тое, што мела ў нашым пісьменстве дагэтуль бязумоўную і безадносную вартасьць, цяпер ставіцца пад знак запытаньня або зусім адкідаецца жыцьцём. Адным словам, 1920 г.—рубеж у беларускім найноўшым пісьменстве. Але гэты рубеж ня быў абсолютна непраходным. Найвыдатнейшыя прадстаўнікі беларускага мастацкага слова знашлі ў сябе даволі сілы і энэргіі, каб пераступіць гэты рубеж і ўвайсьці на постаць нашае літаратурнае сучаснасьці. Так зрабіў Я. Купала, так зрабіў Я. Колас, так зрабіў і Бядуля-Ясакар. Але для Б.-Я. за гэтым рубяжом распасьціралася ня толькі новая літаратурная постаць: за гэтым рубяжом распачыналася пара найвялікшага росквіту яго творчага і мастацкага таленту. Уся дарубежная яго літаратурная праца—гэта толькі падгатаваўчая пара таго залатога веку, якім для музы Б.-Я. зьяўляецца 1921-1922 г.г. Як-бы прачуваючы гэта, поэта з надзвычайнай лёгкасьцю і бадзёрасьцю перакрочыў гэты рубеж, і ўзышоўшы на рэволюцыйныя ролі, ні хвіліны не марнуе часу. На гэтых рэволюцыйных ролях у мастацкай істоце Б.-Я. з асаблівай сілай прабуджаецца поэта-грамадзянін, які ненавідзіць усю гніль старога соцыяльнага укладу, які разумее ўсю веліч новых парываў да будаваньня новага жыцьця. Не марнуючы ні хвіліны часу, поэта аддае на ўслугі гэтаму новаму будаўніцтву сваё мастацкае пяро, і з-пад гэтага пяра паяўляюцца творы рэволюцыйнае сатыры, гэтага цалкам новага літаратурнага жанру на беларускай глебе. На шпальтах штодзеннае газэты „Савецкая Беларусь“ гэтая рэволюцыйная сатыра пранікае ў глухую вёску, пранікае ў палатку чырвонаармейца і злосным сьмехам бічуе спарахнелы стары сьвет, з яго нікчэмным соцыяльным укладам, з яго рэлігійнымі забабонамі, з яго цемрай і

някультурнасьцю. Лепшым узорам гэтае сатыры зьяўляецца „Поп Дзярылоб“. Але, зразумела, гэтым жанрам творчасьці ня можа здаволіцца муза Б.-Я. У 1921 г. паяўляюцца яго значныя апавяданьні: „Дванаццацігоднікі“ і „Сярод ночы“, як працяг таго струменю яго творчасьці, што напоўнен водамі рэалістычнае прозы. „Дванаццацігоднікі“ — гэта ня толькі адно з найвялікшых дасягненьняў Б.-Я. ў яго рэалістычнай прозе: гэта апавяданьне зьяўляецца адным з найвялікшых дасягненьняў у мастацкай беларускай прозе наогул. Тут пісьменьніку, які наогул зьяўляецца мастаком псыхолёгічнага аналізу, удалося з найвялікшай дасканаласьцю ў самых яскравых фарбах выявіць псыхічныя асаблівасьці жыхароў Такароўшчыны, вёскі, што стаяла на зямлі пана Магдановіча. А псыхолёгія іх даволі складаная! Гаспадары заможныя, з дастаткам і ў той-жа час „кутнікі“, бо пан Магдановіч у любы момант можа іх прагнаць з іх наседжаных гнёзд, што ўрэшце і сталася. Цэнтральным пунктам апавяданьня зьяўляецца мотыў помсты. І вось гэты мотыў Б.-Я. з нязвычайнай сілай увасабляе ў постаці дзеда Лявона, які падпальвае панскі маёнтак.

„Назаўтра Лявон, нібы пастарэўшы за ноч на дваццаць год, згорблены, слабы і хілы дзядуля, сам пашоў да пана Магдановіча і прызнаўся, што гэта ён падпаліў хутар“.

Слабым, старчым, дрыжачым голасам казаў Лявон: „Вось усе гэтыя апошнія гады злосьць на цябе трымала мае сілы. Як кусьлівую гадзіну, я грэў у сваіх грудзёх пякельную мсьцівасьць на пана затое, што ты зьнішчыў нашыя, крывёй і потам здабытыя гаспадаркі. Во гэтымі кара вымі рукамі сваімі я яшчэ хацеў задушыць пана, але бог зьменшыў мой гнеў, я ўстрымаўся і не хацеў паганіць свае чэсныя мазалістыя рукі панскай нячыстай крывёю“ [1]).

Фігура дзеда Лявона адна з найвыдатнейшых фігур у сэрыі тых сялянскіх портрэтаў, якія мы спатыкаем у беларускай літаратуры. У гэтым портрэце з нязвычайнай сілай выяўлена клясавая нянавісьць працоўніка да дармаеда і вызыскачага—пана. Гэты мотыў нянавісьці беларускага селяніна да абшарніка-пана, мотыў помсты пану ў некалькі адменьніках мы спатыкаем у Б.-Я. („Адплата пану“, „Панскі дух“, „На зачарованых гонях“ і інш.). Але з асаблівай сілай удалося Б.-Я. выявіць усё бяздоньне гэтай клясавай варожасьці ў згушчана-настраёвым малюнку „На зачарованых гонях“ [2]).

„Ратуйце!“

Стогн дзікі, працяглы, як асеньняя ноч, вырываўся з-пад тройцы хваёвай, з-пад трох дрэў нямых. Пад дрэвамі быў курганок-муравельнік. Вялікім ахапкам сіўца здаваўся ён хвойкам. У ім і на ім ёрзаліся рудыя зухаватыя мурашкі. З муравельніка тырчэла гола-меднае цела мужыка. За рукі ён быў моцна прывязан вяроўкамі да яловага пня — так моцна,

[1]) „Пад родным“ небам, стар. 30.

[2]) Зборнік апавяданьняў „На зачарованых гонях“; апавяданьне пад тэй-жа назовай.

ажно рукі трэскаліся і выварочваліся з суставаў. Па жывым карчы чалавечага цела капашыліся соткі мурашак“...

Вось які спосаб помсты над мужыком выбірае пан затое толькі, што „прыгоньнік украў булку хлеба з панскай пякарні. Надта ўжо дзеці есьці хацелі“...

Але не даруе гэтага мужык пану ніколі! У самых нетрах свайго сэрца рыхтуе ён помсту, страшную, бязьлітасную помсту. І гэты малюнак мужычага гневу, гневу-помсты да свайго клясавага ворага Б.-Я. з нязвычайным мастацтвам перадае спосабам паралелізму з малюнкам прыроды, на фоне якой адбудзецца гэтая страшная помста над панам:

„Чорнай дзяругай вісіць васеньняя ноч над зямлёй. Ні зоркі аднэй зьверху, ні іскрачкі нідзе. Вые вецер васеньні, вые, як галодная зьвярына. Рыскае вільготны гад пад буйным дажджом і кідае з пазухі гнілой жмуты страхоцьцяў ва ўсе бакі. Стогне пустое поле. А дождж плюхае аб жорсткае іржаньнё, якое тырчыць на зачарованых гонях, як няголеная барада старога дзеда. Войкаюць тры хвойкі, ківаюцца ва ўсе бакі і крэхчуць.

Жудзь і няпрытул спацыруюць па цёмных абшарынах. Золкасьць коціцца атрутным макам над зямлёй. Доўгая-доўгая васеньняя ноч. Канца ёй няма...“

Б.-Я. наогул мастак у сэнсе наданьня настрою ня толькі там, дзе ён рамантык, але і там, дзе ён рэалісты. Яго ўмілаваным стылістычным сродкам зьяўляецца згушчэньне хварбаў, спэцыяльнае паглыбленьне настрою, каб на такім згушчана-настраёвым фоне з большай выпукласьцю адцяніць ці-то псыхолёгічную рысу свайго гэроя, ці-то паказаць грамадзкі абразок быту старой зарубежнай Беларусі. Гэтая стылістычная рыса яго творчасьці наогул адразу кідаецца ў вочы, і асабліва размаху дасягае ў тых яго творах, што пад знакам романтыкі.

Але скончым з прозай і пяройдзем да вершаванай поэзіі. У 1922 г. паяўляецца ў сьвет першы зборнік вершаў і поэм „Пад родным небам“; зборнік складзены з твораў, напісаных бадай што выключна ў 1921 і 1922 г. г. Да гэтага часу Б.-Я. быў вядомы і карыстаўся славай пераважна як прозаік. На яго вершаваную творчасьць глядзелі з недавер‘ем і з ня лішне вялікай увагай.

Што-ж паказаў нам Б.-Я. у гэтым зборніку? Паказаў сябе, як вялікі мастацкі талент. Так, калі хочаце пазнаёміцца з Б.-Я., як з вялікім мастаком слова, то зварачайцеся да зборніку „Пад родным небам“, бо ён увесь, спачатку й да канца, пабудован з ядынай мэтай—паказаць Б.-Я., як мастака—і толькі. Праўда, у самым пачатку зборніку Б.-Я. па традыцыі вітае нас парай вершаў, у якіх ён напамінае, што поэта-грамадзянін жыве ў яго істоце. Праўда, што гэтая пара вершаў належыць да найдасканальшых узораў беларускага мастацкага слова, асабліва першы верш „Беларусь“, але не яны надаюць тон усяму зборніку. „Арфа з зарніцы“,

тая арфа, аб якой пяяў Б.-Я. яшчэ ў 1910 г., толькі праз 12 год на рэволюцыйных ролях зайграла ўсімі сваімі струнамі ў зборніку „Пад родным небам“, зайграла і ачаравала хараством сваіх гукаў і мэлёдый.

Прыродаапісальная лірыка, поэма „На зачарованых гонях“ і поэма „Ярыла“—вось тыя галоўныя вехі, якімі значыць свой шлях у творчасьці Б.-Я. ў гэтую пару „арфа з зарніцы“. Спынімся на хвіліну на гэтых вехах.

Прыродаапісальная лірыка ў творчасьці Б.-Я. займае адно з найвыдатнейшых месц. Як мы ўжо бачылі, поэта пад знакам гэтага жанру поэзіі ўступае на літаратурную сцэну і затым на працягу ўсёй сваёй літаратурнай працы не разлучаецца з ім. Побач з Я. Коласам ён дорыць нашаму пісьменству найдасканальшыя ўзоры малюнкаў прыроды. Але якая розьніца ў гэтых адносінах паміж Б.-Я. і Я. Коласам! У той час, як малюнкі прыроды ў лірыцы Я. Коласа найчасьцей маюць выгляд пэйзажу, у якім паасобныя прадметы ўплятаюцца ў адно гармонійнае цэлае, у якім мастацкая ідэя агульнага цэлага пануе над ідэяй паасобнага індывідуальнага, дзе мы бачым шырокія палотны ляндшафту,—прырода-апісальная лірыка Б.-Я. мае іншы характар. Індывідуалізацыя малюнку, індывідуалізацыя кожнага прадмету, што зьяўляецца складанай часткай гэтага малюнку; ня роўны тон палатна, а рад яскравых плям, рэзкіх рыс—вось характар гэтае лірыкі. Але найвялікшай асаблівасьцю, якая адрозьнівае тут поэтаў, зьяўляецца вось што: малюнкі прыроды Я. Коласа маюць об'ектыўна-рэалістычны характар, суб'ектывізм поэты не адчуваецца тут выразна; малюнкі прыроды Б.-Я. найчасьцей маюць суб'ектыўна-романтычны характар; але гэта ня шкодзіць ім, а надае асаблівае эмоцыянальнасьці, асаблівае настраёвасьці. Малюнак прыроды ня сам для сябе, а для таго, каб выявіць пэўны настрой—вось дэвіз Б.-Я. Гэтая мастацкая рыса асабліва выяўляецца ў вершы „У дзічыне“ [1]):

Сіва-сіняя поўнач задумна
Глядзіць з-пад карчышчаў
На зоркі—крывавыя краскі
Нябёснага поля нямога.
Хвоі, ведзьмы праклёныя, сумна
Між сьнежных замчышчаў
Зацішна стаяць, нібы маскі
Да байкі, да сказу страшнога...

І далей, у тым-жа вершы:

Цішыня мёртвым крокам гуляе
Па дрэвах кудравых
І сее навокала мары—
Пшаніцы бурштынавай жмені...

Так, нікому з беларускіх поэтаў не ўдавалася стварыць такога настрою, які расьсеян у поэзіі Б.-Я., нібы „пшаніцы бурштынавай жмені“.

[1]) „Пад родным небам“, стар. 27.

Але ня думайце, што гэтая настраёвасьць заўсёды і нязьменна мае такі змрочна-таямнічы колёрыт. Вось узорык зусім іншых колераў:

А ў бары, а ў бары стаіць гуд.
Шэпты граюць на струнах-галінах.
Апранаюцца ў месячны цуд
Іглы-пні на пуховых купінах.
Кожны цень, кожны цень наўскос
Каля пня дрэмле-сьпіць кволай плямай,
Убіраецца ў пацеркі рос.
Мох вакол—аксамітавай рамай.

*(„Пад родным небам“, стар. 20).*

Гэта таксама ночны малюнак лесу, таксама настраёвы, але які-ж адменны гэты настрой! І якімі адменнымі вобразамі тут карыстаецца поэта! Там мы бачылі дрэвы—„нібы маскі да байкі, да сказу страшнога“, а тут поэта апрануў іх „у месячны цуд“ і стварыў новы, сьветлы настрой. Гэтым сьветлым настроем падыхае і з аднаго з найдасканальшых яго прыродаапісальных вершаў—„На прадвесьні“ („Пад родным небам“, стар. 11):

Аздобіў сакавік у злотаблеск даліны.
Быў чысты, нібы шкло, абшар-прастор нябёс.
Сінь-даль адзела туль з сярэбранай тканіны,
Здалёку цёмны бор вяршалінамі трос.

Гэты размах, гэтая ўрачыстасьць настрою як нельга лепш пасуе малюнку прадвесьня, калі прырода прабуджаецца да жыцьця. А вось і малюнак восені:

З шчылін бору ў вакно восень пільна глядзіць
Шэрым бельмам сьлязьлівым, балючым.
Лес шуміць і дрыжыць, і зьвініць, і гудзіць
Жоўтым лісьцем шуршавым, дрыжучым.

*(„Пад родным небам“, стар. 85).*

Сьмелы і пранікнівы вобраз! І я ня ведаю ў беларускай поэзіі больш удалага і характэрнага вобразу для восені ў яе пазьнейшай стадыі, чымся вышэйшы: „З шчылін бору... шэрым бельмам сьлязьлівым, балючым“... Даволі раз спаткацца з гэтым вобразам, каб ужо яго ніколі не забыць. Алітарацыяй на шыпячыя гукі „ж“, „ш“ і „ч“ поэта яшчэ больш падкрэсьлівае гэты панура-няпрыветны малюнак восені.

І так у сваёй прыродаапісальнай лірыцы Б.-Я. у кожным паасобным выпадку карыстаецца новымі хварбамі, сьвежымі вобразамі, выкарыстоўвае гукавыя і музычныя эфэкты, абы толькі стварыць кожны раз новы настрой. І гэта яму ўдаецца. Увесь зборнік „Пад родным небам“ апавіт гірляндамі гэтае прыродаапісальнае лірыкі, гірляндамі гэтага мастацкага настрою.

Але пяройдзем да другой вехі, якую пакінула на сваім шляху (1921-22 г.г.) „арфа з зарніцы“, спынімся на поэме „На зачарованых гонях“.

Што ўяўляе сабою гэтая поэма? Народны эпос—тэма поэмы. Б.-Я. палажыў на музыку вершу паасобныя моманты беларускага народнага палескага эпосу (яго косьмічны цыкль) і аб'яднаў гэтыя моманты ў адно органічнае цэлае. Як вядома, косьмічны цыкль кожнага народнага эпосу наскрозь прасякнут народным мітам, наскрозь прасякнут чарамі народнай фантастыкі. Такі вось матар'ял і выбраў для сваёй поэмы Б.-Я., і гэтым выбарам поэта паказаў, што яго яшчэ не пакінуў той лясун, якога ён выклікаў ля вытокаў сваёй творчасьці, г. зн., што поэта ўсё яшчэ знаходзіцца пад уплывам багатае беларускае народнае фантастыкі. З другога боку, выбар такога матар'ялу напамінаў аб тэндэнцыі поэты ў бок містыка-романтыкі, якая такой глыбокай баразной адзначала творчасьць Б.-Я. раней, у эпоху дарубежную, якая на самым рубяжы нашай сучаснасьці вылілася ў форму „Містэрый“ і „Божых сьлядоў“. Так, „Лясуны“ і „Русалкі“, „Сымфоніі“ і „Містэрыі“ паходзяць з таго самага грунту, што і „У зачарованым краю“. Але якая вялізарная розьніца паміж гэтай поэмай і імі! Там поэта знаходзіўся *пад уладай лясуна*, пяяў хвалебныя гымны гэтаму лясуну, найцуднейшымі малюнкамі свайго эмоцыянальнага суб'ектывізму аздабляў лясуновае царства. Тут, у гэтай поэме, *лясун знаходзіцца пад уладай песьняра*, тут лясун аддае ўсе чары свайго царства на ўслугі песьняру, аддае ўсе свае вобразы і мэлёдыі, гукі і хварбы на ўслугі „арфе з зарніцы“, якая павінна тут, на гэтай лясуновай уласнасьці, праславіць Б.-Я., як вялікі мастацкі талент. Вось у чым розьніца, і ні на момант нельга выпушчаць яе з-пад увагі, каб ня ўтраціць правіловай пэрспэктывы на творчасьць Б.-Я. ў нашай літаратурнай сучаснасьці.

Ці ўдала выкарыстаў Б.-Я. гэтую лясуновую ўласнасьць народнае фантастыкі? Загляньма ў поэму. Спачатку і да канца пранізана поэма народнымі вобразамі, эпітэтамі, параўнаньнямі, народнымі выслоўямі. Ня поэма, а склад мастацкага фольклёрызму. Да гэтага народнага матар'ялу поэта дапасоўвае стылістычную будову вершу, пераймаючы тут спосабы народнае композыцыі:

То ня вецер гудзіць, ня шуміць сухавей,
То ня гойдаюць злыя віхуры;
То над борам ня мчыць чарадзейны цар-зьмей,
То ня ладзяцца плачы-хаўтуры.
Гэта ў медных катлох між зачумленых вод
Вадзянік варыць жыжу-атруту;
Там і хмель, і палынь, і пякельны смурод—
Для людзей на лайдацтва, пакуту.

(*„Пад родным небам“, стар. 78*).

То ня рвецца струна, то ня лебедзь пяе,
То ня ломяцца скрыдлы сакола—
То канае дудар. Сум пануе ў сяле,
Прычытаньне чуваць навакола.

(*„Пад родным небам"*, *стар. 94*).

Чатырохмерны і трохмерны анапэст, якім чаргуюцца вершы чатырохрадковае строфы, надае поэме жывасьці, імкненнасьці наперад. У гэтую форму як нельга лепш укладваецца тое адценьне іроніі, з якою паляшук пазірае цяпер на гэты чарадзейны сьвет фантазіі, створанай яго ўласнымі продкамі. Трэба сказаць, што поэта дасканала схапіў гэты элемэнт народнай іроніі над уласным сваім творам. Гэты элемэнт іроніі і яўнай няверы ў зачарованае царства лясуна зьвязвае поэму з нашай сучаснасьцю з боку ідэолёгічнага. Вось прыклад гэткае іроніі:

Бог плыве на чаўне, а тымчасам злы чорт
Круць і верць вакол божае вабы.
Чорт з рагамі, з хвастом і худы, як той хорт,
Чорт—гідкі і сьлізкі, нібы жаба.

Нібы ўюн, туд і сюд вакол бога, шальмец,
На насеньне ён сьлюнкі пускае;
Трэ аб човен бакі, дасьць пад човен нурэц,
Дразьніць бога, як малпа дурная.

Раптам лапу тыц-мыц, цапнуў жменю дабра,
Проста з рук вырваў божых, чарцюга.
Ен насеньне глынуў і паплыў, як мара,
Рагатаў жарабцом, лайдацюга.

Бог маўчаў—яму што? Кончыў працу. Назад
Па вяроўцы ўскарабкаўся ў неба.
На аблоках ляжыць, спачывае і рад,
Што нацацкаўся болей, як трэба.

(*„Пад родным небам"*, *75*).

У такім тоне напісана ўся поэма. Праўда, у поэме маюцца і адрыўкі, ад якіх вее касьмічнай веліччу вобразаў. Напрыклад:

Над Палескай зямлёй полаг неба вісіць
Вялізарнай тканінай шаўковай.
Рослы волат-ратай—Сонца—ў небе стаіць
І блішчыць галавою агнёвай.
Гляне вокам уніз, патрасе галавой—
Рассыпаюцца кудры-праменьні;
Неба рупна арэ залатою сахой,
Сее іскры-дабро поўнай жменяй.
Стада хмар ён пасе, штук нязьлічаных шмат,

З крышталёвых крыніц ён іх поіць;
То пагоніць у кут, то іх верне назад,
Над Палескай ральлёй ён доіць.
Малако льлецца ўніз, бы з вядра плюх і плюх,
Корміць-сыціць абшар лугавінаў...

*(„Пад родным небам“, 89).*

Гэты малюнак належыць да ліку лепшых узораў нашага пісьменства, ды ня толькі нашага! Зьяўляецца ён адным з тых акордаў, якія ў гэты час што раз то часьцей будзе адзывацца „арфа з зарніцы“, каб у поэме „Ярыла“ дасягнуць свайго апогэю.

„Ярыла“—поэма дагэтуль яшчэ незакончаная, дый амаль што зусім невядомая ў друку. Толькі адна яе „Дзевятая песьня“ друкавалася ў „Маладой Беларусі“ (1922 г.) і пакуль што толькі на падставе гэтай песьні можна судзіць а поэме. Што-ж можна сказаць аб „Ярыле“? Мне здаецца, што найлепш за ўсё скажа сама аб сабе поэма ніжэйшымі адрыўкамі з яе 9-ай песьні:

Валасы свае царыца
Дай расчосываць ў сьвятліцы.
Расплятала косы-шоўкі.
Па звычаю смутна слоўкі
Гаварыла таямніцай;
Лілісь сьлёзы, бы з крыніцы.
Апранула саматканкі,
Вышываныя заранкай,
І гарсэцік з аксаміту,
Стужкай з зорачак абвіты.
Яе грудкі аздаблялі
З зорак пацеркі-каралі.
Хвартушок—кавалак белі,
Што на хмараньках бялелі,
Вышываны ў васілёчкі,
Абмятаны паясочкам,
Што з вясёлкавага лёну
Ў хварбы дзіўна аздаблёны:
Тут пралескі, незабудкі
І бацянавыя грудкі,
І грабелькі, і круцёлкі,
І падковачкі, і ёлкі.
Тут і кветачкі, кружочкі,
Каляровыя шнурочкі.
На галоўцы зьзяў вяночак—
Срыбна-злоты абручочак

З зараніцаў-агняцьветаў,
Ды з маланкавых стацьветаў...

А вось і другі адрывак з тэй-жа 9-ай песьні:

Адбылося шлюбаваньне,
Ўсе гулялі з раньня ў раньне—
Тры дзянёчкі і тры ночкі,
Нібы ў полі матылёчкі.
Месяц-сонца—як баяркі,
Зараніцы—як маршалкі,
Шчыр-дружынай—зоркі-сваткі,
Неба—таткам, зямля—маткай,
А вясёлка-весялушка
Была дружкаю-пяюшкай.
Блаславілі іх маланкі
На вясёлую паранку,
Ўсе дарылі падарункі,
Навалілі куфры, клункі.
З лірай вешчай, гучнаструннай
Ў кажушочках кудрарунных
З шэрсьцю ўверх з аблокаў млечных
Усіх стрэчных папярэчных
Месяц-сонца сустрачалі,
Заклікалі і крычалі:
Гэй, да нас, да нас у госьці,
Дабрадзеі-ягамосьці!

Шляхам млечным бель-бялёным,
Шляхам зорным, залацёным
Прываліў народ вясёлы,
Бы на мёд салодкі пчолы:
Сваякі, дзядзькі, чужыя,
І малыя, і старыя.
На каромыслах з вясёлкі
Несьлі поўныя вядзёркі
З сьвежай, чысьценькай крыніцы
Жыватворчае вадзіцы,—
Маладым на лёс на шчасны,
Каб было жыцьцё ўсё красна.

Слалі краскамі сьцяжынкі,—
Каб на шчасьця пуцявінкі
Ўсё цьвіло, расло, буяла,
Каб жыцьцё было удала.

На галоўкі маладзенькіх
Авёс сыпалі жаўценькі,—
На ўраджайныя на нівы,
Каб было ўсё урадліва.

Аб чым-жа сьведчаць гэтыя адрыўкі? А сьведчаць яны аб тым, што Б.-Я. у поэме „Ярыла“ узышоў на зусім новы шлях ня толькі ў яго-ж уласнай творчасьці, але і ў беларускім пісьменстве наогул. І на гэтым новым шляху ён творыць нешта грандыёзна-мастацкае, нешта абсолютна новае ў нашай маладой літаратуры. І ўжо на падставе гэтых адрыўкаў можна сказаць адно: як сухая глеба ўцягвае ў сябе жыватворчую вільгаць буйных летніх рос, так „Ярыла“ наскрозь абрызган росамі беларускага народнага мастацтва ў слове.

Але расстанемся з „арфай з зарніцы“, пойдзем далей па рэволюцыйнай постаці творчасьці Б.-Я. або, лепш кажучы, вернемся да тэй часткі яго творчасьці, якая зьяўляецца беспасярэднім водгукам на наша новае жыцьцё, на праявы нашага социялістычнага будаўніцтва, вернемся да Б.-Я. як да поэты-грамадзяніна на фоне нашае літаратурнае сучаснасьці. Рэволюцыйчай сатырай, як мы ўжо вышэй бачылі, распачаў Б.-Я. сваю літаратурную працу ў гэтым кірунку. А далей, на працягу 1921-25 г. з-пад яго пяра паяўляецца ў сьвет сэрыя дробных і буйнейшых твораў на канве рэволюцыйных мотываў, на канве рэволюцыйнага пафосу. Гэтыя творы сьведчаць аб тым, што Б.-Я. цалкам і бязумоўна прыняў Рэволюцыю, што Б.-Я. захапляецца будаўніцтвам новага жыцьця. І ня толькі захапляецца. Поэта прагне і сам прылажыць руку да гэтага будаўніцтва: сваімі творамі ён прабуе дадаць энэргіі і гарту будаўнічым гэтага новага жыцьця, прабуе асьвятліць іскрамі свайго адмалоджанага ў бурах Рэволюцыі пачуцьця ружовыя горызонты нашае пасьля-Кастрычнікавае сучаснасьці. Але трэба прызнаць, што незаўсёды гэта поэту ўдаецца або, лепш кажучы, удаецца гэта поэту рэдка. Як у да-Кастрычнікавую пару Б.-Я. ніколі асабліва не выдзяляўся на фоне беларускага тагочаснага пісьменства сваімі адраджэнцкімі мотывамі, так і ў нашай сучаснасьці муза Б.-Я. не праяўляе асаблівых дасягненьняў у сэнсе мастацкага выяўленьня пафосу социялістычнага будаўніцтва. Каб пераканацца ў гэтым, заглянеце ў зборнічак яго вершаў „Буралом“ (1924 г.). У гэтым зборнічку сабраны бадай усе творы гэтага кірунку, але толькі некаторыя з іх заслугоўваюць значнай увагі, толькі ад некаторых павявае полымем самабытнага пачуцьця і сілы, полымем запраўднага мастацтва. Гэткімі зьяўляюцца поэма „Чырвона-чорная жалоба“, верш „Міжнародны дзень моладзі“, некаторыя рэдкія кавалкі невялічкай поэмы „Беларусь“ і інш. Большая-ж частка вершаў—гэта блядыя часткай трафарэты, часткай перайманьні сучасных мотываў, выяўленых куды больш дасканала і моцна ў творах іншых сучасных нам беларускіх поэтаў. Так, але спынімся на адным з тых, што Б.-Я. ўдаліся.

„Чырвона-чорная жалоба“—гэта водгук на сьмерць правадыра працоўнікаў—Леніна. Вялікая, нязвычайная, трагічная тэма! І Б.-Я. укладвае гэтую нязвычайную тэму ў рамкі нязвычайнага ў нашай літаратуры вершу. Бязупынныя перабоі ў рытме надаюць поэме тон нейкай асаблівай трывогі, трывогі, зьмешанай з роспаччу. Адсутнасьць рыфмы або замена яе асонансам, падкрэсьліваюць гэты роспачна-трывожны характар вершу: бо рыфма—гэта рэзультат мастацкае ігры, а ў даным выпадку не да ігры поэце перад бяздоньнем чырвона-чорнай жалобы. Спазмы душаць мастацкую організацыю поэты, і з-пад яго пяра паяўляецца не поэма, а спазм, спазм болю, роспачы, тугі:

На раніцу ўвесь горад знаў...
Бы глюгі чорныя агідных каршуноў,
Трубкі тэлефонаў клявалі вушы.
І злавяшчуньнім клёкатам
Хрыпелі словы два:
„Памёр Ленін“.

І гэтым хрыпам-спазмам вее ад усёй поэмы, гэты хрып перарываецца толькі ў прычытаньнях беларускае кабеты:

А беларуская кабета ў шэрай вёсцы
ад прастаты і шчырасьці сваёй
галошаньне дзядоўскае заводзіць,
пранікнутае горам,
аплеценае вобразамі старасьвецкіх дзён,
як тыя дэсэны на паясох вясковых:
— На каго-ж ты нас пакінуў, ой, татуленька!
— Асірацелі без цябе мы, ой, зязюленька!
За душу Леніна малітву шчыра шэпча,
сьвечку ставіць
і пэўна, што за любоў к гаротным
ён пападзе у рай нябёсны.

Тут ужо перад намі струя іншая, спазм болю замяніўся глыбокалірычнай плыньню, тут ужо чуецца пэўная гармонія ў рытме.

Так, „Чырвона-чорная жалоба“—гэта ня толькі ўдалы рэволюцыйны твор Б.-Я., гэта адзін з выдатнейшых твороў наогул на фоне беларускае літаратурнае сучаснасьці.

У 1924 г. на старонках „Полымя“ [1]) выдрукавана другая поэма Б.-Я. „З сказаў буры і віхораў“. Поэма, даволі значная па велічыні, напісана белым вершам. У гэтай поэме поэта праявіў сваю старую тэндэнцыю да згушчанай настраёвасьці, багата насыціўшы поэму вобразамі. Наогул у аснове поэмы шмат романтыкі, якая адчуваецца ня толькі ў агульным колёрыце поэмы, але і ў фігурах яе гэрояў. Няпрыемна скрыгоча па

1) „Полымя“ № 3—(11), стар. 65.

нэрвах у поэме адно месца, у якім поэта дае рыску гвалту, што ўчынілі уланы над гэроіняй поэмы. Мне здаецца, што поэма нічога-б ня ўтраціла, каб поэта крыху менш агаляў нават самую праўду, у яе асабліва інтымнадражлівых праявах.

---

Абагульняючы паасобныя думкі, выказаныя ў гэтым артыкуле наконт творчасьці Б.-Я., мы бачым, што дыапазон творчага рытму ў Б.-Я. нязвычайна размашысты. Аб гэтым сьведчыць ужо тая match рознастайнасьць тэматыкі яго творчасьці, тэматыкі, якую ў агульнай схэме мы прабавалі разгледзець. Размах гэтага дыапазону зьяўляецца часткова вынікам таго, што мастацкая організацыя поэты дваістая: у яго істоце скрыжаваліся дзьве псыхікі (дзякуючы чаму подыхам паўднёвае экзотыкі вее ад усёй романтычнай плыні яго творчасьці, хаця поэта і тут карыстаецца выключна беларускімі хварбамі і мэлёдыямі, карыстаецца беларускім фольклёрам), скрыжаваліся дзьве літаратурныя процілежныя плыні— рэалізм і романтыка ў сваіх скрайніх праяўленьнях („Пяць лыжак заціркі“ з аднаго боку і „Русалкі“, „Сымфоніі“ і інш.—з другога). Вось чаму ён, творачы на тэй-жа соцыяльнай базе, што і іншыя беларускія поэты, яго сучасьнікі, так адметна ад іх адрозьніваецца на фоне нашага пісьменства (у рэалістычнай прозе вызначаецца глыбока-разьвітым псыхолёгічным аналізам). Далей мы бачылі, як у яго творчасьці элемэнты пластычнай вобразнасьці перапляліся найшчыльней з элемэнтамі музычнасьці, а адгэтуль багацьце і сьвежасьць настрою, які так характарызуе музу Б.-Я. Побач з гэтым мы бачылі ў істоце Б.-Я. поэтаграмадзяніна, які адгукаецца на праявы грамадзкага жыцьця, які заўсёды і нязьменна стаяў і стаіць на баку працоўнае клясы, які разам з гэтай клясай усім жарам сваёй крыві ненавідзіць эксплёататараў, ненавідзіць вызыскачых чужой працы, поту і крыві. Але, ня гледзячы на гэтую рысу, на працягу ўсёй яго творчасьці мы бачым, як у істоце Б.-Я. поэта-мастак бярэ верх над поэтай-грамадзянінам, бачым, як яго мастацкатворчая праца праходзіць пераважна пад знакам „арфы з зарніцы“.

*Працяг будзе.*

# БЯДУЛЯ, ЯК ЭТНОГРАФ

## А. Шлюбскі

Калі далучыць да беларускае этнографіі і тыя працы, якія зьявіліся вынікамі дасьледваньня Беларусі расійцамі і палякамі, але якія ў сваёй большасьці тварыліся зрусіфікаванымі і апалячанымі беларусамі, то акажацца, што на ўсім больш чым 125-гадовым працягу справа была накіравана выключна на зьбіраньне сырога этнографічнага матар'ялу, якога сабрана нельга сказаць, каб шмат (і нельга сказаць, каб надта добрага), але ўсё-ж досыць для таго, каб пачаць яго навуковую распрацоўку. Уласна кажучы, беларуская этнографія, да самых апошніх часоў, існавала толькі ў першай сваёй стадыі—складаньня сырога матар'ялу, да слова сказаць, у большасьці сабранага выпадкова, бяссыстэмна, ненавукова і нават тэндэнцыйна (перш у бок Польшчы, а потым у бок Расіі). Зразумела, што пры такіх умовах не магло быць ніякай размовы аб далейшым разьвіцьці беларускае этнографіі—распрацоўцы таго, што мелася ў друку.

Пачатак у гэтай монографічнай распрацоўцы быў пакладзены ў 90-х гадох мінулага стагодзьдзя проф. Даўнар-Запольскім [1]) у расійскай мове[2]), прадоўжаны проф. Лабадой [3]), пасьля чаго гэты новы напрамак у беларускай этнографіі замёр аж да 1916 г., да выхаду досьледу акад. Карскага [4]). У гэтым убогім пералічэньні няма ніводнай працы на беларускай мове, якую-б, дзякуючы гэтаму, поўнасьцю, безагаворачна можна было-б далучыць да беларускае этнографіі.

Пачатак другой стадыі разьвіцьця беларускае этнографіі—распрацоўцы на беларускай мове сабранага сырога матар'ялу, кладзе Зьмітрок Бядуля кніжкай „Вера, паншчына і воля ў беларускіх народных песьнях

---

[1]) Галоўнейшыя нарысы: а) „Чародейство в Северо-западном крае в 17-18 в.в." (Этн. об., 1890); б) „Белорусская свадьба в культурно-религиозных пережитках" (Этн. об., 1893); в) „Солнышко и месяц в белорусской свадебной поэзии" (Минский Листок, 1894) і шэраг другіх, частка якіх у 1909 г. была перавыдадзена ў „Статьях и исследованиях".

[2]) Адзначаю так таму, што Даўнар-Запольскі ў тыя часы ўжо ўжываў беларускую мову; гл. яго надпіс на яго кнізе: „В. Дунин-Марцинкевич и его поэма, „Тарас на Парнасе", захоўваецца ў Беларускай Дзяржаўнай бібліотэцы.

[3]) Белорусская народная поэзия и русский балевой эпос. (Этн. об., 1895).

[4]) Белоруссы, III. в. 1, СПБ. 1916.

і казках", выдадзеная ў бягучым годзе менскім выдавецтвам „Савецкая Беларусь", якая ў 1922 г. была выдрукавана ў газэце „Савецкая Беларусь" паасобнымі нарысамі: 1) „Рэлігія і беларускае сялянства паводлуг народнай творчасьці"; 2) „Паншчына ў народных песьнях і казках"; 3) „Клясавыя мотывы ў беларускай народнай творчасьці".

Значнасьць вышаўшай працы Бядулі з боку агітацыйнага ўжо разгледжана ў друку [1]); я-ж толькі маю на увазе затрымацца на значнасьці гэтай кніжкі як з боку агульна-этнографічнага, так і з боку праўдзівасьці выяўленьня асноўнай ідэі, якую чырвонай ніткай праводзіць аўтар праз усю кніжку,—антырэлігійнасьці нашага вясковага селяніна.

Зьмітрок Бядуля належыць да песьняроў, творы якіх багаты этнографізмамі. Такое літаратурнае зьявішча зьяўляецца ня толькі натуральным, але нават зьяўляецца законам для літаратур тых народаў, якія пасьля больш-менш доўгага заняпаду адраджаюць сваю нацыянальную культуру. Аб гэтым гавораць прыклады культурна-нацыянальных адраджэньняў славянскіх народаў XIX стагодзьдзя.

Найбольш характэрнымі прыкладамі этнографізмаў у творчасьці Зьмітрака Бядулі зьяўляюцца яго поэмы: „У зачарованым краі" [2]) і „Ярыла". Зьмест першай узяты з народных беларускіх казак космогонічнага характару, галоўным чынам з Сержпутоўскага: „Сказки и рассказы белоруссов-полешуков. СПБ. 1911". Матар'ял, узяты з народнай творчасьці, пераплаўлены поэтай у горне ўласнай душы і адшліфаваны з вялікім мастацтвам.[3]) Другая поэма ў сучасны момант скончваецца (яна мае каля 7000 радкоў), невялікі адрывак з яе, апісваючы "Вясельле", быў выдрукаваны ў „Маладой Беларусі" [4]), у грунт поэмы пакладзена вусная народная творчасьць: песьні, казкі, загаворы, вераваньні. Апрача поэм, Бядуля мае шмат дробных мастацкіх твораў з этнографізмамі, раскіданых амаль што не ўва ўсіх беларускіх кругабежных выданьнях.

Усё гэта кажа за тое, што Бядуля добра знаём з адным з бакоў беларускай этнографіі—вуснай народнай творчасьцю. Гэтыя веды—з аднаго боку і поўная адсутнасьць прац, якія разьбіралі-б ужо сабраны сыры матар'ял—з другога боку, былі прычынай таго, што Бядуля, дзякуючы сваёй „необычайной отзывчивости" [5]) аддае частку сваіх сіл і для прац, маючых чыста этнографічны характар.

У 1922 г. Бядуля пісаў: „Тыя томы і зборнікі беларускай народнай творчасьці, якія напісаны рознымі этнографамі і вучонымі за апошні час, ня маюць у сабе і сотае часьці таго, што хадзіць у вуснах народу. *А тое, што напісана, ляжыць без апрацаваньня*" [6]). Праўда, Бядуля ня

[1]) *І. Шыпіла* ў „Савецкай Беларусі" № 177 г.г.
[2]) *З. Бядуля*, „Пад родным небам". Менск, 1922, стар. 70—97.
[3]) *П. Любецкі*. „Думкі аб поэзіі З. Бядулі". „Сав. Беларусь", 1922, № 161.
[4]) „Маладая Беларусь". Менск, 1922, № 1, стар. 68—74.
[5]) *Е. Карский*, Белоруссы, III, 3, стар. 358.
[6]) „Беларускі каляндар на 1922 г." Пётры Станіча, Вільня.

вучоны, яго этнографічныя працы носяць дылетанцкі характар і з сурованавуковага погляду маюць недахваты, але, ня гледзячы на гэта, Бядуля ўнёс сваё імя ў лік беларускіх этнографаў.

Дробныя нарысы Бядулі этнографічнага характару зьяўляліся ў такім парадку:

1) „*Жыды на Беларусі*“ [1]); нарыс дае цікавы матар'ял для ўзаемаадносін жыдоў і беларусаў.

2) „*Хараство ў беларускай народнай творчасьці*“ [2]).

3) „*Сёмуха*“ [3]), компіляцыйны нарыс.

4) „*Рукапіс чорнакніжніка XVIII веку*“ [4]); надта цікавы нарыс аб адкрытай кнізе жыдоўскага чорнакніжніка, напісанай часткай у беларускай мове жыдоўскай транскрыпцыяй.

5) „*Беларуская народная мэлёдыя*“ [5]); аўтар разглядае гісторыю зьбіраньня беларускіх народных мэлёдый.

6) „*Як забаўляюцца дзеці ў беларускіх вёсках*“ [6]); нарыс апісвае дзіцячыя гульні, мае матар'ял, не знаходзячыся ў друку.

7) „*Народная імпровізацыя*“ [7]); аўтар затрымоўваецца на этнографізмах у беларускай літаратуры і на народных „прычытаньнях“.

8) „З нарысаў па гісторыі беларускага тэатру. *Беларуская інструмэнтальная музыка. Беларускія нацыянальныя танцы*“ [8]); цікавыя для этнографа нарысы, якім дадзена неправіловая агульная назова, далучаючая іх не да этнографіі, а да „гісторыі тэатру“.

9) „Беларускі тэатр. I. *Пачаткі і асновы беларускага тэатру*“ [9]); у гэтым першым нарысе аўтар разглядае тыя этнографічныя элемэнты (каляды, гуканьне вясны, русальны тыдзень, купальле, вясельле і г. д.), якія парадзілі тэатр.

10) „*Батлейка*“ [10]); разглядаючы народныя батлеечныя прадстаўленьні, аўтар пераходзіць да спроб стварыць з народных твораў творы літаратурныя для сцэны.

Матар'ялы для сваёй апошняй працы „Вера, паншчына і воля“... Бядуля бярэ з этнографічных зборнікаў Шэйна, Раманава і Сержпутоўскага, выдадзеных у дарэволюцыйны час (самы пазьнейшы зборнік—Сержпутоўскага, выдадзены ў 1911 годзе). Усюды значыцца, дзе, кім і са слоў каго запісаны тыя ці іншыя казкі. Бядуля падзяляе сваю працу на XIII

[1]) „Беларускі шлях“, 1918 г.; вышаў асобны адбітак брошурай.
[2]) „Беларускае жыцьцё“; 1920, № 5.
[3]) „Рунь“, 1920, № 4.
[4]) „Вольны Сьцяг“, 1921, № 5.
[5]) Ibidem, № 6.
[6]) „Зоркі“, 1921, № 5.
[7]) „Беларускі каляндар на 1922 г.“ Пётры Станіча; Вільня, 1921.
[8]) „Вольны Сьцяг“, 1922, № 1.
[9]) „Вестник Народного Комиссарита Просвещения БССР“, 1922, № 9-10.
[10]) Ibidem, № 3-4.

нарысаў: I. Барацьба здаровага народнага духу з рэлігійным уплывам. II. Паны і ксяндзы. III Жыдоўскія духоўнікі. IV. Цуды. V. Сьвятыя. VI. Неба й пекла. VII. Бог. VIII. Элемэнты хрысьціянства ў беларускіх народных творах. IX. Нячыстая сіла. X. Паны. XI. Сымболічна-рэвалюцыйныя матывы. XII. Паншчына ў народных песьнях і казках. XIII. Эвангэльле навыварат. Усе яны групуюцца каля трох аснаўных ідэй, паказваючых на грунце народнай творчасьці:

а) антырэлігійнасьць сялян (I—IX),

б) адбітак паншчыны (X, XII),

в) народныя сымболічна-рэвалюцыйныя матывы (XI, XIII).

Самым каштоўным у працы Бядулі зьяўляецца высьвятленьне народных поглядаў на бога і рэлігію. Гэтаму пытаньню аўтар удзяляе большую частку сваёй кнігі, таму што быў пануючым погляд аб нібы вялікай рэлігійнасьці вясковага люду; зразумела, што такі погляд зьявіўся ў выніках дарэвалюцыйных прац, тэндэнцыйна і аднабока высьвятляўшых сьветапогляды сялян па вядомым усім прычынам. І пакуль што матар'ялы, якімі карыстаўся (на жаль ня ўсімі) Бядуля, матар'ялы па народнай творчасьці ў адносінах да нашага сялянства зьяўляюцца адзінковымі для высьвятленьня патаемнага боку чалавечай душы—яго вераваньняў.

І наадварот—у адносінах да паншчыны народная творчасьць нашага народу дае вельмі мала, дае трэцярадны, надта нявыразны матар'ял, які ні ў якім разе ня можа конкураваць з тымі данымі аб паншчыне, якія мы атрымоўваем з сучасных паншчыне пісоўных дакумантаў. З гэтай прычыны і высьвятленьне паншчыны ў працы Бядулі ня вышла такім яркім, такім конкрэтным, як высьвятленьне антырэлігійнасьці.

Добра, але ня зусім поўна (у параўнаньні з матар'ялам, маючымся ў друку) выкладзены сымболічна-рэвалюцыйныя матывы нашых сялян.

Зварочваюся да галоўнага ў кніжцы—сялянскай антырэлігійнасьці, якую Бядуля рэзюмуе так:

„У беларускага селяніна вялікай рэлігійнасьці няма. Аб духоўніках, богу і сьвятых ён у сваіх байках апавядае з кплівасьцю і гумарам, як аб нейкіх чужых істотах, якія яго зусім ня тычацца. А калі гэтыя сьвятыя істоты маюць дачыненьне з яго добрабытам, дык кажа аб іх (аб папох і ксяндзох) нават з ненавісьцю. Наогул, сярод беларускага сялянства хрысьціянскія міты ўжо даўно перашлі ў стадыю забаўных баек для маленькіх дзяцей“ (стар. 54).

У час, калі „Вера, паншчына і воля“... паасобнымі нарысамі друкавалася ў „Савецкай Беларусі“, і цяпер, калі яна вышла ў сьвет кніжкай, прыходзілася і прыходзіцца чуць сярод грамадзянства галасы аб нібы неправіловым падыходзе Бядулі да народнай творчасьці нашых сялян у рэлігійным пытаньні. Некаторыя бачаць у гэтай працы Бядулі нібы тэндэнцыйны і бязгрунтоўны адбітак сучаснага рэвалюцыйнага часу, які бязьлітасна нішчыць старыя рэлігійныя каштоўнасьці.

На некаторы час забудзем, што мы жывём у рэволюцыйныя годы, якія даюць новыя асьвятленьні жыцьцёвым зьявішчам, і разгледзім працу Бядулі ў параўнаньні з дакумантамі, аўтарства якіх належыць пераважна самім папом.

Гісторыя нам кажа, што паміж беларускім сялянствам і прадстаўнікамі хрысьціянства і бога на зямлі—папамі—вялася неперарыўная барацьба. Нашы продкі не жадалі прымаць хрысьціянства; у іх быў свой лепшы бог—„бог Працы“, як правілова яго называе Бядуля, некалькі вякоў ішла ўпартая барацьба па заганяньню агнём і мячом нашых продкаў у царкву і касьцёл. Прыкладам рэлігійна-клясавай барацьбы паміж беларусамі і папамі ў XII стагодзьдзі можа служыць выпадак з Аўраамієм Смаленскім. За тое, што ён не рабаваў народ, а вучыў яго дабру, смаленскія папы навялі на яго паклёп і патрабавалі яго сьмерці праз прыбіцьцё да ганебнага слупу; папы, схапіўшы Аўраамія, як злодзея, валаклі яго на суд „по торгу и улицам“, але народ уступіўся, і веча апраўдала яго; за гэта абаронцы Аўраамія ўночы былі пазабіваны ці зрабаваны рукамі „безчинных попов и игуменов“ [1]). На працягу з IX па XIX стагодзьдзяў папоўства ніякім парадкам не магло справіцца з заганяньнем у царкву ня йдучых да яе сялян. І па меры ўзмацненьня царскай улады узмацняецца і заганяньне сялян у царкву і касьцёл: выдаецца закон: „Воскресенье и торжественные дни... надлежит праздновать с благоговением и чистотою и ходить въ церковь к слушанию службы божией, а особенно к литургии“ [2]).

А нашы беларускія сяляне мелі звычай у сьвяткі езьдзіць на рынак (у бліжэйшы горад, мястэчка), пагэтаму яны зусім не хадзілі да царквы. І папоўства па ўсёй Беларусі паднімае перад губарнатарамі пытаньне, што сяляне, замест таго, каб хадзіць да царквы, езьдзяць на рынак; улада пераносіць рынак на будныя дні [3]), папы-ж, пры дапамозе паліцыі, прымаюцца заганяць сялян да царквы-касьцёлу. Такое мерапрыемства дапамагло, але ня зусім: дарослыя ходзяць да царквы, а дзеці ня ходзяць. Тады папы прыдумалі новы мэтод заганяньня ў царкву; яны, пры дапамозе ўлады, сталі прымушаць сялян рабіць прыгаворы, у сілу якіх сялянскія дзеці, якія вучыліся ў школе, па сканчэньні яе павінны былі тры гады падрад і ўзімку і ўлетку кожнае сьвята хадзіць да царквы, бо „чтение и пение в церкви детей благотворно будет действовать на родителей их и на всех прихожан и будет возбуждать в них большее желание к посещению храма Господня“ [4]). Валасной уладзе

---

[1]) *М. Аксенов.* „Очерки из истории народного просвещения в Смоленском крае“. Смаленск, 1909; стар. 29—30.

[2]) Свод Законов, т. XIV, 1876 г.; стар. 25.

[3]) „Полоцкие Епархиальные Ведомости“, 1881, № 22, стар. 766; № 24, стар. 831; 1886, № 12, стар. 401—402.

[4]) Ibidem., 1892 № 4-5, стар. 153; 1893, № 10, стар. 416—418.

даручалася сачыць за тым, хто, як ходзе да царквы, а няспраўных караць [1]).

Аб тым, якую ўладу над селянінам мелі папы, апавядае дзяк Карскі: адзін селянін, нецьвярозым прышоўшы ў царкву, быў па загаду папа Гаворскага запёрты ў хлеў, дзе прасядзеў некалькі гадзін [2]). Наступны прыклад больш характэрны: у царкву прышла дзяўчына, радзіўшая дзіцёнка, вышэйпамянёны поп уласнаручна ўсклаў ёй на галаву вянок з гарохавай саломы, які меў трохсажнёвы саломены хвост, потым загадаў абвесьці дзяўчыну тры разы навакол царквы і прывязаць да дрэва, „и—апавядае вочавідца—молодую преступницу целые три часа продержали в таком позорном положении“ [3]). Такія мэтоды ўжываліся і ў другіх царквах.

Зразумела, што пасьля такіх зьдзекаў пры заганяньні сялян у царкву, у вапошніх не маглі быць добры ядносіны як да хрысьціянскага бога, ува ймя якога ўсё гэта рабілася, так і да насіцеляў хрысьціянскай рэлігіі—папоў, апошніх лічылі за самых горшых людзей на сьвеце, нейкімі злымі гэніямі, якімі страшылі дзяцей [4]). Поп В. Б. піша, што сяляне дзяцей „пугали „попом“, как страшилищем, а сами прятались, когда священник являлся к ним в дома“ [5]). Архімандрыт Паісі піша, што сяляне „стараются избегать встречы с священником, полагая, что она принесет несчастие“, [6]) а дзяцей выхоўваюць на паняцьці, што поп „человек опасный и страшный“ [7]).

Пасьля такіх узаемаадносін сялян з папамі нікольки ня дзіўны папоўскія скаргі на тое, што сяляне ня ходзяць да царквы, што яны ня моляцца богу, што яны ня ведаюць малітваў.

Дзяк Карскі піша: „В 10 верстах от села Лаши и в 12 от Гродна есть село Коптиевщина, где я с 1855 по 1861 год был псаломщиком и поэтому могу с полной уверенностью сказать, что я там не знал ни одного крестьянина, ни одной крестьянки, которые были бы расположены к церкви божией. Они если и ходили когда в церковь, то весьма неохотно, так сказать вынужденным образом, только для исповеди“ [8]), далей той самы дзяк прыводзіць прыклады няўважлівых сялянскіх адносін да царквы і яе „сьвятых“ рэчаў.

Поп Дзем'яновіч піша аб сваіх парафіянах Жытлінскай царквы, Слонімскага пав. былой Горадзенскай губэрні: „В отношении крестьян к ре-

---

1) Ibidem.

2) *П. Шейн*, Материалы... III, стар. 91.

3) Ibidem стар. 90-91.

4) „Полоцкие Епарх. Вед.“, 1883, № 18, стар. 583.

5) Ibidem, 1902, № 8-9, стар. 370.

6) Ibidem, 1884, № 18, стар. 583.

7) Ibidem, стар. 582.

8) *Шейн*, Материалы... III, стар. 88.

лигии замечается апатия. Этот недостаток замечается не только в моем глухомъ приходе, но это, кажется, общий недостаток Слонимского уезда, а так же и Пинского"[1]). Жыхары Лашынскага прыходу (Горадзенскі п.) ходзяць да царквы „только изредка и то без особаго к ней влечения"[2]). Паня Лісоўская аб беларусах Віцебскага павету піша: „На божницу свою (г. зн. на абразы багоў, сьвятых) здешние белоруссы обращают очень мало внимания, так как они отличаются крайним индифферентизмом к религии"[3]). Поп Альбіцкі, бачачы ў царкве вельмі мала людзей, кліча: „Каждый воскресный и праздничный день голос церковного колокола, как голос ангела божия, зовет вас в храм на молитву. *Почему же молящихся в нашем храме почти всегда бывает очень мало?* Почему между вами есть и такие, которые и *один раз в год* не считают своим *долгом сходить в храм на молитву?* Где причины такой невнимательности к храму божию и такого нерадения к спасению своему? Итак, я спрашиваю тебя, мой прихожанин, почему ты ленишься ходить в церковь?"[4]) Поп В. Б. адзначае ў Гарадокскім павеце, што сяляне рэдка хадзілі да царквы[5]). Поп Шостак піша больш катэгорычна: „*Народ совершенно не ходит в церковь*"[6]) і „прихожане неохотно посещали храм"[7]). Поп Сарачынскі аб жыхарох Дрысенскага павету піша: „Белоруссы... заметно страдают религиозным индифферентизмом[8])"; поп Кнышэўскі скардзіцца на няразьвітасьць сялян у рэлігійных адносінах і на „незнание главных молитв"[9]). Сяляне ня толькі ня ходзяць да царквы, але нават адмаўляюцца даваць грошы на будоўлю непажаданых для іх цэркваў. Адзін поп піша: „Местные прихожане отказались дать что-либо от себя на построение приходской своей церкви"[10]); нават хворыя сяляне ўцякаюць, калі поп прыяжджае іх спавядаць[11]). Адносна беларусаў Себескага павету знаходзім такую папоўскую увагу: „Здешний край в религиозно-нравственном отношении представляет собою в высшей степени безотрадную картину"[12]).

Як відаць, народныя вераваньні аб богу, рэлігіі і папох, якія выклаў Бядуля ў сваёй кніжцы, вядуць свой пачатак ад тэй, даўно прашоўшай сівой мінуўшчыны, калі нашым продкам хрысьціянства насаждалася агнём і мячом. Як бачым з параўнаньня матар'ялаў, выкарыстаных Бядуляй,

[1]) Ibidem, стар. 371.
[2]) Ibidem, стар. 87.
[3]) Ibidem, стар. 7.
[4]) „Полоцкие Епарх. Вед." 1889, № 24, стар. 1056.
[5]) Ibidem, 1902, № 8-9, стар. 369.
[6]) Ibidem, 1913, № 3, стар. 36.
[7]) Ibidem, № 8, стар. 135.
[8]) Ibidem, 1902, № 4, стар. 140.
[9]) Ibidem, 1900, № 3, стар. 115.
[10]) Ibidem, 1894, № 16, стар. 740.
[11]) Ibidem, 1904, № 18, стар. 536.
[12]) Ibidem, стар. 537.

з дакумантамі, пісанымі самімі папамі ў дарэволюцыйныя часы, то ясна, што праца Бядулі ў падборы матар'ялу не тэндэнцыйная, а збудавана правілова, з глыбокім знаньнем народнай псыхолёгіі і вераваньняў; спадзяемся, што гэта канва будзе распрацована аўтарам у вялікую навуковую працу з выкарыстаньнем усіх матар'ялаў і далучэньнем новых, бо зразумела, што па цэнзурным умовам народныя творы з рэзкім антырэлігійным напрамкам не маглі быць выдрукаванымі ў царскія часы.

Узьнікае пытаньне—чаму-ж наш беларускі селянін—„ленивый" затое, што не хадзіў да царквы, „некультурный" затое, што ўцякаў ад папоў і захаваў да нашых часоў адломкі сваёй дахрысьціянскай нацыянальнай культуры, „грубый"—затое, што ўжываў сваю беларускую, „мужыцкую" мову—вёў увесь час барацьбу з папамі і не дазволіў канчаткова сябе ахрысьціянізаваць?

Мне здаецца, прычынай гэтага было: 1) гвалтоўнае ўвядзеньне хрысьціянства, пры дапамозе агню і мяча, памяць аб чым у народных паданьнях захавалася да апошніх часоў, 2) зьдзекі над сялянамі і эксплёатацыя іх ува ймя бога, пры дапамозе ўлады ўсіх часоў, 3) чужая мова (польская і маскоўская) у вапошнія часы, якая ўжывалася ў царквах і касьцёлах, 4) неадпаведнасьць хрысьціянскага грабежніцка-ідэалістычнага вучэньня народнаму матар'ялізму „паганскага" кругаходу, які жыве і па сёньнешні дзень у нашых сялянах.

Так і хочацца скончыць свой нарыс вершам вялікага песьняра Беларускай зямлі Якуба Коласа:

Меч, агонь зьнішчалі край:
З двух бакоў айцы дубінай
Заганялі нас у рай.
Кроў лілася ручаямі,
Здрада чорная расла,
Што папамі і ксяндзамі
Ў сэрца кінута была.
І цяпер над вамі, брацьце,
Яшчэ ў сіле той раздор
І папоўскае закляцьце
І ксяндзоўскі нагавор. [1])

---

[1]) *Якуб Колас*. „Сымон Музыка" („Вольная Беларусь"), 1918 г., № 1.

# КНІГАПІС

**Максім Гарэцкі.** *Гісторыя беларускае літаратуры. Выданьне трэцяе, перапрабленае і дапоўненае разглядам вуснае народнае поэзіі.*

*Народны Камісарыят Асьветы БССР. Дзяржаўнае Выдавецтва. Масква—Ленінград. 1924 г., стар. 384. Цана 2 руб.*

Гэта вялікая, прыгожа выданая кніга, аздобленая харошымі портрэтамі пісьменьнікаў і ўзорамі старасьвецкага беларускага друку. Апроч таго, кніга напісана багатаю мовай; кожнае слова абдумана і пастаўлена ў сказ з сапраўдным мастацкім замілаваньнем; нават некаторыя провінцыялізмы (калі іх так можна назваць) і аўтарскія новатворы вельмі цікавыя й орыгінальныя. З гэтага боку кніга беззаганная, і тут ёсьць чаму павучыцца кожнаму, хто мілуе прыгожую мову і хто цікавіцца фактамі нашае літаратуры.

Шмат працы палажыў аўтар на сваю кнігу. З вялікай любоўю зьбіраў ён факты старога й новага беларускага пісьменства, прывёў іх у належны хронолёгічны парадак і дадаў да іх сваё тлумачэньне. Апісаньне гэтых фактаў чытаецца з надзвычайнай цікавасьцю. Устаюць і пачынаюць гаварыць людзі ў тыя часы, што здаваліся мёртвымі. Усё гістарычнае поле нашае літаратуры пачынае сьвяціцца яркімі агнямі — то большымі, то меншымі, аж покі не асьвятляецца яно полымем апошніх часоў. Але ўсё гэта паасобныя факты, факты цікавыя, факты цэнныя, факты навучальныя, але толькі факты, а *ня гісторыя*, бо зьвязаны яны толькі хронолёгічна, а *не гістарычна*. Так, на вялікі жаль, кніга Гарэцкага— гэта яшчэ *ня гісторыя* беларускае літаратуры.

Гісторыя — гэта навука. Гісторыя таксама апісвае ўласьцівыя сабе факты, але апісваючы іх, яна высьвятляе прычыны гэтых фактаў ды стараецца аб'ясьніць, як пэўныя факты залежаць ад пэўных прычын. Для гісторыі мала сказаць, што некалі ў нашай літаратуры была „залатая пара“, а потым поўны заняпад; трэба яшчэ высьветліць, *чаму* была гэта „залатая пара“ і *чаму* яна зьмянілася поўным заняпадам. Словам, гісторыя выясьняе, якія прычыны выклікаюць тыя ці іншыя факты і якім законам падпарадкаваны гэтыя факты. Тады часам вялікія *хронолёгічныя* факты (цары, каралі) адыходзяцца на задні плян або зусім сьціраюцца, а на сцэну выступаюць іншыя гістарычныя фактары. Само сабою разумеецца, што пры гістарычным высьвятленьні фактаў няма месца для асабістага густу аўтара.

І наадварот, пры хронолёгічным апісаньні фактаў адчыняецца шырокае поле для асабістых ацэнак, бо гэтыя факты нічым ня зьвязаны паміж сабою. Іх можна пабольшыць або паменшыць і нават зусім выкінуць у залежнасьці ад густу й ацэнкі, або, наадварот, маленькі факт расьпісаць так, што ён зойме некалькі лісткоў у кнізе, бо ўсё гэта матар'ялы для гісторыі, а ня дзейны організм адзінага гістарычнага разьвіцьця. І што-ж? Калі параўнаць першае й трэцяе выданьне кнігі Га-

рэцкага, то адразу кінецца ў вочы, што аўтар так і робіць: адных пісьменьнікаў выкідае, а другіх садзіць на іх месца, як у тэй песьні: „захачу—палюблю, захачу—разьлюблю“.

Кніга М. Гарэцкага ў першай частцы, апроч „вуснае народнае поэзіі“, становіць сабою хронолёгічнае апісаньне старасьвецкіх літаратурных фактаў, прычынна ня зьвязаных паміж сабою, а ў другой—біографіі выдатнейшых беларускіх пісьменьнікаў, поэтаў, этнографаў, рэволюцыянэраў, культурных дзеячоў, публіцыстых, тэатралаў і нават аднаго граматыстага (Б. Тарашкевіч). Такім парадкам, тут знашлі сабе месца людзі,—што ніколі прыгожым пісьменствам не займаліся (Іван Луцкевіч) і толькі выклікаюць зьдзіўленьне, нашто аўтар залічыў іх у пісьменьнікі? Хіба з асабістай павагі да іх?

Наадварот, тут няма сапраўдных пісьменьнікаў, вядомых беларускаму грамадзянству і беларускай школе, як Антон Галіна (Міхаіл Міцкевіч), Стары Улас, М. Гарэцкі, К. Буйла, А. Зязюля і некаторых іншых. І чаму, напрыклад, няма тут біографіі Грамыкі? Адказ адзін: такая ўжо воля аўтара. Пры такім падходзе да справы, ці то бок, да гісторыі беларускае літаратуры, ня дзіва, разумеецца, што, прачытаўшы кнігу Гарэцкага, „Васіль пойдзе плача, а Васіліса скача“...

А поплеч з гэтым, у ліку беларускіх пісьменьнікаў знаходзім такіх асоб, як Пшчолка й Арлоўскі, толькі без портрэтаў, хоць у першым выданьні портрэт Пшчолкі быў, і толькі ў трэцім выданьні Пшчолка на ранг паніжан. Што-ж гэта за пісьменьнікі?

Арлоўскі, як відаць з узораў яго творчасьці, прыведзеных аўтарам на стар. 257 („Нудныя мае вершы і *прозы*“) ня ўмеў граматна зьвязаць пары слоў, а Пшчолка, як вядома кожнаму, хто знаём з гісторыяй нашага адраджэньня, выстаўляў на кпіны беларускую мову для пацехі беларускіх рэнэгатаў.

Гэтыя недарэчнасьці ў кнізе аб'ясьняюцца тым, што аўтар прыняў біографіі пісьменьнікаў за гісторыю літаратуры, і свой уласны густ стаў апісваць, як гістарычна-літаратурны факт.

Так гісторыя пісалася (Іловайскі, напрыклад), але цяпер так ня пішацца. Гісторыі патрэбен ня густ, а развага, г. зн., навуковае, або законна-прычыннае, высьвятленьне тых ці іншых фактаў. У гістарычным асьвятленьні некаторыя фігуры, якіх аўтар удае за пісьменьнікаў з гістарычным значэньнем, абернуцца ў звычайных іванаўскіх чарвякоў, а, прыкладам, сувязь нашага старасьвецкага пісьменства з пісьменствам украінскім зьлілася-б у нешта адзінае і надзвычайна цікавае. Тады-б угледзілі мы, чаму гэта ў нашым пісьменстве была „залатая пара“, потым заняпад, а далей адраджэньне. На ўсё гэта былі свае прычыны, якія гісторыя спачатку выясьняе, а потым разьбірае творчасьць тых пісьменьнікаў, што былі дзейнікамі гэтых прычын або кіравалі гэтымі прычынамі.

Не зважаючы на выстаўленыя хібы, кніга М. Гарэцкага становіць сабою надзвычайна цэнны матар'ял для будучай гісторыі беларускае літаратуры і павінна быць настольнай кнігай кожнага беларускага настаўніка, кожнага культурнага работніка, як кніга для чытаньня, як справачнік літаратурнага характару і, нарэшце, як школьны падручнік, хоць для школьнага падручніка яна завяліка і мала дапасована, бо ня мае патрэбных разьдзелаў, што зьяўляецца канечнай умовай кожнага школьнага падручніка.

Кніга М. Гарэцкага—гэта ня гісторыя беларускае літаратуры, але яна надзвычайна цэнна, як багаты, памастацку апрацованы справачнік гістарычна-літаратурнага характару, без каторага ня можа абысьціся ніводная нашая школа. У гэтым і *гістарычнае* значэньне кнігі Гарэцкага.

Нават дадатак да кнігі ў форме „Назваслоўя“, дзе аб‘ясьняюцца розныя літаратурна-мастацкія тэрміны, зусім непатрэбныя ў гісторыі літаратуры, будзе дарэчы тут, як у справачніку літаратурнага зьместу.

**Я. К—іч.**

**І. Самковіч і І. Пратасэвіч**. *Родныя шляхі. Літаратурныя выпісы для 5 і 6 клясы сямёхгадовай белар. школы. Дзяржаўнае В-цтва Беларусі. Менск, 1925, стар. 416, тыраж—20.000 экз.*

З найвялікшай цікавасьцю, надзеяй і трывогай спатыкае маладая беларуская школа кожны падручнік, які паяўляецца на беларускім кніжным рынку. Яно й зразумела. Ня гледзячы на рознастайныя рэформы ў школьнай і пэдагогічнай практыцы, якія мы бачылі неаднакраць на працягу апошніх год, падручнік усё-ткі ў жыцьці школы ўтрымаўся, мала таго што ўтрымаўся, ён усё яшчэ адыгрывае тут значную ролю. Гэта асабліва датыча тых падручнікаў, якія маюць беспасярэднія адносіны да навучаньня роднае мовы, да ўсваеньня літаратурнае мовы, якой карыстаецца даная нацыянальнасьць. Беларуская школьная літаратура гэтага роду падручнікамі вельмі і вельмі ўбога. Вось чаму „Родныя шляхі“ прыцягваюць да сябе нязвычайную увагу перш-на-перш у тым сэнсе, у якой меры гэты падручнік адпавядае патрэбам беларускае школы, і ці выкарыстаны аўтарамі літаратурны матар‘ял запраўды выяўляе істотныя рысы беларускае мовы; не пярэчыць духу гэтае мовы.

На першае пытаньне трэба адказаць у сэнсе дадатнім, г.зн., што „Родныя шляхі“ запраўды адпавядаюць патрэбам беларускае школы. Бо калі 1, 2, 3 а часткай і чацьвертая групы нашай сямігодкі з большага забясьпечаны падручнікамі С. Некрашэвіча, калі 7 група можа хоць часткай карыстацца „Выпісамі з бел. літ.“, то 5 і 6 групы ў гэтым кірунку нічога ня мелі. Адно пустое месца. І „Родшляхі“, дапасаваўшыся іменна да гэтых груп, гэтым самым ужо вялікую ўслугу прыносяць нашай школе. Далей. Гэты падручнік пабудован на комплекснай аснове, паводле ўзораў расійскіх хрыстоматый („Освобожденный труд“, „Красный сказ“ і інш.), і гэта як нельга лепш пасуе нашай сучаснай школьнай практыцы. Удалося аўтарам надаць падручніку беларускі колёрыт некаторымі такімі комплексамі, якіх няма ў адпаведных расійскіх падручніках (Чацьверты разьдзел). Усё гэта дадатныя якасьці „Р. Ш.“.

Зьвернемся цяпер да другога пытаньня, а іменна: ці выкарыстаны аўтарамі літаратурны матар‘ял запраўды выяўляе істотныя рысы беларускае мовы, не пярэчыць духу гэтае мовы? Гэтае пытаньне ў адносінах да разгляданага тут падручніку мае ня меншае значэньне, чымся першае, пакольні „Р. Ш.“ маюць заданьнем даць матар‘ял ня толькі грамадазнаўчы, але і даць узорны матар‘ял беларускае літаратурнае мовы.

І на гэтае другое пытаньне прыходзіцца даць адмоўны адказ: аўтарам „Р. Ш.“ не ўдалося справіцца з гэтым заданьнем. Так, не ўдалося, і перш-на-перш вось чаму: „Р. Ш.“ зложаны ня толькі з арыгінальнага беларускага літаратурнага матар‘ялу, але ў значнай меры з матар‘ялу перакладнага. Праўда, аўтары зрабілі ў прадмове засьцярогу, што яны звачаліся да перакладаў „толькі ў тых выпадках, калі тыя ці іншыя бакі гістарычнага жыцьця не знашлі сабе адбітку ў мастацкіх творах нашых родных пісьменьнікаў“. Так, гэта прычына паважная і з ёю можна было-б згадзіцца, з тэй аднак умовай, каб гэты перакладны матар‘ял быў выкажан запраўды ў беларускай мове, і каб ужываўся ён выключна там, дзе нельга без яго абысьціся, дзе нельга замяніць яго адпаведным арыгі-

нальным беларускім літаратурным матар'ялам. На жаль, гэтае умовы аўтары „Р. Ш." ня выканалі або выканалі зусім не здавальняюча.

Як вядома, беларуская найноўшая літаратура наскрозь мае сялянскі характар. Беларускія пісьменьнікі ў пераважнай большасьці дзеці працоўнага сялянства і ў сваіх творах адбіваюць жыцьцё гэтага працоўнага сялянства. У гэтым сэнсе, здавалася-б, аўтары „Р. Ш." ня мелі патрэбы шукаць матар'ялу па-за межамі нашага пісьменства. Аднак, ужо ў першым разьдзеле падручніка, там, дзе адбіваецца іменна жыцьцё сялянскае клясы, мы спатыкаем чужы матар'ял і пры тым такі, які ўжо тысячы раз прыеўся ўсім на старонках расійскіх хрыстоматый („Ратай" („Пахарь"). Д. Грыгаровіча). На стар. 75 мы ўжо бачым і І. Нікіціна („Помста"), верш, які абсолютна ніякімі якасьцямі не выдзяляецца і незаслугоўвае такой вялікай павагі, тым больш у перакладзе невядомага Х. Але чым далей, тым больш. На стар. 88 перад намі Е. Данілеўскі, далей—Юшкевіч, М. Горкі, У. Гаршын, Сьвярчкоў, А. Серафімовіч і інш. Яно мо' й добра такая змычка з расійскай літаратурай, каб не адна „маленькая" рэч, а іменна, каб ня тое, што гэтая змычка на старонках „Р. Ш." надта ўжо дорага каштуе беларускай мове, калечачы апошнюю бязьлітасна.

Вось некаторыя сьляды гэтае змычкі:

Стар. 224. „Вялізарны горад... цягнуў да себе з усіх краёў бедакоў, якія жылі ў сваіх кутох у *нявыразна* цяжкім становішчы" (парасійску—*невыразимо*).

Стар. 225. „...тое, што ўсіх чакаў адзін лёс, рабіла гэтых людзей, *якія ўчора былі чужымі, зусім роднымі паміж сабой*". Стылістычная пэрла!?

Стар. 225. „...каб кінуць погляд *на ляжачы* перад яго вачыма горад". А чаму, паважаныя аўтары, „на ляжачы", чаму не „на седзячы"? Таму толькі, што парасійску „на лежащий"?

Стар. 226. „...яны паходзяць на незапаленыя факелы"—гэта парасійску, пабеларуску будзе—„яны падобны на незапаленыя каганцы".

Стар. 227. „Але горад жыве; ён абхоплен *млосным жаданьнем* бачыць сябе зграбным і паважна паднятым да сонца". Як гэта дапасаваць да гораду „млоснасьць"—вядома хіба толькі аўтарам „Р. Ш."

Стар. 270. „Людзі ўходзяць, уводзячы і ўносячы дзяцей з сабой"—што вы падумалі? Думаеце, што гэта мае такі сэнс: „Люди входят, вводя и внося детей с собой"? Так мыляецеся,—парасійску было: „Люди уходят, уводя и унося детей с собой". Вось, якая „змычка"?!

Стар. 251. „...увесь жудасны *склад жыцьця*, які для работніка стварыў жалезны закон патрэбы, *ганебнасьць яго чалавечымі правамі на гібель* яго сям'і"???

Стар. 245. „Як вялізная морская хваля, яны беглі подскакамі *да варот з валасамі, устаўшымі дыбам*"... Цікавыя вароты—„з валасамі і г. д."

Але гэта нічога. Затое гэтая змычка з расійскай літаратурай узбагаціла беларускі лексікон значна. Так на стар. „Р. Ш." беларуская мова набыла шэраг такіх слоў, як: палісаднік, заўп, пушка (у сэнсе гармата), набат, вобласьць, непабядзімы, пакаснае стварэньне, застаўляюць (па расійску „заставляют", пабеларуску будзе „прымушаюць"), спакусаны (трэба „спакушаны"), рыданьні і г. д. і г. д.

Аднак аўтары „Р. Ш." не абмяжаваліся змычкай з расійскай літаратурай. Яны папрабавалі зрабіць пераклады з заходня-эўропэйскіх літаратур. Абрыўкі з твораў Гауптмана, Каміля Лямоньe, Лібкнэхта В. і інш. знашлі сабе тут „выяўленьне".

Стар. 245. „Галубы Жан пабег"... і г. д. Чаму „Галубы"? Пафранцуску тут стаіць „Bleu", пабеларуску будзе „Блакітны".

У тым-жа адрыўку перакладу францускага аўтара чытаем: „Поп... гаварыў спачувалыя словы, паўтараючы: „Царства нябеснае, бог усепрашчаючы, міласьць саздацеля". Скуль такія словы прышлі на думку аўтарам пры перакладзе адрыўкаў з францускаа літаратуры? „Галубы", „усепрашчаючы", „саздацель"! Адказ просты. Аўтары, як сьляпыя плоту, трымаліся расійскага перакладу з францускае мовы і ў рэзультаце гэтага паказалі нам *узоры перакладаў з перакладаў*. Хаця гэта *і новы жанр* на беларускай літаратурнай ніве, але наўрад ці падзякуюць за яго аўтарам прыхільнікі беларускага слова. І так усюды.

Але скончым з гэтым пытаньнем і пяройдзем да аднае яшчэ увагі, якую мне хацелася-б тут выказаць. Гэта наконт таго орыгінальна-беларускага матар'ялу, які зьмешчан у „Р. Ш.". Тут мы гэтак сама спатыкаем шмат недахватаў і вельмі значных. На стар. 28 зьмешчана апавяданьне Т. Гушчы „Дзяльба". Гэтае апавяданьне, хаця мо' яно і колёрытнае, але ніяк не падходзіць да школьнага падручніка. Характар грубага фарсу, у якім бачым вульгарызованы малюнак з такімі рысамі, як: „Эй, Сымон! Як табе ня брыдка? Мікола даў дулю, а ты толькі нос адхіліў", або: „Усе аж трашчалі ад сьмеху: у Міколы спаўзла адзежына!"—зьяўляецца антыпэдагогічным у школьным выхаваньні. Сюды адносяцца апавяданьні таго-ж Т. Гушчы „Стараста" і „Выбар старшыні" (стар. 175 і 177). Таксама зусім не пасуе падручніку апавяданьне Цёткі „Міхаська". Вось „лексікон" гэтага апавяданьня: Лупатая, галдабыр, касавокі асмолак, гад і інш. Але гэта нішто ў параўнаньні з тым, што мы спатыкаем у апавяданьні Караленкі „Лес шуміць". Вось адзін адрывак з дыалёгу гэтага апавяданьня:

„Ты мусі ня ведаеш, а я стары, хаця сам і не жаніўся, а ўсё-такі бачыў за свой век: маладая баба вельмі соладка цалуецца, якога хочаш злога мужыка можа яна абмануць"...

А вось другі:

— Значыцца, — пытае пан, — ты рад?

— Эгэ! А чаму я магу быць ня рад?

— А помніш, як мы цябе бізунамі сваталі?

— Як-жа ня помніць! Вось-жа і кажу, што неразумны чалавек быў, ня ведаў, што горка, што соладка. Бізун—горкі, а яго лепей, як бабу, любіў. Вось дзякуй вам, міласьцівы пане, што навучылі мёд есьці"...

І гэта ў падручніку для 14-15 г. г. дзяцей? Усё-ткі залішне *рызыкоўная* літаратура, паважаныя аўтары! Ваш падручнік нічога-б ня ўтраціў без яе.

З тэхнічнага боку падручнік выдан даволі акуратна, на добрай паперы, чытэльным і прыгожым шрыфтам. Шкодзяць тут толькі аляпаватыя малюнкі, без якіх можна было-б абысьціся. Зварачаюць на сябе увагу ўдалыя портрэты беларускіх пісьменьнікаў і дзеячоў.

Наогул-жа, „Р. Ш.", ня гледзячы на вельмі значныя недахваты, усё-ткі пэўную карысьць прынясуць, пакуль на беларускім кніжным рынку няма нічога іншага, што-б іх замяніла.

**Гор-кі.**

**Янка Купала.** *Безназоўнае. Збор вершаў. Дзяржаўнае В-цтва Беларусі. Менск, 1925 г., стар. 102.*

Цэнтральным месцам зборніку зьяўляецца поэма „Безназоўнае". Гэтая поэма заслугоўвае асаблівае увагі ня толькі з боку мастацкага, але і з боку ідэолёгічнага. Тут поэта цалкам стаіць на грунце нашай пасьля-Кастрычнікавай сучаснасьці, тут з-пад яго пяра паяўляюцца мэлёдыі і вобразы, сугучныя гэтай сучаснасьці. У гэтай поэме Я. Купала дае рэльефны зарыс нашай рэволюцыйнай эпохі, адцяняючы яе на фоне таго недалёкага мінулага, якое перажывала працоў-

ная Беларусь. Кастрычнікавая рэволюцыя, як рубеж паміж сучасным і мінулым, выяўлена ў „Безназоўным“ з нязвычайнай мастацкай сілай і імпэтам у вобразе:

Скаваная сіла паўстала
Бурай, навалай...

*(Стар. 9).*

Апрача поэмы ў зборніку бачым вязанку вершаў, напісаных у вапошнія годы. Усе гэтыя вершы як сваёй ідэолёгіяй, так і новымі мастацкімі хварбамі і настроямі падобны на „Безназоўнае“ і зьяўляюцца як-бы прэлюдыяй да поэмы.

Іншае ўражаньне робіць другая палова зборніку. Зьмешчаныя тут вершы не агорнуты бляскам навізны, а таму нічога новага не дадаюць да таго, што мы бачылі ў ранейшых зборніках твораў Я. Купалы.

Зборнік выданы памастацку і зьяўляецца жывым довадам поступу друкарскае тэхнікі ў Менску. Прыгожая і орыгінальная вокладка, добрая папера, прыемны шрыфт—дадатна выдзяляюць зборнік з надворнага боку.

**Улідзе.**

**„Чырвоны Сьцяг“**. *Орган беларускага бюро пролетарскага студэнцтва і цэнтральнага кіраўніцтва зямляцтваў г. Масквы. № 1, люты 1925 г. г. Менск.*

Беларуске студэнцтва ў РСФСР (Масква, Ленінград) складае сабою вялікі лік усяго пролетарскага студэнцтва СССР. Пры гэтым нацыянальная пролетарская сьвядомасьць яго няўхільна расьце, мацнее. Яе ўзрост настойна вымагае патрэбы організацыйнага будаўніцтва, абагульненьня падгатоўчай працы студэнцтва для наступнай яго службы ў ролі будаўнікоў свае савецкае краіны. Дастаючы веды ў асяродку саюзу, трэба думаць кожнаму беларускаму студэнту пра тое, што яму прыдзецца правясьці іх у гушчы сялянства на адбудаваньне свае краіны рабочых і сялян. Беларусь—адсталая культурна і экономічна, чаму і працы для свайго аднаўленьня натрабуе ўдвойчы стараньнейшай. Беларускае студэнцтва ў РСФСР усё больш і больш пранікаецца гэтым, захопліваецца ідэяй адданьня сваіх вед Савецкаму ураду, працоўнай краіне. Вакол гэтай ідэі і пачалі вырастаць беларускія зямляцтвы, яднаючы сабою сотні студэнтаў розных устаноў, каб, з'організаваўшыся, лепей зьвязацца з бацькаўшчынаю, бліжэй падысьці да яе вывучэньня.

З другога боку, у самай Беларусі вырас значны кадр студэнцтва ў унівэрсытэце, сельска-гаспадарчым інстытуце і інш. Тыя-ж самыя задачы захапляюць і яго,—як іх накіраваць, як лепш абгаварыць, праўдзівей вырашыць, пагадзіць, каб яны выпаўняліся водлуг патрэбы і інтарэсаў Савецкае ўлады, рабочых і сялян Беларускае Рэспублікі, як усё гэта зрабіць, ня маючы свайго органу, свае трыбуны?

Патрэба ў ёй кастойна расла, выпірала ўжо многа часу таму назад. Нават бюро маскоўскіх зямляцтваў адзін нумар свае часопісі—„Змаганьне“—выдала, але беднасьць і нястача сродкаў не дазволілі разьвярнуць працу нармальным парадкам, і атрымаўся ізноў доўгі перарыў. Нарэшце, з 1925 г. справа прышла да вырашэньня, і мы маем перад сабою першы нумар (лютаўскі) „Чырвонага Сьцягу“. У традыцыйным артыкуле „Ад рэдакцыі“ высьвятляюцца мэты часопісі, у чародным—„Задачы студэнцтва Беларусі“ т. Крыніцкі больш падрабязгова разьвівае гэтыя мэты, зазываючы беларускае студэнцтва „рыхтавацца да творчае працы над узмацненьнем справы рабочай клясы, да барацьбы за яго далейшыя перамогі, за ўзмацненьне саюзу рабочых і сялян, за рост уплыву рабочае клясы на бядняцкае і серадняцкае сялянства“. Артыкул т. А. Крыніцкага—сталы, програмны, які падкрэсьлівае выразна

павінны шлях часопісі, яго ідэёвую аснову. У гэтым нумары „Чырвонага Сьцягу“ ён—грунтоўнейшы ад усіх, ня лічачы яшчэ сьцісгага абгляду „Шостая гадавіна Савецкае Беларусі“—т. А. Чарвякова, у якім ён дае ў схэматычнай форме нарыс утварэньня політычнага лёсу і дасягненьняў Савецкае Беларусі, а таксама кратае ў некалькіх словах стану Заходняе Беларусі. Як знаўцы гісторыі беларускага пытаньня і бліжэйшага ўдельніка яго вырашэньня, артыкул А. Чарвякова дужа каштоўны і аўторытэтны.

Затое далейшы матар'ял у першым нумары выпадковы і слабы (ня лічачы поэмы Чарота, „Беларусь Лапцюжная“). Зразу відаць, што рэдакцыя сьпяшыла і падбірала зьмест, каб выдаць хутчэй нумар. Праз гэта зьмешчаныя рэчы ня стала напісаны, мала апрацаваны, часткаю старыя, часткаю малацікавыя ў гэткім журнале, загушчаны аднотэмнасьцю (пра аграномаў); да гэтага, большасьць артыкулаў вельмі дробненькія, у выглядзе заметак, не на ўсю старонку.

Зусім ашчэдны мастацкі аддзел, які заключае адну поэму М. Чарота, „Беларусь Лапцюжная“. Гэта зьмест; тэхніка таксама кульгае: у часопісі амаль няма ніякай сыстэмы вёрсткі, падбору шрыфтоў; маленькія заметкі набраны большымі літарамі ніж вялікія артыкулы. Між кароткімі заметкамі значныя белыя прагалы, непатрэбныя канцоўкі. З гэтага боку выданьне носіць сьляды глухога провінцыялізму. У далейшым яно будзе больш муляць вока, бо ў першым нумары заўсёды больш заган і іх лягчэй даравацць. Чамусьці ў тытульным лісьце занадта дробна і не на месцы набраны падзагаловак „Орган“ і г. д., там, дзе звычайна ставіцца фірма выдавецтва, на вокладцы—тое самае. Гэта бязумоўна прыкры недагляд.

Увогуле—шмат нясталасьці, якая, усё-ж, акупаецца самым фактам выданьня. У далейшым, думаем, гэтага ня будзе.

Урэшце спадзяёмся, што студэнцтва шчыра паглядзіць на сваю часопісь, прыхільна да яе аднясецца, пryме дзейны удзел у ёй сваімі ведамі, сваімі здольнасьцямі, якіх для студэнтаў не пазычаць. Ад гэтага залежыць посьпех „Чырвонага Сьцягу“, яго разьвіццё, яго роля ў справе організацыі беларускага студэнцтва.

**П. Мулкі.**

**„Плужанин“** *Орган ЦК і Харьківської філії спілки селянських письменників „Плуг“. Лютий 1925 року. № 1, Харьків.*

„Армія революційно-селянських митців росте й хоче удосконалюваты свій хист. Новых підручників у цих справах, окрім 2-3 книжок, немаэ. Кожна студія самотужки шукаэ і не маэ змоги поділитися своіми досягненнями з инншими. Потрібна трибуна для цього процесу самоудосконалення. Нею і хоча бути наш „Плужанин“.

Які-ж лік рэволюцыйна-сялянскіх мастакоў чырвонае Украіны? Вось як падлічае „Плужанин“.

„У „Плузі“ зараз 150 дійсних членів і по-над 800 студійців, членів гуртків „Плуга“. 50 организацій плужаньських, розкиданых по всій Украині, влаштовують щотыжневі вечірки з 3-4 тысячною авдыторіэю одже коло нашоі организацій налічуэ всього біля 5000 активних учасників. Коло наших чытачів визначаэться тиражем наших выдань теперішніх — 10-15 тисяч. Цілком ясна патреба в органі, що организаційно керував би цією масою, звязував бы йі, взаэмно інформував“.

Гэтак расьце маладая сялянска-рэволюцыйная украінская культура на глебе вольнай Савецкай Украіны.

Акцябрская рэволюцыя дала магутны штырхач для адраджэньня багатых, вякі прыгнечаных украінскіх працоўных гушч. Нацыянальная няволя, соцыяльны прыгон ўсе-ж ня ў

моцы былі знішчыць багатага інтэлекту сялян і рабочых Украіны. Зараз ён стыхійна выбівае з нетраў, з разгорнутае, натхненнае думкі.

Адначасова паўстае неадкладнае пытаньне—узяць гэты рост маладое культуры ў організацыйныя рамкі, даць ёй належнае кіраўніцтва. Дзеля гэтага паўстаў „Плужанин". У першым нумары, які перад намі, рэдакцыя й стараецца разгарнуць канву, даць першыя указкі для гэтае, пастаўленае жыцьцём мэты.

Перадавы артыкул тлумачыць патрэбу, якая высунула выданьне „Плужанина"—гэта ўзрост і пашырэньне рэволюцыйна-сялянскай украінскай літаратуры. У чародным артыкуле „Сільский літгурток „Плуга"—даюцца веды і рады, як будаваць сельскі гурток „Плугу", што дзеля гэтага патрэбна; якую працу павінен вясьці літгурток між сваіх сяброў, з гушчамі. Кожны сябар гуртка—пэрсональна. З гэтага характару артыкулаў у „Плужанине" маюцца: „Наши теми", „Природни основы мистецького хисту", „сількор-художнік", „Як ми колективно написали п'эсу" і інш.

Гэта замест публіцыстычнага аддзелу часопісі. Мастацкі аддзел для першага нумару таксама багаты. У ім зьмешчаны абразкі „Вибрики часу" Р. Яковенкі, „Азбука комунізму" А. Гака, нарыс „Першу Борозну" П. Горбенкі, некалькі вершаў. Аддзел гэты запоўнены маладымі сіламі „Плугу", з якіх многія выяўляюць добрыя здольнасьці.

Асабліва багатая „Хроніка", якая займае амаль не паўсшытку, і абглядае: працу філіяў „Плугу" на мясцох і ЦК „Плугу" у цэнтры, організацыйныя справы, дасягненьні; сяброў „Плугу" за творчасьцю, а таксама весткі „серед инших письменників" на Украіне і па-за Украінаю. У „Хроніцы" адводзіцца месца СССР, у тым ліку й Беларусі. Часопісь мае таксама аддзелы „Крытыка и бібліографія", „Паштовая скрынька" і "Вясёлая старонка".

Калі дадаць да ўсяго шмат малюнкаў-ілюстрацый, якія зьмешчаны ў „Плужанине", то можна прызнаць часопісь вельмі сур'ёзнаю з боку зьместу. Гэткі род часопісі абавязкова патрэбны для таго, каб абслужыць пастаўленыя мэты. Першы нумар запаўняе ў гэтым. Для маладога студыйца, для селькора—„Плужанин" незамянімая кніжка, з якое яны чарпануць патрэбныя сабе і цікавыя веды. Сам па сабе скромны, журнал дае шмат матар'ялу і даступны коштам любому сельскаму інтэлігэнту і вучню. Два злоты—недарагая цана.

Праўда, на „Плужанине", як на першым нумары, некалькі відаць і спрабаваньне ў сыстэматызацыі матар'ялу, не дасканаласьць і расплыўнасьць. Але заўсёды першы нумар, як першы крок, не дасканалы. У далейшым патрэбна абагаціць часопісь популярна-тэорытычным матар'ялам, згуртаваць крытыку ў адно месца, даўшы яе больш як для сталых мастакоў, гэтак і для пачынаючых і інш.

Але трэба думаць, што часопісь гэта выканае, знаходзячы тыя ці іншыя ўказкі ў цягу свае працы, свайго і жыцьця.

Пажадаем ёй буйнага разьвіцьця!

*Z. Gelberg.*

**„Зоря".** *Украінський, щомісячний, ілюстрований, літературно-науковий та політико-громадський журнал. № 2. Катеринослав, лютий 1925, 32 ст., тыраж 2000 экз.*

Цікавая, каштоўная украінская часопісь робіць у чытача вельмі добрае ўражаньне як з боку рознаколёрытнасьці зьместу, так і тэхнікі выданьня. Нам, беларусам, радавацца толькі прыходзіцца такім уздымам журнальнай справы ў нашай братняй рэспубліцы—Украіне.

Зьмест самы differ рознастайны—пра гэта гаворыць і сама назва часопісі. Тут мы знаходзім і прыгожае украінскае

пісьменства нашых дзён („Комуніст“— верш С. Яноўскага, „Ми диктатура“— верш А. Труба, „Випадок“—мастацкая проза П. Ванчэнкі і інш.), знаходзім і вельмі цікавыя артыкулы на палітычныя тэмы („Національна політика радзянского уряду України“—А. Буценка), знаходзім і цікавыя навукова-популярныя артыкулы („Стародавні жителі України“—акад. Д. Яварніцкага і інш.). Шмат надаюць прыгожасьці часопісі мастацка выкананыя застаўкі-малюнкі ў нацыянальным украінскім гусьце. Аздабляюць часопісь і фотографіі, мастацка дапасованыя да зьместу.

Хроніка, кнігапіс і „всячина“—гэтым канчаецца часопісь.

Па зьместу—багатая, па тэхніцы—прыгожая! Усё гэта кажа за тое, каб пажадаць часопісі „Зоря“ найдалейшага існаваньня і разьвіцьця.

**Іл. Барашка.**

**„Плуг“.** *Месячная навукова-популярная сельска-гаспадарчая часопісь № 1, студзень 1925 г. Выданьне НКЗему БССР і Белсельпрамсаюзу, 43 стар., тыр. 4000 экз.*

Часопісь „Плуг“ мае на мэце пашырыць на вёсцы сельска-гаспадарчы друк, у якім адчуваецца патрэба сярод тых сялян, якія ўжо маюць імкненьне павялічыць ураджай сваіх палеткаў і прыбытак ад сваёй жывёлы. Часопісь мае кіраваць гаспадаркі тым шляхам, які не патрабуе грашовых выдаткаў на падняцьце прыбыткаў з гаспадарак. Прыбытак гаспадаркі павялічваецца разумным скарыстаньнем сродкаў, якія можна мець у самой гаспадарцы. Гэта ёсьць шлях рацыяналізацыі гаспадарак. Недахватак агрономічных працаўнікоў, каб кіраваць вёску па шляху рацыяналізацыі гаспадарак, уласна патрабуе на вёску кнігу. Недахватак гэтай кнігі задае часопісі „Плуг“ мэты: „1) колькі мажліва папоўніць недахватак гэтай кнігі для беларускіх сялян; 2) імкнуцца ў навукова-популярнай форме пашыраць спэцыяльныя веды, як падставу сельска-гаспадарчага прогрэсу, і прыцягваць да вёскі дасягненьні навукі і агрономічныя думкі; 3) спрыяць і праводзіць у жыцьцё больш прогрэсыўныя формы гаспадараньня, пабудованыя на прынцыпах соцыялістычнай гаспадаркі“. Дзеля гэтага ў часопісі, побач з практычнымі радамі, зацікаўлены знойдзе дасьледжаныя навукаю спосабы лепшага гаспадараньня.

Часопісь „Плуг“ абдымае ўсе галіны сельскай гаспадаркі, аддаючы больш увагі тым галінам, якія маюць лепшую будучыну ў умовах нашага беларускага краю.

Праглядаючы аддзел палявых культур, мы натыкаемся на вельмі цікавы артыкул: „Досьледы з сяўбою лубіну ў вёсцы Падліпкі Слуцкай акругі па Меншчыне“. Гэта ўжо відавочны крок да вывучэньня беларускага краю, як цьвёрды грунт для адбудовы гаспадарак і „акуляры“ для нашых агрономічных працаўнікоў. Трэба чакаць, што паступовыя нумары часопісі будуць багацей артыкуламі досьледнага характару з усіх бакоў Беларусі і па ўсіх галінах сельскай гаспадаркі.

Спыняючыся на аддзеле жывёлагадоўлі, трэба сказаць, што яму, як і належыць, аддадзена вялікая увага. Жывёлаводы пастараліся. У галіне рагатай жывёлы добра высьветлены роды і шмат сказана пра гадоўлю цялят. Бяру на сябе адвагу сказаць, што артыкул агронома Хатэнкі „Ня трымайце цялят пад каровамі“—нават лішні, бо ён, ня высьветліўшы шкоды аб трыманьні цяляці пад кароваю, праз увесь артыкул трактуе, як выхоўваць цялят. Аб гэтым самым трактуе агроном Ластоўскі ў артыкуле „Чаму патрэбен догляд за цялятамі“. Розьніца толькі ў тым, што агр. Хатэнка раіць у першы дзень паіць цялё малаком, а агр. Ластоўскі—малодзівам. Гэтак сама мне здаецца, што зьмешчаны матар'ял агронома Ластоўскага меў-бы большы ўплыў

на чытача (ня двоячы яго думкі на двух пытаньнях), каб быў зьмешчан у двух артыкулах: „хваробы цялят“ і „выхаваньне цялят“. Дальш можна запытацца, з чаго пачаць: з цялят ці з кароў? Раячы выпойваць цялё малаком, трэба падумаць, што на тыя 20-24 фунты малака, якія дае сялянская карова, чакаюць даўно, апроч цяляці, 3-5 дзяцей. Ці ня трэба тут заглянуць у папярэдні артыкул часопісі, дзе тав. Прышчэпаў кажа: „Сялянскую гаспадарку трэба браць такой, якою яна ёсьць і знаходзіць спосабы дзеля яе адраджэньня“. Можа лепшы спосаб быў-бы пачаць з павялічэньня ўдойнасьці каровы? Можа аб гэтым павінна быць першым кінута слова ў вёску?

Ставячы гэтыя пытаньні, я, вядома, зусім ня маю думкі перакорыць часопісі „Плуг“. Бо, як першы нумар і ўложаны, галоўным чынам, працаўнікамі цэнтру, ён ня можа ня мець і памылак у сэнсе падходу да сялянскіх гаспадарак, ставячы таксама сабе мэту—вывучэньне гэтых гаспадарак.

Ня спыняючыся на другіх матар'ялах часопісі, я хачу сказаць, што па аддзелах часопісь размаіта і абяцае заўсёды мець глыбокі і цікавы зьмест. Трэба спадзявацца, што часопісь „Плуг“ прыцягне да сябе вялікае кола чытачоў і згуртуе кругом сябе сталыя агрономічныя сілы.

Вітаючы выхад першага нумару, застаецца пажадаць „Плугу“ вялікага посьпеху ў падняцьці цаліны вясковых гаспадарак.

**А. Кудзелька.**

# ХРОНІКА БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ

### У Інбелкульце.

О На першым агульным сходзе рэарганізаванага Інстытуту Беларускае Культуры, які адбыўся 31 студзеня г. г., быў выбраны новы прэзыдыум у гэткім складзе: *тав. Ігнатоўскі* (старшыня), *т. Смоліч* (намесьнік старшыні), члены прэзыдыуму: *т. Жылуновіч*, *т. Гэльтман* (кіраўнік польскага аддзелу), *т. Аршанскі* (кіраўнік жыдоўскага аддзелу) і *т. Дыла* (вучоны сакратар).

О У складзе Інбелкульту арганізавалася комісія па вывучэньню прыроды і яе вытворчасьці. Комісія будзе кіраваць усімі прыродазнаўчымі досьледамі БССР. Прэзыдыум комісіі—проф. Блюдуха, проф. Касаткін і Рагавы.

О На першым сходзе сельска-гаспадарчай сэкцыі Інбелкульту абраны прэзыдыум сэкцыі ў складзе Прышчэпава, Смоліча і Родзевіча. У сэкцыі ў першую чаргу намечана апрацаваць сельска-гаспадарчую тэрміналёгію, у далейшым сэкцыя намячае апрацоўку популярнай сел.-гасп. літаратуры на беларускай мове.

О Распачала сваю працу краязнаўчая сэкцыя Інбелкульту, да якой перашлі ўсе функцыі б. Цэнтральнага Бюро Краязнаўства пры Інбелкульце старога складу. Прэзыдыум сэкцыі—Гарбуз, Шукевіч-Трэцьцякоў і Скандракоў.

О Сэкцыя Інбелкульту па вывучэньню рэволюцыйнага руху на Беларусі пастанавіла сваім першачародным заданьнем—удзел у працы Гістпарту па складаньню Музэю Рэволюцыі і апрацоўцы архіўных матар'ялаў гісторыка - рэволюцыйнай значнасьці. Старшыня сэкцыі—Агурскі, сакратар—Іл. Барашка.

О Комісія па організацыі беларускага нацыянальнага кутка на Парыскай Міжнароднай Выстаўцы закончыла сваю працу.

Сабраныя экспонаты падзяляюцца на такія групы: школьнага выхаваньня, беларускай саматужнай вытворчасьці (тканіна і паліва), фотографіі беларускіх нацыянальных тыпаў, разьба па дрэву (экспонаты і фотографіі), беларускія выданьні Белдзяржвыдавецтва і малюнкі ў беларускім стылі.

Усяго сабрана больш за 300 рэчаў, якія і адпраўлены ў Маскву, а адтуль у Парыж.

### У „Маладняку“.

О Па дырэктывах „Маладняка“ і Інбелкульту ў лютым м-цы г. г. поэты Анатолі Вольны і Язэп Пушча выяжджалі ў г. г. Полацак, Магілеў і Віцебск з мэтаю азнаямленьня з магчымасьцямі організацыі філіі і наладжаньнем вечарын беларускай поэзіі.

О 9 лютага г. г. адбыўся сход менскай організацыі „Маладняк“. Чыталі свае творы Міхась Зарэцкі—„Дзіўная“ і Кузьма Чорны—„Бяздоньне“.

О 15 лютага адбыўся першы організацыйны сход Магілеўскай філіі „Маладняк“.

Філія ў сваім складзе налічвае 17 асоб, з якіх 4 жанчыны.

О 18 лютага адбыўся сход „Ма-

ладняка", на якім былі разгледжаны пытаньні організацыйнага характару.

На сходзе былы прэзыдыум „Маладняка" рэорганізаваны ў часовае цэнтральнае Бюро, у склад якога ўвашлі Вольны, Бабарэка, Зарэцкі, Александровіч і Чарнушэвіч, пры кандыдатах Пушчы і Гурло.

Цэнтральнаму Бюро даручана ў бліжэйшыя часы склікаць Усебеларускі зьезд „Маладняка", на якім ужо і будуць апрацаваны сталыя організацыйныя формы.

О ЦБ „Маладняка" атрымала запрашэньне ад ЦБ „Гарту" на ўсеукраінскі зьезд пролетарскіх пісьменьнікаў.

О У Бабруйску заложана філія „Маладняка".

О Заснавалася новая студыя „Маладняка" ў Беларускім Пэдагогічным Тэхнікуме (Менск). На чале студыі— М. Зарэцкі.

О Вышла з друку асобнай кніжкай апавяданьне поэты-маладнякоўца Ан. Вольнага „Два".

О У Полацку з'організавалася філія „Маладняка" з 5 асоб. Пры філіі існуе студыя ў больш асьці з вучнёўскай моладзі, якая налічвае 30 чалавек.

### Тэатр і мастацтва.

О 22 лютага г.г. працаўнікі Бел. Дзяржаўн. Акад. Тэатру сьвяткавалі 15-гадовы юбілей мастацкае працы мастака БДАТ т. Оскара Марыкса, які, дзякуючы сваёй трохгадовай працы ў БДАТ, прынёс шмат карысьці ў справе адраджэньня і далейшага разьвіцьця Беларускага Тэатру.

О У лютым м-цы г.г. ішла прэм'ерай у Беларускім Дзяржаўным Тэатры п'еса Луначарскага „Чырвоная маска". Гэтая пастаноўка выклікала за сабою ў мясцовай прэсе значную крытыку. Чарговай прэм'ерай у гэтым сэзоне пойдзе п'еса Міровіча „Каваль-ваявода".

### Выдавецкая справа.

О У лютым м-цы г.г. вышаў з друку першы нумар часопісі Беларускага Бюро Пролетарскага студэнцтва „Чырвоны сьцяг", першы нумар гэтае часопісі робіць даволі добрае ўражаньне як з боку зьместу, так і тэхнікі выданьня.

О ЦК ЛКСМБ пастанавіў перавыдаць зборнік „Пяць год ЛКСМБ" з уводам у яго гісторыю далучаных да Беларусі організацый КСМ Віцебшчыны, Гомельшчыны і Смаленшчыны.

О У Менску пачала выходзіць часопісь-штотыднёвік Цэнтральнага Праўленьня Саюзу Працаўнікоў Мастацтва Беларусі—„Трыбуна мастацтва". Мэта часопісі — асьвятленьне тэатральнага і мастацкага жыцьця.

О Побач з часопісьсю „Асьвета", Наркамасьветы БССР пачаў выдаваць офіцыйны двухтыднёвік „Абвесьнік", у якім, акрамя офіцыйнага аддзелу, маецца і аддзел хронікі.

### Кіно-справа.

О Беларускае „Пролеткіно", організаванае яшчэ ў 1924 г., адпусьціла да гэтых часоў профэсыянальным, партыйным і грамадзянскім організацыям 239 фільм, з якіх 49 дармовых.

У далейшым Беларускае „Пролеткіно" намеціла пашырыць сваю дзейнасьць па абслугоўваньню рабочых і чырвонаармейскіх клюбаў фільмамі рэволюцыйнага і навуковага зьместу.

Для вёскі намечана набываць перавозныя кіно-апараты.

### Рознае.

О У Горацкім С.-Г. Інстытуце заложана 14 тэрмінолёгічных комісій, якія зьбіраюць матар'ял па розных галінах с.-г. навукі і прыродазнаўства.

О Менская акруговая ўправа політычнай асьветы прыступіла да організацыі таварыства „Кніга ў вёску". Мэта таварыства — абсталяваньне пры кожным сельсавеце бібліотэчкі і распаўсюджаньне кніг.

О У лютым м-цы беларускі пісьменьнік і публіцісты Максім Гарэцкі

быў камандыраваны Інбелкультам у Калінінскую вакругу з мэтай азнаямленьня жыхарства з беларускім рухам.

О НКАБ распачаў клопаты аб *звароце на Беларусь бібліотэкі*, якая належыла да графоў Храбтовічаў-Буцянёвых і знаходзіцца цяпер у Кіеве. Бібліотэка гэтая знаходзілася ўвесь час у двары Шчорсы, у Наваградчыне. Зьмяшчаючы ў сабе вялікі лік кніг на чужых мовах, а таксама значвую колькасьць рукапісаў і розных гаспадарчых інвэнтароў, яна мае выключнае культурнае значэньне для Беларусі. Граф Храбтовіч-Буцянёў даручыў у свой час профэсару Даўнар-Запольскаму перадаць памянёную бібліотэку ў Кіеўскі Унівэрсытэт, але з тым, каб з часам, калі будзе заснаваны Беларускі Унівэрсытэт, яна была перададзена гэтаму апошняму. Народны Камісарыят Асьветы УССР запэўніў профэсара Пічэту, які па гэтым пытаньні езьдзіў у Харкаў, што просьба НКАБ будзе здаволена.

**За рубяжом.**

О У Праскім Украінскім Пэдагогічным Інстытуце, які абслугоўвае і беларускую моладзь, пастаноўлена закласьці спэцыяльдую катэдру беларусазнаўства.

О Віленская газ. „Беларуская Доля“ ў № 13 паведамляе, што ў дзьвёх польскіх сэмінарыях (жаночай і мужчынскай) у Вільні ўведзена выкладаньне беларускай мовы па 2 разы на тыдзень.

# З КУЛЬТУРНАГА ЖЫЦЬЦЯ Ў СССР

## РСФСР

О Інстытутам ім. Леніна выданы трэці „Ленінскі зборнік“, у які ўвашоў шэраг найцікавейшых матар'ялаў, лістоў і іншых публікацый. З архіўнага матар'ялу трэба зазначыць датычную эпохе „Искры“ і „Зари“— перапіску рэдакцыі „Искры“ і „Зари“ ў 1900-1902 г. г., якая складаецца з лістоў Леніна, Плеханава, Аксэльрода, Мартава—усяго звыш 100. Да гэтай-жа эпохі датычацца выдрукаваныя рукапісы У. І. Леніна: прадмова да брошуры „Майские дни в Харькове“ і „Аграрная программа русской социал-демократии“—першапачатковы тэкст з заўвагамі аўтара, Г. Плеханава, П. Аксэльрода, В. Засуліч, Ю. Мартава. Матар'ялы гэтае эпохі выдрукаваны з уступам Л. Каменева і артыкулам Н. Крупскай „1901-1902 г.г.“

Вялікую вартасьць маюць выдрукаваныя ў гэтым зборніку, з прадмовай І. Таўстухі, тэзісы, лісты і зарысы У. І. Леніна 1913-1916-1919 г.г. адносныя да нацыянальнага пытаньня, напісаныя ў Кракаве, Бэрне і Маскве.

Акрамя іншых матар'ялаў, у зборніку маецца бібліографічны аддзел і хроніка інстытуту.

О Вясною г. г. Соцыолёгічнае аддзяленьне Акадэміі Мастацкіх Навук пад агульным кіраўніцтвам П. Когана організоўвае шэраг дыскусій на тэму „Літаратура і політыка“.

О У канцы сьнежня мінулага году ў Акадэміі Мастацкіх Навук адбыўся першы вечар поэзіі сучаснага Захаду, на якім чыталіся пераклады з францускіх, нямецкіх і італьлянскіх поэтаў нашых дзён: унамістых, кубістых, дадзістых, футурыстых, экспрэсыёністых і рэволюцыйных і пролетарскіх поэтаў.

О 21 сьнежня мінулага году ў Маскве адбыліся ўрачыстыя ўспаміны аб Рэпіне, з прычыны 80-годзьдзя са дня яго нараджэньня.

О 16 студзеня г. г. адбылася Першая Маскоўская Нарада Працаўнікоў Мастацтва, выступаўшых пад лёзунгамі „Лефа“. На нарадзе з дакладамі выступалі О. Брык і Н. Чужак. У дэбатах па дакладах прымаў удзел шэраг прадстаўнікоў розных напрамкаў „Левага Фронту“, у тым ліку В. Маякоўскі, Ган, Лавінскі, Нядоля.

Расійскай прэсай асабліва вызначана выступленьне на парадзе т. Гасьцева, выступіўшага з рэзкай крытыкай на спробу бюрократычнай організацыі мастакоў.

## Украіна.

Суполка сялянскіх пісьменьнікаў „Плуг“ распачала выданьне непэрыодычнага органу ЦК і харкаўскай філіі—„Плужанін“ пад рэдакцыяй С. Піліпенкі, Міх. Быкаўца і Ів. Сенчэнкі.

Першы нумар „Плужаніна“ вышаў з друку 15 лютага г. г.

О Украінскі пісьменьнік В. Віньнічэнка зьвярнуўся ў Дзяржаўнае Выдавецтва Украіны з пропозыцыяй выдаць найноўшы яго твор—утопічны

роман, разьмерам у 45 друкаваных аркушаў, пад назваю „Соняшна машына“. Роман малюе барацьбу працы з капіталам у будучыне.

О Дзяржвыдат Украіны мае на увазе выдаць усе творы В. Віньнічэнкі пад апошняй рэдакцыяй аўтара.

О Савет Народных Камісараў Грузіі зьвярнуўся да ураду УССР з просьбай даць згоду на выезд капэлі „Думка“ ў Грузію з мэтай азнаямленьня жыхарства Грузіі з рэволюцыйнай і нацыянальнай украінскай песьняй. У пачатку сакавіка „Думка“ выяжджае ў Грузію.

Кіраўнік капэлі „Думка“ ўключыў у рэпэртуар цэлы стыльны концэрт з нацыянальных грузінскіх песень у гармонізацыі грузінскіх композытараў.

Пасьля ўзвароту з Каўказу, „Думка“ сьвяткуе свой юбілей (5-ая гадавіна існаваньня).

О У Кіеве, побач з капэляю „Думка“, зьвяртае на сябе увагу капэля „Рух“.

О Тэатр ім. Ігната Міхайлічэнкі (Кіеў), згодна распараджэньню Галоўполітасьветы УССР, на летні сэзон выяжджае ў Донбас.

Кіраўнік тэатру М. Тэрэшчэнка прыняў пропозыцыю ў восені організаваць у Харкаве тэатр комэдыі.

О Кіеўская драматычная майстэрня „Бэрэзіль“ атрымала запрашэньне з Ленінграду — прыехаць на некалькі пастановак.

О На Украіне ў мінулым годзе быў абвешчаны конкурс украінскіх п‘ес для вясковых тэатраў. Галоўполітасьветы УССР да гэтага часу атрымала 120 п‘ес. У сучасны момант адбываецца разгляд надасланых п‘ес у спэцыяльнай конкурснай комісіі.

О З прычыны 4-ай гадавіны з дня сьмерці украінскага композытара М. Леантовіча, у Харкаве 20 лютага адбыўся концэрт, прысьвечаны творчасьці нябожчыка.

О 9 лютага г. г. камэрная сьпявачка Галена Ганчэль дала першы концэрт украінскага романсу. Концэрт быў прысьвечаны творам Лісенкі, Сьцецэнкі і Сьцепавога. Перад концэртам уступнае слова меў проф. Кіеўскага Музычнага Інстытуту Д. М. Рэвуцкі на тэму „Украінскія композытары старэйшага пакаленьня“.

О У лютым м-цы г. г. ў Кіеве Ўсенародная Бібліотэка Украіны адчыніла выстаўку літаратуры на тэму: „Вытворчасьць і народная гаспадарка Украіны“. Выстаўка наладжана ў зьвязку з Першым Усеукраінскім Зьездам па дасьледваньні вытворчых сіл і народнае гаспадаркі Украіны.

О Адэская кінофабрыка пачала працу над выданьнем новае кінофільмы рэволюцыйнага зьместу пад назвай „Крывавы цар“ (з эпохі Мікалая II).

О Этнографічная комісія Ўсеукраінскай Акадэміі Навук зьвярнулася з адозвай да вясковага настаўніцтва, у якой заклікае яго зьбіраць украінскую духоўную народную творчасьць (песьні, казкі, легэнды, пераказы, прыслоўі, забабоны, музычныя мэлёдыі), а гэтак сама і прадметы матар‘яльнай культуры, народнай тэхнікі і мастацтва.

О Зьвяртае на сябе увагу комісія па вывучэньні народнага звычаёвага права Украіны пры соцыяльна-экономічным аддзеле ВУАН, дзякуючы сваёй працы, правадзімай у трох напрамках: 1) вывучэньня матар‘ялаў жывога звычайнага права; 2) вывучэньня архіўных і інш. матар‘ялаў, з зазначэньнем, наколькі ў іх адбіліся звычаёва-прававыя нормы, якія існуюць як і цяпер, так і існавалі раней, і наколькі яны маюць уплыў на сучаснае законадаўства і 3) навуковага дасьледваньня гістарычнага разьвіцьця звычаёвага права на Украіне, у зьвязку з гістарычным разьвіцьцём прававых паняцьцяў у іншых народаў наогул.

# ХРОНІКА ЛІТАРАТУРЫ І МАСТАЦТВА ЗАХАДУ

**Амэрыка.**

О Цікавы абраз літаратурнага жыцьця Амэрыкі ў канцы мінулага стагодзьдзя дае кніжка *Л. Тукэра* (L. Tooker): „The joys and tribulations of an Editor“. Кніжка гэта выпушчана выдавецтвам The Century C⁰, Нью-Ёрк.

(*„Печ. и Рев.“*).

О Цікавы роман, даючы жудасны абраз жыцьця нэграў у Паўднёвых Штатах Амэрыкі, нядаўна вышаў у выд. A. Kпopf. Аўтар роману *В. Уайт* (W. White)—нэгр. Цэнтральным гэроем роману ўзяты нэгр-інтэлігэнт, доктар, які змагаецца з ненавісьцю белых, ахвярай якіх у канцы-канцоў і становіцца.

(*„Печ. и Рев.“*).

О Вышаў новы том артыкулаў вядомага амэрыканскага крытыка А. Бурэля (A. Burrell): „More Obiter Dicta“ (выд. Scribner's Sons).

(*„Печ. и Рев.“*).

О У выдавецтве Harper and Brothers вышла з друку пасьмертная аўтобіографія *Марка Твэна*, надзвычайна цікавая як па зьместу, так і па форме. Твэн пісаў свой жыцьцёпіс на працягу некалькіх год, не вядучы сыстэматычнага апавяданьня, а запісваючы тое, што ўспаміналася. Паміраючы, Марк Твэн распарадзіўся, каб біографія яго была выдрукавана пасьля мінаваньня 15 год са дня яго сьмерці. Цяпер гэты тэрмін прашоў. Аўтобіографія займае два томы і да яе даданы ўступны артыкул сябра і біографа Твэна A. Paine (Mark Twain's Aytobiography).

(*„Печ. ц Рев.“*).

**Аргэнтына.**

О Сакратар Аргэнтынскай Акадэміі Навук д-р Enrique Sparn выдаў працу пра ўсе бібліотэкі, якія маюць больш за 50.000 томаў, прычым разглядае ён бібліотэчную справу з гістарычна-культурнага пункту погляду. Кніга аздоблена шэрагам табліц і карт, якія даюць поўны абраз узросту бібліотэк у асобных краінах і эпохах.

(*„Печ. и Рев.“*).

**Аўстрыя.**

О Вядомы аўстрыйскі пісьменьнік *Эміль Эртль* (E. Ertl) нядаўна выдаў у выд. L. Staackamann аповесьць „Der Halbscheid“, у якой абмалёўваецца эпізод пасьляваеннага жыцьця аўстрыйскай вёскі. Ім-жа выдадзены гістарычны роман з часоў разбурэньня Картагэну „Karthago, Kampf und Untergang“.

(*„Печ. и Рев.“*).

О У кастрычніку мінулага году ў Вене адбылася выстаўка выданьняў вядомага лейпцыгскага выдавецтва Insel Verlag з прычыны 25-годзьдзя яго існаваньня. Выстаўка дае цікавы абраз разьвіцьця кніжнай тэхнікі ў Нямеччыне на працягу апошніх 25 год.

(*„Печ. и Рев.“*).

О B. Glossy і вядомы венскі крытык і гісторык музыкі R. Haas выдалі ў венскім выдавецтве A. Schroll und C⁰ зборнік старых венскіх пе-

сень, узятых з популярных у свой час комэдый. Зборнік носіць назву „Wiener komödien-lieder aus drei Iahrhunderten“.

(*„Печ. и Рев.“*).

**Голяндыя.**

О 22 лістапада мінулага году ў узросьце 60 год памёр голяндзкі пісьменьнік *Гэрман Гэйерманс.* У пэрыод росквіту натуралізму п'есы Гэйерманса мелі вялікі посьпех. У апошнія часы Гэйерманс стаяў на чале Амстэрдамскага тэатру. Дзякуючы сваім лева-рэволюцыйным настроям, ён быў у опозыцыі да голяндзкага грамадзянства, якое і бойкотавала Гэйерманса.

(*„Печ. и Рев.“*).

**Нямеччына.**

О Вышаў з друку дзесяты том штогодніка *Гэтэўскага Таварыства* пад рэдакцыяй М. Гэкера (Iahrbuch der Goete-Gesellschaft, Weimar, Verlag der Goethe-Gesellschaft).

(*„Печ. и Рев.“*).

О Выдадзена некалькі новых кніжак вершаў поэты *Р. Борхарда* (R. Borchard). У выдавецтве Rowohlt (Бэрлін) вышлі яго „Schöpfung aus Liebe“ і „Vermischte Gedichte“. Адначасова вышла ў выд. Rowohlt і Verlag der Bremer Presse Дантаўская боская комэдыя ў перакладзе Борхарда (3 томы).

(*„Печ. и Рев.“*).

О Крытыка адзначае нядаўна выдадзеную кніжку вершаў маладога поэты *Ф. Шнакка* (F. Schnack) „Das blaue Geisterhaus“.

(*„Печ. и Рев.“*).

О У Бэрлінскім Burgtheater з кастрычніка ідзе новая п'еса *Артура Шніцлера* „Komödie der Verführung“. Апошняя дзея п'есы адбываецца 1 жніўня 1914 г., у дзень аб'явы вайны. П'еса носіць звычайны для Шніцлера, эротычны характар.

(*„Печ. и Рев.“*).

О У Бэрлінскім выд. „Die Schmiede“ вышаў новы раман *Карэля Чапэка* „Das Absolutum oder die Gottesfabrik“.

(*„Печ. и Рев.“*).

О Другім выданьнем у нямецкім перакладзе (выд. Interterritorialer Verlag „Renaissance“ (Erdtracht) (Wien—Berlin—Leipzig—New-Iork) вышла вельмі цікавая кніга турчанкі *Халіды Эдіб* „Das Flammenhemd“. Аўтар, жонка профэсара, настаўніца пры унівэрсытэце, прымала актыўны удзел сьпярша ў жаночым руху, а затым далучылася да рэволюцыйнага. Простым салдатам яна ўступіла была ў армію Мустафа Кэмаль-пашы. У кніжцы сваёй яна апавядае пра ўсё, што бачыла і перажыла.

(*„Печ. и Рев.“*).

О У выд. K. Vowinkel вышла кніга аўганца *Гулям Рассуль Гальвана.* Galwan у працягу некалькіх год служыў праваднікам караванаў навуковых экспэдыцый, і ў кніжцы зьмешчана апавяданьне пра гэтыя вандроўкі. Кніжка носіць назву „Als karawanführer bei den Sahibs“.

(*„Печ. и Рев.“*).

О З ліку пераводных раманаў, выдадзеных за апошні час, варта адзначыць *Клода Фарэра* „Новыя Людзі“ (Die Neuen Menschen), выдадзены ў выд. Interterritorialer Verlag „Renaissance“, Бэрлін.

(*„Печ. и Рев.“*).

О Выд. Buchenau und Reicherd (Мюнхэн) распачала працу па выданьню 12-томнага збору твораў шотляндзкага пісьменьніка *Р. Л. Сьцівенсона.* Пераклад М. і К. Thesing.

(*„Печ. и Рев.“*).

О Выд. Musaroin-Verlag (Мюнхэн) выдае збор твораў *Дыкэнса* ў перакладзе Г. Мэйрынка. Да 1925 году выдадзена 4 томы.

(*„Печ. и Рев.“*).

О Нямецкім поэтай *Францам Розэнцвайгам* выдадзен пераклад вершаў

старога жыдоўска-гішпанскага поэты *Егуда Галеві* „Sechzig Himnen und Gedichte des Ieguda Nalewi“ (выд. O. Wohrl. Konstanz).

(*„Печ. и Рев.“*).

O У выд. E. Mathes у Мюнхэне вышлі мэмуары *Людвіга Шэмана*, вядомага перакладчыка нямецкіх поэтаў на францускую мову, выдаўцы перапіскі Шопэнгауэра, біографа La garde i Cherubini. Мэмуары цікавы ўспамінамі аб вялікім ліку выдатных дзеячоў канца мінулага і пачатку XX ст.

(*„Печ. и Рев.“*).

Вышлі дзьве кніжкі лістоў і ўспамінаў вядомых нямецкіх мастакоў. П е р ш а я—„Erinnerungen“ *Марыца Опэнгэйма*, мастака паловы мінулага стагодзьдзя, утрымоўваючая шэраг цікавых успамінаў аб пісьменьніках і поэтах тае эпохі. Другая кніжка ўтрымоўвае лісты *Швінда* пад рэдакцыяй O. Stoessl.

(*„Печ. и Рев.“*).

O *Эміль Анрыо* дае ў „Тан“ цікавыя веды аб зьбёру нявыданых лістоў *Гэнрыха Гэйнэ*, якія гатуе да друку Фрэдэрык Гірт, даючы некаторыя адрыўкі гэтых лістоў.

(*„Печ. и Рев.“*).

O У выд. Klinkhardt und Biermann у Лейпцызе пад рэдакцыяй *Эрнста Галя* вышаў першы штогоднік (за 1923 г.) па гісторыі і тэорыі мастацтва (Iahrbuh für Kunstwissenschaft).

(*„Печ, и Рев.“*).

O Вядомы знаўца мастацтва *Г. Бээнкен* выдаў новую працу, ахфяраваную романскай скульптуры ў Нямеччыне XI і XII стагодзьдзяў. Кніжка гэтая пад назвай „Romanische Skulptur in Deutschland,“ вышла ў выд. Klinkhardt und Biermann (Лейпцыг).

(*„Печ. и Рев.“*).

O У сярэдзіне кастрычніка мінулага году ў Бэрліне адчынена была штогодняя *выстаўка Акадэміі Мастацтваў*. Асаблівае месца (Sonderausstellung) дадзена было мастаком Піліпу Франку, Ол. Гульбрасону, Артуру Кампфу і Эдварду Мунху.

(*„Печ. и Рев.“*).

O Апублікована новая трохтомная праца філёзофа Г. Когэн „Iüdische Schriften“, якая пад рэдакцыяй Ф. Розэнцвэйга вышла ў выд. Schwetschke und Sohn у Бэрліне.

(*„Печ. и Рев.“*).

O Значную цікавасьць у Нямеччыне выклікалі да сябе тры новыя працы маладога філёзофа-кантыянца *Курта Штэрнбэрга*. Першыя дзьве кніжкі—„Die politischen Theorien in ihrer geschichtlichen Entwicklung“ (выд. S. Selmann, Бэрлін) і „Staatsphilosophie“ (выд. Pan—Verlag, Бэрлін); зьяўляючыся кожная асобнай працай, зьвязваюцца ў адно цэлае і ахфярованы філёзофіі дзяржавы. У трэцяй кнізе Штэрнбэрг сабраў і выклаў погляды Вольтэра Ротэнау па пытаньні аб дзяржаве, даючы ім крытычную ацэнку „Walter Rathenau, der Kopf“ (выд. W. Rothschild, Бэрлін).

(*„Печ. и Рев.“*).

O Адзін з выдатнейшых нямецкіх эгіптолёгаў *Адольф Эрман* выдаў новую працу—пераклад фрагмэнтаў эгіпэцкай мастацкай літаратуры, вершаў, апавяданьняў, падручнікаў трэцяга і другога тысячагодзьдзя да нашае эры. Большая частка матар‘ялаў зьмешчаных у кнізе, перакладзена ўпяршыню і прадстаўляе сабою надзвычайную каштоўнасьць. Кніга носіць назву „Die Literatur der Aegypter“ i вышла ў выд. I. C. Hinrichsche Buchhandlung у Лейпцызе.

(*„Печ. и Рев.“*).

O Да 70-годзьдзя К. Кауцкага выдана кніжка артыкулаў пад назвай „Der lebendige Marxismus“. У ліку удзельнікаў—Макс Адлер, Отто Бауэр, А. Браунталь і інш. Кніжка падзелена на чатыры аддзелы: 1) да экономічнай тэорыі пасьляваеннага часу; 2) шлях да соцыялізацыі;

3) політычка і гісторыя; 4) новае ў гістарычным матар'ялізьме (Іена).

(*„Печ. и Рев.“*).

О У выд. C. A. Schweitschke вышла біографія *Масарыка*, складзеная І. Armes („Massaryk“).

(*„Печ. и Рев.“*).

О Невялікую працу, характарызуючую умовы жаночай працы ў Нямеччыне, выдала *А. Гэйер* у выд. Thüringer Verlagsanstait und Druckerei (Іена).

(*„Печ. и Рев.“*).

О У Бэрліне вышаў зборнік артыкулаў, асьвятляючы экономічнае становішча Нямеччыны і Францыі ў 1923-1924 г.г. Зборнік гэты носіць назву „Deutschland und Frankreich hre Wiytschft und inre Politik, 1923-24“. Herausgegeben von Kuszynski. Бэрлін)

(*„Печ. и Рев.“*).

О Выдавецтва „Малік“ у Бэрліне выдае „Мэмуары тэрорысткі“—Веры Фігнэр.

(*„Печ. и Рев.“*).

О Літаратурны аддзел народнага драматычнага тэатру (організацыя Yolksbühne) выдаў у сэрыі агульна даступных кніжак пра тэатр брошуру *Артура Голітчэра*—„Тэатр у рэволюцыйнай Расіі“.

(*„Печ. и Рев.“*).

**Францыя.**

О *Леон Фрайх* выдае ў выд. G. Grès у Парыжы сэрыю цікавых альманахаў, у якіх прыводзіць вытрымкі і зьмест усіх артыкулаў, нататак і паведамленьняў, адносных да літаратур, якія зьяўляюцца ў эўропэйскай і большасьцю ў французскай прэсе. Альманах выходзіць чатыры разы ў год. Да гэтых часоў вышла два томы, якія зьяўляюцца каштоўнымі справачнікамі.

(*„Печ. и Рев.“*).

**Чэха-Славакія.**

Чэскія газэты паведамляюць пра выхад у бліжэйшыя часы кнігі ўспамінаў *Масарыка* „Сусьветная рэволюцыя“ ў часы вайны і аб вайне 1914-1918 г. г. Кніжка выходзіць адначасова на чэскай, нямецкай і ангельскай мовах у Празе. Аўтар прысьвячае шэраг разьдзелаў кнігі Расійскай рэволюцыі (Лютаўскай і Кастрычнікавай), рэволюцыі ў Нямеччыне і г. д.

(*„Печ. и Рев.“*).

О У канцы лютага г. г. ў Празе адчынена выстаўка малюнкаў Расійск. мастака І. Рэпіна і яго вучняў Ю. Рэпіна і В. Леві. На выстаўцы ў большасьці выстаўлены этуды і невялікія малюнкі, на фоне якіх вызначаецца вялізны малюнак І. Рэпіна „Крестный ход“—вынік шматгадовай працы вялікага майстра, у якой ён адбіў усе этапы сваёй мастацкай творчасьці.




*Рэдактар:* **Рэдакцыйная Колегія.** *Выдавец:* **Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі.**

# ЗЬМЕСТ „ПОЛЫМЯ“ № 2.



---


Б. Д. В. № 72 1-я Дзярж. друкарня. Зак. № 578. У ліку 2000 экз. Галоўліт 7210.

# ПАДПІСВАЙЦЕСЯ

НА

беларускую часопісь літаратуры, політыкі, экономікі, гісторыі

# „ПОЛЫМЯ“

(ЧАЦЬВЕРТЫ ГОД ВЫДАНЬНЯ)

Адрас рэдакцыі і адміністрацыі: **Менск, Савецкая, 63.**

## У ЧАСОПІСІ ПРЫМАЮЦЬ УДЗЕЛ

## САМЫЯ ВЫДАТНЫЯ БЕЛАРУСКІЯ ЛІТАРАТУРНЫЯ І НАВУКОВЫЯ СІЛЫ.

Часопісь „Полымя“ выходзіць раз у паўтара месяцы (8 кніжак на год).

Кожны нумар часопісі **„Полымя“** выходзіць разьмерам ня менш 12 друкаваных аркушоў.

У кожным нумары „Полымя“ вы знойдзеце і літаратурны, і політычны, і экономічны, і гістарычны матар'ялы.

**Апрача гэтага, „Полымя“ на сваіх старонках заўжды дае багаты кнігапіс, поўную хроніку беларускай культуры, хроніку культурнага жыцьця РСФСР і Украіны і хроніку літаратуры й мастацтва Захаду.**

Кошт асобнага нумару ў продажы—1 р. 50 к.,

**А ПРЫ ПАДПІСЦЫ** з пасылкаю на дом:

На 3 месяцы (2 нумары) . . . . 2 р. 50 к.
На 6 месяцаў (4 нумары) . . . . 4 р. 75 к.
На 1 год (8 нумароў) . . . . 9 р. —

Падпіска прымаецца **ў Аддзеле Распаўсюджаньня Газэтнага Сэктару Дзяржаўнага Выдавецтва Беларусі** (Менск, Савецкая 63), куды і належыць надсылаць грошы пры падпісцы.

За рэгулярнасьць выданьня і акуратнасьць дастаўкі „Полымя“ ўсялякую адказнасьць узяло на сябе Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі.